МАКСІМ ГАРЭЦКІ.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ



КОШТ Ў. ЗНАМЯРОЎСКАГА і Э. БУДЗЬКІ
ДРУКАРНЯ КООП. ТАВАРЫСТВА „ДРУК"
ВІЛЬНЯ —————— 1920.

МАКСІМ ГАРЭЦКІ.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ



КОШТ Ў. ЗНАМЯРОЎСКАГА і Э. БУДЗЬКІ
ДРУКАРНЯ КООП. ТАВАРЫСТВА „ДРУК“
ВІЛЬНЯ ——— 1920.

Леаніле Гарэцкай (Чарняушчыцы)

кнігу гэтую пасьвячаю

Аутар








# I. СТАРАДАЎНАЕ ПІСЬМЕНСТВА.

## Царкоўна-славяншчына.

(10—11—12 век).

**Гістарычнае дзяленьне беларускае літэратуры.** Беларускую літэратуру можна падзяліць на старадаўную (ад прыняцьця хрысьціянскай веры да 19-га сталецьця), новую (19-е сталецьце да 80-х гадоў) і навейшую (ад 80-х гадоў 19-га сталецьця да нашых дзён).

Старадаўнае пісьменства маець у сваім разьвіцьці царкоўна-славяншчыну (10—11—12 век), падгатаваўчую пару (13—14—15 век), залатую пару (16 век), сход (17 век) і поўны занянад (18 век).

**Беларуская нацыя і яе мова.** Беларускі народ утварыўся з трох родных славянскіх пляменьняў: крывічоў, дрыгвічоў і радзімічаў. Гэтыя пляменьні ўжо ў спрадвечны час ня розьніліся між сабою ані моваю, ані правам сваім, ані рэлігійнымі звычаямі,—але ўсім тым надта розьніліся ад пляменьняў, з якіх утварыліся маскоўскі і ўкраінскі народы. Зьбліжэньне беларускіх пляменьняў асабліва ўзрасло за ўдзельна-вечавое жыцьцё, але зусім зьліліся яны ў адзін беларускі народ за 13 і 14 век. Цяперашняя беларуская мова разьвілася паступова і гістарычна з мовы крывічоў, дрыгвічоў і радзімічаў.

**Царкоўна-славянская мова.** У часе вялізнага пераходу народаў частка прыпяцкіх дрыгвічоў пайшла на паўдзён, прабілася на Балканы і асела навакол места Салонік. Грэцкія пісьменьнікі называлі гэтых дрыгвічоў другувітамі; яны пісалі, быццам другувіцкае племя ўжо ў 7 ым

сталецьці было дужа магутнае, мела сваіх князёў і біскупаў. Вельмі магчыма, што ў яго была і свая пісьменнасьць, невядомая другім народам. Баўгарскі пісьменьнік 9-га веку чарнарызец Храбар пісаў, што славяне спачатку ня мелі пісьмен, а толькі „чыртамі і рэзамі чытаху і гадаху, пагані сушча“,—дык з гэтага мы можам меркаваць, што ў іх пачынала разьвівацца свая пісьменнасьць. Славянскія апосталы Кірыла і яго брат Мяфод змалку жылі сярод другувітаў (у 9 веку), дык магчыма, што другувіты і былі тыя паўдзённыя славяны, на мову каторых браты перакладалі царкоўныя кнігі з грэцкае мовы; Кірыла прыдумаў дзеля гэтае патрэбы азбуку (кірыліцу), падобную да грэцкай азбукі.

**Пісьменнасьць на Беларусі.** Пісьменнасьць прыйшла на Беларусь разам з хрысьціянскаю вераю у 10 сталецьці. Ад паўдзёных славянаў зьявіліся ў нас першыя кнігі—царкоўныя, рукапісна-кірылаўскія, перакладаныя з грэцкае мовы. Ад прыехаўшых з паўдня духаўнікоў беларускія князі і духаўнікі навучыліся чытаць па гэтых кнігах, а з часам—сьпісываць гэтыя кнігі для пашырэньня веры і спасеньня душы. З таго і пачалася ў нас пісьменнасьць.

**Царкоўна-славяншчына і Беларусь.** Мова беларускіх пляменьняў у тую пару свайго разьвіцьця была, пеўна, зусім яшчэ блізкая да другувіцкай мовы першых славянскіх кніжак. Дзеля таго царкоўна-славянская мова лёгка прызвычаілася ў беларускай пісьменнасьці. Калі-ж пачало разьвівацца беларускае пісьменства з пераважна-царкоўным духам, яна, быццам нейкая частка хрысьціянства, паволі запанавала і ў пісьменстве. Да 13-га сталецьця гэтая, так сказаць, старабеларуская мова, перасыпаная царкоўна-славянізмамі, была агульна-літэратурнай для ўсіх адукаваных беларусаў. Яе можна ўважаць за нашую нацыянальную мову ў пачатковым часе складаньня адзінай нацыі. Гэтая-ж мова радніла нас з пляменьнямі ўкраінскімі і іх кіеўскім пісьменствам, хоць той духоўны зьвязак не замінаў беларусам весьці заўзятае змаганьне з твораным тады кіеўскім гаспадарствам Русь. Як ведаем з гісторыі Беларусі, у часе царкоўна-славяншчыны на беларускай зямлі утварылася і істнавала некалькі князьстваў: Смаленскае на Дняпры, Полацка-Віцебскае на Дзьвіне і вышнім Нёмне і Тураўска-Пінскае на Прыпяці. Яны займалі прастор усяе цяперашняе Беларусі. Кожнае было незалежным гаспадарствам з асобным княжацкім родам—рагвалодавічамі і рурыкавічамі. Усе яны многа ваявалі, шырока вялі гандаль, азначаліся высокай культураю (Прафэсар М. Даўнар-Запольскі, „Асновы дзяржаўнасьці Бе-

ларусі“). За прымету культурнасьці можна уважаць тое, што ў беларускіх князьствах вельмі рана адчыніліся біскупствы, а ў 12 сталецьці зьявіліся там выдатныя культурныя дзеячы і пісьменьнікі. Скрозь увесь час царкоўна-славяншчыны Беларусь была пад грэцка-візантыйскім культурным уплывам. Уплыў гэты ў пісьменстве перадаваўся цераз паўдзённых славян—баўгар і сэрбаў.

**Візантыйскае пісьменства.** Гэтак завецца час грэцкай славеснасьці ад Юстыніяна да ўпадку Канстантынопаля (562 г.—1453 г.). Візантыйскае пісьменства ня было запраўды орыгінальнае, а толькі пераймала старое ў новых формах. Калі беларусы прынялі хрысьціянскую веру, Візантыя была гаспадарствам моральна слабым. Быў у ёй агульны занятак адукаванасьці, навукі і мастацтва. Царкоўна-рэлігійныя пытаньні мелі асаблівую войстрасьць; насьпяваў падзел царквы на ўсход і захад; было шмат гэрэтыкоў. Дык царкоўнае візантыйскае пісьменства таго часу маець аднабокі, неспакойна-полемічны і царкоўны характар. Творчасьць Візантыі складалась найболей з царкоўных твораў (казаньні, жыцьці сьвятых, псальмы); з твораў сьвецкіх былі пашыраны народна-эпічныя пераказы пра змаганьне з усходнімі дзікімі народамі і ідэалістычны роман. Візантыйскія вучоныя, апрача таго, ужо зьбіралі і парадкавалі нязвычайнае рукапіснае багацьце старой Эляды.

**Перакладанае пісьменства на Беларусі.** Спачатку былі ў нас творы выключна перакладаныя з візантыйскага пісьменства (10—11 сталецьце). Пераклады былі зроблены ў паўдзённых славянаў і сьперша толькі проста перанасіліся на Беларусь. З большым разьвіцьцем пісьменнасьці беларусы навучыліся перакладаць самі, і з гэтага пачалося ў нас пісьменства. Пры сьпісываньні з царкоўнаславянскіх перакладаў і то ў кнігу траплялі асаблівасьці стара-беларускай народнай мовы, а пры самастойным беларускім перакладаньні з грэцкай на царкоўна-славянскую— і пагатове. Сьпісываньнем кніг найболей займаліся нашы манахі, адлі і ўсякія духоўныя і сьвецкія адукаваныя асобы, біскупы, князі, княгіні, дружыньнікі. Паўдзённыя славяны перадалі нашым дзядом для пашырэньня, сьпісываньня і разьвіцьця на правох тубыльнага пісьменства пераклады выдатнейшых твораў абедзьвюх галоўных галін візантыйскай творчасьці, а найболей—пераклады царкоўных твораў.

**Царкоўныя пераклады.** З царкоўнай галіны візантыйскай творчасьці да нас прыйшлі пераклады: 1) часьцін Біблії (улюблёнаю паспалітым чытаньнікам кніжкаю быў

псалтыр); 2) чатырох эвангелістаў; 3) жыцьцяў сьвятых людзей (мінеі, пацярыкі, пролёгі); 4) казаньняў і паўчэньняў (асабліва Івана Залатавустага, Ахрэма Сірына, Васіля Вялікага, Грыгора Багаслова); 5) царкоўнай поэзіі (Івана Дамаскіна, Андрэя Крыцкага і інш.); 6) зборнікаў да чытаньня, духоўных хрыстаматый для духоўных асоб і сьвецкіх людзей („Сьвятаславаў Ізборнік“, „Пчала“); 7) апокрыфаў і 8) твораў царкоўна-практычнага характару („Шастаднёў“, „Фізіолёг“ і інш).

**Жыцьце Аляксея, чалавека божага.** Жыцьці сьвятых былі ў гэты час тым самым, чым цяпер для нас ёсьць прыгожая літэратура. У жыцьцях чытаньнік знаходзіў для сябе адказы на пытаньні сучаснасьці і відзеў у іх ідэалы лепшых людзей свайго часу. На жыцьцёх гадавалася тагачасная інтэлігенцыя. Жыцьці мелі найбольшы лік чытаньнікаў. Асаблівым пасьпехам карысталася „Жыцьце Аляксея, чалавека божага“. Яно было гэтак популярна, што пашыралася скрозь усе вякі царкоўна-славяншчыны, вядома з 15-га сталецьця і з яго-ж разьвіліся тыя псальмы, якія цяпер жывуць у вуснах старцаў на беларускіх кірмашах.

**„Пчала“.** Па гэтым зборніку прашчуры нашы крыху знаёміліся з думкамі няўмірушчых старых грэцкіх філёзофаў. У ім побач з думкамі сьвятых былі зьмешчаны думкі Сократа, Арыстоталя, Эўрыпіда і інш.

**Як хадзіла Багародзіца па муках.** Апокрыфы, ці містычныя байкі аб жыцьці вялікіх сьвятых і нагул вялікіх людзей старога і новага закону, здавальнялі цікаўнасьць веруючых, каторыя хацелі ведаць аб розных паказеях болей, чымся аб тым напісана ў сьвятым пісьме. Апокрыфы стварыла рэлігійная фантазія. У іх быў той грунт, на якім схадзілася хрысьціянская вера з поэтычнымі паглядамі паганства — прычына, дзеля якой апокрыфы прыйшліся да спадобы нашым прашчурам. У межах апокрыфічнай творчасьці зьмесьціліся разам: Стварыцель і Сатана, анелы і нячысьцікі, людзі, жывёлы і расьціны. Апокрыфы споўнілі падгатаваўчую да самастойнай творчасьці работу. Яны-ж зрабіліся самай глыбокай крыніцай для псальмаў. Былі дужа пашыраны. На Беларусі асабліва ходкія былі апокрыфы аб Багародзіцы. Найпрыгажэйшы сярод іх—„Як хадзіла Багародзіца па муках“.

**„Фізіолёг“.** Сярод перакладаў царкоўна - практычнага характару цікавен „Фізіолёг“, каторы даваў чытаньніку сьмяхотнае на сучасны пагляд веданьне аб прыродзе. Веданьне тое павінна было йці на карысьць моральнае навукі.

Прыклад: арол пад старасьць сьлепнець, а лечыцца тым, што тройчы купаецца ў чыстай вадзе,—дык вось і людзям трэба змываць грахі свае.

шанхъовьцѧ азъ несмь двьры и
ноѧжеащекъто въниде тьсп҃сетьсѧ
икънидеть · ниꙁидеть · ипажить
обрѧщеть ∴....

ВЪПѦТЪК Є НЄ· ЄВѦ
ѿ иоана · глава ꙁ ѕ
ВЄГЪ КЪПРИШЬДЪШИИМЪКЪНИЄ
моунюдеомъ · сегораднмѧоцьлюб
гь ѩкоаꙁъполагаѭ дшѫмоѭ дапа
кыприимоуѭ · никътожевъꙁьм
тьнѥѭшмене · нъаꙁъполагаѭосебѣ
овластьвоимамь · положитиѭ ио
властьимамъпакыприѩтиѭ є
ѭꙁаповѣдьприѩтъоцамоѥго
распьражепакыбъість въиюден
хъ ꙁасловесаси глаахѫжемно
ꙁиѿнихъ бѣсъимать инеисто

Прыклад пісьма з Тураўскага Эвангельля.

**Сьвецкія пераклады.** Прыйшлі да нас у дужа меншай лічбе, чымся творы царкоўныя. Сюды належаць: 1) гістарычныя творы візантыйскіх пісьменьнікаў, ці кронікі і 2) чыста-сьвецкія творы з зусім невялічкім уплывам царкоўнасьці ці й без таго—повесьці.

**Кронікі.** Гутарка ў іх пачыналася ад самага ствaрэньня сьвету, потым выкладаўся кароткі пераказ біблійнай гісторыі, далей гісторыя старадаўных гаспадарстваў, адылі гісторыя візантыйская. У Баўгарыі ў 10-сталецьці былі перакладзены з грэцкай мовы кронікі: Ягора Амартола і Йвана Малалы. З гэтых кронік карысталі і нашы дзяды.

**Повесьці.** З даўных часоў прыходзілі да нас і візантыйскія повесьці. Повесьць „Александрыя“ мела ў сабе баечныя пераказы аб паходах і геройствах Аляксандра Македонскага. Характар яе дыдактычны.

**Значаньне перакладанага пісьменства.**— Яно падрыхтавала грунт для самастойнай творчасьці. Яно, хоць і мела галоўны царкоўна-рэлігійны характар і кірунак, згуляла, аднак, роль агульна-культурную. Некаторыя-ж перакладаныя творы давалі чытаньніку веданьне болей-меней навуковае.

**Тураўскае Эвангельле 11-га веку,** каторае знайшлі ў Тураве, Менск. губ., у 1865 г., ёсьць адзін з найстарэйшых нашых рукапісаў,—найдаражэйшая памятка нашай пісьменнасьці. Знаходзіцца ў Віленскай публічнай бібліотэцы.

---

## Самастойная творчасьць на Беларусі.

Прайшло сталецьце, і хрысьціянская вера на Беларусі распаўсюдзілась і набралася дужасьці. Разам з ёю разьвівалась пісьменнасьць і агульная адукаванасьць. І выйшла на тое, што пачулася патрэба самастойнай творчасьці. Пераважна царкоўны характар старадаўнай асьветы адбіўся і на самастойным пісьменстве нашых прашчураў; найболей было твораў царкоўных. Сьвецкіх твораў было ня шмат, ды й іх пабожныя людзі хавалі толькі абы-як, дык яны і гінулі. Сьвецкі элемент нашай самастойнай творчасьці зазвычай не адбіваў зусім тагачаснага беларускага штодзеннага жыцьця і быў працівен народнаму сьветагляду і культу, як культу паганскаму. Царкоўна-славянская чужына, уведзеная пад апекаю князёў і духавенства, каб прымела, дык-ба зьнішчыла беларускую славеснасьць. Духоўныя пісьменьнікі заўзята змагаліся з ёю за яе паганскі характар. Наша няўмірушчая народная поэзія ўпякла тады ад князёў і духаўнікоў, інтэлігенцыі той пары, і схавалася ў простым народзе. Аднак-жа, незабавам, як толькі войстрасьць змаганьня новай веры з старою мінулася, а сьвет навукі чапнуў шырэйшыя слаі беларускага народа, у нас зьяўляюцца кніжныя творы з вялікім адбіткам

чыста-народнай творчасьці („Слова а палку Ігараве“). Незабавам-жа прышчапляецца пісаньне кронік свайго краю, у каторых адбіваўся нацыянальны дух і народныя ўплывы на аўтараў-летапісцаў. Выдатныя культурныя дзеячы, пісьменьнікі і творы зьявілісь у 12 сталецьці, каторае выглядаець дзеля таго „залатой парою“ царкоўна-славяншчыны. Кожнае наша княЗьства мела сваіх слаўных пісьменьнікаў.

**Летапісь Несьцера.**—Так здаўна пачалі называць яе, але ці дапраўды напісаў яе Несьцер (радз. бл. 1056г.— пам. бл. 1114 г.), ці можа Сільвестар, ці хто іншы, скуль быў родам сам летапісец і гдзе напісаў сваю летапісь,—дагэтуль невядома. Гэты летапісны свод дайшоў да нас у трох, значна пазьнейшых (14 ст.) за арыгінальнай летапісі сьпісках. Пачынаецца свод ад біблійнага Ноя, а канчаецца 1110 годам. Летапісь Несьцера вызначаецца этнографіяй славянскіх пляменьняў, славянафільствам, пабожнасьцю аўтора і тэндэнцыямі гаспадарства Русь; як відаць, летапісец-манах спасаўся ў Кіеве і ўцягнуўся ў кіеўскія інтарэсы. Шмат у летапісі апокрыфаў і наагул выдумак поэтычнага характара. Шмат народных пераказаў, асабліва запісаных летапісцамі ад нейкага 90-гадовага дзеда Яна. Мова—старая беларуская, мешаная з царкоўна-славянскаю. Гэта наша найстарэйшая (з вядомых дагэтуль) летапісь, з якой ведаем аб самым старадаўным часе жыцьця баларускіх пляменьняў.

**Афрасіньня Полацкая.** У Полацка-Віцебскім княЗьстве першай культурнай сілай, дужа выдатнай у разьвіцьці нашага пісьменства, была полацкая князеўна Прадслава, хрысьціянскае імя каторай Афрасіньня. Радзілася яна ў пачатках 12-га сталецьця. Даводзілася ўнучкаю слаўнаму беларускаму князю Усяславу Чарадзею. На дванаццатым годзе жыцьця Прадслава ўцякла ў манастыр. З маладосьці ўславілась стродкасьцю свайго жыцьця ў манашках. У манастыры-ж пачала яна перапісываць кнігі і прадаваць іх, а грошы аддаваць на старцаў. Патрэба ў кніжках была надта вялікая, і Прадслава надумалась залажыць такі манастыр, гдзе манашкі займаліся-б перапіскай кніг і вучэньнем дзяцей. Дастаўшы ад полацкага біскупа Ільлі дазвол на двор Сяльцо блізка Полацку, дзе раней жылі архірэі, Прадслава і зрабіла там жаноцкі манастыр, куды брала граматных манашак (між іншых сваю родную сястру Гарыславу і зродную Зьвяніславу), адчыніла там школы і прытулкі. Усё сваё жыцьцё аддала князеўна Прадслава на разьвіцьце пісьменства, на падняцьце культуры ў родным краі. Пад старасьць паехала

яна ў Ерусалім, дзе, нейкі час пажыўшы, і памёрла. Цела яе было перанесена ў лаўры Кіева і пралежала там болей за 7½ вякоў, аж да 1910 г., калі яго прывязьлі ў родны Полацак.

**Лазар Богуш.** Даражэннай памяткай беларускага мастацтва 12-га веку ёсьць крыж, зроблены у 1161 годзе полацкім майстрам Лазарам Богушам для Афрасіньні Полацкай у царкву Сьвятога Спаса. Увесь крыж абкладзен залатымі і пазалачаванымі лістамі, абсыпан дарагім каменьнем і унізан жомчугам. На лістах зроблена дваццаць невялічкіх абразочкаў. Кожны абразочак з візантыйскай перагародчатай эмалі; асабліва вызначаецца абраз Ісуса Хрыста, на каторым рука з блаславеньнем складзена з самых дробненькіх каменьчыкаў. Увесь крыж удоўжкі 11 з пал. вяршкоў. Абразкі падпісаны: Матфеос, Лукас, Маркос і г. д. Тут-жа ёсьць напіс у стара-беларускай мове, мешанай з царкоўна-славянскаю, што ў 1161 годзе „покладаеть Офросінья“ гэты „чьстьныі крстъ“, што „акованьне“ каштавала 140 грывен (1400 рублёў), што будзе праклят той, хто вынясець яго з манастыра. Унізе подпіс майстра Лазара Богуша.



Афрасіньня Полацкая.

**Клімент Смаляціч.** († 1147 г.). У той-жа час мелі колькі выдатных людзей і смаленскія крывічы. Дайшло да нас „Пасланьне“ мітрапаліта смаленскага Клімента Смаляціча. Аўтор пішаць нейкаму Хаме, што дарма той вінаваціць яго ў нахіле „удаваць філёзофа“. Для нас відаць з „Пасланьня“, што Клімент Смаляціч пісаў ад Гомэра, Арыстоталя і Платона і ня быў працівен, каб разглядаць сьвятое пісьмо не па букве, а па змыслу—усё гэта сьведчыць аб

яго высокай адукацыі. „Пасланьне“—рэдкая памятка, значаньне якой, дзеля таго, яшчэ большае. Яно моральна здавальняе нас, бо паказуець, як высака стаяла на Беларусі адукаванасьць навет у 12 сталецьці.

**Аўрам Смаленскі.** У канцы 12-га сталецьця жыў у Смаленску вялікі кніжнік Аўрам. За пісьменнасьць і начытаннасьць у „глыбінных“ кнігах адны лічылі яго за філёзофа, а другія—за гэрэтыка. Ен адчыніў школу, у якой вучыў ня толькі чытаць сьвятыя кнігі, як уважалі раней, але і разглядацца ў іх думках. Духавенства на Аўрама Смаленскага, як воўк, рычэла, бо ён адбіў усіх вучняў. Аўрам Смаленскі, як тая пчала, старанна зьбіраў адусюль мёд для роднага пісьменства,—то сам сьпісаваў, то даваў другім сьпісаваць.

Былі тады ў Смаленскім князьстве і другія выдатныя людзі, аб каторых дайшлі да нас невялікія таксама весткі.

**Кірыла Тураўскі** († 1182 г.). Тураўска - Пінскае князьства дало ў пісьменстве Кірылу Тураўскага, каторы быў архірэям у Тураве, у сталіцы. Меў ён вялікую на свой час адукацыю. Дасканальна ведаў грэцкую рыторыку, а быў прыродны красамоўца. Уславіўся сваімі паўчэньнямі, як нязвычайна здольны прамоўца-поэт. Творы яго дайшлі да нас ува многіх сьпісках, сярод каторых ёсьць і орыгінальныя. Ен напісаў: 1) сем паўчэньняў, або слоў (на Вербніцу, на Вялікадне, на Праводніцу і інш.); 2) дваццаць сем малітваў і некалькі канонаў. У „Слове на Ушэсьце“ Кірыла Тураўскі найлепей паказаў свае поэтычныя здольнасьці, сваю бязьмежную і прыгожую фантазію, харастводі вялікасьць сваіх абразоў. Вельмі харошае „Паўчэньне ў нядзелю аб расслабленым“ вызначаецца яркасьцю апавяданьня, чаго дасяг поэт, ужыўшы драматызму. „Слова ў нядзелю новую па Пасцы“ вызначаецца поэтычнай сымвалістыкай. Малітвы і каноны Кірылы Тураўскага—глыбокая пакута, гарачыя сьлёзы грэшнага чалавека, каторы просіць Бога зьмілавацца, выратаваць яго. Літэратурны бок твораў Кірылы Тураўскага вышэй за царкоўнага элементу,—гэта болей прыгожая літэратура, чымся царкоўная. Тут мы знойдзем усе спасабы прыгожага пісаньня і ўсе асаблівасьці поэтычнай творчасьці: сымволіку, драматызм, дыялёгі, эпітэты, тропы, фігуры; тут ёсьць абразы з Бібліі, з царкоўнага культа, з натуры. Поэт пільнуець харастводі стылю. Творы яго нязвычайна здавальнялі адукаваных знаўцаў, але просты народ ня мог іх зразумець; у іх таксама няма нічога з роднага жыцьця.

**Даніла Паломнік.** — Быў ігуменам у Чарнігаве. Падарожнічаў у Палестыну, шаснаццаць месяцаў бавіў

у Ерусаліме (1115 г.) і дужа добра апісаў сваю падарожу. Твор яго перакладзен на чужыя мовы, бо маець вялікую навуковую цану. Апроч падрабязнага апісаньня Палестыны, аўтор зьмесьціў у свой твор легенды, апокрыфы і да таго падобныя рэчы, выключна рэлігійнага характару. Нічым іншым ён ня цікавіўся, і дзеля таго нічога не запісаў, да прыкладу, аб крыжавых войнах. Як прыгожае пісьменства, твор Данілы Паломніка стаіць нізка, прынамся яго зусім ня можна раўнаваць да твораў Кірылы Тураўскага.

**Легенды.** Так называліся народныя творы болей-меней рэлігійнага характару. Яны разьвіліся тады, калі чытаньне жыцьцяў сьвятых зрабілася народным чытаньнем, калі народ павыбіраў адтуль для свае памяці найболей зродныя для яго матывы і мамэнты і калі, з другога боку, народная славеснасьць болей а болей пранікала ў пісьменства. Пад уплывам жыцьцяў і на сюжэт жыцьцяў стварылася смаленская легенда аб Мяркурыю, маладым і харошым вою, якога паслала Багародзіца з Рыма ратаваць Смаленеск ад татараў; зьбіўшы паганых, ён варочаецца ў горад і нясець у руках сваю галаву, што адсек яму невядомы тагасьветны вой. Да нас дайшла гэтая легенда ў рэдакцыі пазьнейшых часоў. Складалася яна ня столькі з царкоўнымі заданьнямі, сколькі з чыста-творчымі, мастацкімі. Яна, праўда, адказуець на рэлігійны тон свайго часу, але зусім здавальняець і моральна-эстэтычныя патрэбы сучасьнікаў. Легенда зрабіла падгатаваўчую работу для стварэньня такіх твораў, як „Слова а палку Ігараве“.

**Слова а палку Ігараве.** Гэтую няўміручую памятку старадаўнай поэзіі напісаў у канцы 12-га сталецьця нязвычайна вялікі пясьняр, каторы ўзгадаваўся на народнай творчасьці і меў добрую кніжную адукацыю. Быў ён чалавек сьвецкі, блізкі да князеўскага хорама, родам з Чарнігаўшчыны. Імя яго да нас не дайшло. „Слова“ ўважаюць за памятку дружыннага эпоса, але ў ім гарманічна зьліты элементы эпоса, лірыкі і навет драмы. У „Слове“ апавядаецца аб паходзе князя Ноўгарад-Северскага Ігара на полаўцаў, войска каторага ў першы дзень пабіла паганых. Пакуль яно адпачывала, полаўцы зноў сабралі сілу. На другі дзень на небе гарэла, як кроў, зара і цёмныя тучы ішлі з мора... Пачаўся другі, яшчэ страшнейшы бой, і полаўцы адалелі. Ігар папаўся ў няволю. „Нічаць трава жалашчамі, а дрэва з тугаю к зямлі прыкланіся“,—так пяець аб гэтым вялікім горы пясьняр. З тугаю уздумываець ён цяпер на смутную мінуўшчыну зпустошанай роднай зямлі, калі рэдка крычалі ратаі, а часта

каркалі крукі над трупамі. Потым з драматызмам пераказуець, з якім засмучэньнем пачула вестку аб ігаравай бядзе родная старонка, князі і народ; з якім жалем ігарава жонка плачаць, стоючы на Пуціўлеўскіх мурах, хоча ляцець зязюлькаю, каб абмыць мужу крывавыя раны; як яна зварочуецца к сонцу, ветру і Няпру, каб ратавалі князя Ігара. Стульна, але ня меней поэтычна, апісаны князевы ўцёкі з палону.

Беларускасьць „Слова". Твор гэты маець у сабе надта многа асаблівасьцей з жывых тагачасных гутарак славянскіх пляменьняў, увайшоўшых у склад беларускай і ўкраінскай нацыі. Шмат там нашых цяперашніх арыгінальна-беларускіх слоў. Народная поэзія беларускіх пляменьняў займаець у „Слове" пачэснае места. Самы дух творчасьці—беларускі. Як поэт, аўтор „Слова" захапіўся славаю полацкага князя Усяслава Чарадзея († 1101 г.). „Князь Усяслаў людзем судзяша, князем грады рядзяша, а сам ў ноч ваўком рыскаша,—пяе аб ім поэт; — „таму ў Полацку пазваніша заутраню рана у Сьвятыя Софеі, а он ў Кіеве звон слышаша"... Як палітык, аўтор „Слова" дужа добра знаў і разумеў адносіны, так сказаць, беларуска-ўкраінскія, адносіны полацкіх і кіеўскіх князёў. Ен змаляваў, між іншым і знамянітую бітву ў 1067 годзе князя Усяслава з кіеўскімі князямі на рацэ Нямізе (дзе цяпер Менск): „Снапы сьцелюць галавамі, малоцяць цапы харалужнымі (сталёвымі), на тоцы жывот (жыцьцё) кладуць, веюць душу ад целэ"... Ведае пясьняр і аб літоўцах, ведае аб змаганьні з імі беларускіх пляменьняў. Сула, кажаць ён, скаламуцілася, бо тую зямлю, дзе яна цячэць, перайшлі агнём і мячом паганыя полаўцы; Дзьвіна скаламуцілася, бо на ёй зьявіліся літоўцы. Ен спамінаець горадзенскага князя Ізяслава, Усяславага ўнука, каторы „пазвані сваімі вострымі мячы а шаломы літоўскія", а сам „на крываве траве прытрэпан літоўскімі мячы" (забіт літоўцамі ў 1183 г.).

Літэратурнасьць „Слова". Як твор літэратурны, „Слова" маець нязвычайныя вартасьці. Элемэнты кніжны і народны зьліліся тут у вельмі складную, гучную, прыгожую музыку. Усе-чыста прыгажосьці народнай вобразнай гутаркі можна знайці ў „Слове". Але ёсьць у ім і хараство кніжнай творчасьці, бо аўтор, як чалавек дужа начытаны, бярэць прыгожыя звароты мовы з сьвятога пісьма, апокрыфаў, жыцьцяў, апавяданьняў. Аўтор „Слова"—вялікі мастак; поэтычныя абразы, слыхавыя і відавыя эфекты ў яго што раз лепшыя ды харашэйшыя. Абразы бярэць пясьняр навет і з сялянскага жыцьця, і з роднай натуры. Увесь твор



ахоплен адзіным настроем лірыка, маючага душу, поўную гора і тугі. „Слова а палку Ігараве“ — самы слаўны твор старадаўнага пісьменства.

## Падгатаваўчая пара.

(13—14—15 век).

**Утварэньне адзінага беларускага гаспадарства.** У 13-ым сталецьці беларускі князеўскі род рагваложых сыноў зьвёўся. Прасторнае і магутнае некалі Тураўска-Пінскае князьства пабілася цяпер на некалькі дробных і слабых князьстваў, а ў іншых з іх князеўскі пасад трапіў у кволыя рукі жанчын. А ў гэтых часох ваяўнічыя суседзі літоўцы здолелі ўтварыць незалежнае літоўскае гаспадарства, першыя князі каторага прылучылі да яго нявялікія часткі сумежнай зямлі і навет сваю сталіцу Вільню пабудавалі на гэтым здабытым прасторы. Тады беларускія князьствы пачалі троху-патроху п р ы л у ч а ц ц а да Літвы. Прылучаліся найчасьцей самахоць, на ўснове умоў, а часам былі другія прычыны, як тое, да прыкладу, што літоўскія князі жаніліся з беларускімі князеўнамі, рады каторых былі зьвёўшыся. Урэшце вялікі князь літоўскі стаўся князем усіх абадзіненых беларускіх земляў. З князьствамі Полацкім, Віцебскім і Смаленскім вялікія князі рабілі ўмовы і давалі ім конституцыйныя граматы; князьствы, дзе свае князі панавалі далей, рабіліся так ці йначай залежнымі ад вялікіх князёў, але паўнапраўнымі часткамі новага адзінага гаспадарства. У гэтым гаспадарстве, да якога пазьней было прылучана і колькі ўкраінскіх зямель, мы пераважалі сваёю лічбою і сваёю культурнасьцю, дык ня дзіва, што ў ім запанаваў беларускі дух. Так, можна сказаць, на працягу 13—14 сталецьцяў беларускія пляменьні аканчальна зьліліся ў адну-адзіную беларускую нацыю і старылі сваё, вялікае і дужое, гаспадарства пад уладаю літоўска беларускіх князёў. Беларусы пераважна зусім адалелі літоўцаў-жмудзінаў, каторыя пачалі перайманьць у іх цывілізацыю, мову і навет рэлігію грэцкага вызнаньня. У часох будаваньня беларускага гаспадарства было ўжо ўсім вядома імя Беларусі і беларусаў, якое азначала „русь“ вольную, слабодную ад платы падаткаў наезчыкам.

**Утварэньне адзінай пісьменнай беларускай мовы.** К гэтаму-ж часу з гутарак беларускіх пляменьняў зложылася ў галоўных сваіх асаблівасьцях і адна-адзіная беларуская народная мова. Яна болей а болей пачала

ўваходзіць на пісьме ў мярцьвеючую і ўжо мала-зразумелую беларусам царкоўна-славянскую мову. Разьвіцьцю-ж царкоўна-славянскай мовы, хоць і з беларускімі азнакамі, замінала, між іншым, адсутнасьць адукацыі ў духавенства. Дык на працягу 13—14 сталецьцяў лік асаблівасьцей беларускай народнай мовы ўсё расьцець—спачатку ў розных актах і граматах, адылі ў духоўных творах. Калі-ж беларускае гаспадарства ступіла на сьлед спакойнага культурнага разьвіцьця, зьявілась канечная патрэба ў адзінай гаспадарстванай мове, пісьменнай і найзручнейшай. За гэткую мову можна было прыняць: 1) царкоўна-славянскую, 2) літоўскую ці 3) народную беларускую мову. Магчыма, што князям-літоўцам трудна было навучыцца царкоўна-славянскай мовы ці, можа, часам яна здавалася ім нейкай часткаю варожай для іх сілы. Мова літоўская была недасьпелай для пісьма; палітоўску гаварыла племя ваяўнічае, але зусім невялічкае для вялізарнага прастору гаспадарства. Народная-ж беларуская гутарка чулася па ўсім вялікім князьству, літоўскія князі змалку ўмелі яе і яна ўжо мела нейкія правы ў царкоўна-славянскім пісьме. І вось пры Альгердзе (княжыў 1345—1377 г.) урад знайшоў патрэбным прызнаць яе за афіцыяльную. Сьледам за ўрадам пайшлі і вышэйшыя станы грамадзянства. Віленскі пралат Эразм Вітэлі казаў рымскаму папе ў сваей прамове ў 1501 годзе так: „Літоўцы маюць уласную мову. Але дзеля таго, што русіны (беларусы) насяляюць пасяродак дзяржавы, усе звычайна карыстаюцца іх мовай, бо яна далікатная і больш лёгкая.“ І, як кажа Кіркор, у ёй пісаліся ўсе акты і законапалажэньні ня толькі для беларускіх провінцый, але і для ўласнай Літвы і Жмудзі, так што мы ня маем ніводнага гаспадарстванага акта на літоўскай мове („Асьвета і народная творчасьць у Ліцьве“). У гэтыя часы беларуская мова ўжо мела ў сабе блізка ўсе тыя фонэтычныя і морфолёгічныя асаблівасьці, каторыя характарызуюць яе гукі цяпер; толькі слоўны склад яе і сінтаксічны бок зьмяняліся і далей. (Е. Карскі, „Беларусь“, 1920 г., № 45 і 46). Так утварылася наша старадаўная літэратурная мова, каторая даўгі час, аднак, была яшчэ перасыпана царкоўна-славянізмамі.

**Пісьменства падгатаваўчае пары.** Пачынаючы з другога часу старадаўнага пісьменства дайшло да нас дужа многа грамат і актаў, асабліва судовых, і іншых старасьвецкіх дакумэнтаў, шмат рукапісных і друкаваных кніг—да набажэнства, біблейных, сьвятаайцецкіх, летапісаў, кронік, кронікграфаў, апавяданьняў, запісак, мэмуараў,

Наданьне 14 века, напісанае на 128 л. 6 Полацкага Эвангельля публ. бібл. ў Пецярбурзе.

Чытаецца так: „Надань(н)е. Во ймя о(й)ца і с(ы)на й с(ьвя)того д(у)ха. Се аз раб б(о)жый Иван Ніконовіч, Деменьтеев с(ы)н, отходя сего света, дал есьмі с(ьвя)той тр(оі)цы тры места ролейная на Великом Полі, да пожэнька, да луг на Полоте, да огород. Уста“...

Наданье

Во имѧ ѿца и с҃на и с҃того
д҃ха. се азъ рабъ
б҃жий иванъ нико
новичь деменьте
евъ с҃нъ. ѿходѧ се
го свѣта. далъ єсь
ми с҃той тр҃ци. три
мѣста. ролейнаѧ.
на великомъ по
ли. да пожен(ь)ка.
да лугъ на полоте.
да ѡгородъ. оуста

вершаў і г. д. Так, у вадным толькі Віленскім архіве апісаных актаў маецца болей за 200,000. На падгатаваўчую пару прыпадаюць глаўным чынам акты і граматы, а з краснага пісьменства—летапісныя зборнікі і кронікі, сярод каторых запісаны, часам, цікаўныя жыцьці сьвятых або невялічкія повесьці духоўнага характару. Апрача таго, пашыраны былі царкоўныя рукапісныя кнігі. Выдатных літэратурных памятак падгатаваўчая пара не пакінула, а можа быць яны пагінулі. Аб слове 13—14 стлецьцяў даюць разуменьне такія дакумэнты: Смаленская таргова я праўда (пачатак 13 ст.); Умова князя Эрдэна Полацкага і Віцебскага з містрам Крыжацкім у Рызе (1264г), Тарговая ўмова між Рыгай і Полацкам" (блізка 1330 г.) і іншыя рэчы. З 1386 года, калі Ягайла зрабіў палітычны хаўрус з Польшчаю, на Беларусі зьяўляюцца выразныя заходнія ўплывы. Магчыма, што гэтая навіна памагла народнай беларускай мове набрацца сілы ў пісьменстве і пазбыцца царкоўна-славянізмаў. 15-ае сталецьце і наагул пазьнейшы час падгатаваўчае пары вызначаецца 1) духоўнымі творамі, 2) судовай літэратурай і 3) кронікамі.

**Духоўныя творы,** ці лепей сказаць—творы сьвецкія духоўнага зьместу і характару, прызначаліся, глаўным чынам, для сьвецкага грамадзянства або і напісаны людзьмі гэтай сфэры. У народнай мове іх было лягчэй і прыямней пісаць, а таксама пасьпяшней пашыраць сярод грамадзянства. Сярод твораў тае пары ёсьць праваслаўныя і каталіцкія. Усе яны захаваліся ў рукапісах, пісаных кірыліцаю. Праваслаўныя духоўныя тв ры выглядаюць далейшаю, болей беларускаю формаю жыцьцяў сьвятых, апокрыфаў, пераказаў і ўсяго таго, што мела царкоўна-славяншчына. Сярод каталіцкіх твораў 15-га сталецьця вызначаюцца такія: Жыцьце Аляксея, чалавека божага; Мука Хрыстусова; Повесьць а трох каралёх; О умучэні пана нашага Есуса Крісtarga; О устані Крыстусові із мертвых; О плачы Маткі о Сыну і інш. Літэратурная вартасьць гэтых твораў маецца ў вобразнасьці думак, прыгажстве і яркасьці мовы ды ў іншым. З вялікай лічбы царкоўных тагачасных кніжак цікавен, між іншым, беларускім правапісам талковы Псалтыр дзяка Арцема, сьпісаны ў Віцебску.

**Статут караля Казіміра** (1468 г.). Раней, як дзе яшчэ, разьвілася наша старадаўная кніжная мова ў літэратуры актаў, грамат і наагул юрыдычных памятак. Найвышэйшай ступені дайшла актавая мова ў часе Літоўскага

Статута (16 ст.); але ўжо ў 15 сталецьці яна стаяла вельмі высака. Прыкладам, з вялікай лічбы памятак, можа быць мова „Праўнага ліста караля Казіміра“, каторы пачынаўся так:

Казімір, божаю міласьцю кароль польскі, вялікі князь літоускі і руські, княжа прускае, і жамаідзкі, і іных, чынім знамяніта сім нашым лістом... іж мы з князьмі і з паны радаю нашага Вялікага Князьства Літоускага і з усім паспольствам сагадаушы, урадзілі есьмо так...

**Летапісі-кронікі.** Характэрнаю азнакаю кронік беларускага гаспадарства ёсьць тое, што ўсе яны пісаны ў чыстай і прыгожай беларускай мове. Летапісных зборнікаў за 15-е, 16-е і 17-е сталецьці маем шмат. Прыкладам можа быць Летапісь Аўрамкі (напісана ў 15 веку ў Смаленску, цяпер на сховах у Віленскай публічнай бібліатэцы) або Летапісец вялікага князьства Літоўскага (16 века, цяпер на сховах у бібліатэцы Красінскіх у Варшаве) і іншыя. У гэнай другой кроніцы летапісец выводзіць род нашых князёў ад рымскіх цэсараў, даець аб пачатках Літвы цікаўны, больш баечнага характару пераказ. Так пісаць ён мог толькі ведаючы латынь. Значыцца, апісаная ім на гістарычны лад байка радзілася з пашырэньнем на Беларусі ўплываў рымскай культуры. Тут-жа ёсьць апавяданьне аб сьвятой Праксэдзе Полацкай, пахаванай у Рыме, жыцьцё каторай падобна да жыцьця сьвятой Афрасіньні Полацкай.

## Залатая пара.

(16 век).

**Далейшае разьвіцьце старадаўнай літэратурнай мовы.** Калі беларускае жыцьцё ўсё шырэй набіралась эўропэйскасьці, мова наша, як мова нацыянальна-літэратурная, запанавала ў соймах і ратушах. Спачатку мова кніжная зусім мала адрозьнівалась ад народнае мовы. Але „дзеля таго, што народная мова ня мела патрэбных слоўных тэрмінаў, выказуючых новыя разуменьні, прышлося браць іх з другіх моў, а ў першую чаргу з польскай і праз яе з заходня-эўропэйскіх моў, бо з імі былі знаёмы праз Польшчу вышэйшыя і сярэднія станы на Беларусі. Потым, дзякуючы пашырэньню палітычнай і рэлігійнай вуніі з Польшчай (у канцы 16 века), калі ўмацаваўся на Беларусі польскі каталіцызм, уплыў польскай мовы на народ і духавенства стаў вельмі прыметны. З гэтай прычыны, апрацаваная к канцу 16-га века беларуская літэратурная мова была перасыпана полёнізмамі, галоўным чынам у слоўніку“ (Е. Карскі). Афіцыяльнае поле яе пашырэньня было зацьверджана законам,

**Летапісь Аўрамкі (Віленск. публ. бібл. л. 440 б).**

Чытаецца так: „гонца пошлеть к велі(ка)му князю Вітовту к Дорогічыну, што тая дела сталася. Й гонец той найдеть велікого князя Вітовта ў Городне. И князь велікый Вітовт за одін д(е)нь з Городна прыжэнеть к о(й)цу своему велікому князю Кейстутю“. І г. д.

каторы пісаў, што пісар земскі маець пісаць усе лісты, выпісы і позвы пабеларуску і беларускімі (кірылаўскімі) літэрамі. Але і ў другіх, ува ўсіх-чыста галінах і праявах літэратуры і жыцьця на Беларусі яна была пашырана, як нацыянальная і літэратурная. Законы, дыплёматычная перапіска, ураловае дзелаводзтва, перапіска духоўнага і сьвецкага грамадзянства, літэратурныя творы—усё было пабеларуску. У гэты час пабеларуску гаварылі ў магнацкім хораме і ў мужыцкай хаце. Мова зрабілася багатаю, гібкаю і прыгожаю, высока-разьвітаю і культурнаю. Тады былі ўжо і цьвёрдыя, агульныя, абавязковыя для ўсіх правілы правапісу.

**Літэратура залатой пары.** Калі турэцкая навала задавіла паўдзённа-славянскія гаспадарствы, у нас страціліся зьвязкі з Візантыяю. Беларусь пачала ўсысаць тыя культурныя сокі, якімі гадаваўся Заход. Гэтыя сокі ішлі да нас цераз Польшчу. У канцы 15-га сталецьця зьяўляецца ў нас цераз яе заходня-эўропэйскі гуманізм, каторы даў вы-датнага беларускага мужа Францыска Скарыну. Гуманізм, ці адраджэньне было на Заходзе жывым протэстам проці аскетычнага ідэала сярэдніх вякоў, прыннятаўшага асобу чалавека. У нас яно ўліло новыя, сьвежыя ручаі ў затхле жыцьця. За гуманістамі прыйшлі незабавам рэфармати, меўшыя ў нас вялікі пасьпех і даўшыя нам у другой палавіне 16-га сталецьця цэлы рад пісьменьнікаў. Рэфармацыя прыйшла да нас у форме кальвінізму і соцыніянства. Яна спачатку значна памагала культурнаму разьвіццю беларусаў. Працуючы для рэлігіі, нашы протэстанты адчынялі школы і друкавалі кніжкі, паднімалі асьвету, працавалі для пісьменства. Калі значаньне рэформацыі пачало зьмяншацца, патроху запанавала рэлігійная рэакцыя. У канцы 16-га сталецьця зьяўляюцца на Беларусі езуіты, у большасьці—палякі. Узьнімаецца войсграе змаганьне за веру, на каторае марнуюцца ўсе культурныя сілы.

Назовамі твораў і іменьнямі пісьменьнікаў залатая пара надта багата, ня гледзячы на тое, што болей згінула і зьнішчана, чымся дайшло да нас. Асабліва багаты мы старадрукарскімі выданьнямі. Да нашых дзён гэты мнагацэнны скарб быў захован ад вачэй беларускага духа; хавалі яго розныя палітычна-гістарычныя прычыны, каторыя ствара лі адсутнасьць гісторыі беларускай літэратуры, як самастойнай навукі. Дзеля цэннасьці твораў або характарыстыкі веку пералічым гэткія рэчы: 1) кнігі Ф. Скарыны, 2) В. Цяпінскага і 3) С. Буднага; 4) „Одпісы“ Ф. Кміты; 5) „Дняўнік“ Т. Еўлатэйскага; 6) „Прамову“ Мялешкі; 7) вершы А. Рымшы; 8) Баркулабаўскую кроніку і 9) Літоўскі Статут.

## Францыск Скарына.

(Арадзіўся блізка 1490 г).

**Яго жыцьцё.** Францыск-Георгій Скарына быў родам з Полацку; сын заможных купцоў, каторыя мелі гандаль з Рыгаю і Вільняю. Наўчыўшыся пачаткаў граматы ў доме бацькоў, трынаццацёх-гадовы здольны хлапец нейкім спосабам папаў у Вільню. Адгэтуль у 1504 ці ў 1505 годзе, калі Скарыне было 14—15 гадоў, беларускія магнаты паслалі яго вучыцца ў унівэрсітэт у Кракаў. Там выкладаліся гэткія навукі: граматыка, лёгіка, рыторыка, фізыка з арытмэтыкай і геомэтрыяй, музыка, астраномія і навука выкладаць календары і вылічаць гараскопы. З кракаўскага унівэрсітэту Скарына выйшаў бакалярам. Потым ён паехаў у Італію і ў 1512 годзе, пасьля экзамена пры падуанскім унівэрсітэце, дастаў вучоную ступень доктара медыцыны („вызваленых і лекарскіх навук доктар“). Пазьней Скарына падарожнічаў па Нямеччыне, пазнаёміўся з Марцінам Лютэрам, каторы быў да яго няпрыхілен, бо думаў, што Скарына—нячыстая сіла. Заехаўшы ў Прагу, Скарына застанавіўся там на даўжэйшы час і з 1517 года пачаў друкаваць беларускія кніжкі. У гэтай працы яму памаглі заможныя беларусы, прыхільнікі асьветы, а ў першы чарод памагло, кладучы кошт, Віленскае Панскае Брацтва, у каторым згуртаваліся ўсе выдатнейшыя беларускія магнаты. Памаглі яму і беларускія мяшчане, прыкладам—сын віленскага радцы Багдан Онькоў, віленскі бурмістар Якуб Бабіч і іншыя. Яны давалі яму грошы і здабывалі і прысылалі патрэбныя матар'ялы. Забраўшы з Прагі літэры і ўсе друкарскія прылады, Скарына перабраўся к 1525



Ф. Скарына.

году ў Вільню і ў доме глаўнага віленскага бурмістра Бабіча залажыў першую на Беларусі друкарню, гдзе таксама друкаваў кніжкі. Аб далейшым яго жыцьці вестак захавалася мала. Жаніўся, жыў бедна, меў даўгі, быў засуджан на конфіскацыю ўсяе маемасьці, жаліўся на розныя крыўды каралю. Астатні раз успамінаецца ў актах у 1535 годзе, а калі памёр—то невядома. Скарына меў два іменьні: Францыск і Георгій. Есьць здогад, што быў ён праваслаўны, а каб паступіць у кракаўскі унівэрсітэт, прыняў каталіцтва.

**Кнігі Скарыны.** У 1517, 1518 і 1519 гадох у Празе Скарына прыблізіў да беларускай мовы і надрукаваў 22 кнігі старога закону. Гэта была: „Біблія руська, вылажана доктарам Францыскам Скарынаю із слаўнага града Полацка, богу ко чці і людзем паспалітым к добраму наўчэньню“. Кожная кніга была выдрукавана паасобку. У 1525 годзе ў Вільні Скарына надрукаваў „Малую падарожную кніжыцу“, у каторай зьмесьціў Псалтыр з пражскай Бібліі і, апрача таго, часаславец, акафісты, шастаднёў і саборнік (сьвятцы). У тым-жа годзе выйшаў у Вільні яго Апостал. Асаблівае значаньне для гісторыі літэратуры маюць яго арыгінальныя прадмовы да кніг.

**Пачатак беларускага друку.** Першы пачаў друкаваць кніжкі кірылаўскімі буквамі Швайпольт Феоль, каторы ў 1491 годзе ў сваёй кракаўскай друкарні, на кошты беларускіх вяльможаў Кішкі, Гаштольда і Скуміна-Тышкевіча, адціснуў пяць царкоўных кніжак у царкоўна-славянскай мове. Феоль быў абвінавачан у гэрэзі і ўцёк у Вэнгрыю. Мова яго выданьняў маець беларускія асаблівасьці, але іх помала, каб кніжкі тыя лічыць за беларускія. Першая друкаваная беларуская кніжка—Псалтыр Скарыны, першая кніжка з яго Бібліі. Псалтыр гэты выйшаў з друку ў Празе 6-га жніўня (аўгуста) 1517-га года. У 1917 годзе, 6 жніўня, беларусы сьвяткавалі 400-лецьце свайго друку.

Пачатак беларускага друку на Беларусі прыпадае на 1525 год.

**Агульны характар скарынінскіх выданьняў.** Друкарская тэхніка ў пачатку 16-га сталецьця стаяла яшчэ дужа нізка: друкаваньне было сакрэтам колькіх чалавек; друкар сам выразаў на дручкох літэры, сам уклаваў словы і адбіваў аркушы на ручным варштаце. І доктару Скарыне, апроч яго чыста навуковай працы па выкладаньню

і выпраўленьню кніг, трэба было і рабіць карэкту, і пільнаваць за работай складальнікаў, а можа і самому складаць. Ня гледзячы на гэта, кнігі, друкаваныя Скарынаю, выглядаюць і з друкарскага боку надта хораша. Літэры рознай вялічыні, прыгожа зробленыя. Шмат заставак, як вялікіх (з людзьмі), так і малых, віньетак, завіточкаў, канчаткаў і розных іншых прыкрас. Дужа часта трапляецца бычыная галава з крыжам між рагоў. Пры аднэй кнізе ёсьць і партрэт самаго Скарыны. Па хараству друка выданьні Скарыны стаяць вышэй за ранейшыя славянскія (чэшскія) і сучасныя ім венецыянскія, лепей і за нямецкія. Рысункі і шрыфт для кніг рысаваў сам доктар Скарына.

ПОСЛАНИЯ :~


оконаня е сия книга зовемая апо-
тол, еже замыкает в собе найперве
деяния апостольская. Потомъ посланнея
святыхъ апостолъ, соборныхъ седмъ :~
Таже епистолъ святого павла ді :~ Ле-
та по нарожении нашего спасителя Іса
Христа Сына божия. Тысещнаго, Пятьсо-
таго, И двадесять патого. Месеця мар-
та :~ Придержанем наяснейшего го-
сподаря Жикгымонта Казимировича,
Короля полского. И великого князя Ли-
товъского, И руского, И жомоитьского
И иныхъ. В славном месте виленском
выложена, и вытиснена. Працею и вели-
кою пилностию. Доктора франциска
скорины с полоцка :~ Богу в троици еди-
ному. И пречистой матери его марии. со
всеми святыми к чьти. И лю-
дем посполитым к до-
брому научению :~

Апостал Ф. Скарыны.

**Пашырэньне кніг Скарыны.** Кнігі Скарыны спачатку былі прыняты добра, а калі загарэлася рэлігійнае змаганьне, праваслаўнае духавенства пачало глядзець на іх дужа няпрыхільна — з тае прычыны, што яны быццам мелі на сабе ўплыў і адбітак каталіцызму. Дык ня дзіва, што ў нас і асабліва ў Маскоўшчыне, у часе расколу, многа было зьнішчана даражэнных памятак пісьменства, — маглі быць зьнішчаны і кнігі Скарыны. Яго Біблію зналі далёка пазамежжу Беларусі, а ў 1575 годзе ў Галіцыі яе пераклалі на ўкраінскую мову. Цяпер кнігі Скарыны лічацца вялікай бібліягра-

фічнай рэдкасьцю. У вадным толькі Лёндане, у Брытанскім Музэю, ёсьць комплект яго Бібліі. Адзіны ўва усім сьвеце экзэмпляр Псалтыра 1517 г. знаходзіцца ў бібліатэцы Мікольскага адзінаверчага манастыра ў Маскве. У Віленскай публічнай бібліатэцы ёсьць Апостал 1525 г.

**Мова скарынінскіх перакладаў.** Доктар Скарына, робячы беларускія пераклады, ня меў магчымасьці карыстаць з гэбрайскага ці грэцкага тэксту і здавальняўся матар'ялам толькі з царкоўна-славянскіх кніжак, чэшскай Бібліі 1506 года і комэнтарыямі Міколы Лірана. Стары закон ён перакладаў з чэшскай Бібліі, з дапамогаю царкоўна-славянскага пераклада, а новы закон і таксама Псалтыр, як відаць, ён толькі выпраўляў па старых славянскіх рукапісах на беларускі лад. Дзеля таго мова Скарыны знаходзіцца пад значным уплывам царкоўна-славяншчыны; часам яна выглядае навет жывой царкоўна-славяншчынай. З тых прычын, што вучыўся Скарына ў польскім унівэрсітэце, працаваў сярод чэхаў, а падарожнічаў па нямецкай зямлі, наагул жа меў разуменьні, для якіх научыўся ужываць словы чужыя, — на мове яго ёсьць адбітак моў: чэшскай, польскай, літоўскай; ёсьць і нямецкія словы (майстар, тахта і інш.). Есьць у яго кнігах словы, якія цяпер шмат-дзе на Беларусі выйшлі з ужытку: вонках (на дварэ), жужэлка (яшчарка), зараніца, волат (асілак), братанічна (пляменьніца) і інш. Есьць і такія словы, што за чатыры вякі ані каліўца не зьмяніліся і ўжываюцца навет на паверхнутых на чужыншчыну ўзьмежках Беларусі: борзда, бараніць, вінавацiць, вір, жыта, забрахаць, заручыць, карагод, пражыцца на скаўрадзе, пуга, скрыня, цяміць, узгорак, віхор і да т. п. Дужа многа, як зазвычай у нас, слоў агульных беларуска-ўкраінскіх.

**Пагляды Скарыны** выказуюць у ім гуманіста, патрыота і чалавека пабожнага, лепшага інтэлігента свайго часу. Вось, да прыкладу, некалькі яго думак:

«Ня толькі самі сабе нарадіхамся на сьвет, но болей ко службе божыяй і паспалітага добрага».

«Понежа ад прыражэньня зьверы, хадзяшчыя у пустыні, знаюць ямы свая; пціцы, лятаюшчыя па воздуху, ведаюць гнезда свая; рыбы, плываюшчыя па мору і у рэках, чуюць віры свая; пчолы і тым падобная бароняць вульлеу сваіх,— така-ж і людзі, ікдзе зрадзіліся і ускормлены суць па бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць.»

За сваю пісьменную працу Скарына ўзяўся, каб зрабіць добрую грамадзкую справу, „паспалітае добрае“. Аб прычынах гэтай працы ён пішаць так: „Наболей з тое прычыны, іжа мя міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў“.

Цэлі былі такія: 1) „Абы брацьця мая, русь, людзі паспалітыя, чтучы, маглі лепей разумеці;“ 2) „Дзецем малым—пачатак усякае добрае навукі, граматы, ежа добра чэсьці і мовіці вучыць“,—значыцца, каб беларускія дзеці мелі падручнік для навукі роднай мовы; 3) каб беларусы-падарожнікі, у становішчы якіх быў і сам доктар, мелі па чым маліцца на чужой старане, ведалі-б, калі сьвяткаваць якія дні („Мал. падар. кніжыца“).

**Значаньне Скарыны.** Доктар Скарына сваім войстрым навучным розумам пераверыўся, што трэба завесьці ў кнізе родную мову, бо царкоўна-славяншчына ці латынь, як рэч незразумелая народу, ня можа і не павінна замяняць яе пры запраўдным культурным разьвіцьці. Ен цьвёрда адкінуў шкодную думку, быццам звычайная, штодзенная, свая „простая“ мова ня годна дзеля малітвы; гэтаю моваю Скарына зьвязаў пісьменства з народам.

Скарына стаіць у нас на вялікім гістарычна-літэратурным і культурным рубяжы, як першы беларускі друкар. Друкарня яго ў Вільні, першая на Беларусі, адбыла вялікую культурную місыю для ўсяго славянскага Усходу; толькі ў Скарыны маглі наўчыцца друкаваць дыякан Іван Фёдараў з Маскоўшчыны і беларус Пётра Мсьціславец, каторыя ў 1564 годзе паспрабавалі залажыць першую друкарню і ў Маскве. Беларуская Біблія Скарыны займаець трэцяе места ў гісторыі друкаванага пісьменства (першая друкаваная Біблія была нямецкая, другая чэшская.)

## Васіль Цяпінскі.

(Другая палав. 16 стал.)

**Біаграфічны матар'ял.** Быў родам з Полаччыны, як і Ф. Скарына. Радзіўся ў 40-х гадох 16-га сталецьця. Меў свой двор Цяпін і яшчэ колькі двароў, але, відаць, невялікіх, бо пісаў аб сваей маемасьці, што яна „ўбогая“. Ня меў ён і такой адукацыі, як Ф. Скарына. Захапіўся рэфармацыйным рухам на Беларусі і належаў да рэлігійнай сэкты арыянітаў. Знаўся з беларускім пісьменьнікам С. Будным, з каторым нейкі час разам друкаваў кніжкі. Пад старасьць меў ён двор на Валыні, каторы, быць можа, дастаўся яму ад князя Астрожскага, як дар за літэратурную і выдавецкую працу. Калі памёр В. Цяпінскі, — невядома. У актах астатні раз спамінаецца ў 1604 годзе, калі сыны яго судзіліся за бацькаву маемасьць. У 1915 годзе ў бібліатэцы Сьвятаполк-Завадзкага, у м. Крошыне блізка Баранавіч, пашчасьціла бібліафілу Р. Зямкевічу знайці партрэт В. Цяпінскага.

**Эвангельле В. Цяпінскага.** У 1570 — 80 гадох В. Цяпінскі пераклаў на беларускую мову і надрукаваў у сваёй уласнай пераезнай друкарні Эвангельле. У цэласьці яно да нас не дайшло, бо Цяпінскі ў прадмове пішаць аб трох эвангелістах, а маем толькі двух. Вельмі цікаўна і важна для нас прадмова, напісаная Цяпінскім да Эвангельля. Цяпер кніга Цяпінскага — нязвычайная бібліяграфічная рэдкасьць; вядомы толькі два акзэмпляры, адзін у Салавецкім манастыры, другі ў Петраградзкай публічнай бібліятэцы. Шрыфт кнігі Цяпінскага падобен да шрыфту кніг Ф. Скарыны і С. Буднага, але харастваа скарынінскіх выданьняў яна ня маець, бо Цяпінскаму ніхто не памагаў ні коштам, ні працаю. Друкаваў ён два тэксты: царкоўна-славянскі побач з беларускім, а на краёх кнігі зьмяшчаў розныя паясьненьні. Мова Цяпінскага маець полёнізмы, царкоўна-славянскія і стара-беларускія словы.


ВЯСИЛЬ ТЯПИНСКИЙ

**Пагляды В. Цяпінскага** выказуюць у ім перадавы розум свайго часу і гарачае сэрца патрыота. У сваёй Прадмове В. Цяпінскі даў высокі прыклад грамадзянскай сьвядомасьці і павіннасьці. Аб сваёй працы ён казаў: „З убогае сваее маетнасьці народу майму услугую“, „з жычлівасьці ку маей атчызьне“. Ен хацеў, каб людзі „трымаліся языка свайго прыражонага“, бо відзеў у гэтым пеўны спосаб захаваць нацыянальную адзінасьць і падняць родную культуру. Ен пісаў, што трэба адчыніць школы за грошы з двароў, якія ўдаўнасьці дастала духавенства „не на марнатрацтва, не на строй і на што такое, але для навук“. Ен пісаў беларускім паном, што калі ў іх засталося хоць колькі-небудзь улітаваньня да роднага народу, народу „зацнага, слаўнага,

войстрага і даўсьціпнага", але „неумеетнага і утрапленага", дык каб яны закладалі школы для яго. З запалам кажаць ён аб патрэбе асьветы і гнеўна сароміць паноў і духавенства як за іх уласную цемнату, так і за іх нядбаласьць у справе культурнага разьвіцьця бацькаўшчыны. Яго патрыятычная душа не магла сьцерпіць, што ёсьць такія з княжат і знатных паноў, каторыя „і пісьмом ся сваім, а злашча ў слове божым устыдаюць". Яго культурная праца была вельмі цяжкою для яго сіл, але ён рабіў яе,—„поневаж каторым бы то ўласьней учыніці прыстоіла, мітрапалітаве, ўладыкі і ніхто з вучоных чэраз так многі час не хацелі"...

## Сымон Будны.

(Другая палавіна 16-га ст.).

**Біаграфічны матар'ял.** Сымон Будны радзіўся на Беларусі ў першай палавіне 16-га сталецьця. Вучыўся ён у кракаўскім унівэрсітэце. Пераняўшыся кальвінскімі ідэямі, Будны, як вучоны і вельмі здольны чалавек, неўзабаве здабыў сабе славу сваёю дзеяльнасьцю і літэратурнай працаю. Віленскі ваявода князь Мікалай Радзівіл-Чорны запрасіў яго ў 1552 годзе ў Клецк на пасаду кальвінскага пастара. З 1562 года Будны распачаў шырокае выдавецтва ў Несьвіжскай друкарні, працуючы разам з выдаўцамі Мацеем Кавечынскім і Лаўрэнам Крышкоўскім. Творы свае Будны друкаваў пабеларуску, папольску і палатыні. Па веры ён наляжаў пазьней да антытрынітараў (аднабожнікаў), а з кальвіністамі разыйшоўся. Памёр у пачатку 17-га сталецьця. Будны быў вельмі вучоны, надта добры лінгвіста (ведаў колькі моў) і дужа здольны і цікаўны публіцыста. У творах яго ёсьць шмат глыбокіх і нязвычайна сьмелых, арыгінальных думак. Дзьве эпохі, сярэднявяковая і новая, схадзіліся ў ім і цягнулі ў абадва бакі.

**Беларускае пісьменства Буднага:** 1) „Аб апраўданьні грэшнага чалавека прад Богам" (1562 г.); 2) „Катэхізіс, то-есьць навука старадаўная хрысьціянская ад сьвятога пісьма для простых людзей языка руськага ў пытаньнях і адказах собрана" (1562 г.). Абадва творы надрукованы ў Несьвіжу. Апрача гэтага, Будны пісаў яшчэ шмат чаго.

Можна думаць, што Будны, друкуючы беларускія кнігі, меў на ўвазе ня столькі разьвіцьце беларускай культуры і нацыянальнай сьвядомасьці, колькі большае пашырэньне кальвінізму сярод беларускага народу. Аднак, трэба зазначыць, што пасьвячаючы свой кальвінскі катэхізіс сыном бра-

тоў Радзівілаў, Будны пісаў у патрыятычным духу, каб маладыя князі „ня толькі ў чужаземскіх языцах кахалі“.

милости нетолько вчужоземскихъ язы
цехъкоХали, алебы ся тежъ вши Княжау
скиє мати и того здавна славного языка
словенъского розмиловати и онымъ ся ба
вати рачили. Слушнам бо речь естъ, абы
вши Княжацскиє мати того народу языкє
миловати рачили, въ которомъ давъныє
предъки иихъ Княжацъскиє мати пано
вє отци вашихъ Княжецскихъ мати сла
внє пренеишиє преложеньстея нєсуть.

Стр. 8-ая з пасьвячэньня выдаўцоў „Катэхізіса“ С. Буднага Радзівілам.

Ня маючы ніякага асаблівага значаньня ў разьвіцьці нашай літэратуры, творы Буднага пабольшылі, тымчасам, лічбу друкаваных беларускіх кніжак і спрычыніліся ў пашырэньні беларускай прасьветы. Яны пабуджалі грамадзкую думку, давалі ёй сьвежасьць новых паглядаў.

## Філон Кміта.

(Другая палавіна 16 ст.).

**Філон Сымонавіч Кміта-Чарнабыльскі,** як відаць, ня быў беларус родам. Ен служыў у Воршы і Смаленску, адкуль пасылаў паном радным данясеньні, ці „одпісы“. Быўшы старастам на ўзьмежку гаспадарства, недалёчка ад маскоўскае граніцы, Кміта разьвіў шырокую сыстэму шпігоўства ў Маскоўшчыне і аб усім старанна адпісываў у гаспадарстваную раду. Ен добра ведаў палітычнае палажэньне ня

толькі ў Польшчы і фэдэратыўна зьвязанай з ёю бацькаўшчыне, але ведаў, напрыклад, аб адносінах маскоўцаў да перакопскіх татараў і наагул аб беларускай і закардоннай палітыцы. Цяжкую службу спраўляў ён на старожы Беларусі, і за яго заслугі, зробленыя гаспадарству, яго ўшанавалі сэнаторствам з тытулам ваяводы смаленскага.

**„Одпісы“** (1573—1574) захаваліся ў рукапісу бібліятэкі Дэпартам. Генеральн. Штабу ў Пецярбурзе. Усяго 31 одпіс. Напіс на іх гэткі: „Реистръ списанья тарменъ, катórые есми листы черезъ посланцы мои, даючы вѣдомость о князи великом и о новинах, о которых мнѣ шпекги мои зъ земли его непріятельской Московской вѣдати давали...“ (па Е. Карскаму). „Одпісы“ маюць значаньне, як мэмуары, характарызуючыя беларускае грамадзянства 16-га сталецьця і нашыя ў той час палітычныя адносіны да суседзяў. Апрача таго, „Одпісы“ цікаўны сваёй літэратурнай формаю і моваю. Гэта ня толькі сухія дзелавыя одпісы, але цікаўныя і навет абразныя апавяданьні, жывыя пераказы купцоў і іншых людзей ў эпічным стылю. Мова цікаўна тым, што польскіх слоў ў „Одпісах“ мала, а чуецца ўплыў маскоўскай гаворкі купцоў, шпегаў, перабежчыкаў і наагул такіх, што пабылі сярод маскоўцаў. Тут-жа многа народных беларускіх прыказак, якія жывуць у штодзеннай нашай гутарцы і цяпер („Як даробіць ліха, прарэжуцца й зубы,“ „Ні думалі, ні гадалі,—гаспадарам нарадзілі,“ „Калі ўтапілі, тапор давалі, а выплыўшы—ні тапарышча,“ „Тая баба надвое варажыла“ і інш.).

## Тодар Еўлашэўскі.

(1546 — 1604).

**Аўтобіяграфічны матар'ял.** Тодар Еўлашэўскі быў родам са Случчыны. У канцы 16-га сталецьця ён займаў пасаду наваградзкага падсудка па выбару. Належаў ён да дробнай беларускай шляхты, „каторая цікавілася беларускім пісьменствам, рабіла пераклады, пашырала іх, пісала самабытныя, ўласныя творы“ (Е. Карскі). Яго адукацыя была такая: на пятым годзе вучылі чытаць пабеларуску, пазьней — папольску, а з часам навучыўся ён пісаць пагэбрайску. Чалавек быў пабожны. Бацька Т. Еўлашэўскага, заўдавеўшы, прыняў духоўны сан і быў біскупам пінскім і тураўскім. На 19 годзе жыцьця Т. Еўлашэўскі, аднак, адступіў ад праваслаўя і навярнуўся на протэстанцтва. Скрозь усё жыцьцё пашыраў ён свой сьветагляд самаасьветай; з часам навучыўся навукі рахаваньня, законаў, пазнаёміўся з філёзофіяй; меўся

навет ехаць ў Угоршчыну ці ў Турцыю, каб зьведаць іншыя далёкія краіны і научыцца рознаму рамяству.

**„Дняўнік“ Т. Еўлашэўскага.** Займаючы пасаду падсудка, Еўлашэўскі вёў цікаўны „Дняўнік“, з якога ўзяты біаграфічныя данныя аб самім пісьменьніку. Рукапіс гэты раней знаходзіўся ў Вілянаўскай бібліатэцы блізка Варшавы, а цяпер вывезены ў Расею. З „Дняўніка“ мы ведаем аб разьвіцьці і духоўных патрэбах той сфэры, з якой выйшаў Еўлашэўскі. Разьвіцьце яе было нявысокае, але патрэбы духа, патрэбы ў пісьменстве не зьмяншаліся, а падрасталі. Рацыяналізм быў дужа пашыраны, аднак, ён не аслабаніў і найлепей разьвітых інтэлігентаў веку ад звычайных забабонаў. Так, Еўлашэўскі з паважнасьцю апісаў у „Дняўніку“, як яму здаўся ўночы ў стадоле нейкі агністы чалавек. Ен кажа, што чалавека таго відзела і шляхцянка, як прылятаў да гаспадарскае дачкі.

Еўлашэўскі паказаў у „Дняўніку“ свой патрыатызм: беларускае аўтор усюды вызначаець ад польскага. Ен падчырківае, што ў эпоху першага безкаралеўя палякі баяліся, „кабы се Літва з Маскоўскім не паразумела“. Крыштофа Радзівіла лічыць „стлупам панства Літоўскага“. З пыхаю зазначаець, што на сойме 1578 г. „маршалковаў межы пасламі наш ліцьвін—князь Лукаш Болька-Сьвірскі“. Ен надта шануець паноў Хадкевічаў і пішаць аб беларускіх князёх Слуцкіх, Радзівілах, дае матар'ял аб Філоне Кміце, Сапегах і іншых. Мова Еўлашэўскага значна церпіць ад пальшчызны, бо ён доўга жыў у Варшаве і наагул усё жыцьцё меў справы з рознымі вяльможнымі панамі, якія гаварылі ўжо папольску, а не пабеларуску.

## „Прамова“ Мялешкі.

„Прамову“, зьвязаную з імям кашталяна смаленскага Івана Мялешкі, знайшлі ў бібліатэцы Храбтовічаў у Шчорсах. Яе быццам-то казаў Мялешка перад адчыненьнем сойму ў Варшаве ў 1589 годзе пры каралі Жыгімонту Трэцім. Крытыкі „Прамовы“ уважаюць, аднак, што ня мог яе казаць кашталян перад каралём і соймам, што калі ён і казаў, дык што-небудзь іншае, а гэткую «Прамову» злажыў нейкі беларускі гумарыста. Каб дапнуць сваіх літэратурна-грамадзянскіх цэляў, аўтор „Прамовы“ зьвязаў яе з імям вядомага кашталяна. Аднак, значаньне „Прамовы“ ад гэтага ня меншыцца.

Па думках, якія выказаны ў „Прамове“, яе можна падзяліць на дзьве часткі. У першай глаўным чынам разглядаюцца болей важныя палітычныя пытаньні, а ў другой мяркуецца аб тых шкодах для бацькаўшчыны, якія робяцца ў штодзенным жыцьці ад благой разьвязкі тых пытаньняў. Ува ўступе прамоўца кажа, што ён ня ведаець, як тут яму радзіцца, бо ніразу пры каралёх не засядаў і на гэткіх зьездах ня бываў, а прызвычаіўся рабіць толькі так, як вялося пры нябожчыках даўнейшых вялікіх князёх, калі палітыкі ня знелі, а „ў рот праўдаю, як солей у вочы, кідывалі“. У першай частцы ён надта ганіць тых радных баламутаў, каторыя пры каралю сядзяць ды круцяць. Ен кажа, што „многа тутака такіх ёсьць, што хоць нашая костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняе“. У першай і асабліва ў другой частцы „Прамовы“ аўтор праводзіць яскравае параўнаваньне старыны з тымі шкоднымі на яго пагляд зьменамі ў штодзенным побыце, якія заводзяцца на Беларусі чужынцамі і сваімі баламутамі. Ен хваліць старыну і ганіць навіну, занесеную з чужога, ляшскага і нямецкага, боку. З наўмыснай наіўнасьцю, у якой хаваецца абурэньне гарачага патрыота і колкая іронія разумнага сатырыка, ён хваліць даўнейшыя вопраткі, стравы, мёд і гарэлку, і ўсё. „Тож я радзіў бы,— кажа прамоўца:—няхай белажонкі нашыя ў запінаныя даўныя убіраліся-бы казакіны“... „Я сам калі падамоваму ўбіраюся, то еймосьць паня Мсьціслаўская, малжонка мая, нацешыцца і наглядзецца на мяне ня можаць“. А цяпер,— раўнуець ён,—зусім ня тое, што было, усё пайшло на заморскі спосаб. Затое цяпер ня ўмеюць мураваць такіх муроў, як раней, і вайну слаўную дзяржаць ня ўмеюць...

Прыкладам прамоў гэтая памятка 16-га сталецьця быць ня можа: думкі скомканы, галоўнае перабунтована з драбнейшым, разьвіцьце ідэі ідзець нявыразна або скачкамі. Прыгожай творчасьці тут помала, а ёсьць абразы, звароты мовы і асобныя словы ня толькі не поэтычныя, але і для тых часоў грубаватыя. Аўтор „Прамовы“, як відаць, і ня вельмі клапаціўся аб літэратурным харастве,—на першым пляне для яго стаялі заданьні палітычныя і грамадзкія. „Прамова“ Мялешкі—адна звычайная, шчасна захаваная памятка з лічбы многіх загубленых прыкладаў літэратуры залатой пары. Яна добра характарызуець жыцьцё ў канцы 16-га сталецьця, а яшчэ лепей паказуець жывую нацыянальна-літэратурную беларускую мову таго часу.

## Андрэй Рымша.

(Канец 16-га стал.).

Андрэй Рымша - Ліцьвін пісаў у канцы 16-га сталецьця. Адукацыю дастаў ў Астрожскай школе. Пазьней ён быў слугою Крыштофа Радзівіла, як гэта відаць з яго перакладанай з латыні на польскую мову „Топографіі.“ Рымша пісаў вершы і прозу. Для нас маюць значаньне яго вершы: 1) „Кронолёгія“ (1581 г.), 2) эпіграма на гэрб Валовіча (1585 г.) і 3) эпіграма на гэрб Сапегі.

1. **Кронолёгія,** або „Каторага ся месяца што за старых вякоў дзеела кароткае апісаньне,“ мaець кароткае выкладаньне па месяцох некаторых падзей біблейнай гісторыі, да прыкладу:

Месяца Апрыля, пагэбрэнску Нісан,
Проста Квецень.
Жыдове суха прайшлі Чырвонае мора,—
Карміу іх Бог, на пушчы ня было ім гора...

Апісаньне пачынаецца з месяца верасьня, як першага ў годзе старыннага часу. Цікаўны тагачасныя беларускія назовы месяцаў,—вось яны: верасень, пазьдзернік, грудзень, просінец, стычань, люты, марац, квецень, май, чырвец, ліпец і серпень. „Кронолёгія“ была надрукована ў Астрогу; думаюць, што гэта—вучнёўскі твор А. Рымшы.

2. У надрукованым Мамонічамі ў 1585 годзе зборніку „Генадзія патрыярха... дыялёг, ці самадруга размова“ Андрэй Рымша зьмесьціў пад ініцыаламі „А. Р“ эпіграму **„На гэрб яснавяльможнага пана Астафея Валовіча, пана віленскага і протчых.“** Куплеты складаюцца з чатырох радкоў; у першым куплеце два крайніх радкі маюць па 4 склады, а два сярэдніх—па 9:

Што дзьве стралы,
Што урубы, што лілеі значаць,—
То усі людзі мудрыя вельмі
Гаразд бачаць.

3. У Літоўскім Статуце 1588 г. зьмешчана эпіграма Рымшы **на гэрб канцлера Лявона Сапегі,** каторая складаецца з 17-цёх сілябічных двухрадковых куплетаў. Кожны радок мaець 13 складоў; рыфмуюцца сумежныя радкі. Пачынаецца эпіграма гэтак:

Усе можам сваім вокам лацна абачыці,
Даужыню і шыракосьць шнурам пазначыці,
І чалавека можам пазнаці па твары,
Естлі у сабе ня маець лішняе прывары.

Апісаўшы гэрб Сапегаў, што каторы сымвол значыць, аўтор увасхваляе Сапегаў і выказуець ім добрыя жаданьні:

> Жывіце-ж, Сапегаве, усі у многія лета!
> Ваша слава слыць будзець, покуль станець сьвета.

Запраўднай поэтычнай творчасьці, навет там, дзе ня трэба было ўслаўляць магнатаў, вершы Рымшы не паказуюць. Ціжар формы і благой тэхнікі давіць думку. Дзеля гэтага, Андрэй Рымша, як поэт, маець для нас значаньне паказальніка: ён паказаў нам верш 16-га сталецьця. Верш гэты сілябічны, рыфмаваны, з дужа даўгімі часам радкамі (13 і болей складоў), нагадуець звычайную прозу, пабітую на рыфмаваныя канцы.

## Баркулабаўская кроніка.

Прыкладам народнай беларускай гаворкі 16-га сталецьця можа быць Баркулабаўская кроніка, каторая напісана ў сяле Баркулабаве Быхаўскага павету Магілеўшчыны. Цяпер кроніка знаходзіцца ў Маскоўскай Сінадальнай Бібліатэцы. Яна, як відаць, сьпісана з орыгіналу, і складаець частку беларускага рукапіснага зборніка, пісанага рознымі рукамі. Баркулабаўская кроніка займаець у тым зборніку 138—174 лістоў; пачынаецца з 1563 года, канчаецца 1608 годам; апрача таго, у канцы ёсьць дапіска аб здачы Смаленска Шэінам у 1633 годзе. Імя летапісца засталося невядомым; ёсьць прычыны думаць, што гэта быў баркулабаўскі поп Аляксей Мсьціславец. Мова летапісі нязвычайна прыгожая і чыстая; яна маець якраз тыя асаблівасьці, каторымі характарызуюцца і сучасныя магілеўскія гаворкі.

Летапісец прыймаў к сэрцу палітычныя справы бацькаўшчыны, яе царкоўнае і агульна-грамадзкае жыцьцё, добра быў знаём з жыцьцём Магілеўшчыны, а жыцьцё свайго Баркулабава відзеў даўгі час з усіх бакоў і ведаў яго дасканальна ў абы-якіх драбніцах. І Баркулабаўская кроніка, дзеля таго маець вялікую цану, як гістарычна-апісны матар'ял. Тут мы знаходзім беларускае жыцьцё палітычнае, царкоўнае, вайсковае, грамадзкае, сямейнае панскае і простых людзей, штодзеннае, адным словам—поўную карціну Беларусі ў апісаньні жыцьця людзей і прыроды. Як гістарычнай памяткай, ёю карыстаў Салаўёў для свае „Гісторыі Расіі“ (т. 10) і Кастамараў для свайго твору „Смутны час“ (т. 2). Як памятка літэратурная, яна захапліває чытаньніка красою эпічнага стыля, абразнасьцю апавяданьня і сакавітасьцю малюнкаў, асабліва-ж аўторскай шчырасьцю і духам часу, укладзеным

у кроніку. З аднакавым хараством змаляваў летапісец, як „Маскву ад Магілева адперлі, пабілі, адагналі“, як новы календар прыймавалі, як змагаліся за веру, як'я цэны былі на ўсё, колькі грыбоў у якое лета набіралі, які быў ураджай на хлеб, якое надвор'е. Карціна голада ў 1601 року хапае за сэрца. Яна канчаецца такою нязвычайнай прастатою, хаваючай вялікі драматызм:

«...адзін другога пакідалі, ня ведаючы адзін а другім, мала ня усі памерлі. А калі той наход, у варот, альбо у дому у каго стоячы, хлеба прасілі, ацец з сынам, сын з аццом, матка з дачкою, дачка з маткаю, брат з братам, сястра з сястрою, муж з жаною, тымі словы мовілі сільне, сьлезне, горка мовілі так: «Матухна, зязюлюхна, вутухна, панюшка, спадарыня, сонца, месяц, зьвездухна, дай крошку хлеба!» Тут-жа подле варот будзець стаяці зраня да абеда і да палудня, так-то просячы; там-жа другі пад плотам і умрэць.»

«А калі варыва прасілі, тыя словы мовілі: «Спадарыня, перапелачка, зорухна, зернетка, соунышка, дай ложачку дзіцятку варыуца сырога!»

Кроніка напісана ў праваслаўна-пабожным тоне і патрыятычга-беларускім духу. Можна заўважыць няпрыхільнасьць летапісца да маскоўцаў з усходу і да веры лацінаў з заходу. Сьвядома адрозьніваець ён сваю „русь“ і ад літоўцаў.

## Літоўскі Статут.

(1529—1566—1588).

**Яго гісторыя.** Літоўскім Статутам называецца зборнік законаў, якія разьвіліся ад старадаўнага права беларускіх пляменьняў. Законы гэтыя спачатку жылі ў правасьвядомасьці народа. Так было да канца 15-га і пачатку 16-га сталецьця, калі беларуская нацыя стварыла сваё гаспадарства з такім культурным разьвіцьцем, якое вымагала пісаных законаў. У 1522 годзе на віленскім сойме Жыгімонт Першы выдаў эдыкт аб тым, што Беларусь будзе мець адно пісанае права—Статут, каторы меліся зараз надрукаваць у вялікай лічбе экзэмпляраў. Аднак, хоць у гэтым часе гаворыцца аб Статуце, як аб укладзеным ужо кодэксе, беларускія законьнікі працавалі над проэктам аж да 1529 г. Напісаны быў Статут пабеларуску, цераз год яго пераклалі палацінску, а цераз тры гады папольску. Надрукован ён тады ня быў, а захаваўся ў сьпісках. Гэта ёсць першая рэдакцыя Статута (1529 г.). Дзеля некаторых перамен у гаспадарстваным ладзе, а таксама заган паасобных артыкулаў, Жыгімонт Аўгуст даручыў выдатным законьнікам палепшыць той Статут. Новая, другая рэдакцыя Статута была зацьверджана на віленскім сойме ў 1566 г. Пасьля Люблінскай уніі (1569 г.) асобая камісія пад старшынствам канцлера Лявона Сапегі ізноў перагледзіла Статут, каб нашы законы схадзіліся

з польскімі. У гэтай трэцяй рэдакцыі Статут быў зацьверджаны ў 1588 г. на варшаўскім сойме і надрукованы ў віленскай друкарні братоў Мамонічаў. Яго поўны азагаловак гэткі: „Статут Вялікага Князьства Літоўскага, ад наясьнейшага гаспадара караля яго міласьці Жігімонта Трэцяга на каранацыю ў Кракаве выданы, року 1588. Друкована ў вольным месьце Віленскім, у друкарні дому Мамонічаў. З ласкі і прывілея караля яго міласьці“. Усяго ў Статуце (1529 г.) ёсьць трынаццать разьдзелаў, маючых агулам 282 артыкулы. Друкаваная кніжка (1588 г.) мае блізка 600 страніц формату 26½ на 14 сантымэтраў.

### Вартасьці і слава Літоўскага Статута.

Разьвіцьце навукі аб правох было ў нас надта высокае, што відаць ня толькі з старых дакумэнтаў і правадаўчых актаў, але і з выдатных прымернікаў адвакацкіх прамоў на судзе. У пасяродку 16-га сталецьця ў Вільні быў адчынены юрыдычны факультэт, на каторым беларуска-літоўскае і нямецкае права выкладалі беларускія вучоныя юрысты. Выдатныя беларусы-законьнікі ўкладалі і „Статут“. Яны вельмі ўдачна палучылі ўсновы старога нацыянальнага права з законамі навейшага правадаўства. Польскі гісторык Ярашэвіч кажаць аб Статуце 1529 г. („Obraz Litwy“), што ня гледзячы на ўсе заганы, гэта былі законы лепшыя, чымся тыя, каторыя мела тады Польшча, а што датыча спосабу іх укладаньня, дык гэткага зборніка законаў у 16-га сталецьці зусім ня было ня тое што ў палякоў, а і ў другіх народаў.

**Мова Літоўскага Статута** ёсьць для нас асабліва добрым прыкладам нацыянальна-літэратурнай беларускай мовы залатой пары і яе паступовага разьвіцьця. Статут—дарагая памятка той мовы, у якой пісалі нашы прашчуры ў гаспадарствавую эпоху нашага жыцьця. У першай рэдакцыі яна бліжэй да народнай гутаркі; разьвіваўшыся, яна рабілася болей штучнаю і набіралася польшчыны і наагул чужых слоў. Мова Статуту давала патрыятычнае здаваленьне беларусам. Гэта зазначыў яшчэ Лявон Сапега ў прадмове да Статута, пішучы так: калі сорамна якому народу ня ведаць сваіх правоў, баронячых яго вольнасьць, дык асабліва сорамна было-б тое нам, маючым правы, пісаныя не ў абы-якой чужой, а ў сваей роднай мове Мова Статута маець шмат абстракцыйных разуменьняў, выказаных пабеларуску дужа добра і зразумела для паспольства. З другога боку, Статут маець кавалачкі, быццам узятыя з сяньняшняй народнай гаворкі; да прыкладу, артыкул 9-ты у 12-тым

# СТАТУТ ВЕЛИКОГО КНЯЗТВА ЛИТОВСКОГО

Ѿ наӕснешого Г(оспо)д(а)ра короля Его м(и)л(о)сти
Жикгимонъта третего на коронацыи
въ Кракове выданый : року
҂А Ф ПИ.





Друковано [illegible],

в друкарни дому Мамоничов.

З ласки и прывилья короля его м(и)л(о)сти



разьдзеле: „А хто-бы ў каго ўкраў вала або карову, сьвіню або вепра, або аўцу, або казу,—іно таму цана за вала пяцьдзесят грашэй“... і г. д.

...ѹлъ а·

Всѣ ѡбыватели великого кнѧзства литовского · тым ѡдным правомъ писанымъ · и ѡт нас даным сужоны быти маю.

Напродъ мы г(о)с(по)д(а)ръ ѡбецуемъ и шлюбуемъ · под тою ж присегою которую учинили есмо всимъ ѡбывателемъ всихъ земль паньства нашого Великого Кнѧзства Литовского · и тежъ всихъ кнѧжатом паномъ радъ духовныхъ и свѣцких · паномъ хоруговныхъ шлѧхтѣ · мѣстам и всихъ подданыхъ нашихъ · и всихъ станов в том паньствѣ нашомъ великомъ кнѧзствѣ литовскомъ · и иныхъ всихъ земль · здавна к тому паньству прислухаючихъ · почонши ѡт вышшого стану а до нижшого · тыми ѡдными правы...

артыкулъ в

Мы г(о)с(по)д(а)ръ шлюбуемъ никого не карати на зачтное поведанье · хотѧбы доткнулосѧ маестату нашого г(о)с(по)д(а)рского ѡбразою а...

Літоўскі Статут па экзэмпляру з беларускага музэю Я. Луцкевіча. Напісана: (артык)ул 1. Всі абывателі велікого князства літовского тым адным правом пісаным і от нас даным сужоны быті мают. Напрод мы г(аспа)д(а)р обецуем і шлюбуем пад тою-ж прысегою, каторую учынілі есмо всім обывателем всіх земль паньства нашого»... і г.д.

**Значаньне Літоўскага Статута.** Статут—найдаражэйшая памятка ня толькі гістарычная ці юрыдычная, але і чыста літэратурная, хоць гэта і ня ёсьць твор красная пісьменства. Літэратурнае значаньне Статута ствараліся і расло з яго гадамі, а ў нашы дні яно нязвычайнае, вялізазнае. Літоўскі Статут—гэта ёсьць тая несакрушная скаліна, той духоўны памятнік, які найлепей сьведчыць аб славе і магутнасьці нашае мовы і нашага навет звычайнага пісьменства. Статут 1529 г., як агульны і свой закон для ўсіх земляў гаспадарства, агараджаў яго адзінства і самастойнасьць, а сваёю беларускаю моваю паказываў на панаваньне ў гаспадарстве беларускай стыхіі, як грунтоўнай.

## Друкары, друкарні, кнігі.

У старадаўны час сярод беларусаў шмат было культурных дзеячаў, каторыя друкаваньнем кніжок, коштамі, матар'яламі, спагадаю ці прывілеямі і рознымі іншымі спасабамі разьвівалі і паднімалі беларускае пісьменства. Спачатку стаяць слаўныя іменьні друкароў-мецэнатаў: Багдана Онькова, Якуба Бабіча і інш. У 1575 годзе быўшая Скарыніна друкарня, закладзеная на кошты Бабіча, перайшла на ўласнасьць да вядомых культурных дзеячаў 16-га сталецьця—братоў Кузьмы і Лукаша Мамонічаў. Мамонічы былі родам з Магілева. Кузьма быў віленскім бурмістрам, а Лукаш скарбным вял. кн. Літоўскага. Кузьмоў сын Лявон менаваўся каралеўскім друкаром. Дзеяльнасьць друкарні цягнулася безперастанку да другой палавіны 17 сталецьця. У ёй надрукован Літоўскі Статут, шмат твораў полемічных і духоўнага зьместу. Браты Мамонічы запрасілі да сябе вядомага беларуса-друкаваньніка Пётру Мсьціслаўца, які раней, у 1564 г., разам з маскоўцам дыяканам Іванам Фёдаравым паспрабаваў залажыць друкарню ў Маскве. Маскоўская чэрня разбурыла яе, а друкары, абвінавачаныя ў гэрэсі, мусілі ўцякаць назад на Беларусь. Іх узяў да сябе сьперша вядомы беларускі дзеяч-мецэнат гетман Грыгор Хадкевіч у свой двор Заблудава (Беластоцкага павету), дзе яны наснудзілі друкарню і надрукавалі колькі кніг. Тут у 1568-1569 г г. выцісьнена Эвангельле вучыцельнае, Псалтыр і інш.; у прадмове да Эвангельля Г. Хадкевіч пісаў: „Памысьліў быў есьмі, іжа бы сію кнігу, выразуменьня радзі простых людзей, пералажыці на простую малву.“ Перайшоўшы да Мамонічаў, Мсьціславец у 1574-1575 г.г. надрукаваў Эвангельле служэбнае, а у 1576 г.—Псалтыр. Ен з удзячнасьцю пісаў аб падмозе яму ў гэтым часе ад двух

братоў Зарэцкіх. Як ведаем, памагалі друкаром Радзівілы, К. Астрожскі, Тышкевіч, Кішка, Валовіч, Сапега, Крышкоўскі, Кавечынскі


КНИГА СЛѸЖЕБНИКЪ.
ВНЕЙЖЕ БЛЖЕНЫХ ТРЕ
ЕПКПОВЪ ЛѸРГІЕ СЪВЕР
ШАЮТЬСѦ.
ІѠАННА ЗЛАТООУСТАГО, ВАСИ
ЛІѦ ВЕЛИКАГО, И ГРИГОРІѦ ДВОЕ
СЛОВА ПАПЫ РИМЪСКАГО, ПРЕ
ЖДЕОСЩЕННАѦ.
Дрѹкова но есть а коштомъ и накладомъ,
Ясне вельможного Пана
Его мл̃ти Пана.
Лешна Сапеги. Канцлера Великого Князства
Литовъского Могилевъского, щерешовъского
Старосты. І прочая.

Заласкою І привилеемъ. Е. К. мл̃ти.
Вдрѹкарни Лешна Мамонича.
Рокѹ ҂АХЗІ.

Загалоўны ліст „Служэбніка“ (Вільня, 1617).

і інш. Князь Мікалай Радзівіл Чорны залажыў у 1558 г. друкарню ў Бярэсьці-Літоўскім для друкаваньня рэформацкіх кніг. Адгэтуль выйшла так званая Радзівілаўская, або Бярэсцкая Біблія, якую малодшы сын Мікалая Радзівіла, князь Юры, кардынал і віленскі біскуп, скупіў усю-чыста і спаліў

перад касьцёлам сьв. Яна ў Вільні. Цяпер гэтая Біблія нязвычайная бібліяграфічная рэдкасьць. Друкарня з Бярэсьця была перавезена ў Вільню і аддадзена езуіцкай акадэміі. У Супрасьлі (Горадзеншчына) друкарня істнавала пры уніяцкім базыльянскім манастыры. Тут друкаваліся Чэцьці-Мінеі, свяшчэннае пісаньне і наагул царкоўныя і духоўныя уніяцкія кнігі для ўсяе Беларусі. Тут-жа друкаваліся і старажверскія кнігі (у перш. палав 18 ст.). Супрасьльская друкарня істнавала аж да пачатку 19-га сталецьця; калі Супрасьль з Беластокам адыйшоў да Прусаў, зьбяднеўшыя манахі-уніяты прадалі яе друкару Арону з Беластока (Кіркор, „Асьвета і народная творчасьць у Ліцьве“). Друкарня ў Еўі (35 вёрст ад Вільні) была адчынена ў 1611 г. князем Багданам Ог'нскім. Апрача таго, былі вялікія друкарні ў Дзярэчыне, Гродз. губ., (зрабіў у 1585 г. Сапега), у Кейданах, Ковен. губ., (зрабіў у 1611 г. Януш Радзівіл), у Сейнах, Ашмяне, Кнышыне, Слоніме, Горадні, Заслаўлі, Магілеве, Полацку, Менску. Пінску, Бялынычах і іншых мястох. Друкаваньне кніг, пачаўшыся ўдосьветкі ў 16 сталецьці, к канцу века разьвілося нязвычайна: можна было налічыць дзесяткі друкарняў, раскіданых па розных мястох і мясьцечках Беларусі. Найболей старадрукарскіх кніг, дайшоўшых да нас, прыпадае на канец 16-га і пачатак 17-га сталецьця. Друкаваліся і расходзіліс кнігі ў масе экзэмпляраў. Есьць тут усялякія выданьні. Есьць, акром разгледжаных, дужа цікаўныя па мове, як Гармонія, альбо сагласіе веры, сакрамэнтаў і цэрэмоней васточнае цэркві з касьцёлам рымскім“ (Вільня, 1608) ці вучыцельнае Эвангельле Каліста (Еўе, 1616), выданае дзеля „пранезнаемасьці і неумеетнасьці языка славенскага многіх,“ цераз што іншыя „удавалісь да заразьлівых ерэтычнай навукі паствіск.“ Есьць кнігі па філёлёгіі, як граматыкі (Лаўрэнція Зізанія—Вільня, 1596 г., М. Сматрыцкага—Еўе, 1616 г. і інш.), слоўнікі („Лексікон“ Памвы Бярынды—1627 г., складаны на працягу больш за 30-х гадоў, а ў 1653 г. перадрукованы ў Куцеінскай (Магіл. губ.) друкарні С. Собаля, як „патрэбны і пажытачны многім“). Асабліва-ж многа школьных падручнікаў.

## Ай Кітаб.

У 1915 годзе Я. Луцкевіч знайшоў у Сорак-Татарах, ваколіцы пад Вільняй, рукапісную кнігу „Ай Кітаб“, аб каторай пісаў вось што: „Літоўскія татары-магамэтане, якія дагэтуль жывуць у Меншчыне і Віленшчыне, пасяліліся ў на-

قرانغولق ايدي كوز كوزني كورمزدي • خروس اوتمدي ايت ده اورمزدي •

ڃمنا بلو اوچ شوطلاشچ نودزل قور نبل صاباك نبرحال

يغمور ياغادي يل اسردي ظلمات • سنادم كيم بو قيامتدر •

دوشچ ايشو ڃمنا بلو وڃر وياو رازمو شتو صدن دزين ناصطاو

**Ай Кітаб з беларускага музэю Я. Луцкевіча.**

Пятая частка страніцы. Чытаецца так: «Цемна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі. Дошч ішоу цемна было, вецер веяу. Разумеу, што судны дзень настау».

шым краі ў пачатку XV веку. Яны былі выпісаны, як ўспамагаўчае войска проці крыжакоў, вялікім князем Вітаўтам. Пасьля вайны яны асталіся ў нашым краі, дасталі права жаніцца з дачкамі тутэйшых баяр-шляхты і прынялі ад іх фаміліі, звычаі, мову беларускую; толькі вера асталася магамэтанская. Вось, для духоўнае патрэбы татарскія муллы („молна“) арабскімі літэрамі пабеларуску перапісалі і пераклалі сьвятую кнігу „Ай Кітаб“, зьбеларушчаную ў „Кіцёп“.— „Ай Кітаб“, сьвятая кніга, гэта ёсьць тлумачаньне Корану, яго прыповесьці важнейшыя. Знаньне арабскае мовы хутка загінула, асталося толькі знаўства пісаць арабскімі літэрамі і чытаць напісанае паарабску. Мы бачым яшчэ шмат дакумэнтаў судовых, падпісаных мясцовымі татарамі паарабску, але словамі беларускімі. Гэта йдзе праз увесь XVI і XVII век“.

Знойдзены Я. Луцкевічам „Ай Кітаб“ — вялікая рукапісная кніга, зложаная з колькісот страніц, у вокладцы, без пачатку і канца, пісаная характарам 16-га або пачатку 17-га веку. На некаторых страніцах радок беларускага тэксту йдзець пад радком арабскім (гэтак на нашым зьнімку). Але найчасьцей тэкст толькі беларускі, сярод якога стаіць часам адно ці некалькі сьпецыяльных слоў магамэтанскай рэлігіі.

Апрача літэратурна-паказаўчага характару, беларускі „Ай Кітаб“ маець для нас вельмі важнае і гістарычна-філёлёгічнае значаньне, як цэнная памятка нашай жывой старадаўнай мовы. Яна маець у сваім праваписе дзьве характэрных асаблівасьці, якіх у кірылічным тэксьце беларускіх старых грамат у такім пеўным выглядзе ня маем: 1) ясна азначаны гук „дз“ (напрыклад, у словах дзень, відзелі і інш.); 2) асобным знакам паказаны гук „ць“ (напрыклад, у словах цемна, сьветласці, якія па кірылічнай транскрыпцыі былі-б напісаны „темна“, сьветласьті“). Адгэтуль відаць, што гукі „дз“ і „ць“ выгаварываліся ў нашай жывой мове ад найдаўнейшых часоў. Беларускі „Ай Кітаб“ пакуль што мала быў на воку вучоных мовазнаўцаў, дык магчыма, што калі-небудзь з яго даведаемся і аб іншых важных асаблівасьвях старадаўнае мовы.

## Верш Пашкевіча.

У вадным старадаўным рукапісу Літоўскага Статута, каторы быў на сховах у бібліатэцы віленскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі, знайшлі цікаўны верш, азагалоўлены гэтак: „Ян-Казімір Пашкевіч рукою ўласнаю пісаў року 1621“. Верш невялічкі:

Польска квітнець лацінаю.
Літва квітнець русчызнаю;
Бяз той у Польшчы не прабудзеш;
Бяз сей у Ліцьве блазнам будзеш;
Той лаціна язык даець,
Та бяз русі не вытрваець.
Ведзь-жа юж, Русь, іж тва хвала
Па усім сьвеце юж дайзрала;
Весяліся-ж ты, русіне,
Тва слава нікгды ня згіне!

То-ж была яшчэ пара бліскучага ўваччу разьвіцьця нашага слова, і сучасьнікі ня відзелі, што пачаўся сход... І данраўды,—цяпер таксама зьяўляліся пісьменьнікі, друкавалася

Аўтографы: 1) Сапегі, 2) Валовіча, 3) Палубенскай і 4) Масальскай.

шмат кніжок, літэратура жыла. Хіба толькі новы, полемічны тон яе даваў права сказаць аб нейкім пераломе. Тымчасам, гэтая пара была няпрыкметным пачаткам страшнога, мёртвага занападу нацыянальна-беларускай духоўнасьці.

## Сход.

(17 век).

**Палітычны і культурны занянад.** З часоў уніі нашага гаспадарства з Польшчаю, на якую прыстаў у 1385 г. Ягайла, мы яшчэ ня трацілі свае незалежнасьці; на пагляд нашых прашчураў гэта быў палітычны хаўрус. Каталіцтва, каторае зьявілася пасьля гэтага на беларускай тэрыторыі больш-менш прыкметна, хоць і нясло з сабою чужаземны польскі дух, але нясло так, што зусім не пагражала устоям самабытна-беларускай культуры. Польскія ўплывы

ўзрасьлі толькі ў 15-ым сталецьці, а прыкрымі зрабіліся для беларускіх патрыотаў толькі ў 16-ым сталецьці. Самая шкода хавалася ў адсутнасьці добрых нацыянальна-беларускіх школ. Хоць сярод беларускіх магнатаў і цяпер панавала ў хатнім ужытку свая родная беларуская мова, але стала, да прыкладу, модным падпісываць на афіцыяльных дакумэнтах сваё імя польскімі літэрамі, бо гэта лічылася знакам адукаванасьці! У другой палавіне 16-га сталецьця аж разумныя людзі (як „стоўп праваслаўнае веры", маскоўскі цімак князь Курбскі) і тыя спакусіліся гэтаю модаю. Узгадаваньне ў польскіх школах, каталіцкіх і протэстанцкіх, прышчэплівала беларускім магнатам і шляхце рабскае паддаваньне перад польскай культурай і раўнадушнасьць да свайго, роднага, асабліва мовы,—яе сталі ганіць і ня любіць. Сьледам за панамі ішло духавенства. Так, ужо В. Цяпінскі лаіў паноў за тое, што яны ня маюць школ для вучэньня роднай мове і абвучаюць сваіх дзяцей папольску, „або ў іныя пісьма за такою няволяю заправуюць" з нямалым сорамам для сябе і для дзяцей.. Але і гэта была яшчэ не такая бяда, пакуль пакloньнікі польскай мовы чулі сябе беларусамі, пакуль не разьвілося ганебнае выраканьне свайго народу. Ня гледзячы нінавошта, Люблінская палітычная унія 1569 г. афіцыяльна была такая: абодва гаспадарства злучыліся, як „роўны з роўным" і „вольны з вольным", на вечны час у такім значаньні, што яны павінны былі мець супольны парлямэнт (сойм), які мае права даваць законы і выбіраць супольнага гаспадара: для палякоў караля, для нас — вялікага князя. Улада вялікага князя у нас выяўляецца незалежна: законы, войска, грошы, фінансы і міністэрствы кожнае гаспадарства мае асобныя, палякі—свае, мы—свае. Сьпецыяльныя для нашага гаспадарства законы разглядаліся толькі нашымі пасламі. Але ў другой ужо палавіне 17-га сталецьця гэтая мяжа пачала на практыцы сьціраца, пачалі зьяўляцца супольныя для абодвух гаспадарстваў установы. Усё болей а болей прыяжджаюць на Беларусь і палякі колёнізатары, главным чынам шляхта (зрэдку рамесьнікі). Тады нашае панства, замест бараніць родную справу, яшчэ болей задзівавалася на бліскучую польскую шляхту і яшчэ горш пачало цягнуць да Польшчы, дзе панству былі вялікія правы і выгоды. Шкодным для нацыянальнай справы беларусаў выйшла і протэстанцтва. Калі ў канцы 16-га сталецьця распачалі на Беларусі шырокую працу езуіты, тады протэстанты з быўшых праваслаўных магнатаў пачалі шыбка перахадзіць на каталіцтва. У канцы канцоў беларускія вышэйшыя станы, так шчыльна прыпаўшыя да палякоў культурна, палітычна і рэлігійна, няўпрыцям зусім перавярнуліся на палякоў. Каб

пацягнуць за сабою і свой прыгонны народ, паны і біскупы, большасьць каторых была таксама з паноў, прысталі ў 1596 годзе на Берасьцейскую царкоўную унію з рымскім касьцёлам. Магчыма, што сярод ідэйных уніятаў былі і такія людзі, каторыя відзелі ў уніі карысьць для нацыянальнай беларускай справы, відзелі ў ёй спосаб захаваць сваю самабытнасьць у заходнім лацінскім моры, ня шукаючы ратунку ў аднавернай, але злосніцкай Маскоўшчыне. Унія гэта істнавала 243 гады і зрабілася агульнай, нацыянальнай беларускай верай, але заведзена была яна, як патым і скасавана, з вялікім гвалтам, проці волі народа. У канцы залатой пары нашай літэратуры настаў, такім чынам, цяжкі час войстрага рэлігійнага і нацыянальнага змаганьня, на каторае марнаваліся ўсе лепшыя сілы беларускай творчасьці.

**Заняпад літэратурнай мовы.** На пачатку 17-га сталецьця наша афіцыяльная кніжная мова значна аддалілася ад народнай. Часта адступаў ад народнай мовы літэратурны сінтаксіс, а яшчэ далей адсунуўся літэратурны слоўнік, асабліва ў перакладаных творах. Беларускія палемісты і багасловы, ня толькі уніяты, але і праваслаўныя, каб найшырэй распаўсюдзіць свае творы, асабліва сярод станаў лаціна-польскіх ці закранутых польскім чарваточыньнем, часта пісалі цяпер свае творы папольску, а потым занасілі польскія словы і звароты мовы ў сваю літэратурную мову. Палажэньне ў школе беларускай мовы было добрае толькі ў школах уніяцкіх. У праваслаўных-жа брацкіх школах вучыліся ёй мала-дзе, а часам дык забаранялі вучням гаварыць на лекцыях „папросту“, а вымагалі славянскай размовы. Уніяты, наадварот, мелі яе ў школах за грунтоўную. Віленская уніяцкая конгрэгацыя 1636 г. на сваёй 15-й сэсіі загадала, каб манахі мелі казаньні пабеларуску,—вось жа трэ‘ было ім вучыцца гэтай мовы ў школах. Тымчасам наш палітычны і культурны заняпад цягнуў к таму, што з другое палавіны 17-га сталецьця наша мова пачынае траціць места ў навуцы, законах, судох, адміністрацыйных установах і інш. на карысьць лацінскай і польскай мовы. Гэта была для яе загуба, як для мовы літэратурна-нацыянальнай. Аднак, мець ролю літэратурнай і афіцыяльнай мовы ёй прышлося доўга, аж пакуль яе ня выціснула з судова-адміністрацыйнай практыкі польская мова, што было зацьверджана дэкрэтам 1697 года. У іншым ужытку наша старадаўная кніжная мова істнавала і далей, аж да канца 18-га веку. Аслабіла кніжную мову і яе украінізацыя, каторая адбылася таксама ў другой палавіне 17-га сталецьця, посьле таго, як культурны асяродак праваслаўных беларусаў і украінцаў перанёсься з беларускай

Вільні ў украінскі Кіеў. Да таго |часу беларуская кніжная мова, як афіцыяльная мова ўсяго літоўскага гаспадарства, панавала як у нас, так і на сучаснай украінскай тэрыторыі. Украінцы, з прычыны блізкасьці і роднасьці нашых моў, толькі чыталі напісанае гаспадарстванаю моваю на свой украінскі лад. Цяпер-жа, з пераносам асяродку і выступам на культурнай і літэратурнай ніве ўкраінскай стыхіі, кіеўская кніжная мова няўпрыцям рабілася усё болей асобнаю, дзеля чаго наша кніжная мова траціла сваё ранейшае значаньне і слабела.

**Лацінка.** „Кірылаўскае пісьмо, або азбука, ў пачатку нашай гісторыі было агульным для ўсіх свавян, як усходніх, так і заходніх. Да 14 веку кірыліцай пісалі палякі і чэхі. I толькі дзякуючы гусіцкай гэрэсі, каторая пашыралася праз кнігі, пісаныя кірыліцай, палякі і чэхі, пад уплывам рымска-каталіцкага духавенства, адмовіліся ад кірылаўскага пісьма і прынялі лацінку, дадаўшы да яе пару сваіх асобных літэр, для адзначэньня чыста-польскіх або чэшскіх гукаў“ (Я. Лёсік). З пашырэньнем каталіцтва на Беларусі, лацінка трапіла і ў беларускае пісьмо; у часе сходу і заняпаду нашай літэратуры яна ўжывалася дужа часта, а ў 19 сталецьці дык пераважала. Наша кірылаўская скорапісь была занесена С. Полацкім у Маскоўшчыну, а пазьней, па даручэньню Пётры Вялікага, была рэфармавана беларусам-каталікам Капіевічам у так званую „гражданку“.

Значыцца, і „лацінка“ і „гражданка“ маюць у беларускай літэратуры даўнае і поўнае права.

**Літэратура 17-га сталецьця** азначаецца схолястычнасьцю. I гэты кірунак разьвіўся ў нас таксама пад заходня-эўропэйскім уплывам, хоць і надта спозьненым. А прычынай яго разьвіцьця было змаганьне праваслаўя, уніі і каталіцтва міжсобку. Царкоўныя брацтвы, каторыя паадчыняліся ў розных гарадох, пачалі ваяваць спосабам езуітаў, г. зн. адукацыяй. Яны сталі завадзіць брацкія школы, беручы за прыклад школы езуіцкія і наагул польска-каталіцкія. Навука ў брацкіх школах была схолястычная, шчыльна зьвязаная з сярэднявяковасьцю. Яна прызнавала, што ўсё, патрэбнае для чалавека, ёсьць у сьвятых кнігах, дык навука павінна толькі навучыць, як зьясняць, давадзіць, абараняць напісанае ў іх. Схолястыка грунтавалася на аўторытэтах; апрача сьвятых кніг, аўторытэтамі лічыліся: Арыстоталь у філёзофіі, кодэкс Юстыньяна ў навуцы аб правох, Тамаш Аквінат у багаслоўскіх навуках, Цыцэрон у рыторыцы і г. д. Выкла-

даліся навукі найболей палатыні, але таксама паславянску і пагрэцку; беларуская-ж мова была толькі, як навука. Падручнікі укладаліся па тых аўторытэтах. Важнейшыя навукі ў школах былі такія: граматыка, рыторыка і піітыка, філёзофія, багаслоўская навука. Вучыцялі называліся дыдаскаламі, а вучні старэйшых дзьвюх клясаў—спудэямі. Па клясах вучні называліся: граматыкамі, рыторамі, філёзофамі і багасловамі. Схолястыка надавала асабліва важнае значаньне дыалектыцы, як мастацтву сьпірацца, дыспутаваць. Часта бывалі дыспуты ў школах і за школамі, дзе сьпіраньнікі дахадзілі дасканальства. Але важна было не разьвязаць пытаньне, а пабіць супраціўніка сваёю цямнасьцю ў сьвятых кнігах і розных аўторытэтах. Вучні брацкіх школ вучыліся пісаць казаньні, вершы і школьныя і духоўныя драмы. З брацкіх школ і выйшлі больш вядомыя дагэтуль беларускія пісьменьнікі новага схолястычнага кірунку. У літэратуры 17-га сталецьця яны стварылі першую пару, так званую **пару брацкіх школ**.

1. У першую пару, як час самага войстрага змаганьня, і дзякуючы езуітам, якія прынясьлі з сабою палеміку і прапаганду, вельмі разьвілася ў нас **літэратура палемічная**, пісаньне памфлетаў рэлігійных і палітычных. З разьвіцьцем палемічных твораў закрасавала і **казаньне**. Апрача таго, шмат хто пачаў займацца вершатворствам. З таго часу многа дайшло да нас літэратурных назоваў і пісьменьніцкіх іменьняў, але вялікая частка іх маець значаньне ня столькі ў гісторыі літэратуры, сколькі ў гісторыі цэркваў на Беларусі.

**Палемічная літэратура.** Аўторы - палемісты пісалі не для хараства слова і даволі часта не пабеларуску. Праўда, некаторыя іх творы вызначаюцца дужа чыстай і прыгожай беларускай мовай. Наша палемічная літэратура маець цяпер, глаўным чынам, філёлёгічную цану ды цікаўна, як матар'ял для гісторыі нацыянальна - рэлігійнага змаганьня. Палемічная літэратура дужа вялікая, аўтараў шмат.

**Мялеці Сматрыцкі**—тыповы прадстаўнік свайго часу, спачатку праваслаўны, потым уніят, вельмі вучоны беларускі дзеяч (родам украінец), выдатнейшы публіцыст-палеміста, філёлёг, аўтор патрыятычнага „Плачу“ і інш. Пісаў пабеларуску, папольску, палацінску, пацаркоўна-славянску.

Магутным змаганьнікам з уніятамі быў **Стэфан Зізані** (брат Лаўрэнція, а іх фамілія — Тустаноўскія). Ен казаў і пісаў вельмі войстра і не шкадаваў сваіх супраціўнікаў. Некалькі разоў мусіў уцякаць з Вільні за свае казаньні і палемічныя творы.

**Казаньне.** Казаньні, ці пропаведзі мелі схолястычны характар. Форма забівала думку. Яны ўсьцяж — хітры пляцень тропаў, фігур і розных другіх азнак прыгожага пісаньня. Гэтакая форма была тады, відаць, спанараўна для ўсіх; казнадзеяў (прапаведнікаў) развялось у літэратуры вельмі многа. Разьвіўшыся пад уплывам каталіцкіх казаньняў, нашы казаньні згубілі потым свой полемічны характар. На раніцы сталецьця казаньнямі ўславіўся Л. Карповіч, а ў пазьнейшы час іх пісаў Галятоўскі, Транквіліон, Радзівілоўскі, Барановіч і іншыя.

Лявон (Логін) Карповіч (1581 — 1620), сын сьвяшчэньніка, пахадзіў з пінскай шляхты. Змалку жыў ён у Вільні, дзе, пеўна, і вучыўся ў брацкай школе. Посьле ён быў сябрам брацтва, нёс абавязкі брацкага пісара, галоўнага друкара і карэктара. Як архімандрыт Духаўскага манастыра, быў і рэктарам брацкай школы. Слынуў за вялікага красамоўцу і надта адукаванага чалавека, шыбка гаварыў па грэцку і палатыні. Напісаў два выдатных казаньні, на Ушэсьце і на Малую Прачыстую, надрукованыя ў Еўі (1615 г.). Апрача таго, пісаў іншыя духоўныя творы, перакладаў пабеларуску з грэцкай мовы. З яго твораў відаць, што гэта быў вельмі разьвіты думаньнік, знаёмы з сусьветнай літэратурай і з рознымі спасабамі аратарства. Мова яго маець шмат слоў чужых, польскіх, лацінскіх, грэцкіх.

Кірыла Транквіліон-Стаўравецкі († 1646 г.), чарнігаўскі уніяцкі мітрапаліт, быў найболей таланавіты прадстаўнік літэратуры казаньняў. Слова яго простае, няхітрае, але дужое, магутнае. Ен не паганяў так за бліскучай формай, як другія казнадзеі. Напісаў: „Пэрл мнагацэнны", „Казаньні на нядзелі праз рок" і інш. Здабыў славу вучонага багаслова.

**Вершатворства.** У пісаньні вершаў нашы пісьменьнікі з быўшых брацкіх вучняў пераймаліся польскімі прыкладамі. Вершы выходзілі з-пад іх пяра сілябічныя, зусім нясклáдныя і ня гучныя. Па зьместу вершы дзяліліся на духоўную лірыку, каторая была простым перакладам псальмаў, малітваў, хваленьнем Бога і сьвятых, і на панегірыкі, або услаўленьне важных, карысных чым-небудзь для поэта ці для яго справы асоб, паноў, магнатаў, з прычыны розных сямейных урачыстасьцей у іх. Панегірыкі былі запазычаны нашымі піітамі ў езуітаў, каторыя здабывалі імі сабе ласку ў вяльмож. Вершатворнік усю стараннасьць пакладаў тады на форму, надворнасьць верша: пісаў так вершы, каб пачатковыя

ў радках літэры складалі якое-небудзь імя; пісаў вершы, каторыя можна было чытаць і з пачатку і з канца; надаваў вершам форму трывугольніка, круга, сякеры і г. д. Разумеецца, у гэткіх штучных вершах рэдка магло быць запраўднае натхненьне.

2. Пара украінізацыі, ці пара кіеўскай Магілянскай акадэміі—другі час нашай літэратуры 17 га сталецьця. Ен пачаў вызначацца з 1631 года, калі была акадэмія заложана. Войстрасьць нацыянальна-рэлігійнага змаганьня быццам троху ўжо зьменшалась, ды праваслаўныя беларусы і ўкраінцы відзелі цяпер вялікую вагу асьветы і шкоднасьць загранічнай адукацыі для нацыянальнай і рэлігійнай справы, дык завялі вышэйшую навуку ўдаму. З Магілянскай акадэміі выйшла многа культурных дзеячаў і працаўнікоў на літэратурнай ніве. У гэты час, апрача казаньняў, дужа разьвілася духоўная лірыка і зьявіўся яшчэ адзін, гаразд важнейшы літэратурны від — духоўная драма (містэрыя). Большасьць пісьменнікаў гэтага часу па мове трэба прызнаць за беларуска-ўкраінскіх.

**Казаньне.** Літэратура казаньняў асабліва пашырылась. Казаньні цяпер зрабіліся творамі пераважна літэратурнымі, яны мелі болей літэратурнага смаку, чымся рэлігійнага настрою. І цяпер казаньні аставаліся чыста схолястычнымі, але сучасьнікі відзелі ў іх ня толькі сьцюдзёную рытарычнасьць, а знаходзілі і запраўднае жывое чуцьцё. З казнадзеяў цяпер дужа быў славен Л. Барановіч, а таксама І. Галятоўскі і другія.

Іоанікі Галятоўскі († 1668 г.), рэктар кіеўскай акадэміі, быў слаўны і вучоны казнадзея, каторы напісаў і правілы, як складаць казаньні: „Навука, альбо спосаб зложэньня казаньня". Ен глядзеў на казаньне, як на лірычны для хвалы бога твор з усім хараством піітыкі і рыторыкі. Матар'ял для сваіх казаньняў браў Галятоўскі з гісторыі, астролёгіі, прыродазнаўства, жыцьця праваслаўных і каталіцкіх сьвятых і з розных зборнікаў таго часу, а ня толькі з сьвятога пісьма і царкоўных кніг, як Л. Барановіч. З яго твораў былі вядомы кнігі: „Ключ разуменьня" (1659), „Казаньні" (1666), „Неба новае" (1677) і інш. Мова Галятоўскага маець шмат украінскіх слоў, як: що, котрый і да т. п.

Антон Радзівілоўскі, вядомы казнадзея, творы каторага зьмешчаны ў дзьвюх кнігах: «Агродак Мары Багародзіцы» і „Вянец Хрыстоў", дапускаў у свае казаньні навет жарты.

**Лірыка.** К канцу сталецьця лірыка значна разьвілася, як з унутранага, так і з надворнага боку, і страціла свой вельмі духоўны характар. К канцу века панегірыкі патроху перайшлі ў оду, а ранейшая пакутная элегія, маляваўшая засмучэньне пабожнага пііты перад якімі-небудзь важнымі ці і няважнымі падзеямі, разьвілася ў чыста сьвецкі твор. Спачатку-ж глаўным відам духоўнай лірыкі, як і лірычнай поэзіі наагул, былі гімны, ухваляўшыя бога і сьвятых. Панаваў, быццам, у лірыцы і псэўдаклясыцызм, бо ў вершах стаялі іменьні антычнага сьвету, былі абразы „каралевы навук“ Мінервы, бога Аполёна і інш., адылі захапленьня ад гэтых абразоў у схолястычных поэтаў не зьяўлялася,—найвышэй стаяў для іх абраз Божай Маці. Лірычныя вершы 17-га сталецьця пайшлі ў народ. Іх пялі пабожныя людзі, іх пялі і бедныя шкаляры, хадзіўшы пад вокнамі гаспадароў і славіўшы Ражство Хрыстова і популярных сьвятых. Можна думаць, што аж з той пары жывуць у нашым народзе вядомыя псальмы, запісаныя этнографамі толькі ў 19 сталецьці („Стары Восіп барадаты“, „Хімка з Агаткаю, дзьве маладзіцы“ і інш.). Наша лірыка перайшла і ў Маскоўшчыну. З боку надворнага лірычныя вершы к канцу 17-га сталецьця азначаліся зусім не благой версіфікацыяй, былі правільна пабудаваныя і даволі гучныя; сілябічныя вершы мелі абмеркаваны, пеўны лік складоў у радкох, цэзуру і г. д.

Лазар Барановіч († 1694 г.), чарнігаўскі архіепіскап, здабыў вялікую славу ў сваіх сучасьнікаў ня толькі сваімі казаньнямі, але таксама і лірычнымі вершамі. Пісаў украінізаванай моваю, а ёсьць у яго і польскія вершы. Лірыка яго духоўная, але часам маець зачаткі сьвецкасьці; 1) гімны поэта ўслаўляюць Багародзіцу, апосталаў, сьвятых; 2) песьні яго кажуць славу сонцу й месяцу, ён пяець аб вясьне і аб пагодзе, а часам чапаець і гістарычныя падзеі, як войны з татарамі. Як поэт-лірык, Л. Барановіч выказаў сябе ў зборніку схолястычных вершаў «Лютня Аполёна».

**Драма.** Духоўныя драмы пачаліся ад сярэдніх вякоў у Заходнай Эўропе, калі духавенства паказывала там у царквох эвангельскія сцэны. З гэтых сцэн патроху разьвіліся цэлыя драмы, дастаўшыя назоў містэрый. Містэрыі, або тайнасьці, былі розныя: Страсьці, Ражство і інш. Адбываліся яны па розных гарадох цераз заведзены час, іншы раз цераз колькі гадоў; ролі даставаліся тым самым асобам, а часам пераходзілі навет з рода ў род, ад бацькі к сыну. Апрача містэрый, былі такія духоўныя драмы, у якіх дзеючымі асобамі былі абстракцыйныя разуменьні, дабрадзействы і злачынствы, маралітэ і міраклі; у гэных-жа драмах пака-

зываліся дзівы і жыцьцё сьвятых. З часам духоўная драма выйшла з царквы на цьвінтар, бо ў ёй пачалі паказываць дыявала, сатыру і жарты. З цьвінтара яна пераняслася на мястовую плошчу дзе, рабілі тэатр з трыма сцэнамі, адна

Біблейныя кнігі 17 сталецьця (з Петрагр. публ. бібліатэкі).

Адрывак чытаецца так: «І рекла ревека до йсаака: тоскно мне жыць для дочок хеттейскіх, еслі же пойме іяков жену з народу сеі землі жыті не хочу. Возвал теды йсак іякова, і бл(а)гословіл его, і розказал ему мовячы: не поймуй жоны з народу хананейского, Але йді, і удаися до мосопотамеі сірскоі, до дому вафуйлева отца маткі твоеі, - возьмі собе оттоле жону з дочок лавана вуя твоего. А бог всемогучы нехай тобе бл(а)г(осло)віть, і нехай тя розродіть і розмножыть» і г. д.

пад аднэй: рай, зямля і пекла. Той-жа час зьявілісь і пераносныя тэатры—скрынкі з марыянэткамі замест актораў. У часе Рэнесансу ў Нямеччыне разьвіліся школьныя драмы, якія пачаліся з таго, што вучні гулялі комэдыі Пляўта і Тарэнцыя, каб паўчыцца палатыні. Патым

зьявілісь п'есы, наўмысьля напісаныя для школьнай сцэны, з пролёгамі і эпілёгамі панямецку, а з часам між актамі п'ес сталі прадстаўляць невялічкія комічныя сцэнкі і н т э р м э д ы і, таксама панямецку. У часе рэформацыі ў школьную драму папала і сатыра (кпінкі з каталіцкіх духаўнікоў). Тады каталікі, наўпрэкі, пачалі пісаць школьныя п'есы духоўнага зьместу, дзе школьная драма лучылася з містэрыямі. З Заходнай Эўропы містэрыі, марыянэткі (бэтлейкі) і школьныя драмы перайшлі цераз Польшчу да нас.

Містэрыі не прадстаўляліcь на Беларусі ў царквох, а іх паказывалі вучні ў школах; спачатку гэта былі перакладаныя з польскай і нямецкай моў п'есы, а пазьней школьныя настаўнікі сталі пісаць і ўласныя духоўныя драмы. Сюжэтамі тут найчасьцей былі біблейныя здарэньні, якія і прадстаўляліся ў размовах дзеючых асоб. Асабліва былі вядомы містэрыі: „Восіп, сын ізраілеў“ і „Жаластная комэдыя аб Адаме і Еве.“ У другой з іх прадстаўляецца жыцьцё Адама і Евы ў раі, выгнаньне іх з рая і суд над імі. На гэты суд выходзяць да бога Адам, Ева, анелы, дыявал, Справядлівасьць, Ісьціна, Міласэрдзе; Ісьціна судзіць людзей, Міласэрдзе бароніць іх перад богам; сьпіраньне іх разьвязуець Ісус Хрыстос. Такім чынам, мы тут відзім мешаніну з абломкаў духоўнай сярэднявяковай драмы з драмаю школьнаю, каторая мела на сабе сьлед знаёмства з клясычным тэатрам. Драма „Аляксей, чалавек божы,“ найбольш сур'ёзная п'еса таго часу, яшчэ лепей выяўляе гэты зьмешаны характар. К містэрыям бэтлеечным, каторыя зьмяшчалі глаўным чынам ражственскую драму, пазьней пачалі дадаваць у нас комічныя сцэнкі, устаўленыя паміж актаў драмы. Гэтыя вясёлыя ўстаўкі, ці інтэрмэдыі, ад каторых пачыналася ўжо звычайная народная комэдыя, паказывалі жыцьце людзей „нізкіх“: сялян, салдатаў, цыганоў, жыдоў. Яны былі вельмі популярны і з школы пайшлі ў народ, дзе жывуць у розных варыянтах і да нашых дзён, дзякуючы лёгкасьці бэтлечнага прадстаўленьня і сваёй сугаднасьці з духоўнай патрэбай простага народа. У невялікай скрынцы ходзяць лялькі-марыянэткі—гэтак лёгка і проста можна паказаць сцэны божага нараджэньня, пакланеньня каралёў і пастухоў, а таксама і розныя бытавыя сцэны. Зьмест для інтэрмэдый аўторы іх бралі з сьмяхотных гісторый, фацэцій, жартаў. Мова іх прастанародная.

**Розныя сьвецкія творы.** Апрача перагледжаных відаў літэратурнай творчасьці, на працягу 16-га і асабліва 17-га сталецьця былі добра пашыраны і вядомы ў нас розныя сьвецкія творы, як 1) авантурныя романы, 2) дыдактычныя повесьці (сьвецкія і рэлігійныя) і 3) сьмяхотныя по-

весьці, фацэціі і жарты. Блізка ўся гэтая літэратура была перакладаная, і найчасьцей з польскай мовы, або перанятая, запазычаная з заходня-эўропэйскіх крыніц. Памятак сьвецкай творчасьці дайшло да нас ня шмат, але і ня помала: маем багацьце хоць і звычайнай літэратурнай вартасьці, але даволі рознае, цікаўнае з унутранага боку і дужа дарагое, як матар'ял для пазнаньня і гісторыі нашае мовы. Паміж іншым тут мы знойдзем: „Аб віцезех з кніг сэрбскіх, а злашча аб слаўным рыцары Трысчане, аб Анцалоне, і а Баве, і аб іншых многіх віцезех добрых“ — рукапісная повесьць канца 16-га сталецьця; „А дварэ турскага султана“ (1649 г.)—рукапісны пераклад апавяданьня польскага пісьменьніка Старавольскага, творы каторага надта ахвотна чыталі беларусы, аб чым сьведчаць колькі дайшоўшых да нас перакладаў з яго; „Повесьць аб Варлааме і Іасафе“ (1637 г.)—духоўны роман, дужа пашыраны тады на Беларусі; сюжэт гэтага романа запазычан ў Індыі, мова — прыгожая і даволі чыстая, крыху толькі мае сь польскіх слоў і зваротаў. Авантурныя романы дадалі новых элемэнтаў нашай народнай творчасьці, разьвілі авантурную казку. Дыдактычная повесьці, зьмешчаныя, главным чынам, у двух вядомых зборніках—„Рымскія дзеяньні“ і „Вялікая Люстра“, былі крыніцаю для мастацкіх ідэй нашым пісьменьнікам, сьвецкім і духоўным; з „Вялікай Люстры“ браў матар'ял для казаньняў, напрыклад, Галятоўскі. Фацэціі-ж і жарты малявалі рэальнае жыцьцё,—на Захадзе яны замянілі рыцарскі роман, як болей зручныя для буржуазнага смаку праз свой праставаты і стыднаваты гумар, а ў нас увайшлі ў казкі, дадаўшы ім рэалізму.

**Літэратура беларусаў, прасьвячаўшых Маскву.** У 1649 годзе баярын Ртішчаў адчыніў у Маскве школу, куды, з дазволу цара, пачаў запрашаць для выкладаньня навук слаўных заграгічных профэсароў, насамперш беларуска-украінскіх вучоных. У 1664 годзе прыехаў туды вельмі навучоны беларус — Сымон Полацкі.

Сымон Полацкі (1629—1680), або Сымон Амяльянавіч Пятроўскі-Сітняновіч быў родам з Полацку. Адукацыю дастаў у каталіцкіх школах і ў кіеўскай акадэміі. На 27-ым годзе пастрыгся ён у манахі ў полацкім Багаяўленскім брацкім манастыры. Быў настаўнікам у брацкім вучылішчы. Пасьля Галятоўскага і Барановіча ён найболей меў славы ў тую эпоху—як вучоны, пісьменьнік і казнадзея. У яго ёсьць багаслоўска-догматычныя творы, зборнікі казаньняў, зборнікі вершаў, вершаваныя драматычныя п'есы, містэрыі, ён-жа уклаў буквар і пераклаў сілябічным вершам цэлы псалтыр. Каб С. Полацкі жыў у часе нормальнага нацыянальна-беларуска-

га жыцьця, ён быў-бы адным з выдатнейшых і слаўнейшых сыноў свае бацькаўшчыны. Навет у маскоўскай літэратуры ён пакінуў гістарычны сьлед.



Сымон Полацкі.

Мова С. Полацкага, як і другіх беларуска - украінскіх пісьменьнікаў, прасьвячаўшых у 17 сталецьці Маскоўшчыну, гэта—мешаніна маскоўскай царкоўна-славяншчыны з беларускай украінізаванай моваю, калі на той быў вялікі польскі ўплыў. З ростам вышэйшай духоўнай адукацыі на Беларусі і Украіне, пачаў узрастаць і царкоўна-славянскі элемент у літэратуры, каторы зьбліжаў нашую кніжную мову з мовою пісьменных маскоўцаў. Гэта, між іншым, таксама аслабіла ў пазьнейшы час значаньне нашае мовы. Маскоўшчына спачатку ўзяла ад нас, цераз нашых вучоных, многія словы і звароты мовы, навет граматыку і ўсе плады навукі філёлёгіі, але пазьней, усё павярнуўшы на свой чыста-велікарускі лад і зрабіўшыся пераможным асяродкам, тым лягчэй накінула мізэрным астаткам нашай інтэлігенцыі сваю новую літэратурную мову, створаную ў 18-ым сталецьці.

## Заняпад.

(18-е сталецьце).

К пачатку 18-га сталецьця ў нашай мове істнавалі дзьве дужа нязгодныя стыхіі: кніжная і вусная. Народная

гутарка ўвесь час аставалася збоку ад літэратурнага руху і ў кнігу трапляла рэдка; аднак, яна разьвівалася ў вустах народа. Цяпер, дзеля свае няблізкасьці да мовы кніжнай, яна не магла даць ёй помачы ў заняпадзе; дзеля таго-ж беларуская масквафільская інтэлігенцыя 18-га сталецьця, каторая не хацела пісаць папольску, пачала цягнуць да кніжнай мовы Маскоўшчыны. Гістарычныя падзеі, вельмі некарысныя для палітычнай справы Беларусі, паддавалі ахвоты гэтай прыціснутай інтэлігенцыі ў яе кірунку на Маскву. Як калісь паны-магнаты, замест бараніць родную справу, прыпалі да Польшчы за яе панскасьць, так цяпер праваслаўныя духаўнікі-магнаты, замест шукаць ратунку ў сваім народзе, прыпадалі да Маскоўшчыны за яе аднавернасьць з імі. Рэзкі падзел на „палякоў“ і „маскалёў“ прыймаў усё выразьнейшыя формы і ў кніжнай мове. Загнанае ў мужыцкую хату беларускае слова магло падымацца ў 18 сталецьці трошачку вышэй толькі ў уніяцтве. Амаль ня ўсё беларускае ніжэйшае, вясковае духавенства к канцу века было уніяцкае, ня было такога сяла, дзе ня было-б уніяцкай царквы (як аб гэтым пісаў з беларускай падарожы маскоўскі вучоны В. Севергін ў 1803—1804 г.г.). Уніяцкія-ж духаўнікі хоць і дужа падпалі пад уплыў польскай мовы, цьвёрда дзяржаліся мовы свае паствы, казаньні казалі і навуку ў школах выкладалі пабеларуску. Ад царкоўна-славяншчыны уніяты аддаліліся так, што ўжо к часу сабора ў Замосьці (1720 г.) з нова-высьвячаных духаўнікоў хіба толькі соты разумеў паславянску, і Л. Кішка выдаў патрэбны слоўнік (1722 г.).

Лявон-Лукаш Кішка (1668—1728), уніяцкі мітрапаліт, пахадзіў з даўнай і слаўнай беларускай фаміліі, вучыўся ў Рыме, дзе дастаў дыплём доктара багаслоўскіх навук. Быў профэсарам валадзімірска-валынскай уніяцкай колегіі, потым вікарыем і супэрыорам Сьвята-Траецкага кляштара ў Вільні. Ён напісаў: „А сакрамэнтах“ (Полацак, 1697); „Сабраньне прыпадкаў, духоўным асобам патрэбнае“... (Супрасьль, 1722); і інш.

У другой палавіне 18-га сталецьця пачынае карыстаць беларускай мовай болей-меней прыкметна і каталіцкае духавенства, каб пісаным і вусным, зразумелым для народа словам пашыраць сваю веру. Гаварыла пабеларуску і шляхта, а злашча ў аколіцах, подалека адсунутых ад абпалячаных культурных цэнтраў, як аб тым сьведчыць і Я. Чачот. Ён пісаў, што яшчэ за яго памяцьцю, ці-то на пачатку 19-га сталецьця, старэнькія паны любілі гаманіць пабеларуску, або „пакрывіцку“, як тады казалі. Але мова наша к гэтаму часу усе болей станавілася ў вачох пераможных чужынцоў і сваіх рэнегатаў нечым простым, мужыцкім і сьмешным, асабліва

зручным для панскіх жартаў. Гэты пагляд спускаўся з часам ніжэй, у дробна-шляхоцкія, чыноўніцкія і духавенскія масы. Магчыма, што ён, неўспадзеўкі, паддзержываў і разьвіваў хадзячую, вусную і рукапісную, літэратуру тагачасных фацэцій, жартаў і макаранічных, польска-беларускіх вершаў. Літэратура гэтая пайшла пазьней матар‘ялам для белетрыстыкі польскіх і нашых пісьменьнікаў. Прыкладам ці водгукам яе могуць быць такія рэчы, як „Дзядзіна“, „Сьведка“ і інш. Ф. Багушэвіча або „Лямэнт раскаханага“ — макаранічны верш, запісаны А. Рыпінскім у „Беларусі“ і В. Дуніным-Марцінкевічам у „Пінскай шляхце“.



Л. Кішка.

Народ-жа ў гэтую пару, цярпеўшы лютую паншчыну, жыў сваёю, няўмірушчаю і вечна-сьвежаю народнай творчасьцю ды крыху тою кніжнасьцю ад 17-га сталецьця, як гімны, псальмы, авантурныя казкі і фацэціі. Разумеецца, што кніжная творчасьць, калі ўся яна перакідалася на польскае, ці маскоўскае поле, калі яна рабілася рэнегацкаю, разьвівацца не магла, а ўсе болей зьніжалася і мізарнела. Быў чорны, ганебны занапад беларускай пісанай думкі. Прыгожай літэратуры ня было, і аб кніжнай мове таго часу мы можам меркаваць толькі па такіх рэчах, як, да прыкладу, „Катэхізм капланскі“ ці „Парахвіяльныя навукі“.



# II. НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТЭРАТУРА.

## Несьвядомае адраджэньне.

(„Энеіда“—П. Бахрым—„Тарас на Парнасе“).

**Дзяленьне новае беларускае літэратуры.** З пагляду гістарычнай паступовасьці і з увагі на зручнасьць выкладаньня, новую беларускую літэратуру (19-е сталецьце да 80-х гадоў) можна дзяліць на болей-меней гэткія часткі і ў гэткім парадку: несьвядомае адраджэньне (10 — 20 — 30 гады); стара-шляхоцкія романтыкі (уся першая палавіна веку); беларуска-маскоўскія пісьменьнікі (ад 50-х гадоў); рэволюцыйная і проціў-рэволюцыйная літэратура (60-я гады); нова-шляхоцкія пісьменьнікі (50—60—70 гады); рукапіснае народнае пісьменства; бібліяграфія.

**Пачатак маскоўскага панаваньня.** Рэлігійнае і нацыянальнае змаганьне на Беларусі скончылася тым, што ў яго ўчапілася маскоўская царыца Кацярына Другая і падзяліла Польшчу, пачаўшы з адбіраньня беларускіх зем-ляў. Па ўмовах 1772—1773 гадоў да Расеі адыйшло Полацкае ваяводзтва (апрача часткі яго на правым беразе Дзьвіны), Віцебскае (без Аршанскага павету), Мсьціслаўскае і часьці Менскага. Падзел 1793 г. даў Расеі Менскае ваяводзтва і значныя часьці Віленскага, Наваградзкага і Берасьцейскага. Падзел 1795 г. аддаў Расеі рэшту ваяводзтваў Наваградзкага і Берасьцейскага. Калі-ж паводле трактату ў Тыльзіце (1807 г.) пад расейскае панаваньне перайшла і Беласточчына, — уся Беларусь была ў складзе Расейскай імпэрыі. Тады пачалося яшчэ горшае абпалячываньне беларусаў. Палітыка маскоўскага ўраду была такая, што людзі, якія дагэтуль былі яшчэ прапітаны беларускім нацыянальным духам, аж яны кінуліся ў пальшчызну. У 1839 годзе было зроблена гвалтоўнае далучэньне уніятаў да праваслаўя. Нямала людзей перайшло на каталіцтва. Зьдзееўся больны рэлігійны падзел беларусаў, каторы нёс з сабою для ўсяго народа страшны падзел нацыянальны. Але на варце беларускай адзінасьці стаяла жывая народная мова.

## Пачатак несьвядомага адраджэньня.

Адраджэньне беларускае літэратуры, з каторага пазьней разьвілося адраджэньне нацыянальнае і палітычнае, пачалося на рубяжы 18-га і 19 га сталецьцяў, разам на ўсходзе і на захадзе Беларусі, там і там падняўшысь з жывой народнай мовы. Романтызм усім народам прынёс, між і шым, любоў да старыны і да народнае поэзіі. Да нас ён заблудзіў дзьвюма дарогамі: усходнія беларусы романтычна захапіліся прыкладам украінскае „Энеіды“ І. Катлярэўскага; да заходніх ён дакаціўся простаю дарогаю на грэбнях француcкай рэволюцыі і напалеонаўскіх войнаў. На ўсходзе ў нас адраджэньне пачалося з беларускай „Энеіды“, а на захадзе з твораў старашляхоцкага романтыка Я. Баршчэўскага. Уся наша новая літэратура выглядаець мала-сьвядомым адраджэньнем.

## Беларуская „Энеіда“.

Беларуская „Энеіда“ напісана самастойна, але ў духоўным зьвязку з украінскай „Энеідай“ Івана Катлярэўскага, каторая выйшла з друку ў 1798 годзе ў Пецярбурзе. Калі напісана беларуская „Энеіда“, невядома; польскі крытык Падбярэскі і маскоўскі Кавелін пісалі, што яна зьявілася ў 90-х гадох 18-га сталецьця; аднак, уважаючы на тое, што ў ёй сказана так:

Дамоўкі стала выбірацца,
Як ад Кутуза Бапапарт, —

можна думаць, што ці частка „Энеіды“ з гэтымі радкамі, ці ўся яна напісана толькі пасьля 1812 года. Аўторам яе даўгі час лічылі Т. Манькоўскага.

Тамаш Манькоўскі быў чыноўнікам у Магілеве, потым віцэ-губэрнатарам у Віцебску. Пахадзіў ён з дробнай магілеўскай шляхты і быў тыповым прадстаўніком яе гумарыстычнага духа.

Сучасныя гісторыкі літэратуры даходзяць, што аўторам беларускай „Энеіды“ быў не Манькоўскі, а яго сучасьнік В. Ровінскі.

Вікенці Ровінскі (1782—1842) — палкоўнік, родам са Смаленшчыны, жыў найболей у Дуброўне Духаўшчынскага павету. Апрача „Энеіды“, напісаў яшчэ колькі чаго.

Пры жыцьці Ровінскага беларуская „Энеіда“ ў друк не папала. Яна пайшла ў народ і пашыралася ў сьпісках і пераказах. Няпоўныя сьпіскі (лацінкаю і гражданкаю), дайшоўшыя да нас, часам дужа ня сходзяцца ды й сьпісаны яны многа пазьней за напісаньня твору. У друк „Энеіда“ трапляла часткамі цераз 40—60—80 гадоў пасьля напісаньня. Увесь

час была надта популярна сярод шляхты, каторая ўмела „Энеіду“ найчасьцей усю напамяць. Апісуюцца у ёй, як і ў той няўмірушчай поэме рымскага поэта Віргілія, прыгоды Энея, каторы басьцяўся па сьвеце з сваімі траянцамі. Але, як ў украінскай „Энеідзе“ траянцы паўбіраны паказацку, так у нашай „Энеідзе“ яны — смаленскія сяляне. Ровінскі скарыстаў з клясычнага сюжэта, каб апісаць з фотографічнай пеўнасьцю побыт, паказаць найжывейшую і найпрасьцейшую гаворку і забаўнасьцю натварыць сьмеху. Ад сюжэта Віргілія тут засталіся імёны ды толькі, так сказаць, галоўныя дарогі. А ўсё іншае там, як драбніцы фабулы, вопратка, яда, гульня, размовы, звычаі, пагляды, некаторыя смаленскія назовы, а таксама ўвесь жартаўліва-сьмяхотны настрой — усё гэта нязвычайна жывая беларушчына. Напісана „Энеіда“ Ровінскага народнаю смаленскаю гаворкаю. Пашыраная ў Магілеўшчыне і Віцебшчыне Манькоўскім яна набралася іхных слоў. Шмат у ёй слоў, якія цяпер вызвычаіліся. Есьць дужа пракудныя провінцыялізмы. Беларускім словам, як і беларускім вершам, аўтор „Энеіды“ валадаець дасканальна. Мова характэрная, абразная. Верш лёгкі, танічны, з гладкімі рыфмамі. Такім беларускім вершам ніхто раней пісаць ня ўмеў. А такой бойкасьцю верша не магла дужа хваліцца і тагачасная маскоўская поэзія, бо яшчэ ня мела Пушкіна. Напісана „Энеіда“ чатырохстопным ямбам.

**Значаньне беларускай „Энеіды“.** Ідэя аўтора была такая: напісаць пабеларуску. Напісаў ён надта добра, але несьвядома, — не ад розуму, але ад сэрца. Твор яго выйшаў літэратурна-этнографічнай поэмай-пародыяй, але значаньне меў гістарычна-літэратурнае. З „Энеіды“ пачалося адраджэньне беларускае літэратуры. „Энеіда“ паказала сваім і чужым, што ў беларускай народнай мове можна тварыць надта добра. Зьявіўшыся на ўсходзе Беларусі і ў такую пару, калі здавалася, што ўсё беларускае павінна там памерці, „Энеіда“ пайшла ў народ і пабуджала ў ім думку аб сваёй літэратуры. Сваім сьмелым абхаджэньнем з багамі антычнага сьвета, падобныя творы, апрача таго, нішчылі астаткі псэўдаклясычных паглядаў там, дзе яны былі.

## Паўлюк Бахрым.

(1814—?).

**Біаграфічны матар'ял.** Паўлюк Бахрым—селянін з Крошына, Слуцкага павету, Менскай губэрні. У 1828

годзе ён вучыўся разам з другімі мужыцкімі дзяцьмі ў школе ксяндза Магнушэўскага. Гэты ксёндз быў шчыры прыхільнік працоўнага народу, хацеў падняць людзей з голаду і цямноты і памагаў крошынцам проціў пана судзіцца за зямлю. Дзяцей ён вучыў чытаць, пісаць, лічыць, разумець катэхізм, апрача таго, даваў чытаць добрыя кніжкі. Хлопчык Бахрым надта спадабаў пісаць вершы, пераймаючы напісаныя ў кнізе. Многа вершаў з польскага пісьменьніка Нарушэвіча, баек Эзопа ды чаго іншага ўмеў ён напамяць; таксама любіў сьпісываць усё, што пападалася пад рукі, ня толькі друкаванае, але і рукапіснае. Так разьвівалася яго сьвядомасьць. Посьле, калі крошынскіх сялян засудзілі за „бунт“, а школу зачынілі, у вучня Бахрыма начальства знайшло вершыкі, каторыя здаліся яму вельмі шкоднымі і небясьпечнымі. Паліцыя забрала іх і шукала, ці няма яшчэ. Ксёндз Магнушэўскі на выпытах дужа хваліў Бахрыма, а ня ведаўшы, на што ў яго пытаюцца, казаў, што хлопчык умее напамяць значна болей сваіх вершыкаў, чымся ў яго адабралі запісаных. Князь Радзівіл даказаў, што вучні ў школе дэклямавалі нягожыя для сялянскіх дзяцей байкі і розныя вершы. Тады Магнушэўскага аддалі пад нагляд паліцыі, Паўлюка Бахрыма неўзабаве здалі ў маскалі, а многа сялян выслалі ў Сыбір. Добры ксёндз пажыў пасьля таго мала і памёр з гора, а якое было потым жыцьцё Паўлюка Бахрыма, ніхто вестак дагэтуль не сабраў. Кажуць, што ён з войска вярнуўся, жыў у Крошыне і памёр ў 1891 годзе.

**Творы Паўлюка Бахрыма** не захаваліся, апрача тых некалькіх, што пайшлі ў народ. Адзін сшытак яго „войстрых“ вершыкаў узяў сабе сэнатар Нівасільцаў ці прафэсар Пэлікан, каторыя прыязджалі ў Крошын давядацца аб тым „бунце“ і вельмі дзівіліся на поэта-самародка, дэклямуючы навет паклапаціцца аб яго ўзгадаваньні. Есьць толькі адзін друкаваны вершык Бахрыма, гэта—„Заграй, заграй...“ Апрача таго, кажуць, ён зложыў „Гутарку Данілы з Сьцяпанам“ і „Размову пана з мужыком“, каторыя запісаны ад народа этнографамі.

„З а г р а й, з а г р а й, х л о п ч а м а л ы“... — лірычная песьня аб цяжкім жыцьці ў часе паншчыны. Бацьку песьняровага забілі кіямі, маці яго тужыць, сястра плача, а самаго яго сярдзіты крошынскі пан здаець у маскалі. Песьня пераймае народную творчасьць, але сьведчыць аб некаторым знаёмстве аўтора з кніжкаю. Напісана яна з запраўдным поэтычным натхненьнем і шчырым чуцьцём, ахоплена-ж

далікатнасьцю засмучонага настрою. Спосаб думаньня—абразны, параўнаваньні і звароты мовы—народныя; вось прыклад:

Гдзе-ж я, бедны, абярнуся?
Ой, кажане, кажане,
Што ня сеу ты на мяне,
Каб я больш не надрес
Ды ад бацькавых калес?..

Вершы сілябічныя, то па 8, то па 7 складоў у радку. Рыфмы дабраны добра, але націск на перадастатнім складзе нявыдзержан, і з жаноцкімі ёсьць рыфмы мужчынскія. Незнаёмасьць з правіламі і добрымі прыкладамі танічнага вершаскладаньня шкодзіла Бахрыму, ды ня гледзячы на гэта, верш яго зусім музыкальны і падходзіць да танічнага. Прыродная пясьнярская здольнасьць Бахрыма відаць, напрыклад, з першага куплета песьні, дзе скачучая лёгкасьць першых двух радкоў падходзіць пад іграньне на скрыпцы і цымбалах, а важкаватае дудуканьне двух другіх нагадуець дуду:

Заграй, заграй, хлопча малы,
І у скрыпачкі, і у цымбалы,
А я заграю у дуду,
Бо у Крошыне жыць ня буду!

Гутарка Данілы з Сьцяпанам па складу верша не падобна да разгледжанай песьні, але ўвесь яе тон і думкі лёгка нагадуюць бахрымаўскую творчасьць. „Гутарка“ была дужа пашырана, як рукапісны твор невядомага аўторства. Магчыма, што Бахрым схаваў імя і не падпісаўся навет псэўданімам, баяўшыся паноў. Твор напісан перад вольніцай. Даніла з Сьцяпанам талкуюць аб тым, што паны ня хочуць, каб цар даваў вольніцу. Чуецца, што аўтор „Гуткі“ сам мужык; ён глыбока адчуваець мужыцкую няволю, ненавідзіць паноў і вельмі жадаець скасаваньня прыгону. Але сьветагляд яго не расшыраны кніжнай адукацыяй, думкі прастадушныя, патрэбнай для дзейнага адраджэньня нацыянальнай і соцыяльнай сьвядомасьці няма.

Размова пана з мужыком. Затое, што паны зьдзекаваліся над мужыкамі, не давалі ім навет плакаць і без канца каралі, вінен ці ня вінен,—на іх голаў падзе тое самае, хай толькі прыдзе вольніца. „Размова“ якраз і малюець гэтую расплату. Пан вітаецца з Сьцяпанам і просіць, каб яго Дарота прыйшла да пана на работу, дэкляруець заплаціць і накарміць. Сьцяпан адказуець пану гэтак:

Ужо панскі хлеб дакучыў,
Як пан нас добра мучыў.
Добра паны гандлявалі:
Слуг на сабакі мянялі!..

**Значаньне твораў П. Бахрыма.** З тэхнічнага боку „Гутарка“ і „Размова“ стаяць нізка. Відаць, пясьняр мала клапаціўся аб надворным харастве сваіх твораў, а ўсё стараньне пакладаў на пералічаньне і паказаньне соцыяльных злыдняў. Яно й ня дзіва, бо гэткая была пара, што такім якраз спосабам найлягчэй было прамовіць да мужыцкае душы. І творы Бахрыма пайшлі ў гушчу народа, дзе ня толькі пабуджалі беларускасьць, але надавалі ёй выразнага соцыяльнага выгляду. У гэтым галоўная літэратурнагістарычная заслуга Бахрыма. Ен—наш першы пісьменьнік з мужыкоў. Меў усе задаткі, каб зрабіцца беларускім Шаўчэнкам, адылі адсутнасьць адукацыі і жыцьцёвае гнібеньне тут перамаглі. Усёжткі сваім маласьвядомым і задушаным словам сказаў проці зьнявагі і ўціску і кінуў сьлед у гісторыі нацыянальнага і літэратурнага адраджэньня.

## Поэма „Тарас на Парнасе“

(1837 г.).

Час напісаньня поэмы „Тарас на Парнасе“ пазнаюць гэтак. Есьць у ёй радкі:

Памалу, браццы, не давіце
Мой фэльетон вы і «Пчалу»,
Мяне-ж самога вы пусьціце
І не дзяржыце за палу.
А не, дык, дадушы, у газэце
Я вас аблаю па увесь сьвет
Як Гогаля у прошлым леце,—
Я-ж сам рэдактарам газэт!

Гогаля „лаяў“ Булгарын у „Сѣверной Пчелѣ“ ў 1836 годзе; значыцца, поэма напісана ў 1837 годзе, а можа троху пазьней. Адны думалі, што напісаў яе слаўны беларускі поэта Вінцук Дунін-Марцінкевіч (1807—1885). Але таму ня ймецца веры дзеля гэтакіх прычын: 1) твор напісан танічным вершам, а не сілябічным, якім пісаў зазвычай Марцінкевіч; 2) ён маець асаблівасьці мовы, не прызвычаеныя Марцінкевічу; 3) у ім няма марцінкевіцкага сантыменталізму й дыдактычнасьці; 4) у ім закрануты парадкі маскоўскіх літэратараў, што не магло так дужа цікавіць Марцінкевіча; 5) ён быў пашыраны болей на ўсходзе Беларусі. Не падобна поэма й да колектыўнага твору (студэнтаў Гарэцкага агрономічнага інстытуту), як гэта меркавалі другія. Трэба думаць, што „Тараса на Парнасе“ напісаў нехта адзін, а напеўна ўсходні беларус, блізкі па свайму духу й стану да аўтора беларускай „Энеіды“, палкоўніка

В. Ровінскага, ці яе стараннага пашыраньніка Т. Манькоўскага. Зусім магчыма, што напісаў яго сам аўтор беларускай „Энеіды"—В. Ровінскі. Прызнаваць, што напісаў гэтую поэму В. Марцінкевіч, можна толькі з той умовай, што на яго мела вялікі ўплыў „Энеіда" і пецярбургскія беларусы і украінцы, блізкія да маскоўскіх літэратурных грамадак. А калі-б і так, усё роўна, тая найлепшая рэдакцыя, у якой хадзіў твор па Віцебшчыне й Магілеўшчыне, была ўжо ня блізкая да спасабоў творчасьці Марцінкевіча. Значыцца, „Тараса на Парнасе", можа быць, напісанага спачатку Марцінкевічам, нехта з невядомых беларускіх поэтаў значна перарабіў на ўсходзе Беларусі. Забаўна тое, што ёсьць старыя сьпіскі, на якіх пад поэмай „Тарас на Парнасе" стаіць імя Адама Міцкевіча!

„Тарас на Парнасе" яшчэ больш за „Энеіды" пашыраўся ў народзе рукапісным і перdesignated способам. Надта любіла дэклямаваць яго дробная беларуская шляхта, а пазьней—беларуская мужыцкая інтэлігенцыя. У самыя астатнія гады хадзіў гэты твор па Беларусі ў сьпісках сярод школьнай моладзі цэлымі тысячамі. Першы раз яго надрукавалі ў 1889 годзе („Минскій Листокъ", № 37). З тае пары друкаваўся ён дзесяткі два разоў у розных кніжках, газэтах, журналах і асобнымі выданьнямі.

Аўтор гэтай поэмы, хто-б ён ня быў, пісаў свой твор, бязумоўна, пад „Энеіду"; можа быць, вучыўся ён пісаць па „Энеідзе". Уся абстаноўка поэмы „Тарас на Парнасе", яе мова і будова верша паказуюць на цесны і радаводны зьвязак абодвух твораў, пазьнейшага з ранейшым. Розьніца толькі тая, што ў пазьнейшым ёсьць свой, не пазычаны, хоць просьценькі, але орыгінальны сюжэт. І тут таксама іменьні і назовы з грэцкай і рымскай міфолёгіі, але і толькі; пад відам багоў са сьмехам змаляваў аўтор поэмы заможных беларускіх сялян, іх жыцьцё і быт. І гэтая поэма скрозь прахоплена беларускім народным духам, каторы ёсьць тут у кожным руху й слове апісаных асоб.

Мова поэмы—дужа чыстая народная. Пераважаюць асаблівасьці ўсходніх гаворак, а найболей у словах (рахманы, раньне, пякець, прыгожа, адкулецька, круглалікі, хадзяйства, дзеўкі, быццам,—у Марцінкевіча часьцей м э р а м, — дзела, плясуха і інш.). Есьць некалькі вялікарусізмаў (вор, сашчытаць, паташчыць і інш). Есьць пара слоў і зваротаў, занесеных з Маскоўшчыны старавермі і цяпер пашыраных у Дрысенскім, Полацкім, Лепельскім паветах, як да прыкладу: зубам (замест: зубамі), на жалейкі (замест: на жалейцы). Сінтаксіс, наадварот, мае ць такі ўхіл на захад: „Хадзіўшы па

гары Парнаскай, мне дужа захацелась есьць." Некаторыя вульгарызмы, як і барбарызмы, сьведчуць, што пісьменьнікі несьвядомага адраджэньня сядзелі ў межах народнай гутаркі і этнографічнасьці, а ня мелі патрэбнай для літэратурнага разьвіцьця шыракосьці ў паглядзе на беларускае слова. Ды аб гэтым сьведчыць уся іх творчасьць. А наагул мова поэмы жывая і абразная. Верш лёгкі, танічны і адшліфаваны так, што чытаецца, як сучасныя нам вершы.

Можна сказаць, што аўтор „Тараса на Парнасе" не глядзеў на свой твор, як на поэму, але ён таксама не ўважаў яе і за пародыю на псэўда-клясычныя поэмы, пісаў яе ня дзеля таго, каб пасьмяяцца і пакпіць з псэўда-клясыцызму. Яго ідэя: напісаць пабеларуску, завесьці беларуса-палясоўшчыка з яго мужыцкай моваю на Парнас. Аднак, пайшоў ён безвач гатовым сьледам „Энеіды", чым абнізіў і свае пясьнярскія здольнасьці і значаньне свайго твора ў гістарычнай літэратуры. Толькі „Тарас на Парнасе" быў гэткі популярны, што пабуджаў беларускасьць болей, як „Энеіда."

## Стара - шляхоцкія романтыкі.

(Я. Баршчэўскі — А. Рыпінскі — Я. Чачот).

## Ян Баршчэўскі.

(1790 — 1851).

**Яго жыцьцё.** Ян Баршчэўскі радзіўся ў Віцебшчыне, у Марогах блізка возера Няшчорда. Бацька яго быў бедны засьцянковы шляхціц. Шляхта, сярод каторай узгадаваўся Ян Баршчэўскі, мела ўвесь парадак і спосаб жыцьця чыста-беларускі і зусім блізкі да сялянскага. Вучыўся ён у езуіцкай колегіі ў Полацку і ўжо там здабыў сабе славу пісаньнем вершаў. Канікулярны час ён заўсёды бавіў у засьценку, дзе яго вельмі ўсе любілі за прыемны, вясёлы характар і за вершыкі, каторыя складаў хлапец пры кожнай пертшай-лепшай прыгодзе. Беднага поэта ахвотна ўсюды запрашалі, а за яго творчасьць клалі яму на калёсы, як выязджаў, мерачку гароху, жыта ці чаго такога. Ніводнае вясельле, імяніны ці шляхоцкі баль не абходзіўся без Баршчэўскага. Скончыўшы езуіцкую колегію, Баршчэўскі маніўся вучыцца ў віленскім унівэрсітэце, ды ня меў на тое грошы, дык пачаў працаваць, як хатні настаўнік у заможных паноў. Сабраўшы троху грошы, паехаў ён у Пецярбург, дзе служыў гувэрнёрам, вучыцелем, выкладаў грэцкую мову і латынь. У Пецярбурзе ён пазнаёміўся з Міцкевічам і Шаўчэнкам, ды гэтыя знаёмасьці, відаць, цягнулі ў розныя бакі, дык карысьці

з іх для разьвіцьця свае творчасьці Баршчэўскі ня меў. На лета ён пакідаў сталіцу і пехатою ішоў дамоў, на Беларусь. З ім, у шапцы, былі яго сшыткі. Тут найбольш гасьцяваў ён у свайго дзядзькі Завальні, тыповага шляхціца-беларуса. Заўсёды зьбіраў ён ля сябе кунпанію ахвотнікаў паслухаць і пераказаць цікаўную гісторыйку ці жарцік, у якіх адбіваліся, як у люстры, тутэйшыя людцы, іхныя пагляды і звычаі і розныя забабоны і прыхамаці. Пазьней Баршчэўскі жыў на Валыні, дзе і памёр.

**Творы Я. Баршчэўскага.** Пісаў Баршчэўскі, як і ўсе нашы шляхоцкія, ці польска-беларускія пісьменьнікі, папольску і пабеларуску. Сваю друкаваную літэратурную дзеяльнасьць пачаў выданьнем пэрыадычнага зборніка „Niezabudka“, каторы выхадзіў ад 1840 г. да 1844 г. Выйшла чатыры томы. Баршчэўскі спачатку пісаў вершаваныя баляды з народнага жыцьця і старадаўных пераказаў, а патым напісаў шмат апавяданьняў. У 1844—46 гг. у Пецярбурзе выйшаў збор твораў Я. Баршчэўскага ў 4-х томах з прадмовай, у каторай зрабіў агляд беларускай літэратуры крытык Р. Падбярэскі. Збор твораў меў агульны назоў: „Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach“ (Шляхціц Завальня, ці Беларусь у фантастычных апавяданьнях). Уся гэтая літэратура напісана папольску, толькі з вялікімі беларускімі ўстаўкамі. Творы-ж яго, пісаныя пабеларуску, ня былі друкованы, дык у большасьці пагінулі.



Ян Баршчэўскі.

З друкаваных яго беларускіх рэчаў, раскіданых па розных выданьнях, да нас дайшлі тры вершы: „Ды чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята?“ (1809 г.), „Гарэліца“ і „Рабункі мужыкоў“ (1812 г.). Апрача таго, творы Баршчэўскага друкаваліся памаскоўску; ў 1846 годзе ў „Иллюстраціи“ выдрукаваны яго „Очерки сѣверной Бѣлоруссіи“.

Фантастычныя апавяданьні. У гэтых творах найлепей адбіўся романтызм Я. Баршчэўскага, яго любоў да старыны, народнай поэзіі, беларускіх забабонаў, усякай чартоўшчыны і містычнасьці. Напісаны яны так: аўтор жывець у свайго дзядзькі шляхціца Завальні, дзе стыкаецца з рознымі людзьмі, шляхтай і сялянамі, і малюець іх у сваіх творах. Цэлы гуж усялякіх апісаных тут гісторый паказуець беларускае жыцьцё, беларускі дух, беларускую душу. Есьць прыклады народнай гутаркі і песьні. Захован орыгінальны беларускі гумар. Асабліва-ж задалося пісьменьніку перанясьца містычным настроем забабоннага беларуса, каторы тады меў вялікую веру ў сілу чараўнікоў, у нячысьцікаў і поэтычна відзеў у жывой і няжывой прыродзе рознае страхацьцё. Гэта была першая і даволі задачная, толькі на жаль у чужой ці пакалечанай мове зробленая спроба апрацаваньня нашай народнай творчасьці, вельмі самабытнай, з каторай толькі і можаць лёгка разьвіцца запраўдная нацыянальная літэратура. Апавяданьні і легенды Баршчэўскага быццам просяць чытаньніка-беларуса, каб ён пераклаў іх на іх родную мову, бо надта-ж яны беларускія, і їм шкодзіць чужацкая форма. Некаторыя з іх ужо і перакладзены, як легенда „Чарнакніжнік і зьмяя, што вылупілася з пятушынага яйца“ (пераклад Я. Станкевіча) і іншыя рэчы.

Ды чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята?—беларуская песьня, каторую Баршчэўскі напісаў у 1809 годзе ці блізка таго, калі ўлюбіўся ў нейкую паненку Максімавічанку, як відаць настаўніцу ці гувэрнантку. Гэта даволі бойкая лірыка, у якой пад наўмыснай весялосьцю і аж некаторай сьмяхотнасьцю хаваецца запраўднае засмучонае пачуцьцё, як зазвычай бывае ў беларуса. Песьня гэтая была паложана Антонам Абрамовічам на музыку і стала дужа популярнай сярод беларускай шляхты. Першы раз была надрукавана ў 1843 годзе. Гэта адзін з самых першых твораў новае літэратуры.

Гарэліца — пераробка вядомай беларускай песьні: „Гарэліца, гарэліца, ды ты весялуха“. Надрукавана была разам з папярэдняй песьняй. Напісаў яе Баршчэўскі, пераймаючы звычайныя прыпеўкі, што пяюць сяляне-беларусы ў хмялю ад гарэлкі.

Рабункі мужыкоў — найбольш характэрны для Баршчэўскага яго беларускі твор. Гэта—вершаваная поэма, якая дайшла да нас асобнымі кавалкамі ў розных кніжках (у прадмове Р. Падбярэскага і „Беларусі" А. Рыпінскага). Напісана яна як быццам-то з запраўднага жыцьця, з прыгоды, якая была ў 1812 годзе у двары пана П. Маліноўскага, вёрст за 50 ад Полацка. „Рабункі мужыкоў" напісаны даволі складным і лёгкім сілябічным вершам, хоць тэхніка верша, наагул, шмат горшая за тэхнікі раней быўшых у беларускай літэратуры прыкладаў. Мова—блізкая да народнай гаворкі, але пагляд на мову—чыста шляхоцкі, дык асаблівасьці нашай мовы не захованы ўсюды як мае быць, а часам ужыты вульгарныя фразы, якія псуюць літэратурнасьць. Ды ўсё-ж абразкі поэмы маюць запраўдную сьмяхотнасьць, жывасьць і жыцьцёвасьць, так што па іх можна меркаваць аб тагачасным жыцьці. Але з ідэйнага боку поэма зусім слабая; проста кажучы, ніякай ідэі ня відаць, апрача панскай ахвоты пераказаць дзеля жарту аб сьмешнай прыгодзе з благімі мужыкамі-бунтаўнікамі.

**Вартасьці і заганы творчасьці Я. Баршчэўскага.** Галоўная заслуга пісьменьніка, што ён адчуў, ухапіў і паказаў у слове нацыянальныя чырты беларускага духа. Сакавітае маляваньне беларускага жыцьця робіць яго творы цікаўнымі да нашых дзён. Яго-ж паступовасьць ў адносінах да хлопаў кідалася ў вочы чытаньнікам таго часу. Вялікае пашырэньне яго тевраў, меўшых нямалае ідэйнае значаньне для сучасьнікаў і несьвядома рабіўшых беларускую работу, таксама сьведчыць хоць-бы аб часовых вартасьцях яго творчасьці. А творы Баршчэўскага, як пішуць польскія крытыкі, расхадзіліся па ўсіх руках; „дзеці ўмелі іх напамяць, а няньки пялі іх пры люльках". На працягу колькіх дзесяткаў гадоў пяяла шляхта яго „Дзеваньку". Іншыя творы, як „Рабункі мужыкоў", ня гледзячы на іх проціў-мужыцкія думкі, ад шляхты трапілі ў шырокую народную гушчу.

Нацыянальная пазыцыя Я. Баршчэўскага ў літэратуры хаця і ня маець нахілу да абпалячываньня, як тое ў А. Рыпінскага, але яна сьведчыць аб нячуласьці. Яго інтэлектуальная сіла не сягала такой высачыні, каб сьвядома адчуць нацыянальны элемент у сваёй творчасьці. Наагул Я. Баршчэўскі надта нацыяналеи, у перакладзе на абы-якую мову ён застаецца беларусам, але ён у гэтай справе—усяго толькі несьвядомлены вытвор свайго часу і свае сфэры. Пры ўсёй паступовасьці Я. Баршчэўскага, аб яго соцыяльнай пазыцыі ў літэратуры зусім справядліва, аднак, сказаў наш крытык

нябожчык Лявон Гмырак, што ён „выхваляў стара-шляхоцкі разгул і, відаць, жадаў паварату „сьветлых дзён“. Пры нявшырокім сьветаглядзе Баршчэўскага і пры яго романтычнасьці гэта магло іці побач з паступовасьцю. Беларускае жыцьцё, сялянскі побыт паказываў ён няглыбока; да сялян адносіўся неяк бязыдэйна, ня так, як таго вымагалі ад яго запраўдныя заданьні мастацтва.

## Аляксандар Рыпінскі.

**Біяграфічны матар‘ял.** А. Рыпінскі родам з Дзісеншчыны. Ен хадзіў на паўстаньне 1831 г., пасьля чаго мусіў уцякаць заграніцу. Як эмігрант, жыў у Парыжу. У 1839 годзе чытаў там у эмігранцкім гуртку літэратараў лекцыі па беларусазнаўству.

**Пагляды А. Рыпінскага.** Ен лічыў беларусаў за польскае племя, а Беларусь за польскую провінцыю. Аб беларускай мове думаў Рыпінскі, што яна шчыльней прылучаець беларусаў да палякоў, чымся да маскоўцаў. Ен хацеў, каб беларускія мужычкі вучыліся спачатку чытаць, а потым гаварыць і думаць папольску.

**Літэратура А. Рыпінскага.** Свае лекцыі па беларусазнаўству Рыпінскі надрукаваў ў 1840 годзе ў Парыжу асобнай кніжкай пад назовам „Białoruś“ (Беларусь). Тут, між іншым, зьмесьціў ён беларускія псальмы („О, мой божа, веру табе“, „Стары Восіп барадаты“..), прыклад макаранічнага польска-беларускага верша („Лямэнт раскаханага“) і інш. Зьмесьціў тут Рыпінскі і кавалачкі поэмы Я. Баршчэўскага „Рабункі мужыкоў“, кажучы, што яна пашырана па ўсёй Беларусі, як народны твор, што і беларусы маюць творы, падобныя да „Энеіды“ ўкраінца І. Катлярэўскага. Аб беларускай-жа „Энеідзе“, як і аб тым, хто напісаў „Рабункі мужыкоў“, ён ня ведаў. Паважна займацца навукай беларусазнаўства пачаў Рыпінскі толькі ў эміграцыі, затужыўшы па бацькаўшчыне, але ня меў там патрэбных матар‘ялаў і крыніц для свае работы, дык у кніжцы зьмесьціў прыклады беларускай творчасьці найболей напамяць, як чуў змалку ўдаму. У „Беларусі“ выказаў ён і свае пагляды. Для беларускай мовы ён завёў у ёй асобныя значкі сярод лацінскіх літэраў. Пазьней А. Рыпінскі, захапіўшысь роднай беларушчынай, напісаў беларускую баляду „Нячысьцік“. Есьць яшчэ яго віршык ў „Альбоме Дарэўскага-Вярыгі“, гэта — „Ты-ж сам, суседзька, хацеў“..

Нячысьцік. Калі А. Рыпінскі напісаў гэтую баляду, невядома. Яна выдзержала аж тры выданьні, адно ў Лёндане і два ў Парыжы; трэцяе выданьне выйшла ў 1853 годзе. Прадмова да баляды напісана папольску. Дзеля бібліаграфічнай рэдкасьці кніг А. Рыпінскага, трэба тут пераказаць баляду. Яна пачынаецца гэтак:

Таму ужо сто лет будзе,
Старыя помняць то людзі,
Скажаць вам і Апанас:
Жыу быу Мікіта у нас.
На самым канцы сяла,
Там яго хатка была.
Дзяцей ня меу, хоць жанат,
А быу б дзен, не багат;
Багацтва ен усяго
Імеу вяпра аднаго,
Ды не спажыу і таго!

У мясаед Мікіта яго ня біў,—кажуць карміў, на продаж. Аж так і пост прыйшоў. А жонка ў Мікіты была дужа благая баба; яна, казалі, мела хэўру з нячысьцікам. Загадала Мікіціха мужыку забіць вяпра ў пост, нарабіла кілбас і паслала Мікіту па гарэлку. А сама яна нейдзе забавілась, дык нячысьцік тым часам і ўкраў вяпра. Мікіціха пачала біць загэта мужыка і брахала на яго абы-што. Толькі-ж яна крыкнула: „Што-б ты прапаў!“ — як і сама прапала. Нячысьцік напусьціў поўную хату смалы, смуроду і ўсё спаліў. Адгэтуль выходзіць навука: ня ежце ў пост кілбас і бойцеся вы бога!

„Ты-ж сам, суседзька, хацеў“...—вершык, напісаны А. Рыпінскім ў альбом прыяцелю-поэту Арцёму Дарэўскаму-Вярызе. Тут аб сваей лірыцы ён кажа так:

Можа гэта ня песьнь? Каша?
Ды усежтыкі свая, наша!

**Заганы творчасьці А. Рыпінскага.** Не казаўшы аб тым, што баляда „Нячысьцік“ ня маець літэратурнай вартасьці з боку ідэйнага, бо аўтор яе зусім няўдала, наіўна карыстае з народных забабонаў, яна і па спосабу напісаньня стаіць аж для таго часу даволі нізка. Сілябічны верш слабы, вялы, далёкі ня толькі ад бойкасьці народнай гутаркі, але і ад задачных кніжных беларускіх твораў, напісаных раней за „Нячысьціка“ танічным вершам. Толькі мова баляды вызначаецца памеркаванай чыстатосьцю. Калі разгледзіць словы Рыпінскага з альбомнага вершыка ды параўнаваць іх з нахілам усей яго творчасьці, дык можна сказаць, што ў беларускай літэратурнай працы яму загубіла ўсё хваравітасьць нацыянальнай самасьвядомасьці. Выданьні А. Рыпінскага мелі для нас у пасяродку мінулага сталецьця нека-

торае палітычнае значаньне, як чутны для Заходу голас аб беларускай справе. Апрача таго, кніжка „Беларусь“ маець для нас этнографічную цану, але таксама невялічкую.

## Ян Чачот.

(1797—1847).

**Біографічны матар'ял.** Арадзіўся Ян Чачот у Наваградзкім павеце Меншчыны. Разам з знамянітым земляком сваім Адамам Міцкевічам вучыўся ён у Наваградку ў дамініканскай павятовай школе. Дастаўшы там сярэднюю адукацыю, Чачот паступіў у віленскі унівэрсітэт на адзел моральных і палітычных навук. І тут ён дружыў з Міцкевічам і разам з ім захапіўся тагачаснымі ідэямі і романтычным настроем. Калі ў 1817 годзе аднавіўся ня зусім легальны гурток „філёматаў“, дык Чачот увайшоў у яго склад адным з першых. Заданьнямі гуртка быў патрыятызм, гуманнасьць і прасьвета. У дваццатых гадох філёматаў разагналі; Чачота выслалі на доўгі час ў Уфу. У саракавых гадох ён вярнуўся і жыў троху ў Леплю, Віцебскай губэрні, потым у вядомым двары Шчорсах, у Наваградчыне, дзе быў бібліатэкарам у Адама Храбтовіча, а пад канец свайго жыцьця, па сьмерці Храбтовіча, жыў у сваіх школьных таварышоў. Памёр у Друзгеніках. Ян Чачот належаў да часу романтызма. Романтыкам ён узгадаваўся ў школе, якую праходзіў; разьвіцьцю романтычнасьці спрыяла яго жыцьцё. Романтызм даў яму любоў да народнай творчасьці і пасунуў яго да складаньня народных беларускіх песьняў.



Я. Чачот. (Музэй Я. Луцкевіча).

**Літэратурная праца.** Ян Чачот пісаў папольску і пабеларуску. У беларускай літэратуры ён дастаў славу, як пясьняр этнограф. Яго зборнікі беларускіх народных песьняў выхадзілі ў 1837—1846 гадох. Спачатку ён даваў нашы песьні ў польскіх перакладах і перараобках. Потым, надта захапіўшыся хараством поэзіі народа ён друкаваў іх ў беларускім орыгінале, адылі і сам пачаў складаць беларускія лірычныя вершы, падобныя да народных песень. Усяго такіх вершаў Я. Чачот напісаў і ў 1844 г. надрукаваў 28 штук.

**Лірыка Я. Чачота.** У пераважнай частцы сваіх вершаў Я. Чачот 1) або пяець аб тым, што ёсьць злога ў беларускім сялянскім жыцьці, 2) або малюець абразкі жаданага новага жыцьця, 3) або ў элегічным тоне лятуціць аб шчаснай будучыне, моліцца, каб яна барджэй прыйшла. Апрача таго, у яго лірыцы можна знайсьці ўсё тое, што звычай бывае ў народных лірычных песьнях: хараство прыроды, каханьне і г. д. Але найболей і д э й н а й л і р ы к і з чыста грамадзкім нахілам.

Ганіць Чачот мужыка-беларуса за гарэлку, за благую надворнасьць яго побыту, за неахайнасьць, гультайства, няпрыхільнасьць да рамяства. За найгоршае няшчасьце уважае Чачот гарэлку. Каб паказаць розьніцу між п'янствам і цьверозасьцю, каб заахвоціць да цьверозасьці і разам з тым папікнуць п'яніцу, пясьняр апісуець яго долю, яго зганеньне. Няма хлеба, няма воліка, на плячох лапленая сярмяжка,—а ўсё вінавата карчма. Бядуе пясьняр і аб тым, што „сядзім мы, як у нóры", што ў хаце у нас гусі, сьвіньні і цяляты. Ен пытаееца, нашто гэта? Ці-ж ня можна жыць у чыстай і някурнай хаце? Ня вучаць рамяству сваіх дзяцей сяляне, і гэта дрэнна. Хто мае многа сыноў і многа грошы, хай-бы не дзяржаў сыноў за печаю, а грошы не хаваў-бы ў зямлю; хай аддаў-бы таго ў шаўцы, другога да каваля ці сьлесара, а трэцяга завёз-бы да сталяра ці бондара. На патрэбу-ж для сялянскіх дзяцей школьнай навукі Чачот глядзіць, як на раскошу.

Чачотаўскі абразок лепшай будучыны на сучасны пагляд даволі мізэрны, хоць і агорнут красою аўторскай романтычнасьці. Яго ідэальны мужык узімку, добраю парою, возіць кольле, а як сьнягі таюць—гародзіць; ён маець лучыну і многа клётак дроў—будзе на чым варыць кашу дзеткам улетку; ён заўсёды парою ўпраўляецца з работаю: гарэць, сеець, косіць. Гэткі селянін мае хлеба і ня ходзіць вясною „у меркі". Ен працуе ў радасьці і вясельлі, здаволены з мужыцкае долі. У сьвята ён—у цэркаўцы, „б о г а, п а н а, сваю

хату і заботу знае“. А калі захоча пагуляць, дык запрашае да сабе гасьцей і тады вып‘ець чарку да вашмосьці.

Як відзім, ідэалы сялянскага песьняра з паноў ня дужа бліскучыя, але ў яго пару яшчэ далёка было і да гэтага малога шчасьця, дык ён з усім запалам філёнтропа, засмучэньнем романтыка і лірычнасьцю поэта лятуціць аб „такой паправе“ і моліцца богу так: „Няхай усім добра будзе!“

Літэратурная мова Чачота адбіваець на сабе няшырокі пагляд на яе песьняра-этнографа. Верш Чачота чытаецца лёгка, маець народны склад, хаця часам дужа псуецца вялікім уплывам польскай версіфікацыі і зьбіваецца на няўломную сілябічнасьць.

## Характарыстыка творчасьці Я. Чачота.

У вадным вершыку пясьняр кажаць беларусам-сялянам, што ён памагае ім „песенькі сьпяваці“, бо ён сярод іх узрос, бо яму даў бог зазнаці гора, каб „лепш іх любіў і ўмеў спагадаці“. З гэтага ясна відаць, што толькі ўласнае гора навучыла песьняра-шляхоцкага романтыка адчуваць гора мужыцкае, што ўзросшы сярод беларускіх сялян, ён, аднак, ня чуець сябе індывідуумам беларускай грамады і толькі памагаець ёй пяяць, стоячы збоку, водаль ад яе. Беларускую поэзію Чачота можна характарызаваць так: 1) ён адчувае мужыцкае гора, але папанску і романтычна; пяець аб тым горы мужыцкім спосабам, але на панскі і романтычны голас; 2) ён зусім не адчувае нацыянальнага гнібеньня беларусаў; 3) творы яго дыдактычны, яны навучаюць, як трэба жыць; 4) ён сур‘ёзна малюець жыцьцё. Дзеля таго, што беларуская творчасьць Я. Чачота стаяла на абпалячанай шляхоцкай дарозе, ён, як поэт і не клясавы і не нацыянальны, ня мог вырасьці да памыснай велічыні. Па здольнасьці ён вышэй за Рыпінскага і ніжэй за Баршчэўскага. Аднак, прымітыўны Баршчэўскі ня мог выкарыстаць сваю здольнасьць так, як выкарыстаў сваю разьвіты Чачот.

**Значаньне Я. Чачота** у гісторыі нашае літэратуры, галоўным чынам, такое: 1) ён пабуджаў беларускасьць; 2) ён першы сур‘ёзна задумаўся над жыцьцём беларускага сялянства і паважна паставіў пытаньне; 3) ён першы натуральным спосабам вывеў кніжную творчасьць з народнай і зрабіў гэта ў беларускай мове (Баршчэўскі — ў польскай), значыцца, даў ёй нацыянальны грунт для далейшага разьвіцьця.

# Беларуска-маскоўскія пісьменьнікі.

## Павел Шпілеўскі.

(1827—1861).

**Біаграфічны матар'ял.** Павел Міхайлавіч Шпілеўскі быў родам з Меншчыны, у глухіх кутках каторай прайшло яго маленства. Вучыўся ў Менску. Змалку наслухаўся ён беларускіх казак і песьняў, відзеў звычаі і побыт, а ў маладосьці зьбіраў этнографічны матар'ял, запісываў, што чуў ад народа. Дзеля таго, узросшы, Шпілеўскі надта добра ведаў беларускую душу і беларускае жыцьцё. Родную поэзію і наагул усё беларускае любіў ён нязвычайна. Асабліва падабалася яму народная міфолёгія. Закінуты на чужыну, Шпілеўскі жыў у змаскаленай сфэры і пераняўся маскоўскаю культураю.

**Яго пагляды.** Беларусаў ён лічыў амаль не самым старадаўным з пляменьняў славянскіх і самым старадаўным з пляменьняў „рускіх"; называў іногды беларусаў, як і тагачасныя польскія пісьменьнікі, крывічамі. Шпілеўскі уважаў, што беларусы—найчысьцейшы славянскі тып, што найболей яны захавалі запраўднай славянскай старыны. Вось дзеля таго, — думаў ён, — такая харошая і багатая беларуская народная поэзія. Як публіцыст, Шпілеўскі горача заклікаў працаваць над беларусазнаўствам.

**Яго літэратура.** Шпілеўскі пачаў пісаць з маладых гадоў. Супрацоўнічаў ён у розных лепшых журналах у Маскоўшчыне (спачатку пад псэўданімам П. Древлянскій). Літэратурная праца яго мела сваім заданьнем быццам этнографію Беларусі, але заўсёды насіла характар даволі лёгкай белетрыстыкі. Шпілеўскі зьбіраў і сьпісываў беларускія словы, прыказкі, песьні і наагул розныя віды народнай славеснасьці, міфолёгію, фантастычныя пераказы і інш. Найболей пісаў у 1846—55 г.г. Яго „Падарожа па Палесьсю і Беларускаму Краю" была надрукавана ў „Современникѣ" за 1853, 1854 і 1855 г.г. і асобнай кніжкай выйшла ў 1858 годзе.

**Поле яго творчасьці.** У сваіх этнографічна-белетрыстычных творах Шпілеўскі апісываў нашы кірмашы, вясельлі, жніво, Юр'е, Маладзікову нядзелю (Прошчы), ігрышчы, чараўнікоў, чараваньне і розныя забабоны, ксьціны, хаўтуры, памінкі, валачобнікаў, ваўкалакаў, беларускіх багоў і багавіц і шмат чаго такога.

Падарожа па Палесьсю і Беларускаму Краю— цікаўныя і мастацкія запіскі аб тым, як аўтор ехаў па Беларусі, што па дарозе відзеў і чуў, з кім, з якімі людзьмі сустрачаўся, як з імі гаманіў, якія праязджаў месты і мясьцечкі, якая дзе прырода і г. д.; тут-жа дадаюцца гістарычныя і археолёгічныя спраўкі і апісаньні. „Падарожа" напісана ў лёгкай белетрыстычнай форме, жывою літэратурнаю маскоўскаю моваю з беларускімі ўстаўкамі: орыгінальнымі словамі, зваротамі мовы ато і з цэлымі размовамі. З кождага радка „Падарожы" выступае гарачая любоў да Беларусі і глыбокая, сыноўская пашана да яе нацыянальнага духу. Беларускія тыпы, пэйзажы, абразы стаяць, як жывыя, уваччу на працягу ўсяго твора. Ліецца салодкі аромат нашай поэзіі, чуецца шчыры дух нашскага жыцьця... Усяго ў „Падарожы" восем разьдзелаў; апавяданьне пачынаецца з таго, як аўтор выязджае з Варшавы, а канчаецца апісаньнем Ігуменшчыны. Асабліва доўга застанавіўся аўтор на сваім родным Менску. Вызначаюцца ў творы сакавітыя характарыстыкі засьцянковых шляхтуноў, пасэсарчукоў, паноў, падпанкаў, сялян. Вызначаюцца і лірычныя ўслаўленьні роднай старонкі. Ен спамінаець вялікую мінуўшчыну беларускага слова, ніколі не называець родную мову гаворкай ці гутаркай і між іншым сьведчыць, што пабеларуску жыхары засьценкаў „пішуць пісьмы і заметкі аб гаспадарцы"; „у гэтай мове, кажа ён, знойдзеце вы ў іх пісаныя песенькі, розныя легенды і казкі".

**Значаньне Шпілеўскага** ў разьвіцьці нашае літэратуры, аднак, зусім невялічкае дзеля рэнегацкіх асаблівасьцей гэтага пісьменьніка. Апрача таго, у Шпілеўскім пастаянна змагаўся этнограф з белетрыстам. Не адчуваючы гэтага змаганьня, ня ведаючы добра правілаў навукі этнографіі і быўшы пераважна белетрыстам, Шпілеўскі думаў, што этнографія шмат скарыстаець, калі будзе іці побач з белетрыстыкай. Шпілеўскі ў гэтым памыляўся, дык белетрыстыкай абясцэніў сваю этнографічную працу, а дылетанцкай этнографіяй загубіў у сабе здольнага белетрыста. Адылі ён першы голасна і горача прамовіў у маскоўскай літэратуры аб беларусах. У беларускіх рэнегатаў у Маскоўшчыне ён узбудзіў гэтым пачаткі паснулага нацыянальнага пачуцьця. Ен-жа даў выразны выгляд беларуска-маскоўскай школе пісьменьнікаў. Толькі абмаскаленая сфэра зрабіла працу Шпілеўскага несьвядомай і перабунтавала яму стаць пісьменьнікам у роднай мове. Калі прыгэтым спомніць жыцьцё Тараса Шаўчэнкі, дык можна агульна сказаць, што наш Бахрым загінуў, бо ня выйшаў га пана, а наш Шпілеўскі загі-

нуў, бо не радзіўся мужыком. Ды ўсё-ж ён меў той крытычны настрой ў адносінах да паноў на Беларусі, якога ня было ў нашых польска-беларускіх шляхоцкіх пісьменьнікаў.

**Беларуска-маскоўская школа пісьменьнікаў.** Яшчэ раней за Шпілеўскага, у 1843 годзе, П. Кушын зьмесьціў у журнале „Москвитянинъ“ надта цікаўнае апавяданьне „Гецькі“ з жыцьця беларусаў паўночнай Віцебшчыны. Аўтор намаляваў прыгонны побыт, даў жменю цікаўных беларускіх песьняў („Гарэліца“, што ў Баршчэўскага), слоў, зваротаў мовы і цэлых размоў. У „Маяку“ зьмяшчаў беларускія творы Эгілеўскі (1844 г.) і іншыя людзі. Да першай палавіны 19-га сталецьця залічаецца і некалькі кніжных вершаў невядомых поэтаў. Так, у „Иллюстраціи“ (1848 г.) надрукаваны два даволі орыгінальных вершыкі. У „Могил. губерн. вѣдом.“ (1849 г.) невядомы аўтор П. З. *** зьмесьціў свой этнографічна-белетрыстычны твор „Дзяды“, дзе ёсьць добрыя сцэнкі спраўляньня сьвята Дзядоў, напісаныя у драматычнай форме. З 1863 года найпільней узяліся маскоўскія вучоныя за апісаньне Беларусі. Каб давесьці Эўропе, што Беларусь—„искони русская земля“, тагачасныя маскоўскія патрыятычныя газэты і журналы давалі многа рознага матар‘ялу аб Беларусі. Разумеецца, гэты матар‘ял мае нізкую цану як для гісторыі беларускай літэратуры, так і наагул для гісторыі беларусазнаўства. А з тым таго можна сказаць, што беларуска-маскоўскіх пісьменьнікаў было мала і што яны не зрабілі навет і той невялікай, мала здольнай да разьвіцьця работы, якую рабілі нашы беларуска-польскія пісьменьнікі. Шмат пісалі памаскоўску Безкарніловіч, Турчыновіч, Семянтоўскі, Кухцінскі, Бантыш-Каменскі і др.

## Рэволюцыйная і процірэволюцыйная літэратура 60-х гадоў.

### Кастусь Каліноўскі
(1838 — 1864).

**Біаграфічны матар‘ял.** Каліноўскі быў сын ткача з двара Мастаўляны (Ваўкавыскага павету, Горадзенскай губэрні). Скончыў 5 кляс прогімназіі ў Сьвіслачы. Вучыўся на юрыдычным факультэце ў Пецярбурзе, выйшаў кандыдатам праў. Знаходзіўся пад уплывам А. Герцэна і пераняўся рэволюцыйнымі ідэямі. Перад паўстаньнем прыехаў на Беларусь і працаваў над яго падрыхтаваньнем. Дамагаўся, каб былі скасаваны панскія прывілегіі і прызнаны шырокія

культурна - нацыянальныя правы за беларусамі і ліцьвінамі. Жыў ён у Вільні па фальшываму пашпарту і вёў самую шырокую рэволюцыйную прапаганду. У 1864 годзе яго злавілі і засудзілі на сьмерць. Прысуд споўнен на Лукішскім пляцу 10 (23) сакавіка (марца) 1864 года, калі Каліноўскі меў усяго 26 гадоў.

**Яго літэратурная праца.** У 1863 годзе, у Беластоку, Каліноўскі друкаваў нелегальную беларускую часопісь пад назовам „Мужыцкая праўда", у каторай сам найбольш і пісаў пад псэўданімам Яська-гаспадар з-пад Вільні. Нумары „Мужыцкае праўды" сьць у Віленскім музэі; усяго іх выйшла 6 штук. Часопісь заклікала бараніць унію, веру дзядоў, і скідаць ярмо маскоўскіх катаў. Чакаючы ў турме сьмерці, Каліноўскі напісаў дзьве адозвы да беларускага народа: адну вершам, адну прозаю. Пад уплывам і стараньнем Каліноўскага польскі „народны урад" выдаў маніфэст да беларускага народа пабеларуску з абвяшчэньнем, што „даецца ўсім шляхецтва навекі" і даюцца іншыя вольнасьці. Невядома, ці меў Каліноўскі яшчэ якія беларускія творы; тыя-ж яго рэчы, што дайшлі да нас, ніякага літэратурнага значаньня ня маюць ды й пісаны яны былі з заданьнямі надта далёкімі ад заданьняў прыгожага пісьменства. Іх значаньне — моральнае. Праклямацыі Каліноўскага і іншая падобная літэратура сьведчыць нам, што 1) беларускае друкаванае слова так ці йначай усё болей пашыралася; 2) што беларускім словам карысталі тады, калі хацелі зачапіць струны беларускай душы.

## Праклямацыі і брошуры.

З тым-жа проціў-маскоўскім, проціў-урадовым кірункам было выдрукавана ў нашай мове многа праклямацый і брошур, найболей невядома кім напісаных. Былі пашыраны сярод каталіцкага беларускага насяленьня, прыкладам, гэткія:

1. Перадсьмертны разгавор пустэльніка Пятра, каторы жыў у пушчы дзевяцьдзесят лет, а памёр маючы сто сорак лет. Кніжачка друкована ў 60 гадох, у Кіеве, з рэвалюцыйна-агітацыйнымі заданьнямі. Пры ёй у дадатку ёсьць польскі гімн у беларускім перакладзе.

2. Крыўда і праўда (1863 г.)—„беларуская гутарка", каторую напісаў вершам, дужа дрэнным, нейкі Ф. Пчыцкі. Аўтор наіўна спакушае беларускага мужыка тым, што раней, за палякамі, „і пан-бог даваў уроду": пша-

ніца была, як лес! А цяпер наадварот: „За праклятым маскалём няма шчасьця ні у чом“. Соцыяльныя пагляды гэтага рэволюцыянэра выказаны так: „Ай, ды шляхта-малайцы! Паны былі, як айцы!“..

3. Сюды-ж так ці йначай падыходзяць „Добрыя весьці“ Сыракомлі, „Гутарка старога дзеда“ Каратынскага і шмат іншых падобных рэчаў таго і пазьнейшага часу.

## Апанас Кісель (Франц Блус?).

Біаграфічнага матар'ялу аб гэтым пісьменьніку сабралі дужа мала. Мяркуюць, што пад псэўданімам Апанаса Кісяля пісаў магілеўскі чыноўнік Франц Блус, каторы, як „казённы пісьменьнік“, пісаў у 60 гадох пабеларуску ўрадовыя брошуры, а таксама „казённыя“ беларускія вершы. Умеў пісаць на ўсіх гаворках Магілеўшчыны.

Бяседа старога вольніка зьявілася пад аўторствам Апанаса Кісяля. Напісана прозаю. У ёй зразумелым для сялян спосабам пераказуецца сухая маскоўская ўрадовая грамата пра вольніцу.

Мова Старавойта надрукавана пад аўторствам Ф. Блуса двумя асобнымі даўгімі вершамі ў „Могил. губ. вѣд.“ за 1862 г. Першы верш зьмяшчаець казённую навуку сялянам аб вольнасьці. Аўтор кажа вуснамі нейкага Старавойта, быццам-то дужа разумнага чалавека, каб цярпліва чакалі дараваную маніфэстам вольніцу. У вершу выводзіцца агітатар, каторы падбухторывае сялян зараз забіраць панскую зямлю і кінуць прыгонную службу. Старавойт выступае проці яго, абараняе паноў:

Паны цару і краю служаць,
У савеце і з царом сядзяць,
За усіх нас думаюць і тужаць.

Другі верш маець зварот да чытаньнікаў, уступ, пяць разьдзелаў і заключэньне, але думкі—ўсе тыя самыя, што і ў першым вершу: зьясьняецца вольніца, пералічаюцца будучыя заганы новых вольнікаў, як п'янства, гультайства, дзяліцьба і інш. Аўтор страшыць мужыкоў навет будучым багацьцем. Вуснамі афіцэра родам з мужыкоў ён малюець добры парадак жыцьця. Каб словы свае зрабіць аўторытэтнымі, ён надта хваліць Старавойта, пра каторага нібы-то кажуць:

Як пра што стане гаварыць,
Дык быццам якей празудэнт;
Ужо не патрапіць яго зьбіць
І горы-горацкі студэнт!

І „Бяседа старога вольніка“ і „Мова Старавойта“ маюць шмат агульнага і па думках і па способу іх выказываньня. Есьць аж зусім аднакавыя сказы. Толькі „Бяседа“ напісана дрэннаю прозаю, а „Мова“ яшчэ горшым вершам. Нахіл твораў дужа прыкры і выдаець, што аўтор іх чалавек слабаразьвіты і ў літэратуры мала-пісьменны.

## Проціўпольскія вершы.

У тым-жа часе, на пачатку сёмага дзесяцёхлецьця 19-га веку, зьяўляліся і яшчэ беларускія вершы, падобныя па свайму характару да кісялёўскага пісаньня, але маючыя ня столькі соцыяльную, колькі нацыянальную тэндэнцыю. Гэта проціўпольскія вершы, выдаваныя навет за нарадныя песьні з Меншчыны: 1) „Быў на Русі чорны бог“... 2) „Ой, калі-б, калі маскалі прышлі“ і інш.

**Рэволюцыйная і проціўрэволюцыйная літэратура 60-х гадоў** ня маець літэратурнага значаньня і разглядаецца ў нашым пісьменстве толькі з гістарычнага боку, бо яна лепшы паказальнік таго, якім цяжкім шляхам ішла нашая літэратура ў сваім гістарычным разьвіцьці. Лепшыя, шчыра-беларускія літэратурныя прыклады мелі шмат перашкод, каб хаця выпадкова і рэдка трапіць у народ. А разгледжаная тэндэнцыйная літэратура, абедвух кірункаў роўна проціўлітэратурная і ня шчыра-беларуская, пашыралася ў нашым народзе арганізаваным способам і вытварыла ў ім вельмі шкодны пагляд на сваё друкаванае слова; апрача таго, яна паглыбляла падзел на „рускіх“ і „палякоў“.

## Нова - шляхоцкія пісьменьнікі.

(В. Дунін-Марцінкевіч—В. Каратынскі—А. Дарэўскі-Вярыга).

## Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

(1807 — 1884).

**Яго жыцьцё.** Вінцук Дунін-Марцінкевіч арадзіўся ў фальварку Панюшкевічы ў Бабруйскім павеце Меншчыны, дзе бацька яго быў рандатарам. Там, на самым берэзе Бярэзіны, за некалькі вёрст ад Бабруйска, і ўзгадаваўся малады Вінцук. Сярэднюю школу скончыў ён ў Бабруйску ў 1824 годзе. Дзядзька Вінцука, ксёндз-мэтрапаліт С. Богуш-Сестранцэвіч, аддаў патым яго ў навуку да айцоў базыльянаў

у Вільню. Пабыўшы там нядоўга, Марцінкевіч паехаў у Пецярбург, дзе і паступіў на мэдыцынскі факультэт. Але мэдыцына, відаць, яму не спадабалася, ён кінуў унівэрсітэт, вярнуўся дамоў і нейкі час там гасьцяваў. З 1827 года Марцінкевіч пачаў служыць у Менскай духоўнай каталіцкай консысторыі, а з 1829-га году быў, апрача таго, і сябрам менскіх гранічных судоў. У 1831 годзе ён ажаніўся з Юзэфай Бараноўшчынкай. У 1832 годзе перайшоў з консысторыі на службу ў канцэлярыю менскай крымінальнай палаты. На гэтай службе ён цяжка захварэў і пакінуў яе. У 1834 годзе Марцінкевіч ізноў падаўся ў консысторыю, дзе дастаў пасаду перакладчыка папер на маскоўскую мову. Там працаваў да скасаваньня уніі (1839 г.). У 1840 годзе купіў сабе невялічкі двор Люцынку пад Менскам. З гэтай пары жыў то ў Люцынцы, то ў Менску, дзе меў службу пры шляхоцкай дэпутацыі. У 1857 годзе ён заўдавеў, а ў 1858 ажаніўся другі раз з удавою Гружэўскай, пасьля чаго кінуў службу і жыў увесь час у Люцынцы. Глаўная аўторская работа Марцінкевіча прыпадае на час ад 1846 да 1859 году. Памёр 17-га сьнежня (дзекабра) 1884 г. і пахаван на могілках пры капліцы ў Тупальшчыне.



В. Дунін-Марцінкевіч.

**Літэратура Марцінкевіча.** Пісаў ён папольску і пабеларуску, але славу пісьменьніка далі яму ня польскія, а беларускія творы. Пабеларуску ён ня толькі многа напісаў, але таксама і надрукаваў. Некалькі-ж твораў яго пагінула; некалькі рукапісаў было на сховах (ў А. Ельскага і інш.), і толькі ў астатнія гады яны выдрукаваны.

### Сялянка (1846 г.).

Двухактовая камэдыя-опэра „Сялянка“ была першым беларускім творам Марцінкевіча. Напісана яна вершам і прозаю. Паны гавораць папольску, а войт Навум,

Цiт i хор мужыкоў — пабеларуску. Зьмешчаныя народныя песьнi значна выпраўлены аўторам. Ідэя ў „Сялянцы“ тая, што бог на небе i паноў i мужычкоў зароўна уважаець (як аб гэтым кажаць паном Юлья, пераапранутая пасялянску). Тут першы раз паказаўся марцiнкевiцкi сантымэнталiзм i дыдактычнасьць. Мова дзеючых асоб, што размаўляюць пабеларуску, добрая. У гаворцы войта Навума надта многа сялянскiх прыказак, што часам прыкра кiдаецца ў вочы. Нaагул-жа „Сялянка“ маець шмат прымет народнай творчасьцi, так што некаторыя зьбiраньнiкi беларускiх песьняў прыймалi яе памылкова за чыста-народны твор. А была яна даволi пашырана, бо яшчэ ў астатнiя гады хадзiла сярод беларускай абпалячанай шляхты ў сьпiсках бяз подпiсу аўтора. Опэрную музыку да „Сялянкi“ напiсаў вядомы польскi кампозытар-беларус Станiслаў Манюшка, друг Марцiнкевiча i таксама родам з Меншчыны. „Сялянка“ была на менскай сцэне i мела вялiкi пасьпех. Роль войта Навума згуляў сам Марцiнкевiч; ён патым любiў падпiсываць свае лiтэратурныя творы псэўданiмам Навум Прыгаворка, цi войт Навум, меў такое празваньне сярод прыяцеляў i любiў яго. Значаньне опэры „Сялянка“ для беларускай лiтэратуры аказалася ў тым, што польска-беларуская опэра разварушыла беларускiя тэндэнцыi сярод шляхты, гэтай значнай часткi нашай тагачаснай iнтэлiгенцыi.

### Гапон (1854 г.).

З часу напiсаньня „Сялянкi“ мiнуўся дзесятак гадоў. Марцiнкевiч жыў найболей у Люцынцы, карыстаў цяпер усiмi ўцехамi жыцьця i тымчасам усё блiжэй прыглядаўся да народу. Як чалавек справядлiвы, ён вiдзеў розныя крыўды ў жыцьцi прыгоннага сялянства, а як чалавек ад прыроды сантымэнтальна-романтычны, патрабаваў задаваленьня для свае моральнай чуласьцi i знаходзiў яго ў поэтычна-романтычных лятуценьнях. У рэзультаце зьяўляецца яго лепшы твор, повесьць „Гапон“, „у мове беларускага люду напiсаная“, (ў 1854 г., а надр. ў 1855 г.).

У гэтай повесьцi аўтор чытаець навуку паном i мужыком. Першым ён даводзiць, якiя добрыя, слаўныя у iх сяляне, як трэба iх любiць i жалець, бо iх крыўдзяць панскiя прыганятыя, аканомы. Ен навучае паноў, каб пiльнавалi за ўчынкамi сваiх злосных паслугачых, бо яны псуюць добрыя панска-мужыцкiя адносiны. Другiм ён хацеў сказаць i паказаць, што паноў дрэнных таксама няма, што паны—гэта бацькi родныя. Разумеецца, аўтору яшчэ i ў галаў не прыходзiла, што трэба скасаваць паншчыну. Ва iмя свае дыдактычнасьцi аўтор старанна паказаў зло ў асобе аканома i ус-

лавіў дабро ў асобе Гапона і Кацярынкі. На здоваль сантыменталізму ён ідэалізуець сваіх улюблёных героеў. І няма ў яго такога ліха, каб ня выйшла на добрае; для добрых усё канчаецца дабром, чуцьцё дабра заўсёды задаволена. Добранькія людцы павінны пакутаваць з прыемнасьцю, бо яны за гэта дастануць нейкую асалоду,—не на гэтым сьвеце, дык на тым. Добранькія людцы дужа часта моляцца, спадзяюцца на бога і верадь, што ён усё відзіць, хоць і ня скора скажаць. І бог памагае. Так, просты мужык Гапон выходзіць на афіцэра, а простая дзяўчына робіцца паненкай,—столькі бяды, што гэтак бывае на вялікія тысячы разоў адзін ці два разы.

Сантыменталізм, аднак, не заўсёды толькі шкодзіць. Так, сьвядома-нацыянальны элемент у повесьці не паказан, але несьвядомыя пачаткі яго чуюцца ў народным элеменце твора, яны ёсьць у прыхільнасьці да беларускіх парадкаў жыцьця, у тым, што Гапон-афіцэр не адходзіць ад беларускай мужыцкай грамады, а Кацярына-паненка, гаворачы папанску, значыцца, папольску, не адракаецца ад маткінай беларускай гаворкі, а навет бяжыць туды, дзе яна чуецца.

З соцыяльным элементам повесьці яшчэ горшая справа: ён у поўнай залежнасьці ад панскасьці і сантыментальнасьці аўтора. І ўсё-ж трэба адзначыць тую памяркоўную безстароннасьць, з якой Марцінкевіч малюець адваротныя староны прыгоннага жыцьця, хаця карэнь зла шукаець і ня там, дзе трэба. Гэта яшчэ большая заслуга дзеля таго, што навет паступовыя сучасьнікі рабілі яму закіды за „нагату“ жыцьця. Сыракомля заўважыў яму, што ў повесьці „няма эстэтычнага пагляду артысты, няхват заслоны, якая прыкрыла-бы надта жорсткую нагату самае праўды“; Сыракомля ня мог згадзіцца з тым, што Гапон „памшчаецца“ ворагу-аканому.

З тае прычыны, што сантыменталізму ў самым жыцьці ня было, даволі рытарычнымі выйшлі ў повесьці абразы жыцьця і людзей. Сярод дзеючых асоб твора тыпам можна назваць толькі аднаго аканома.

Аканом.—Абраз аканома таму і выйшаў такім жывым, жыцьцёвым, што аўтор не ідэалізаваў яго, а не стараўся і выдумаць штосьці нязвычайна благое, каб увасобіць у ім зло. Ён сабраў і сьпісаў агульныя, тыповыя чырты панскіх аканомаў таго часу, дадаў колькі знакаў жывога чалавека, і вось выйшаў дапраўды мастацкі тып. Аканом, як натура тупая, а маючая вялікую ўладу над закрэпленымі мужыкамі, пershнаперш страшна б'еппа:

Калі возьмець драць і біць,
То і з зямлі ня устаць

У яго „кнут у жмені аж трашчыць“, ён любіць „бразнуць аплявуху“ і „адвесіць сотні дзьве розак. Ен пагражае „так задаць нагаём“, што і „з здароўем ня відацца“, а „хаму“-войту загадуе: „У карк шэльмаў тых гані!“ Сялян ён дужа брыдка лаець, пані ён нагла маніць, дзяўчат сялянскіх зводзіць. Ен трус, баіцца адкрытага змаганьня і пускаецца на самы подлы спосаб паквітаваньня. Папаўшыся ў набор, ён прыкідаецца сухотнікам і даець подкуп доктару. Навет выгляд гэтага чалавека ня можа выклікаць ні ў кога сымпатыі: са страху ён млеець, а ў злосьці страшна крывіць губы, вочы яго наліваюцца крывёю, а рыжыя вусы паднімаюцца шчэцьцю.

Гапон.—Абраз Гапона найлепей выйшаў там, дзе апісуюцца тыповыя азнакі мужыцкага сына-дзяцюка. А ў тое, што Гапону пашчасьціла за пяць гадоў быцьця ў войску выйці на афіцэра, у гэта ня ймецца веры. Абраз Гапона створан з меншай дозай сантыментальнай чуласьці, чымся абраз Кацярынкі, дзеля таго ён выйшаў болей мастацкім. Ен меней ідэалізаваны. Скокі Гапона (ў першай песьні) выдаюць у ім здаровага, жыцьцярадаснага дзяцюка, каторы з усім пылам аддаецца весялосьці. Ен вельмі сьмелая, хоць і простая натура, адзін бароніцца з калом у руках ад груда людзей і рэжаць аканому праўду ў вочы. Ен шчыра і цьвёрда любіць каханую дзяўчыну. Ен не адракаецца ад свайго роднага і „мужыцкім абычаем“ спраўляе вясельле, хоць стаў панам, „чыноў дажыўся“.

Кацярынка.—Абраз Кацярынкі рыторычны, павярхоўна апісаны; мы больш ведаем аб яе выглядзе, чымся аб яе душы. Яе духоўныя вартасьці паказаны чытаньніку на веру, яны помала разглядаюцца ў зьвязку з агульным ходам повесьці. Як абраз сантыментальны, Кацярынка ня можа быць пеўным мастацкім тыпам беларускай сялянскай дзяўчыны з часоў паншчыны. Кацярынка дужа прыгожая, добра скачаць і пяець. Яна верна любіць Гапона і даець аканому добрую адпаведзь. Яна пабожна, прывязана да роднага, цьвёрда ў каханьні і прыязьні, цярпліва ў няшчасьці. Сярод добрых прыметаў, якімі так шчодра надарыў яе аўтор, мала, аднак, якія можна з пеўнасьцю прыняць за нацыянальна-беларускія, і ў гэтым хаваецца загана творчасьці Марцінкевіча. Як узгадавалась Кацярынка, аб тым сказана толькі пара слоў, дык няведама, як і з чаго разьвілісь яе добрыя прыметы, асабліва тыповыя і нацыянальныя.

Бацькі: Мірон і Усьцінься і Грыпіна апісаны кароценька, але ўдачна, з пеўнасьцю, што гэта—старыя беларускія бацькі.

Да вартасьцей повесьці трэба залічыць добрую тэхнічную будову ўсяго твору, яркае, сакавітае і вельмі жывое апісаньне гульні ў карчме, скокаў, набору некрутаў у Магілеве, апісаньне некаторых малюнкаў побыту, прыгоннае работы і вясельля. Толькі ў апісаньні вясельля ёсьць непатрэбны лішак этнографіі. Застаюцца ў памяці кароценькія, але добрыя характарыстыкі доктара, маршалка, пракуроа.

Верш повесьці сілябічны, па 7 і 8 складоў у радку. Для нашых дзён дасканальнага танічнага вершаскладаньня ён троху шурпаты і вымагае прызвычаенасьці ў чытаньні, а для тых часоў і наагул—ён даволі лёгкі, жывы і гладкі, добра рыфмаваны.

Мова вызначаецца чыстатосьцю народнай гутаркі, хоць і мае, затое, вульгарызмы, як: „Ананія-ж—воўча юха“, або „Як на быдла, напаў зык“, ці „Чупрыны, як шчэць дрыжаць“ і інш. Есьць дзіўныя сказы, як; „Прыбег к карчме на кані.“ Есьць ня толькі полёнізмы, але і вялікарусізмы (браніцца, пашатнуўся, нет, к ней, возьле, жадна (прагавіта) і інш.). Есьць і цікаўныя, цяпер рэдкія беларускія словы. Між іншым трэба зазначыць, што Марцінкевіч піша места, а ня месца, пеўне, а ня пэўне.

## Вечарніцы (1855 г.)

Зьмешчаныя пад такім назовам два вершаваных апавяданьні зьвязаны тым, што абодва пераказаны на вечарніцах старым музыкай Ананіям.

Дурны Зьміцер, хоць хітры — першае апавяданьне—маець літэратурнае значаньне зусім невялічкае, але важна, як этап у разьвіцьці творчасьці Марцінкевіча. Ідэалы пісьменніка ў беларуска-мужыцкім пытаньні былі такія няхітрыя й кароткія, што ён усё глаўнае пасьпеў сказаць у „Гапоне“. І вось мы відзім, што першая вечарніца бяз'ідэйна. І ў ёй маем сантыментальную чуласьць, дыдактычнатьць, ідылічных, прыгонных людцаў і добрых, жартаўлівых панкоў, але няма паважнай ідэі аўтора. Марцінкевіч проста перарабляе на апавяданьні хадзячыя жарты, дадаўшы толькі тутэйшага колёрыту і некалькі праўдных іменьняў менскіх паноў, навет сваіх прыяцеляў. Гэта сьведчыць, што ён, пісаўшы гэты твор, узыйшоў на ростані, блудзіў на раздарожжы. Літэратурная цана гэтага апавяданьня заключаецца ў апісаньні вечарніц, Менска, характарыстыцы старога Ананіі. Цікавен самы тон і дух апавяданьня і адносіны аўтора да Зьмітра і паноў.

С т а ў р о ў с к і я д з я д ы — другое апавяданьне — сьведчыць, што Марцінкевіч добраю парою зьвярнуў з дарогі жартаў на новы шлях, у бок беларускай міфолёгіі. Быццам прыкра зрабілася дыдактыку навучаць народ такімі мізэрнымі прыкладамі, як тыя прыгоды, што здараліся з дурным Зьмітрам, быццам здалося яму, што гэта—нягодны спосаб літэратурнай творчасьці. І ён добра зрабіў, пачаўшы пакланеньне дыдактызму ў сюжэтах міфолёгічных і паважнейшых. Можна толькі шкадаваць, што ў кірунку „Стаўроўскіх дзядоў“ Марцінкевіч не разьвіўся. Тут быў-бы вялікі простор для яго сантымэнтальнай романтычнасьці і карысьць для нашай чыста-нацыянальнай творчасьці. У „Стаўроўскіх дзядох“ у Марцінкевіча найболей і выяўляюцца пачаткі сьвядома-нацыянальнага чуцьця, хоць, так сказаць, надворна (крывічы-беларусы, слаўны крывіцкі князь Грамабой, гаспадарстваная тэрыторыя і г. д.). Не натуральна толькі, што аб гэтым апавядае аўтор не сам ад сябе, а ўкладае г і с т а р ы ч н а-міфолёгічную веду ў вусны неадукаванага Ананіі. З чыста-літэратурнага боку і гэны твор стаіць нявысока. Ізноў глаўным чынам услаўляецца дабро (ў асобе Касі) і караецца зло (ў асобе Мархвы). Ізноў добрая, ды павярхоўная характарыстыка беларускай дзяўчыны (Касі), каторая дужа падобна да Кацярынкі ў повесьці „Гапон“. Але тут-жа і даволі цікаўная баечная фабула, і прыгожае апісаньне сьвята „дзядоў“, калі прыходзяць Казьляр і Гусьляр ды прыбягаюць дзяды-сабакі, Стаўры і Гаўры. Эпічным прыгажством, сагрэтым беларускай лірычнай мягкасьцю, вызначаецца многа кавалачкаў з гэтага твора. Вось, для прыкладу, апісаньне страў на „дзяды“:

Боршч з саланінай на стол паявіўся,
Кісла верашчака за ім з каўбасой,
Грэцкімі блінамі абрусок пакрыўся,
А далей крупнік з парасем стралой
Ляцеў у талеркі; вячэра сьвятая!
Бадзялася тут-жа лямешка густая,
Панцак, яглянная са скваркамі каша,
То яда мужыцка!—то пацеха наша!

Цікаўна характарыстыка, дадзеная князю Грамабою. Гэта ўсё той-жа ідэал добрага пана па Марцінкевічу: „Коратка дзяржаў ён радных паноў, не папушчаў у крыўду бедных мужыкоў.“ Баяліся яго, такога пана, аканомы і камісары. Свайму сваяку, літоўскаму князю Віту, памагаў ён процiў паганскай сілы аж да самай Воршы, а калі варочаўся з вайны, усе яго спатыкалі, як родненькага бацьку. Віт „радасну сьлёзку кулаком абцёр.“ Часта абціраe сьлёзы і Ананія,—гэ-

та ўсё надворныя, але звычайныя прыметы марцынкевіцкага сантыменталізму.

Як відзім, і з міфолёгіі беларускай, дужа вольна зьвязанай з гістарычнымі іменьнямі і назовамі, Марцінкевіч карыстаў ня столькі для заданьняў мастацкіх, сколькі для моральных.

## Купала (1855 г.).

Народная повесьць „Купала“ выйшла ў 1855 годзе ў Менску, разам з польскімі творамі песьняра ў кнізе „Ciekawyś?—przeczytaj!“ Калі Марцінкевіч пісаў свае „Вечарніцы“, ён, пеўна-ж, ня меў за глаўнае заданьне апісаць беларускія вечарніцы. Але пасьля „Вечарніц“ ён троху інэртна, а троху, разумеецца, дзеля розных псыхолёгічных прычын творчасьці, пішаць „Купалу, адылі „Шчэраўскія дажынкі“, дзе падобнае, так сказаць, апісова-этнографічнае заданьне усе болей вытыкаецца наперад (можа быць і не па добрай волі аўтора). Апісаўшы ў „Купале“, як даўней спраўлялі на Беларусі гэтае нацыянальнае сьвята, аўтор паказуець адносіны паніча і сялянскай дзяўчыны з дыдактычнай разьвязкай. Агатка быццам любіцца з панічом, але сяньня ў іх выйшла прыкрая размова. Паніч, як зусім папсаваная натура, радзіць дзяўчыне, каб ішла за Саўку і гэтак бы ўсе „злыя брэхні“ зрабіла „пустой нябыліцай“, а з ім каб любілася таксама і далей. На вялікую крыўду Агаткі і на яе словы, каб паніч з ёй пабраўся, а не звадзіў і не забаўляўся, ён выказуець такія тыпова-шляхоцкія думкі:

Што-б шляхціц з мужыцкай дачкой ажаніўся?
Я-ж бы меж сваімі тады ня ужыўся!

Хоць з разьвязкі повесьці відаць, што і сам Марцінкевіч, мусіць, лічыў непамыснай справай пабраньне паніча з мужычкай, аднак, ён горача паўстае проці шляхоцкай думкі, што „ня грэх мужычку на чэсьці забіці“. У гэтым заключаецца літэратурная вартасьць твору з ідэйнага боку.

## Шчэраўскія дажынкі (1857 г.).

Гэтая повесьць, складзеная з пролёга (размова пана з войтам Навумам) і дзьвюх карцін (варажба і дажынкі), літэратурную цану мае невялікую: прыгожае пісьменства забіваецца тут этнографіяй. Між іншым, тут найболей, чымся ва ўсіх творах Марцінкевіча, выступае праслаўленьне добрых паноў і сантыментальны пагляд на іх адносіны з мужыкамі. Аўтор аб сваей повесьці кажа: „Бо гэта, браткі, праўда, а ня казка“. Яго словам ахвотна верыцца, відаць, што ён ня

столькі тварыў, колькі проста сьпісываў з жывой запраўдпасьці. Прыгожая дзяўчына сіротка Тадорка вельмі падобна да Касі ў „Вечарніцах“, як тая ўзноў—да Кацярынкі ў повесьці „Гапон“. Агатка-ж узята з „Купалы“. Апісаў аўтор жартам і самога сябе, як гуляў з Тадоркаю, і ў апісаньні пасьмяяўся з пісара:

Пасьля гульпуу з ею Навум Прыгаворка.
Панок весяленькі, разумны, крый Божа!
Яго у розуме і пісар ня зможа,
А пісар наш, браткі, нечага казаць!
У Халапенічах вучыуся чытаць!
Вяліка галоука! мауляу сена стог,
Ды пан загнау яго у казіны рог.
Ен і кніжкі піша, песенькі сьпявае
Так вумны, што усякі мужык панімае.

Карціна частаваньня, калі „паявіўся на шырокі стол цаліком пячоны, прабальшэнны вол“, карціна скокаў з песьнямі, карагоду, паднашэньня дажынковага вянка, — усё гэта напісана з вялікай любасьцю аўтора да рэчы, з захапленьнем красою народнага культа, з колёрытнасьцю і некаторым размахам,— і ў тым літэратурная вартасьць „Шчэраўскіх дажынак“.

## Пераклад „Пана Тадэуша“ (1859 г.).

Пераклад „Пана Тадэуша“ А. Міцкевіча, зроблены Марцінкевічам, друкаваўся ў 1859 годзе ў Вільні „на грошы, што шмат людзёў злажылі, а паміж іх былі і мужычкі“. Дазвол на друкаваньне быў дадзены цэнзарам Кукальнікам. Як толькі былі надрукаваны дзьве першыя быліцы, на места Кукальніка назначылі новага цэнзара, нейкага Мухіна. Той загадаў арыштаваць іх і спаліць; асталося цэлымі дзьве-тры кніжкі. Дык пераклад пабачыў сьвет толькі пасьля 1905 году.

Прадмова перакладчыка напісана была папольску. У ёй Марцінкевіч піша так: „Аповесьць Адама Міцкевіча „Пан Тадэуш“, што так ясна, так шчыра малюець характар, звычаі і абычаі нашых беларускіх паноў часу Наполеона, ужо цяпер (1859 г.) перакладаецца на маскоўскую мову. Чаму-ж, думаю, наш народ просты, што з гэтымі панамі так блізка жыў, чаму-ж дробная акалічная шляхта, што жывучы ў лясным зацішшы, у хаце, між сабою, сваей роднай ужывае мовы—чаму-ж яна ня мае пазнаць абычаеў сваіх бацькоў? Вось гэта ўсё і нагнала мне думку перапажыць „Пана Тадэуша“ на беларускую мову“... Далей перакладчык жаліцца, што праца яго „ў гэтай мове“, каторая мела заахвоціць „нашага беларускага мужыка і бедную шляхту“ да навукі, што яна не знайшла прыяцеляў сярод „тых багатых людзей нашае старон-

кі, што паводле Бога і сумленьня павінны-б памагчы адкрыць цёмнаму народу вочы", гэта, значыцца, сярод абпалячаных вялікіх паноў. Далей ён кажа: „І вось я сяньня ахвярую „Пана Тадэуша", прыбранага ў мужыцкую сярмягу, паном і простаму народу з-над Дняпра, Дзьвіны, Бярэзіны, Сьвіслачы, Вільлі і Нёмна. Можа народ той просты, што з маткай прыродай блізка жывець, прыме гэты гасьцінец ад свайго дудара, што астатнія мінуты свайго жыцьця на карысьць народу аддаець".

Мова пераклада маець ужо розьніцу з жывой народнай гутаркай, аднак, у гэтым няма заганы, а ёсьць заслуга, бо гэта была амаль ня першая спроба нашых новых пісьменьнікаў перайці ад „простай" гутаркі на грунт чыста-літэратурны. У лексіконе перакладу троху ёсьць зусім нязвычных для нас чужых слоў, асабліва для абстракцыйных разуменьняў, але ясна відаць, як пільна высцерагаўся ад іх перакладчык і як ён здалеў немалыя труднасьці. Так аб гэтым пісаў і Кіркор: „Перакладчык змог нясходаныя труднасьці. Пераклад ня толькі верны, але мова ўсюдых гарманічная, зразумелая і асабліва мягкая" („Жив. Рос.", т. III, стр. 327). Бо шмат кніжных беларускіх слоў з нашай залатой пары і гаспадарстванасьці памёрла, а ў цёмным народзе новых падобных ці ня было ці трудна было адшукаць іх, асабліва аднаму чалавеку, абкружонаму непрыязьню да працы. З мовы ж пераклада мы відзім, як у самога Марцінкевіча разьвіваліся пагляды на літэратурнасьць беларускай мовы. Наагул сказаць, пераклад, як першы ў беларускай літэратуры (другі ёсьць зроблены А. Ельскім) і напісаны ў часе нявысокага яе разьвіцьця, можна уважаць за добры, удачны. Сілябічны верш пераклада слабы, з надта даўгімі радкамі (13 складоў).

## Пінская шляхта (1866 г.).

Гэтая аднаактовая камэдыя (фарс-водэвіль) малюець нам жыцьцё і панаравы вакалічнай шляхты ў глушы Піншчыны. Сюжэт стары, вядомы кожнай літэратуры: дзеці любяцца, але ня могуць пабрацца, бо бацькі іх вадзяцца. На гэтым фоне Марцінкевіч вельмі задачна і з добрымі жартамі абсьмяяў шляхоцкі гонар, застарэлыя шляхоцкія парадкі, прыхамаці і цемнату, а таксама хабарніцтва маскоўскіхураднікаў і маскоўскую судовую валакіту. Разам з гэтым добра выстаўлена прыемная прастата шляхоцкага жыцьця ў хатніх справах. Камэдыя напісана надта жыва і сцэнічна. Найлепей змалёваны стара-шляхоцкія партрэты (Ціхон Пратасавіцкі, Іван Цюхай-Ліпскі, Харытон, Куторга), а таксама партрэт „найясьнейшай кароны" Кручкова і дзелавода Пісулькіна. Адна

з вартасьцей камэдыі заключаецца ў тым, што яна паказуець шкоднасьць, сьмяхотнасьць і нажыцьцёвасьць гаспадарствана-і культурна-чужога парадкаваньня на Беларусі. Першы раз „Пінская шляхта“ надрукавана ў 1918 г

## Залёты (1870 г.).

Гэтую сьмяхотную штуку ў 3-х дзеях Марцінкевіч напісаў мешанаю польска-беларускай гутаркаю. Беларускага тэксту было блізка палавіны. На сучасную літэратурную мову „Залёты“ выправіў Я. Лёсік. Композытарка М. Кімонт напісала да іх опэрэтачную музыку. Разгляд „Залётаў“ у зьвязку з крытыкай усяе творчасьці Марцінкевіча добра зрабіў Янка Купала, каторы між іншым пісаў так („Наша Ніва за 1915 г., № 5): „Аўтор опэрэткі В. Марцінкевіч, сам шляхціц, шчыра стаяў на варце інтарэсаў гэрбоўнай шляхты, паноў, і хаця бачыў усе іх заганы, усёжткі ў сваіх творах выказываў думку, што ўся бяда беларускай беднаты паходзіць не ад паноў, а ад панскіх слуг: аканомаў, цівуноў і іншай марноты. Пры шчырай сваей прыхільнасьці да народу, Марцінкевіч ня мог стаць усей душою на старане дэмосу, на старане толькі што выпушчанага з-пад панскай няволі мужыка-беларуса. Для Марцінкевіча гэты мужык ёсьць мужык: можна даць яму і асьвету, можна пазволіць дайці да сякога-такога дабрабыту, але ня можна дапусьціць яго да раўні з панамі. У яго літэратурных працах гэтая цяльба панскіх і мужыцкіх душ перабягае скрозь чырвонай нітачкай, асабліва ў творах сцэнічных. Гэтак у „Залётах“ паны і той навет пан з мужыкоў, Сабковіч, павінны гаварыць папольску, а толькі слугі іх гаворяць пабеларуску,—ды ня гледзячы на тое, што ў той час шмат-дзе па якіх дварох паны гаварылі паміж сабой пабеларуску. Марцінкевіч бачыў, што сярод мужыкоў пачынаецца эволюцыя, што колькісотлетняя паншчына не забіла да апошняга ў мужыцкай душы жаданьня падняцца вышэй са свайго паніжэньня, са сваей беднаты-цемнаты. Паяўляюцца сабковічы, тыя сабковічы-мужыкі, што багацеюць дабром з крыўдай для разбагацеўшых на мужыцкім дабры паноў. Колізіі гэтай Марцінкевіч яшчэ ці ня хоча ці ня можа ўразумець, яшчэ аўтора не патрапіла захапіць хваля вызвольнага ветру з Заходу. І Сабковіч у „Залётах“ гэта ёсьць шэльма з шэльмаў, узьвялічаны аўторам да нейкага горшага гатунку карыкатуры, а не чалавека з яго добрымі і благімі старонамі. Марцінкевіч ня мог падмеціць другіх сабковічаў, другіх дарабковічаў, дарабковічаў ня золата, а духа! Для тых часоў, для сучасных Марцінкевічу чытачоў і слухачоў, „Залёты“, напэўна, мелі вялікую вартасьць, бо напісаны былі не для шырокага

беларускага грамадзянства, а толькі для часткі яго, той касты, што ўмела чытаць і мела за што хадзіць у тэатры. Для цяперашняга беларускага грамадзянства „Залёты“ ёсьць ні болей ні меней як сумны успамін тых часоў, калі людзі думалі і верылі, што ў адных станаў белая косьць у целе, а ў другіх — чорная. Былі „залёты“ пакляпаць мужычка белай рукой па зморшчаным твары ды паказаць яму, як гэта нягодна выбівацца з мужыкоў у паны“.

## Лірыка Марцінкевіча.

Шмат дробных лірычных вершаў было ў Марцінкевіча, але некаторыя пагінулі, некаторыя захованы ў рукапісах і, можа быць, абы-дзе ляжаць забытыя, і толькі зусім малая частка іх трапіла ў друк. Сярод такіх ёсьць.

„Павіншаваньне войта Навума ў дзень імянін панны W. S.“ (1854 г.), дзе аўтор сьпісаўшы розныя пажаданьні, між іншым кажа імяніньніцы: Пацехай будзь у старасьці бацьком, а маткай роднай сваім мужычком“. Верш напісан з жартамі і ахоплен вясёлым гумарам.

„Верш Навума Прыгаворкі на прыезд да места Менска А. Контскага, У. Сыракомлі і С. Манюшкі (1856 г.). І гэты верш напісан падобна да папярэдняга, але з большай паважнасьцю. Ён маець тое значаньне, што сьведчыць аб славянафільстве Марцінкевіча, у каторым пісьменьнік знахадзіў несьвядомы выхад для захаваных пад польскасьцю пачаткаў свайго беларускага нацыянальнага чуцьця. Аўтор кажа: „І нашая ніва вялікімі дударамі уздаволь шчасьліва“.

„Вясна, голад, перапала“... (1860 г.). Гэты верш, як кажуць, захаваўся ў рукапісе самаго Марцінкевіча, але без яго подпісу, а мяркуючы па зьместу і па тэхніцы верша, трудна сказаць з пеўнасьцю, што ён належыць аўторству Марцінкевіча. Верш гэты стаіць у некаторай дзіўной супярэчнасьці з іншымі творамі песьняра і з яго паўсёдным сьветаглядам. Можна думаць, што твор гэты ёсьць частка якой-небудзь ананімнай „мужыцкай гутаркі“, хадзіўшай у народзе (падобна „Гутарцы Данілы з Сьцяпанам“ П. Бахрыма) і трапіўшай у рукі Марцінкевічу, каторы ў зьвязку з пераджываным пяродаднем скасаваньня паншчыны выправіў яго на свой лад і пусьціў ізноў у ход без свайго подпісу. А можа і сам аўтор-пан напісаў яго пад якім-небудзь вялікім ўражаньнем, калі на мамэнт адчуў, што спакойная дыдактычнасьць яго твораў нікаліва не парушыць паноў, каб памаглі няшчаснаму народу, што ратунак можа быць толькі пасьля скасаваньня паншчыны. Можна і не знахадзіць тут

ніякай супярэчнасьці, бо напісаць у такім тоне мог не правадыр грамады, а толькі чалавек, каторы сам разьвіваецца з разьвіцьцем ідэй у грамадзе (а гэткі быў Марцінкевіч); напісаць мог ня мужык, а пан, якому здавалася, што ён дужа добра разумее і перахазуець мужыцкую душу. Калі дапраўды верш гэты напісан Марцінкевічам, ён маець важнае значаньне для разгляду творчасьці песьняра і для характарыстыкі панскіх настрояў таго часу; ён сьведчыць, што перад рэформай спуджаныя думкі ляцелі шмат далей наўперад, чымся тое спраўдзілася, і патрабавалі абнізіць сваю трывогу нейкай звычайнай жартаўлівасьцю ці рацыяй поступу; ён-жа можаць дапаўняць ілюстрацыю марцінкевіцкай, так сказаць, пядзейнасьці, слабасьці яго нацыянальна-соцыяльнай ідэолёгіі, пры каторай не магло пачацца запраўднае адраджэньне беларусаў, ня гледзячы на суседзтв з шаўчэнкаўскаю Украінаю. Гэты верш Марцінкевіч не друкаваў ды й ня мог надрукаваць, бо заўсёды баяўся папсаваць свае адносіны з панамі, якія жартаўліва-прыхільна пазіралі на яго беларускую творчасьць толькі ў такой меры, у якой на тое дазвалялі іхныя панскія інтарэсы.

**Агульны пагляд на творчасьць Марцінкевіча.** Панскасьць замінала яму глянуць глыбей, са ўсей шчырасьцю, на панска-мужыцкія адносіны і паважна закрануць соцыяльныя проблемы. Як запраўдны пясьняр і дзеля таго найбольш сумленны і чулы чалавек свайго часу, ён толькі найлепей адчуваў пульс жыцьця і патрэбы народу, але, як пан, ён радзіўся і памёр з нічога нявартай соцыяльнай ідэолёгіяй, каторая для мужыкоў мела такі артыкул:

Хваліць толькі бога, шчыра працаваці,
Любіць добрых панау, мауляу родных браці,—
Вось вашае дзела...

Ен ідэалізуе сялян, каб збудзіць у паноў спагаднасьць да іх і тым палепшыць горкую мужыцкую долю. Але гэта ёсьць толькі абы-якое замірэньне панскасьці з пясьнярскай ідэйнасьцю, той компроміс, каторы ідзець у Марцінкевіча поруч з некаторай безпрынцыпнасьцю, бо вымагае ад песьняра посьле тых вышэйшых радкоў даволі спакойна, неўзварушона сказаць за мужыкоў:

Будзем роуныя з панамі,
Будзем самі, як паны...

Не зачапляла творчасьць Марцінкевіча вялікіх агульна-чалавецкіх проблем. Круг яго ідэй шчыльна абмежаваны. Пісьменьнік дужа любіў беларускую прыроду і беларускае

жыцьцё і надта добра ведаў сялянскі побыт. Дзеля таго малюнкі сялянскага жыцьця—няйлепей яму задаліся; гульня ў карчме, вясельле, варажба, дажынкі, купальле—лепшыя часткі яго твораў. Дыдактызм Марцінкевіча стануў і ў добрай і ў благой прыгодзе для творчасьці: дзякуючы яму, пясьняр меў звычайны, але важны ў пісьменстве пагляд, што прыгожая літэратура павінна пабуджаць у людзёх лепшыя староны душы; але пільнуючы дыдактызму, Марцінкевіч траціў на літэратурнасьці. Тыпы ў Марцінкевіча нявыразныя. Усе героіні яго повесьцей, добрыя беларускія дзяўчаты, ахарактызаваны агульнымі, рыторычнымі фразамі і дзеля таго сплываюцца ў адзін нявыразны выгляд. Маючы многа падабенства з Чачотам, Марцінкевіч, аднак далёка назадзе кідаець яго ў расточках несьвядома-нацыянальнага чуцьця і ў паглядзе на літэратурнае значаньне беларускае мовы. Даўшы прыклад беларускай повесьці і камэдыі і пераклаўшы „Пана Тадэуша,“ ён першы паказаў, што беларуская мова—мала таго, што не цяжкая, не такая няўломная, як прызвыклі думаць у часе нашага заняпаду, ала што яна—гладкая, гібкая, пявучая, лірычная, багатая на словы і звароты, каторых даволі ёсьць, каб выказаць Адама Міцкевіча. Далёкі ад нашай сучаснай сьвядомасьці, як далёка неба ад зямлі, Марцінкевіч тымчасам сеяў беларускасьць поўнаю жменяю. І яго стродкі судзьдзя Я. Купала з удзячнасьцю пяе аб ім (1910 г.):

Як стораж, стаў сьмела на варце
Радзімых запушчаных гоняў,
Стаў сеяць пасвойску ўсё тое,
Што мы далей сеем сягоньня...

Надрукаваў Марцінкевіч пабеларуску болей за ўсіх нашых пісьменьнікаў 19-сталецьця. Кніжкі йшлі ў народ. І, як ведаем, поэт Алесь Гарун няўся пачаткаў кніжнай беларускасьці па выпадкова знойдзенай, падранай кнізе—повесьці „Гапон“ Марцінкевіча.

## Вінцэсь Каратынскі.

**Уплыў Марцінкевіча.** Вінцэсь Каратынскі пачаў пісаць пабеларуску пад уплывам Марцінкевіча. У 1856 годзе быў ён разам з Сыракомляю ў яго ў гасьцях, у Менску, і, як новы малады беларускі поэта, напісаў вершык, у каторым славіць гасьціннасьць Марцінкевіча і дзякуець за яго ласку.

**Літэратура Каратынскага.** Пісаньне беларускіх вершаў было быццам нейкім дадаткам да літэратурнай працы пісьменьніка ў польскай мове. Надрукавана яго беларускіх вершаў і наагул памятак яго творчасьці ў беларускай мове пакуль што зусім мала. Сярод іх ёсьць такія рэчы: 1) „Уставайма, браццы, за дзела, за дзела“! 2) верш ў альбоме А. Дарэўскага-Вярыгі, 3) элегія „Туга на чужой старане“ і 4) рэволюцыйная вершаваная брошура „Гутарка старога дзеда“.



В. Каратынскі (Музэй Я. Луцкевіча).

1. У 1858 годзе ў Вільню прыязджаў цар Аляксандар Другі. Яму паднясьлі альбом, у каторым былі зьмешчаны творы, напісаныя ў тутэйшых мовах. Ад „літоўска - русінскай мужыцкай грамады“ быў у ім беларускі верш Каратынскага „Уставайма, браццы, за дзела, за дзела!“ Пясьняр, карыстаючы з прыгоды віншаваньня цара, каторы едзець на Беларусь, даволі празрыста гаворыць аб тым, якая ноч пануе над родным краем, як цяжка жывецца мужыку-беларусу. І відаць, што Каратынскі меў вольную і чулую душу запраўднага песьняра з пераважаючымі грамадзянскімі настроямі. З літэратурнага боку гэты верш, як на той час, зусім беззаганны; словы ліюцца вагам, плаўна і вольна. Есьць прыгожыя абразы, добра ўжытыя параўнаваньні і розныя іншыя фігуральнасьці. Настрой выдзержаны, як мае быць, спачатку да канца. Мова літэратурная, а блізкая да народнай гутаркі.

2. Лірычны вершык, зьмешчаны ў альбоме А. Дарэўскага-Вярыгі (1858 г.), вызначаецца тым, што паказуець у Каратынскім, як песьняру-грамадзяніну, зусім ясныя пачаткі нацыянальна-беларускіх і соцыяльна-народных тэндэнцый:

І зямля тут твая,
І народ, як сям'.
Ён з табою з вякоў
Адно цела і кроў...

Аўтор вельмі абразна кажа, што запросіць людзей з вёсак слухаць наддзьвінскага дудара, каторы будзе пяяць аб роднай зямліцы, аб „мужыцкіх панох“, аб свабодзе людзей... На гэтыя запросіны паваліць увесь народ, як мухі на мёд. Аўтор, жадаючы здароўя дудару, спадзяецца, што з дударовых песьняў, калі яны ўзыйдуць, „будзе хлеб для душы“. Верш—дужа музычны, лёгкі, бойкі. Настрой поўны бадрасьці, жыцьця. Пясьняр верыць у сьветлую будучыну і даець гэтую веру чытаньніку.

3. Элегія „Туга на чужой старане“ напісана пад запраўдным поэтычным натхненьнем, пад засмучона-далікатным, поўным пачуцьця настроем. Навет сярод вершаў сучаснай беларускай лірыкі гэтая элегія Каратынскага вызначаецца поэтычным прыгажствам і вабнай падкупаючай шчырасьцю. Тут ня чуецца кніжнасьці, тут павяваець прыемным пахам творчасьці самаго народа. Поэт так пранікся ў успамінах абразамі роднага краю, туга на чужой старане спарадзіла ў ім такую вялізарную асоцыяцыю родных уяўленьняў, што ён няўпрыцям сам запяяў, як пяе народ:

Ой, саколка, ой, галубка!
Ня пытайся, не,—
Што мне тошна, мая любка,
У гэтай старане...
Я-ж зямліцу меу радную,
Быу слабодзен сам.
Ох, ці днюю, ці начую,—
Я усе там ды там

Там знаходзіў поэт адгалос на ўсе праявы свае маладыя душы, а тут як ні гукае, ніякага адгалосу няма. Успамінаюцца яму дзяўчаткі роднаю краю. Яны палілі ў дзяцюку агонь жыцьця, хмялілі яго сваім паглядам. А цяпер чоран яму цэлы сьвет, ён адзін, як кол, смутна глядзіць праз ваконца. Ён жаліцца: „Ад зарыцы да зарыцы туга кроў мне п'ець“... Музыку да элегіі напісаў у тым-жэ часе селянін з Наваградчыны Вінцэсь Клімовіч. Орыгінал верша і нотаў знаходзіцца ў архіве газэты „Наша Ніва“.

4. „Гутарка старога дзеда“ выйшла двума выданьнямі: у 1861 годзе ў Пазнані і ў 1862 годзе ў Парыжу. Паміж імі ёсьць некаторая розьніца. Значаньне „Гутаркі“ не літэратурнае, а гістарычна-літэратурнае. Верш тут горшы, чымся ў іншых рэчах Каратынскага, але гэтакі-ж энэргічны;

Эй, скажыце, добры людзі,
Што ужо на сьвеце будзе?
Чы-то так бог судзіу з намі—
Прапасьць па век маскалямі?

Заданьні брошуркі рэволюцыйна-агітацыйныя, але ня столькі беларускія, колькі польскія. Аўтор кажаць аб дужа цяжкой долі беларускага народа пад маскальскім уціскам, пераличае, колькі ёсьць рознага ліха і бяды ад яго, як падаткі, некруцкая павіннасьць, чыноўнікі, адбіраньне касьцёлаў на цэрквы і г. д.; даводзіць, што ў Севастопальскую вайну французы ішлі ратаваць палякоў і беларусаў; засьцерагае, каб ня мелі веры папам, быццам маскалі скасуюць паншчыну, і т. д., — а ўсё гэта робіць дзеля таго, каб усе беларусы пайшлі разам з палякамі, як толькі на вясну, „дасьць бог, грянець француз, паляк з жаўнярамі“. Ен пацяшае, што пайшоўшы з палякамі, „будзем роўныя з панамі“.

**Каратынскі ў нашай літэратуры** —пясьняр новашляхоцкай школы. Абпалячанасьць і палітыка вымагала ад яго той тэндэнцыі, якой ужыў ён у „Гутарцы старога дзеда“ і якая так замінае ў яго творчасьці. Каратынскі быў пясьняр здольны, але ён глядзеў на літэратуру, як на спосаб спаўненьня розных палітычных і грамадзкіх цэляў. Дзеля гэткіх прычын ён не скарыстаў у нашай літэратуры з сваё здольнасьці ў поўнай меры. Далёкі ад беларускай сьвядомасьці, Каратынскі быў, аднак, тым слаўным „крывічанінам“ у польскай сфэры, слова каторага сеяла беларускую сьвядомасьць.

## Арцём Дарэўскі-Вярыга.

Ен быў родам з Віцебшчыны (н а д д з ь в і н с к і д у д а р). Пісаў папольску. Праслухаўшы „Пана Тадэуша“ ў беларускай мове, ён заахвоціўся сам і пераклаў „Конрада Валенрода“. Пісаў Дарэўскі пабеларуску многа, але творы яго ня былі друкованы, апрача некалькіх невялічкіх вершыкаў. Загінулі ці дагэтуль ня знойдзены яго лепшыя, як сьведчыць Кіркор, творы, гэта: 1) „Гутарка з пляндроўкі па зямлі латышоў“, 2) „Паўрот Міхалка“, 3) „Быхаў“, 4) пераклад „Конрада Валенрода“ і іншыя рэчы. А ёсьць пеўныя весткі, што яны, асабліва астатні твор, былі значна пашыраны ў рукапісах. Захаваліся яго такія вершы: 1) „Л і ц ь в і н а м, з а п і с а ў ш ы м с я ў м о й а л ь б о м, н а п а ж а г н а н ь н е“ (1858 г., Вільня), 2) „М у ж ы ч а я д у м к а з в а к о л і ц В і ц е б с к а н а а г а л а ш э н ь н е в о л ь н і ц ы“ (1858 г.) і 3) а д р ы в а к, надрукаваны ў брошурцы Р. Зямкевіча „Адам-Ганоры Кіркор“, у каторым Дарэўскі пішаць да Кіркора так:

Адаська, родны Адаська!
Як мы цешымся з цябе!
Душа твая зусім паська,
А горнеш усіх к сабе.
Мурашачка працавіта,
Хвала, брат, сіле тваей!
Як нашы у пуню жыта,
Кладзеш усе у музэй.
Будзь здароу! Н я х а й - ж а  п і л ь н а
Т а к  у с е  р о б я ц ь  с в а е . . .
і г. д.

**Альбом А. Дарэўскага-Вярыгі,** пісаны папольску і пабеларуску, надта цікаўная літэратурна-гістарычная памятка. У вальбоме адбіліся краёвыя сымпатыі, тэндэнцыі, думкі і жаданьні беларускай інтэлігенцыі польскай культуры. Альбом сьведчыць і аб тым, што тыповы прадстаўнік і болей-меней правадыр гэтай інтэлігенцыі Дарэўскі многа і добра пісаў пабеларуску. З беларускіх запісяў, апрача раней разгледжаных, цікаўны ў альбоме гэтакія:


А. Дарэускі - Вярыга (музэй Я. Луцкевіча),

1. М. К а р а т к е в і ч (1858 г, Менск) напісаў:

Беларускі дудару!
Радасна таму гаспадару,
К каторому на парог
Зашлець цябе господ бог.
Бо ты, мілы дударэнька,
Так іграеш харашэнька,
Што душа аж расплывецца
Што аж сэрца затрасецца,
А ад радасьці сьляза пальецца...

2. Я к у б  Т — к і (1858 г., Магілеў) запісаў ў альбом Дарэўскаму, што ён надта радуецца такому гасьцю і што сам хацеў-бы іграць на сваёй жалейцы так, як госьць умее іграць на дудзе. Параўнаваньне жалейкі з дудою трэба тут разумець так, што і Якуб Т—кі пісаў беларускія творы, але свае поэтычныя здольнасьці ставіў многа ніжэй за здольнасьцяў Дарэўскага. Якуб Т—кі навет гардзіцца сваёй блізкасьцю да поэты Дарэўскага, ён кажа:

Слоупа з неба божы дар,
Панаддзьвінскі дудар
Завярнуу у маю хату,
Як бы к куму, або свату...

3. Я. Вуль у вершу „К дудару Арцёму ад наддзьвінскага мужыка“ (1859 г., Віцебск) між іншым пытаецца ў Дарэўскага, што яму „прысьпела сьмела песьні завадзіць?“ Ен з засмучэньнем кажа: „Ці то лёгкае, брат, дзела нашу брацьцю прасьвяціць.“ Значыцца, Дарэўскі сьмела завадзіў беларускія песьні і ў нацыянальна-краёвым духу прасьвячаў сваю сфэру. Як высака цанілі гэтую працу песьняра разумнейшыя сучасьнікі, відаць хоць-бы з таго, што Вуль, прызнаючы і горача вітаючы пашырэньне сьвядомай беларускасьці, пацяшаець песьняра ў яго трудах тым, што бог падаруець яго вянком з рож і васількоў:

Белы рожы—то за гэта,
Што ты совесьць беліш нам,
Што нас вывеу ад Яхвета
Хоць наш бацька, кажуць, хам...

4. Апрача таго, ёсьць ў „Альбоме“ цікаўныя запісі Сыракомлі, Кіркора (Ян са Сьлівіна), Марцінкевіча і іншых выдатных сучасьнікаў Дарэўскага.

**Дарэўскі ў нашай літэратуры** — пясьняр нова-шляхоцкай школы і найболей сьвядомы будзька беларускасьці. Пад уплывам Дарэўскага навет Рыпінскі пачуў сябе беларусам. Як тое пішуць, і да народу беларускага стаяў Дарэўскі найбліжэй і найпрасьцей, натуральней за ўсіх сваіх папярэднікаў. Аб пясьнярскіх яго здольнасьцях і аб рэзультаце іх выкарыстаньня мы можам меркаваць толькі па прысуду людзей таго часу. Але ў нашым адраджэньні, якое цесна зьвязана з разьвіцьцем нашага пісьменства, Дарэўскі прыслужыўся ня столькі пісаным, сколькі жывым словам і жывым прыкладам.

## Рукапіснае народнае пісьменства.

У часе залатой пары, як ведаем, беларуская старадаўная кніжная мова і беларуская літэратура былі зусім мала зьвязаны з беларускай народнай моваю і народнай творчасьцю. Прасьвета стаяла нізка, народных школ, можна сказаць, ня было, пісьменства насіла царкоўны характар, дык дзеля гэтых прычын народ беларускі жыў выключна сваёю вуснаю творчасьцю. Ды магчыма, што ўжо ў 16 сталецьці некаторыя кніжныя беларускія творы пайшлі ў народ, як гімны у славу сьвятых, розныя канты і псальмы; пашыраліся яны

вусным і рукапісным спосабам. Пашырэньню спрыяла, асабліва ў пазьнейшы час, уніяцкая вера і царква. Потым наступае гэткі чорны час, што ўся наша літэратура пераходзіць на падобнае, казаў той, рукапіснае палажэньне, бо іначай яна не магла разьвівацца. Скрозь усё 18-е і нейкі час у 19-м сталецьпі беларуская літэратура была найбольш рукапісная. Просты народ, ня зусім яшчэ абпалячаная ці абмаскаленая шляхта і духавенства толькі ў рукапісе і віdзелі сваё прыгожае слова. Прыўчыўшыя да гэткага парадку, як да звычаю, быццам ня ведаўшы другога спосабу, людзі вельмі прыхільна, ахвотна і старанна чыталі, слухалі, пераказывалі, пісалі і пашыралі рукапісныя творы ў роднай мове, аб чым сьведчыць гісторыя псальмы „О, мой божа, веру табе“, макаранічнага верша, поэмы „Рабункі мужыкоў“, розных так званых гутарак. Прыкладам можа быць і тое, што і ў нашы дні рэдкі бадай стары чалавек з беларускай народнай інтэлігенцыі не прадэклямуе ўсяго чыста „Тараса Палясоўшчыка“, заўчонага па сьпіску. Многія беларускія рукапісныя творы назаўсёды пагінулі; некаторыя запісаны этнографамі ў перайначаных і перакручаных кавалачках, рэдка калі цалі-ком; большая частка іх—творы бяз'іменныя, а як дакого з іх і прыпісалі ў пазьнейшы час імя аўтора, дык з няпеўнасьцю. Асабліва былі пашыраны гутаркі, форма індывідуальнай творчасьці і яўна мужыцкага аўторства, калі толькі з іх ліку выкінуць тыя тэндэнцыйныя брошуркі і праклямацыі ў беларускай мове, што пісалі польскія паны-паўстанцы і маскоўскія чыноўнікі. Значаньне гутарак і наагул рукапіснага народнага пісьменства заключаецца ня толькі ў звычайнай ролі народнай вуснай творчасьці, але яшчэ і ў тым, што яны заўсёды варушылі у беларускім народзе думку, што ён мог-бы тварыць і друкаваную індывідуальную літэратуру. Ці ж аб гэтым не кажуць цяпер творы Старога Уласа, Лявона Лобіка і другіх беларуска-мужыцкіх песьняроў? Трэба зазначыць, што нашы гутаркі, нашае народнае рукапіснае пісьменства—гэта ёсьць пракуда і пракуда нацыянальна-беларуская.

I. За прыклады рукапіснага рэлігійна-духоўнага пісьменства, надта даўныя па часу напісаньня, можна уважаць такія псальмы, створаныя пасьля заводу друкаваньня на Беларусі: 1) „О, мой божа, веру табе“; 2) „Стары Восіп барадаты ўспалохаўся, скочыў з хаты“; 3) „Хімка з Агаткаю, дзьве маладзіцы, прынясьлі на куцьцю па латушцы пшаніцы“; 4) „Прачыстая сярод ночы пусьцілася з усей мочы, плачучы, на гроб хрыстоў, на Гальгофу меж кустоў“; астатні верш даволі лоўка складзен на

біблейныя мотывы некім са старадаўных пісьменных людзей, знаёмых добра з царкоўна-славянскай мовай і з апокрыфічным пісьменствам; 5) апрача таго, сюды-ж трэба залічыць ражственскую драму „Цар Максіміян“; 5) тэксты „бэтлеек“; 6) розныя новыя псальмы невядомых аўтораў, складзеныя на манер даўнейшых, але меней паважныя і болей сьвецкія, як ца прыкладу, „Лаўрыя“:

Прашчай, мацъ сьвятая Лаурыя,
Шчэ й Вусьпенскі намастыр!
Як ты, мацъ, мяне уласкала
І спакой ва усім дала,
Тады сэрца мае спала
І душа ува мне цьвіла..»

А адзін біблейны верш гульлівага пііты пачынаецца так:

Сьціхі пісаны у нядзелю рана,
Галава п‘яна, многа набалтана.
Ад Адама і да Хрыста набалтау іспраста,
Гдзе бог Адама стварыу рукама...

II. Прыкладаў сьвецкага рукапіснага пісьменства надта многа. Падзяліць іх можна на 1) розныя творы і 2) гутаркі. Да першай часткі трэба залічыць макаранічны верш „Яко ценцерук у лесе балбоча“, беларускую «Энеіду», вершы П. Бахрыма, „Тарас на Парнасе“, „Рабункі мужыкоў“, „Конрада Валенрода“ у перакладзе Дарэўскага, жартаўлівыя апавяданьні, як „Сьведка“, „Дзядзіна“ і інш., а з пазьнейшых „Панскае ігрышча“, творы А. Абуховіча, нелегальныя вершы Цёткі, Я. Коласа і шмат чаго іншага.

Гутаркі пападаюць ў этнографічныя зборнікі ў першай палавіне мінулага сталецьця. Яны й дагэтуль не перасталі яшчэ хадзіць па Беларусі, але ня столькі ў рукапісах, сколькі ў пераказах і ужо без асаблівага пасьпеху. Сярод іх прыметны тыя, што з мужыцкім паглядам малююць прыгоншчыну. Яны важны з літэратурна-гістарычнага боку, бо запаўняюць хоць троху пусткі, створаныя аднабокасьцю шляхоцкай літэратуры. Некаторыя гутаркі ўжо прыпісаны аўторству таго ці таго пісьменьніка, а бяз‘іменных шмат болей. Асабліва популярны такія гутаркі невядомых аўтораў:

Гутарка Паўлюка, у каторай цікаўна, між іншым, тое, што ў пашырэньні п‘янства вінавацяцца паны:

Пан карчмы навыстауляе,
З браварох гарэлку дастауляе...
Хоць і пан цьвярозых любіць,
А усе-ж гарэлкаю людзей губіць.

Гутарка Кузьмы з Апанасам, каторая такса-ма малюець часы прыгоншчыны. Аўтор ганіць сялянскі но-

быт, наракае на гарэлку і цемнату, малюець цяжкое жыцьцё панскіх паддавых. Кузьма гаворыць:

Цяпер панскія прыгоны,
Падводныя ды часты згоны
Ад цэрквы адвучылі нас.

Казаньне[1]) — гутарка, якую і дагэтуль можна пачуць з народных вуснаў ці знайці ў спісках у сялянскай інтэлігэнцыі на ўсходзе Беларусі. Яна абыймаець розныя староны прыгоннага жыцьць нашых дзядоў, але пісана, як відаць, духоўнаю асобаю з нахілам да моральнай навукі. Аўтор выступае з войстраю сатыраю·

Вот цяпер які люд стау,
Хіцер, зол, нядудал, лукау.

Соцыяльныя непарадкі псуюць людзей:

Хто бяз грошы і бяз хлеба,
Тых людзей і нам ня трэба,
А калі ды хто багат,
Кожнаму і сват і брат.

Беднаму заўсёды дрэнна:

А бядняк душой будзь чэсьцен,—
Ен і злодзей і бязчэсьцен.

Нідзе няма парадку і спакою, у кожнай хаце звадкі, — гневаюцца задарма бацькі, а дзеці ня маюць ладу з іхнага прыкладу. Людзі—„злы, завісьлівы, суцягі, п'яніцы альбо плуцягі, непакорны, драчуны, сквапныя да чужбіны". Пан характарызуецца гэтак:

Зьдзярэць сьпіну аж да пят,
Хоць-бы хто й нявінават...

Падобна апісуецца далей цемната, п'янства, нядбальства, старэцкае жыцьцё і інш. Гутарка напісана пад царкоўнае казаньне і выгукае ў памяці эпоху казаньняў 17-га сталецьця.

Маладзікова гутарка мае сатыру на ганарлівых дзяўчат, дачок заможных гаспадароў.

Вясельле Сапрона, гутарка, якая маець сьмяхотнасьць і жартаўлівасьць ды лёгкую сатыру на ганарлівых бацькоў сватаная.

Як відзім, гутаркі нашы, ня маючы выдатных літэратурных вартасьцей, тымчасам могуць здаволіць духоўную патрэбу чытаньнікаў з беларускай сялянскай сфэры. Яны ахопліваюць жыцьцё з усіх бакоў, у іх ёсьць пясьнярская абразнасьць, прабіваецца жывы народны гумар, хоць гэтаму і пе-

1) У друк «Казаньне» папала з рук Івана Насовіча, катораму падаў яго у 1848 годзе уніяцкі сьвяшчэньнік з Амсьціслауля Гр. Бочка. Мною запісана у той-жа рэдакцыі у 1912 годзе ад свата майго Гаурылы Панасавіча Дзямянка з Большай Багацькаукі, 7 верст ад мясьцечка Шамава (Амсьціслаушчына). М. Г.

рашкаджае цьвёрдая прымета сялянскай творчасьці—моралістыка; верш гутарак зазвычай даволі гладкі і лёгкі, а мова чыстая.

## Бібліаграфія.

1. Г. Арцімоўскі.—Пісаў у 40 гадох 19-га сталецьця. Захаваўся яго пераняты з А. Міцкевіча верш „Паня Твардоўская.“

2. Уладыслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч), польскі пісьменьнік-родам беларус, пісаў троху і пабеларуску. У 1848 годзе ён напісаў верш „Добрыя весьці,“ каторы малюець тую будучыну, калі палякі і беларусы скінуць ярмо маскалёў.

3. Пранцішак Вуль (Пранцішак - Ялегі Карафа-Корбут), памёр у Варшаве ў 80 гадох 19 ст. У яго зьбіраўся варшаўскі беларускі гурток. Апрача верша ў альбоме Дарэўскага, ёсьць у яго і другія беларускія творы. Ен меў нямалыя поэтычныя здольнасьці, добра валадаў беларускім вершам і добра ўмеў мову.

4. Ксавэры Нядзьведзкі блізка 1854 г. падаў у пецярбурскую акадэмію граматыку беларускае мовы.

5. Адам Кіркор (Ян са Сьлівіна), родам з м. Сьлівіна з Магілеўшчыны. Вядомы беларускі культурны дзеяч і пісьменьнік 60 гадоў 19 ст. Пісаў пабеларуску, папольску і памаскоўску. Працаваў над этнографіяй, гісторыяй, літэратурнай крытыкай, гісторыяй літэратуры і популярызацыяй беларусазнаўства. Зьбіраў Віленскі музэй.

6. Ян Шамёт-Палачанскі (1826 — 1905) напісаў „Пагром у Даўгінаве“, „Ашмянскую рэзь“ і інш.

7. Іван Іванавіч Насовіч (1788—1877), родам з Амсьціслаўля, з Магілеўшчыны. Пахадзіў з уніяцкага духавенства. Яго літэратурная праца прыпадае на 60—70 гады 19 ст. Уславіў яго і па нашы дні вялікі „Беларускі слоўнік“, матар'ял для каторага ён пачаў зьбіраць у 1848 г. У сьвет кніга выйшла ў 1870 г. „Слоўнік“ мае больш за 30 000 беларускіх слоў, аднак, сярод іх няма многіх звычайных слоў, як: маці, дзіця, кашолка і інш., і не пералічаны словы агульныя для нас і для нашых суседзяў. Заганы слоўніка, апрача таго: прынята цьвёрдае і мягкае мсьціслаўскае „р“, няма „ў“ і інш. Насовіч напісаў яшчэ „Зборнік беларускіх прыказак і загадак“, „Беларускія песьні“ і зборнікі народнага рукапіснага пісьменства.

8. Фэлікс Тапчэўскі (Хвэлька з Рукшэніц), жыў у Лепельскім павеце, у Віцебшчыне. Напісаў многа беларускіх вершаў, асабліва ў 80-х гадох 19 ст. Пісьменства яго было выключна рукапіснае. З твораў яго прыметны: „Вечарынка“, верш з сакавітым апісаньнем панскага баля ў Ухвіцы; „Саўсім ня тое, што было“ — даўгі верш, у каторым малюецца даўнае панскае жыцьцё на Беларусі і раўнуецца яно да жыцьця заняпалых паноў - сучасьнікаў песьняра; „Грошы і праца“ — услаўленьне мужыцкай працы:

Кажуць, мужык—хам, няцнота,
Гультай, шэльма, усе ліха!
А чыя-ж гэта работа?..

„Ен і яна — абразок каханьня. Мова Тапчэўскага чыстая і прыгожая, блізкая да народнай. Верш яго лёгкі і плаўны. У творчасьці Тапчэўскаго ня знойдзем новых ідэй, але тыя звычайныя абразы, якія добра змалёваны ў яго творах, цікавяць і вабяць сваёю колёрытнасьцю.

9. Адам Гурыновіч, родам з Вялейшчыны. У 1893 годзе сядзеў паўгода ў пецярбургскай крэпасьці. Пісаў пабеларуску прозу і вершы, зьбіраў народныя песьні ў Лідзкім павеце. Захаваліся яго рукапісы з штэмпелямі крэпасьці Памёр у 1894 г. Гурыновіч выдаў кніжку: „Дзядзька Антон, або гутарка аб усім-чыста, што баліць“.

10. Аляксандар Ельскі (1834—27 жніўня (ст. ст.) 1916 г.) — астатні тыповы прадстаўнік шляхоцкага кірунку ў нашай літэратуры. Гэта быў багаты пан з Меншчыны (двор Замосьце). У 1861 г. А. Ельскі быў за судзьдзю ў Ігуменшчыне. Ен дружыў з Марцінкевічам. З 1864 г. А. Ельскі зьбіраў старадаўныя памяткі для беларускага музэя і меў шмат рукапісаў і дакумэнтаў. З яго беларускага пісьменства трэба адзначыць такія рэчы, як 1) пераклад „Пана Тадэуша“ А. Міцкевіча (Львоў, 1892 г.), 2) „Сынок“, вершаванае апавяданьне (Пецярбург, 1895 г.), 3) „Выбіраймася ўпрочкі!“ прозаічны артыкул (Пецярбург, 1896 г.), 4) „Аб жыцьці і сьмерці п'яніцы“ і інш. У сваіх народных апавяданьнях А. Ельскі навучаў беларускі люд, як трэба жыць, засьцярагаў ад перасяленьня ў Сыбір, дакараў за розныя заганы, асабліва за п'янства (Слова аб праклятай гарэлцы“). Апрача таго, А. Ельскі працаваў над беларусазнаўствам, пісаў па гісторыі беларускай літэратуры. Ад сучаснай беларускай сьвядомай працы, ён, як пан і вельмі стары чалавек, стаяў воддаль, але часам памагаў.

# Агульны пагляд на новую беларускую літэратуру.

1. Новая беларуская літэратура ня маець нічога надта выдатнага, сусьветнага. Прычына такога яе разьвіцьця хаваецца ў адсутнасьці нацыянальна-гаспадарстванай незалежнасьці Беларусі і ў несправядлівым социяльным парадку. Стаць вялікім пісменьнікам мог-бы толькі нацыянальна і социяльна сьвядомы беларус. Тымчасам социяльнае зло забівала творчасьць П. Бахрыма, ня пускала ў кнігу народных гутарак і стварала хворую аднабокасьць шляхоцкай літэратуры. Адсутнасьць нацыянальнай незалежнасьці забівала ўсякае разьвіцьце беларускай культуры, забараняла з у с і м беларускую кнігу і стварала цемнату народа, рэнегатства інтэлігенцыі і нацыянальную несьвядомасьць пісьменьнікаў, каторыя, трэба памятаць, маглі быць толькі з паноў. Пісьменьнік-п а н і рэнегат ў і д э о л ё г і і ня мог стварыць нічога вялікага беларускага, як-бы ён ня быў нацыянален па псыхіцы, мове і жыцьцю.

2. У залежнасьці ад нявысокага агульнага разьвіцьця новай беларускай літэратуры было дужа слабое разьвіцьце прыгожай беларускай прозы за ўвесь гэты час.



# III. Навейшая беларуская літэратура.

## Народніцкая пара.

(Ад 80-х гадоў 19 ст. да 1905 г.).

**Пачатак навейшае літэратуры.** У 80-х гадох 19-га сталецьця зьявілась прыкметнае ажыўленьне беларускай думкі. З аднаго боку пісьменьнікі з каталіцка-панскай сфэры, як Тапчэўскі, Абуховіч і інш., чуючы, як патроху слабнець мёртвая пятля, накінутая Мураўёвым, пачалі хоць рукапісным спосабам, адылі болей а болей урабляць літэратурны беларускі грунт, створаны Марцінкевічам, і рыхтаваць яго для натуральнай перадачы ў рукі людзей зусім новай школы. З другога боку і маскоўскія пісьменьнікі-родам беларусы прыйшлі на сваю ніву і сталі рабіць тое, што ўжо даўно рабілі польскія пісьменьнікі-родам беларусы; яны сталі працаваць над беларусазнаўствам і, між іншым, сваёй этнографічнай, філёлёгічнай, гістарычнай і падобнай работаю тварыць зьбіральны час у гісторыі роднай літэратуры. Сталі зьяўляцца важныя апісаньні беларускага побыту і ў маскоўскай народніцкай белетрыстыцы, як, да прыкладу, „Багачы“ Брайцава, повесьць з беларускага народнага жыцьця (Масква, 1889 г.). У гэтую-ж пару ў розных вялікіх гарадох Расеі і заграніцы студэнты-беларусы закладаюць свае гурткі, цікавяцца навукай беларусазнаўства, часам аж выдаюць студэнцкія беларускія часопісі і ўсім тым надта спрыяюць агульнаму ажыўленьню роднай нівы, а глаўным чынам—на літэратурным прасторы. Агульна-людзкі поступ і сусьветнае палітычнае становішча робяць тое, што гэтае, чуць прыкметнае спачатку, ажыўленьне спараджае творчасьць Ф. Багушэвіча, прыймаець ярка выказаныя формы навейшай літэратуры і кладзецца магутным камянём пад так званы „беларускі рух“. З Багушэвічам нашае адраджэньне выйшла з чыста-літэратурных рамак і здабыло гэтулькі новых прымет, што яго і назвалі рухам. Адраджэньне, каторае ахапіла сяньня

ўсе праявы нашага жыцьця і ў астатнім пункце, у залежнасьці ад хода сусьветных падзей, выглядае не ранейшым сьціплым (скромным) нацыянальна-культурным абуджэньнем, а ўжо стыхійным змаганьнем за адбудову ўласнай незалежнай гаспадарстванасьці, гэтае адраджэньне, аднак, не парвала яшчэ найстульнейшых зьвязкаў з сваёй калішняй выключнай формай—літэратурай, а за ўвесь навейшы час яно аблягалась на яе і гадавалася на ёй. Такім чынам, каб зразумець гісторыю навейшае літэратуры, трэба ведаць гісторыю адраджэньня.

**Розныя часы навейшае літэратуры і іх прыметы.** Калі ня лічыць падгатаваўчае пары 80-х гадоў і ўважаць за пачынак навейшае літэратуры „Прадмову“ Ф. Багушэвіча да яго „Дудкі беларускай“ (1891 г.), дык у ёй мінуліся ўжо дзьве пары і наступіла трэцяя, гэта: 1) народніцкая (ад Багушэвіча да 1905 г.), 2) нашаніўская (ад 1905 г. да вайны) і 3) сучасная. Галоўнай прыметай усяе навейшае літэратуры беларусаў ёсьць нацыянальная і соцыяльная сьвядомасьць. Нацыянальны і соцыяльны элементы сьвядома ўважаюцца за грунтоўныя, дык яны пераважаюць, на іх полі толькі і растуць усялякія іншыя краскі думак і жыцьця. У першым часе абодва элементы хоць і надта выразна кідаюцца ў вочы пасьле шляхоцкай літэратуры, але тут яны значна слабейшыя, чымся ў другім часе; адна частка пісьменьнікаў яўна падаецца на Варшаву, а другая — на Маскву; на першай частцы іх яшчэ ляжыць сьлядок ад павеваў шляхоцкай літэратуры, а ў другой ніякіх ранейшых звычаеў і свае цьвёрдасьці няма. Выдатнейшыя пісьменьнікі і поэты гэтага часу: Ф. Багушэвіч, Я. Няслухоўскі, А. Пшчолка, М. Косіч і інш. У другім часе, нашаніўскім, бо ён трываў столькі, колькі істнавала „Наша Ніва“, з нязвычайным пасьпехам вырасьлі гіганты беларускага слова, дасканальна сьвядомыя нацыянальна і соцыяльна. Сьвядома-нацыянальны элемент, аднак, тут пераважае і найчасьцей выяўляецца ў нацыяналістычных імкненьнях і жаданьнях,—у гэтым кірунку песьняры, як правадыры, вядуць за сабою народ. Сьвядома-соцыяльны элемент нашаніўскай поэзіі меў цьвёрды і паўсёдны нахіл або і кірунак у бок соцыялістычны, але дзеля розных прычын пісьменьнікі ў гэтым пытаньні самі ідуць за народам і толькі выказуюць яго волю. У гэты час, сярод цэлай пляяды меншых і большых літэратурных сіл, твораць асілкі Я. Колас і Я. Купала. Нашаніўцы з калейдоскопічнай шпаркасьцю перабывалі ў сантыментальзьме, романтызьме, рэялізьме і модэрнізьме. Трэці час

пачаў азначацца ад дзён вайны і потым социяльнай рэволюцыі. Цікаўнай прыметаю гэтае пары ёсьць ня толькі красаваньне соцыяльных пытаньняў, але, як ні дзіўна, і пачатак аналізу агульна-чалавецкіх проблем, без ранейшых нацыянальных і соцыяльных тэндэнцый. Гэтая прымета—знак вялікага росту беларускае літэратуры, каторая ўжо адрадзілася і вымагае новага назову для свае цяперашняй, у значнай меры после-адраджэнцкай пары. Мова яўляецца яшчэ аднэй, надта важнай прыметай навейшай літэратуры. І мова, ці йначай кажучы — пагляды пісьменьнікаў на мову вельмі адзначаюць сучасную літэратуру ад шляхоцкай. Мова шляхоцкіх пісьменьнікаў адбіваець на сабе няшырокі іх пагляд на яе літэратурнае значаньне і будучыну. Пісьменьнікі таго часу карысталіся выключна слоўнікам цёмнага, духоўна абмежаванага панамі і прыціснутага прыгонам беларускага люду. Яны пісалі аб такіх рэчах, дзе гэтага слоўніка зусім даволі было, дзе не патрэбны былі словы для невядомых таму люду абстракцыйных разуменьняў. Гэтакі парадак пачаў канаць з дзён Багушэвіча і сканаў на першых страніцах „Нашае Нівы". Адылі і цяпер гэтае прыхамоцьце часам стыкаецца ў паглядах несьвядомай і напоўсьвядомай беларускай інтэлігенцыі маскоўскай і польскай культуры і замінаець ёй шукаць і разумець у сваёй сучаснай нацыянальнай поэзіі сусьветнае інтэрнацыянальнае багацьце. Цяперашняя наша кніжная мова маець падабенства—па сваёй гісторыі, характару і вялікаму значаньню—з нашай старадаўнай кніжнай мовай у залатую пару ейнага разьвіцьця. Але ёсьць і розьніца: цяперашняя кніжная мова неразрыўна і стульна зьвязана з народнай мовай, чаго ня было ў такой меры ў старадаўнасьці. Навейшая беларуская літэратура вызвалілась з перайманьня чужых літэратур і дастала, такім чынам, нацыянальнае значаньне, яна выказуець асаблівасьці беларускага нацыянальнага духа, тыя чырты характара, той спосаб думаньня і пачуваньня, тыя сымпатыі і ідэалы, каторымі беларуская нацыя вызначаецца сярод другіх эўропэйскіх народаў.

## Францішак Багушэвіч.

(1840—1900)

**Яго жыцьцё.** Арадзіўся ў Ашмяншчыне. Пахадзіў з дробнай шляхты, са спольшчанай сям'і. Сярэднюю школу скончыў у Вільні, а пазьней вучыўся у Пецярбурзе на фізыка-матэматычным факультэце. Перад паўстаньнем 1863 году Багушэвіч бавіў нейкі час ў Ашмяншчыне, дзе быў на-

родным вучыцелем у Доцішках. Хадзіў на паўстаньне і быў ранены ў нагу; выратаваў яго ад пеўнай сьмерці селянін-беларус. Потым Багушэвіч вучыўся ў Нежыне, у ліцэю, на адваката і навуку скончыў у 1868 годзе. Пасьля гэтага ён доўга мандраваў па ўсёй Расеі, (Чарнігаў, Вологда і інш.). Ажно дзесяць гадоў пражыў ён на Украіне, быў сьледавацелем пры судзе ў Канатопскім павеце, навучыўся надта добра гаварыць паўкраінску і дасканальна пазнаёміўся з народным украінскім жыцьцём; адылі перайшоў адвакатам пры акружным судзе ў Вільню, а пад старасьць жыў у сваім фальварку Кушляны ў Ашмяншчыне. Дзе пахавалі Багушэвіча, невядома, як наагул невядома болей падробна усё жыцьцё пісьменьніка.



Ф. Багушэвіч (сярэдняга веку).

**Літэратура Багушэвіча:** 1) „Дудка беларуская“—зборнік вершаў, першы раз надрукаваны ў Кракове, у 1891 годзе, пад псэўданімам: Мацей Бурачок; 2) „Смык беларускі“—зборнік вершаў, першы раз надрукаваны ў Пазнані, у 1894 годзе, пад псэўданімам: Сымон Рэўка з-пад Барысава; 3) розныя творы, як анонімныя рэволюцыйныя апавяданьні і вершы, прозаічныя апрацаваньні жартаўлівых народных сюжэтаў („Палясоўшчык,“ „Сьведка,“ „Дзядзіна“) і іншы, найчасьцей рукапісны, літэратурны матар'ял, яшчэ не дасьледаваны гістарычна-літэратурнай крытыкай (Беларуская скрыпачка“ ў архіве Б. Шыпілы).

**Пашыранасьць яго твораў** у беларускім народзе відаць з таго, да прыкладу, што ў 1918 годзе ў Вільні „Дудка“ выйшла пятым выданьнем, а „Смык“—чацьвёртым,—гэта ня гледзячы на нацыянальны ўціск, цемнату народа і рэнегацтва інтэлігенцыі. У зьвязку з палітычнымі падзеямі астатняе выданьне кніг Багушэвіча раскуплена ў адзін год, і цяпер будзе яшчэ новае выданьне. Вясковая моладзь ў Ашмяншчыне, Віленшчыне, Лідшчыне і ў другіх кутках Беларусі дэклямуець яго вершы напамяць, як чыста-народныя творы. „Дудка“ і „Смык“ дагэтуль друкаваліся толькі лацінкаю і на усходзе Беларусі пашырацца не маглі.

**Грунт і элементы яго творчасьці.** Грунтам поэзіі Багушэвіча ёсьць усебаковае духоўнае і матар'яльнае адраджэньне беларускага сялянскага народа. Магутным спосабам для такога адраджэньня ён уважаў нацыянальнае на соцыяльнай падставе ўсьведамленьне мужыцкай грамады. Галоўную роль у нацыянальным усьведамленьні Багушэвіч аддаваў мове, жывому і пісанаму слову. Прыклад ён браў з гісторыі адраджэньня славянскіх народаў. А разумеў пясьняр, што апісаньнем сялянскіх вечарніц, добрых паноў і верных хлопаў немагчыма закрануць струн народнае беларускае душы, што сьвяты абавязак песьняра - сына свайго народа вымагаець ад яго войстрай і гняўлівай праўды аб розных злосьніках мужыка, як паны, гандляры, інтэлігенты-рэнегаты, адміністрацыя, духавенства і г. д. Сярод іх творчы нахіл Багушэвіча знайшоў вельмі ўдзячны матар'ял, бо нашы нацыянальныя злосьнікі былі найчасьцей і соцыяльнымі для нас злосьнікамі. Рэзультатам яго грамадзянскага настрою быў сатырычны тон многіх вершаў. Быўшы па прадмету і способу творчасьці пераважна ідэйным лірыкам, Багушэвіч мае і высока-эпічныя творы, як поэмка „Кепска будзе" і інш.



Ф. Багушэвіч (пад старасьць).

**1. Сьвядома-нацыянальны элемент.** Па духу, па способу думаньня, па ідэолёгіі ўся наагул поэзія Багушэвіча вельмі нацыянальна, так што ён—наш першы нацыянальны поэт у поўным значаньні гэтага слова. З пазьнейшых пісьменьнікаў па сіле нацыянальнага генія з ім можа раўняцца бадай адзін толькі Я. Колас. Нацыянальны элемент у Багушэвіча ніколі не перахадзіў у нацыяналістычную аднабокасьць некаторых нацыянальных і мала-нацыянальных нашаніўцаў. Апрача таго, гэты элемент у яго яўляецца разам з тым і народным элементам, бо тады беларуская нацыя і скла-

далася з аднаго простага прапоўнага народа. Такое супаданьне не стварае ў творчасьці Багушэвіча поўную гармонію нацыянальнага элемента з соцыяльным, што робіць яго поэзію асабліва цэннай для нас і орыгінальнай ў гісторыі клясавых літэратур. Тут разгледзім вершы, у якіх нацыянальны элемент узят за самы прадмет творчасьці і ў такой пастаноўцы пераважае, найлепей адбіваецца ці шчыльна зьвязуецца з элементам соцыяльным („Хрэсьбіны Мацюка," „Калыханка," „Хмаркі," „Мая хатка," „Ахвяра," „Мая дудка," „Падарожныя жыды" і інш.).

Хрэсьбіны Мацюка—гэта кароткае вершаванае апавяданьне з часоў „наварачываньня" беларусаў-уніятаў і каталікоў на праваслаўную веру. Кн. Хаванскі — гістарычная асоба: езьдзіў па Віленшыне і вёў сваю „хрысьціянскую" работу пасьля паўстаньня 63 г. Віленшчына яшчэ й цяпер не забылася аб гэтым дзікім барбары. Гэта быў зьдзек маскоўскага начальства,—злачынства значна горшае за калішняга акаталічываньня і абпалячываньня беларусаў езуітамі і панамі. Гэта было і вялікае нацыянальнае гора Беларусі. Ня гледзячы на тое, што к часу Багушэвіча балючая войстрасьць ад тае зьнявагі і гора міналася, пясьняр сваёю вольнаю душою рэволюцыянэра і чулым сэрцам патрыоты адчуў яе.

Калыханка—лірычная песьня на народны лад. Яна складзена быццам на соцыяльныя мотывы, але для беларуса яна маець больш нацыянальных прыметаў. „Калыханка" — спрадвечная песьня аб тым, як беларускія дзеці, выходзячы ў паны, адракаліся ад сваіх матак; аб тым, як беларуская інтэлігенцыя адракалася ад свайго народу. За хімэрнае панства яны плацілі згубай сваей нацыяльнасьці і духоўным выгнаньнем з бацькінай хаты. Верш гэты — адзін з самых лепшых твораў Багушэвіча; у ім скрозь чуецца нязвычайна глыбокае, але нейкае пабеларуску мяккае, кволае, далікатнае засмучэньне; у лёгкіх, зыбкіх, а плаўных, як тое калыханьне, і вельмі прыгожых радкох верша маці-беларуска, мужычка, пяець аб долі свайму сынульцы. — Гэта ўся Маці-Беларусь, тая мужычка, пяе сваім сыном, што выходзяць на панічоў. Будзе частаваць сын-паніч сваю простую матку папанску,—так лятуціць маці-беларуска, калыхаючы свайго дзіцёначка, і так магла спадзявацца і тагачасная Беларусь, простая і пагарджаная, гонару і славы за сваю мужыцкую інтэлігенцыю. Але зусім што іншае выхадзіла ў жыцьці. Іншае думаецца матцы: зробіцца яе сынок вялікім панам і будзе біці людцаў, а яго будуць клясьці, як ліхога, прасіць яму ад бога сьмертухны. Багушэвіч, разгарнуў-

шы першую страніцу нашага сьвядомага адраджэньня, адразу і першы за ўсіх увідзеў, што найгоршая бяда ў тым, што з-за панаваньня чужой культуры беларускія дзеці адракаюцца ад усяго роднага, — бо яно-ж „простае“, нічога супольнага ня маючае з прынятай імі „панскай“ культурай. Ня дзіва, што сын-рэнегат для свайго панства выкідаў бацькоў, бо паны пагарджалі і іх мужыцкай беларускай мовай і ўсім тым, што нагадывала вёску. Чужая культура разлучала дзяцей з бацькамі. І ня дзіва, што народны розум пяяў:

Ой, ня будзь ты лепей панам,
Ні вялікім капітанам, —
Будзь, чым матанька радзіла,
Каб у госьці не хадзіла,
Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...

Літэратурная вартасьць „Калыханкі“ вялікая, аднак, яе значаньне—гістарычнае і навет цяпер ужо: сучасная сьвядомая беларуская інтэлігенцыя, вучыцялі, інжынэры, дактары, адвакаты, пісьменьнікі не выракаюцца свайго народу і свае „мужыцкае“ культуры, а сучасныя бацькі-беларусы не баяцца вучыць сваіх дзяцей. „Калыханка“ спарадзіла цэлы кірунак у нашай літэратуры, каторы зрабіў сваю ўзгадаваўчую работу.

Х м а р к і.—Кароценькі лірычны вершык, у якім Багушэвіч надта поэтычна паказаў сваю журбу з прычыны беларускай нацыянальнай несьвядомасьці. Ен гутарыць з цёмнымі хмаркамі, завець іх сваімі братанькамі, такімі-ж бяздомнымі, як ён у сваёй пад'ярэмнай бацькаўшчыне, і пытаецца ў іх: „Гдзе радзіліся, гдзе вы, хмарачкі? Гдзе т у т э й ш ы м і называліся?“ „Тутэйшымі“ называюць сябе і сяляне-беларусы, каторыя ўжо ня ведаюць, якой яны нацыі.

М а я х а т к а. Пад мужыцкай хатай разумеецца ўся наша бацькаўшчына. Суседзі адзін перад адным запрашаюць галяка-гаротніка ў свае багатыя хаты. Але пясьняр, сьвята веручы ў адраджэньне свайго народу, яго вуснамі дае належны адказ, поўны чыста-беларускай драматычнасьці.

А х в я р а. Тут быццам дапаўняюцца думкі, выказаныя ў „Калыханцы“, падчыркнута іх нацыянальнае значаньне:

Маліся, бабулька, да бога,
Каб я панам ніколі ня быу.
. . . . . . . . . . .
Каб людзей прызнавау за братоу,
А багацьце свае меу за іх,
К а б з а к р а й б ы у у м е р ц і г а т о у,
К а б н я п р а г н у у а й ч ы з н ы ч у ж ы х,
К а б я б о г а с в а й г о н е з а к п і у,
К а б н я з р а д з і у з а г р о ш ы с в о й л ю д...

Мая дудка. У гэтым вершу, таксама, пясьняр гаруець і плачаць над „сканаеньнем“ свайго народу. Тут ён узьнімаецца ўва ўвесь духоўны рост біблейных прарокаў. Нацыянальнае гора, магчымы скон роднага духу пячэць яму сэрца, трагэдыяй уваходзіць у яго душу. Ен кажаць сваёй дудцы (сваёй творчасьці), каб плакала дзень і ноч так, як плачуць яго вочы над народнай беларускай доляй. Ен кажаць ёй, каб плакала „да астатка“, каб галасіла так, як галосіць матка, хаваючы дзяцей. „Іграй сьлёзным тонам над народу сконам!“

**2. Сьвядома-соцыяльны элемент.** Ня кажучы зусім аб ранейшых за Багушэвіча пісьменьніках, ніхто і з пазьнейшых за яго ня ставіў соцыяльных пытаньняў так сьвядома, так балюча і так войстра, як ён. Нічога падобнага па глыбіне ня знойдзем мы навет у прызнанага за сучаснага „песьняра-пролетарыя“ Ц. Гартнага. Орыгінальна паўтарыў некаторыя соцыяльна-беларускія мотывы Багушэвіча бадай адзін Я. Купала. Самыя крайнія па сваіх пераконаньнях людзі могуць знайці ў поэзіі Багушэвіча толькі тую загану, што ён сам не пакінуў жыцьця дробна-буржуазнай сфэры, з якой выйшаў, і хаця тыповых прадстаўнікоў яе паграмадзянску ненавідзеў, аднак, мусіць, па крыві ён і жалеў іх і далей за сякучай сатыры проці іх, больнай і для самога, ня йшоў. Соцыяльны элемент у Багушэвіча ніколі не перахадзіў у партыйна-соцыялістычную аднабокасьць, але ўся яго творчасьць вельмі соцыяльна і цьвёрда стаіць на беларуска-народным пролетарскім грунце. Кожная вядомая соцыялістычная навука, усьцяж аж да анарха-комуністычнай, знойдзець у Багушэвіча нешта пажытачнае для сябе, але ніколі не падгоніць пад сваю пляцформу яго ўсяго. Соцыяльны элемент ёсьць амаль не ўва усякім вершы Багушэвіча. У сьвядомай пастаноўцы ён ёсьць у лепшай частцы яго твораў. Асабліва соцыяльны па свайму характару і цэнны па сваіх літэратурных вартасьцях гэткія творы, як „Ня чурайся“, „Кепска будзе“, „У вастрозе“, „Быў у чысцы“, „У судзе“, „Скацінная апека“, „Дурны мужык, як варона“, „Бог ня роўна дзеліць“, „Праўда“ і інш.

Ня чурайся — адзін з лепшых соцыяльных вершаў Багушэвіча, у якім поэт ад імя беларускага сялянства зварочуецца да паноў, да панскай інтэлігенцыі, каб ня чураліся мужыкоў, браталіся з імі і нясьлі ім сьвятло навукі. Пакорная з віду просьба хаваець у сабе „хмуры, пануры і ціхі гнеў“ працоўнага нявольніка на гультая-пана. Поэт вуснамі мужыка гаворыць панічку, каб той не ўцякаў-бы ад мужыцкай сярмягі і не глядзеў-бы крывым вокам на прапацелую

кашулю, бо ў ёй мужыку ня сорамна, было-б сорамна ў яго панскай. Аўтор падчырківае, што ў мужыка няма кніжкі; каб мужык-беларус мог кіраваць пяром, ён стварыў бы сваю справядлівую і вялікую мужыцкую літэратуру. Багушэвіч вяшчуе, што па гэтай літэратуры і паніч навучыўся-б шанаваць мазоль і „да працы набраў-бы ахвоты“. У гэтым-жа вершу зьмешчана колькі клясычных радкоў аб хаце („А кінь вокам на хату маю...) і наагул аб побыце беларуса з соцыяльнага пагляду.

Кепска будзе. Невялікая па разьмеру поэма Багушэвіча „Кепска будзе“ можа быць названа самым эпічным творам усяе беларускае поэзіі. Апрача значаньня чыста мастацкага, поэма мае́ць яшчэ значаньне нацыянальнае, соцыяльнае, моральнае, літэратурна-гістарычнае і інш. Мастацкае яе значаньне—ў пеўнасьці малюнку наагул і натуральнасьці беларускіх абразоў у частцы, у эпічным спакою глыбока драматычнага пераказу, у магутнай прастаце слова, у псыхолёгічнай правільнасьці характарыстак і яркасьці такіх драбніц, ад каторых абраз назаўсёды стаіць жывым уваччу („А ўсё піша, піша, піша і нагой усё калыша“...). Мастацтва, з якім напісаў Багушэвіч „Кепска будзе“ і іншыя свае творы, залежала, як ад яго поэтычных здольнасьцяў, так і ад дасканальнага веданьня народнага побыту, народных думак, народнай мовы. Ен умеў дасканальна пранікнуцца духам чалавека з народа. Ен умеў якраз так падумаць і якраз так, такім словам ці зваротам сказаць, як сяляне - беларусы. Нацыянальнае значаньне поэмы заключаецца ў тым, што ў ёй з найвялікшай сілай паказан трагізм народа, пакінутага сваёй інтэлігенцыяй і дзеля таго абсолютна адарванага ад сусьветнай цывілізацыі, засуджанага на страшэнную духоўную адзіноту. Ніхто яго не разумее, кожны ім пагарджае, відзіць у ім быццам якуюсь скаціну. Дзеля гэткай адарванасьці была магчыма гісторыя Скаліндаркі і вялікія мукі нявінаватых людзей, Дзеля гэтага-ж багаты духам беларус-мужык лічыўся за дзікуна. Ня гледзячы на ўсё гэта, беларускі народ захаваў вялікае хараство душы, што і паказана ў поэме. Соцыяльнае значаньне поэмы самае поўнае. Соцыяльнае зло, ад якога так цярпеў мужык, змалёвана ўва ўсёй яго гідасьці. Рэзультат соцыяльнага неравенства з мастацтвам зазначан навет у самай сялянскай сфэры („Аднэй бедны, другой стары“...). Каротка кажучы, што ні радок поэмы, то—яркая ілюстрацыя соцыяльных злыдняў, агульна-вядомых, але мала калі паказаных у гэткай нагоце. Моральнае значаньне поэмы ёсьць у тым чалавечым і грамадзянскім абурэньні, якое спараджае твор у чытаньніку, у тым

гневе, які гадуе ў нас поэма проці ўсякага зьдзеку над воляй чалавека. Птушачка б'ецца ў клетцы галоўкаю, пакуль не заб'ецца да сьмерці, — каб толькі ня быць у няволі; злоўленая лісіца распаруець сабе бруха,—каб памерці, а ня быць у няволі; гадзіна, зачыненая ў шкляным судне, джгаець сябе на сьмерць,—каб ня быць у няволі...

Як ужо-ж скаціна тая,
Альбо гадзіна праклята
І та цану волі знае, —
Што-ж для нашага-то брата,
Меушы розум нескацінны,
Як знаць волю мы павінны?
А у вастрозе няма волі,
Ні у чым няма і ніколі!

Цана волі асаблівa адчуваецца пасьля няволі. Скарыстаўшы гэты ўдзячны мамэнт, поэт прыкладам свайго героя навучае нас глядзець на волю, як на самы вялікі дар істненьня. Нязвычайна хораша і проста сьпісана, як любіць просты, цёмны беларус сьвет божы, як хочаць волі, на якую высачыну духа ўзьнімаецца ён у паглядах на волю:

Я падумау: дзякуй богу!
Хоць нас сонейка сагрэе!
Вецерчык на нас павее!
Можа дожджык срыбны змоча!
Можа птушка засьвяргоча!
Аж заплакау я, зрадзеушы
От, здаецца-б, і ня еушы
Быу бы сыты на свабодзе!
Як той кролік у гародзе.
Тут, здаецца, і сканау бы,
За свабоду жыцьце-б дау-бы.
— — — — — — — — —
Жауручочкі бога хваляць,
А пастушкі агонь паляць,
А і сонечка прыгрэла,
Аж мне у душы паясьнела.
Да палудня ішлі гэтак:
Пры дарозе шмат і кветак;
То пралескі, то сасонкі
Выгравае божа сонка!..

Багушэвіцкае апісаньне вастрога можа скалануць самае закарэлае сэрца. З самага сьмярдзючага балота выцягне яно чалавека і ачысьціць яго сваім рэвалюцыйным агнём. Вось колькі радкоў, якія могуць стаць побач з тым, што ёсьць самага лепшага ў сусьветнай поэзіі:

Павялі нас аж на гору,
Па якомусь калідору...
Дзьверы, дзьверы! У дзьверах дзюрка,
І у кожн айжа хвігурка
Як-бы тая-ж выглядае!

Гдзе ні глянеш, усеж тая:
Блішчаць вочы, твар, як гліна,
I абросшы, як скаціна!..
У турме, як у тым гробе,
Ішлі, ішлі гэтак з гоні.
А смрод такі, што ад воні
Мне аж дух у грудзях сьперла,
Як бы цісьне хто за горла...
I г. д.

А якую веліч народнае душы відзім мы ў чалавека, што ўзьдзеў старэцкі хатыль, тройчы пабыў у Вільні, сем разоў у Лідзе, каб выратаваць Скаліндарку, і закляўся не абедаць удаму, пакуль яго ня выпусьцяць!

У вершу „Быў у чысцы“, напісаным на мотыў народных забабонных паглядаў і ў народным духу, паказаны адносіны мужыцкага поэта к панам. Відаць задаваленьне, з якім апісаны панскія, ксяндзоўскія і рознага сялянскага начальства мукі ў чысцу. У вершу „У судзе“ адбіліся яго і ўсяе мужыцкае грамады адносіны к панскаму суду, які-б ён ня быў лібэральны (суд прысяжных). У панскім законе мужык відзеў камэдыю, праціўную яго [illegible] і дзеля таго беззаконную для яго. У вершу „Скаціанная апека“ тыя адносіны распашыраны і на панскі хаўрус апекі над жывёлаю; паны-апякуны абыйшліся з мужы ком горш, чымся з якою скацінаю. У пролетарска-сялянскіх куплетах „Дурны мужык, як варона“, сьпетых на розныя соцыяльныя мотывы з беларускага жыцьця, з кусьлівай іроніяй абсьмеян цынічны панскі пагляд на мужыка. Пясьняр з поэтычнай выразнасьцю каротка малюець тут соцыяльнае зло ў розных яго праявах: за працу плоцяць дужа мала, падаткі вялікія і г. д. Панскі пагляд на мужыка, як на дурня, толькі і варта эксплуатацыі, скарыстан песьняром для належнай адплаты пану; у канцы верша поэт пяе: „Глядзі, горы паразрыты, а чыгункай сьвет абвіты, ўсё з мужыцкай цяжкай працы; усе едуць у палацы, ў мужыка-ж няма білета!“ І горка і мнагазначна дадае: „Ці-ж ня дурань мужык гэта?“ У той жа ноце напісаны і куплеты „Бог ня роўна дзеліць“, цікаўныя сваімі соцыяльнымі супастанаўленьнямі. „Праўда“—адзін з лепшых соцыяльных вершаў Багушэвіча, у якім закрануты і агульна-людзкія праклятыя пытаньні. У вершу многа высокай поэтычнасьці. Пясьняр быццам з высакосьці аглядаець наша будзённае жыцьцё, хоць і стаіць у нізе, сярод нас, сярод штодзеннасьці. Ен тужыць, у сьлёзах разьліваецца, папікаець бога і людзей. Ен натхненна, як прарок няшчаснага, змучанага і аслаблага ў змаганьні народа, заклінаець злую долю, каб адвярнулася на сухія пушчы, на бездарожжа, на вялікія ройсты, на пяскі сыпушчы. У гэтым вя-

лікім абразе з народнай творчасьці душа яго зьліваецца ў адным парыве з душой усяго народа.

**3. Усякія творы.** Сярод розных іншых твораў Багушэвіча, кароценькіх лірычных вершаў і вершаваных і пісаных у прозе апавяданьняў, знаходзім найчасьцей рэчы сатырычнага зьместу, апрача таго — жартаўлівыя бытавыя творы, напісаныя на народны лад песьні, а яшчэ байкі і іншае.

Сатыра Багушэвіча служыць грамадзянскім заданьням поэта. Дзеля гэтага сатырычны элемент мы ўжо відзім блізка што ў кожным з вышэй разгледжаных твораў. Яго соцыяльнае становішча спараджала сатыру ў адносінах да паноў, жыдоў-гандляроў, немцаў-авантурнікаў, мужыкоў-нядбаліц і г. д. Так, „Песьня № 7 — ёсьць войстрая сатыра на сучасных Багушэвічу паноў, жыцьцё і думкі каторых ведаў ён дасканальна і з добрага і благога боку. Як чалавек, зьвязаны з гэтаю сфэраю пахаджэньнем, клясавым станам і цэлым жыцьцём, ён б'ець яе з балючымі адскокам па самім сабе, можа быць ня так безьміласэрна, як біў-бы пясьняр-мужык. Злосна абсьмеіваець ён розныя чыста-панскія заганы і кпіць, публічна кажучы паном іхную інтымную хвастунскую прыказку: „Пан панам будзе.“ Пясьняр сатырык з елкай іроніяй паддае пану ахвоты да скокаў, гульні і п'янства; ён раіць яму прадаваць сьмялей і ніўку, і лес да дрэўка, жонку і дзяцей, і ўсё-чыста; ён б'ець яго словам, як бізуном: „Прадай сваю славу, прадай і Варшаву, прадай і чэсьць дочкі за віна паўбочкі.“ „Жыдок“—сатыра на эксплуататараў-гандляроў, якімі з розных гістарычных і іншых прычын сталіся на Беларусі найболей людзі жыдоўскай нацыі, як эксплуататарамі-панамі сталіся людзі польскай і пазьней маскоўскай нацыі. Разумеецца, можна зрабіць закід Багушэвічу, што ён, кіруючысь палітычна на Варшаву, не падчыркнуў так прыналежнасьць паноў да чужой нацыі, як зрабіў тое па адрэсу гандляроў. Аднак, нічога благога проціў ўсяе жыдоўскае нацыі ў гэтай сатыры Багушэвіча няма, хоць ён і адбіў у некаторых сваіх творах няпрыхільнасьць мужыка-беларуса да таго тыпа жыдоў на Беларусі, які якраз бічуецца ў гэтай сатыры. З працоўнымі і чэснымі жыдамі беларускі селянін жыў заўсёды ў добрым суседзтве і навет дружбе,—нідзе ніякай няпрыхільнасьці да такіх жыдоў няма і ў нашага песьняра. Але ёсьць вялікі грэх на гісторыі і меншы на тых беларускіх жыдох, каторыя слова „жыд“ зрабілі для мужыка-беларуса сінонімам эксплуататарства, ці таго, што ў Маскоўшчыне самі маскоўцы выявілі пад словам „кулачаства.“ І толькі новы, справядлівы соцыяльны парадак на Беларусі, як

і дзеяльнасьць для бацькаўшчыны такіх слаўных беларускіх жыдоў, як Зьмітрок Бядуля і інш., зьнішчуць гэтае смутнае непаразуменьне даўнейшых часоў. Тут пясьняр апісаў тып „жыдка“ (не ў нацыянальным значаньні слова), каторы, „сеўшы ў вёсцы, пры гасьцінцы, пры дарожцы,“ цераз тры гадкі робіцца „панам на ўсю вёску“. Галота зьнімаець перад ім шапку і цалуець яму ў рукі. Ен заводзіць знаёмства і дружбу з усякім начальствам, ён пазычае грошы. І пясьняр кпіць і з яго і з пана разам: „Каб такі нам пан зыскаўся, то-б сьвятым ён называўся,“ бо ён ня тое, што пан, ён „хоць грошы любіць,а згубіць зусім ня згубіць.“ „П е с ь н я № 9“— сатыра на мужыкоў за нядбальства, нахіл да частай выпіўкі, дрэннае гаспадараньне і г. д. Асабліва гневен поэт на мужыка вялага, пакорнага, бязьдзеяльнага. У сатырычнай песьні „С в а т а н ы“, напісанай на тып благога вясковага хлопца, таксама абсьмеяна ўхіленьне ад працы, ласасьць на выпіўку ды яшчэ дармавую, някруткасьць у дзеле, няцікаўнасьць, тупасьць, звычай быўшага салдата біць жонку і да т. п. „С в а т а н а я“—злосная сатыра на тыповыя заганы вясковых дзевак („Ходзіць, як чорт у смале, хоць ты адвярніся“). „Г д з е ч о р т н я м о ж а, т а м б а б у п а ш л е“ —народны беларускі і міжнарадовы сюжэт, скарыстаны Багушэвічам для сатыры на язычлівых зводніц. (Гэтая-ж казка дапасована Ф. Аляхновічам для сцэны—„Чорт і баба“). „Я к п р а ў д у ш у к а ю ц ь“—вершаванае апавяданьне з сатырай на судовую валакіту. „П а н с к а я л а с к а“—сатырычная байка аб тых заможных дабрачынцах, што перш рабуюць, а потым кідаюць аб'едачкі, каб паказаць сваю ласку і купіць славу. Як відзім, усюдых сатыра Багушэвіча ідэйна-грамадзянская.

Ж а р т а ў л і в ы я б ы т а в ы я т в о р ы таксама даволі часта спатыкаюцца ў літэратуры Багушэвіча. Можна сказаць, што пераважная частка яго творчасьці—б ы т а в ы я творы, але аўтор ня меў на ўвазе толькі апісаньне побыту, або і зусім таго не пільнаваў, дык і цана такіх твораў шмат вышэйшая, чымся чыста-бытавых. Побыт беларускі Багушэвіч і знаў і маляваў у сваіх творах дасканальна, але бытавы элемент ён толькі мімаходам уплятаў ў агульнае разьвіцьце сваіх думак і свайго апісаньня (напр., нацыянальна-соц. верш „Мая хатка“). Таксама яго вельмі харошыя, вельмі запраўдныя і лірычныя малюнкі роднай прыроды і наагул родных абразоў ня былі простым заданьнем яго поэзіі і зьяўлялісь у процэсе творчасьці, як элемент дадатковы, скажам так — дэкоратыўны. Але псыхіка аўтора была такая нацыянальная, што і пры гэткай творчасьці яго поэзія выйшла самай нацыянальнай. Жартаўлівасьць не пакідала Багушэвіча ў самых

невясёлых яго нотах. Часам, аднак, ён наўмысьля ставіць яе за цэль, і тады зьяўляюцца такія рэчы, як „Здарэньне“, народны пераказ, „Сьведка“ і інш. Зьвярнуўшы ўвагу на народную творчасьць, на прасторы забабонных паглядаў і народнае моралі, напісаў Багушэвіч такія свае вершы, як „Хцівец і скарб на сьвятога Яна“, „Баляда“ і да т. п.

Песьні, напісаныя на народны лад, павінны былі, здавалася Багушэвічу, заахвоціць беларусаў да пяяньня сваіх пазабываных родных песьняў і, апрача таго, усьведамляць іх нацыянальна і соцыяльна. Такім чынам, выліліс у яго з душы такія выдатныя рэчы, як „Калыханка“ і некаторыя сатырычныя песьні, а таксама такія, зусім падобныя да народных, як „Удава“, „Гора“, „Песьня № 6“ і інш. Тут найболей адбіўся і асабісты лірызм самаго поэта. Аб удаве ён сказаў гэтак жаласна: „Ой, маркотная, ліхая доля сірот-дзетак, але горшая ўдавая, як тых малалетак“... „Гора“ застаецца ў памяці народнай абразнасьцю і сваім даўна-беларускім прыпевам: „Ой, гора-ж маё“, каторы пяецца пасьля кожнай строфы. „Песьня № 6“ цікаўна сваёю формаю: яна ўся складаецца з пытаньняў і адказаў; зьмест яе соцыяльны.

Байкі Багушэвіч найболей перакладаў з чужых моў, і асаблівага значаньня ў яго творчасьці яны ня маюць.

**Мова Багушэвіча.** З „Прадмовы“ да „Дудкі“ мы відзім, якое вялікае значаньне надаваў ён беларускай мове і яе літэратурнаму ўжытку. Але тады яшчэ ня было, можна сказаць, сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, і Багушэвіч пісаў так, каб яго зразумеў кожны беларус-селянін, пісаў народнай мовай, бяз многіх сучасных інтэлігенцкіх слоў. Вырасшы ў спольшчанай сям'і і ў заходняй Беларусі, ён унасіў у сваю мову ці мала слоў польскіх, як цёнгле, шак, прэндка, ніц, васола, дзісь і інш. Ен ня меў нахілу зрабіць іх літэратурнымі для нас, але не баяўся і выгляду спольшчанасьці, бо на першым пляне ставіў справу адраджэньня, з якой паволі прыходзіць і чыстата і літэратурнасьць мовы. Троху горшая справа тое, што ён быў прызвычаіў нашай кніжнай мове заходня-беларускія, спольшчаныя націскі ў словах (*бы*ла, *да*на) і нядобрыя канчаткі (любе замест любіць). Затое-ж Багушэвіч умеў такія народныя словы і звароты, думаў так пабеларуску, як не патрапяць думаць сучасныя нашы пісьменьнікі, адарваныя ад жывой народнае крыніцы. Няма ў яго набору прыказак, чым грашыўся Марцінкевіч, але добрая прыказка надта ёмка ўлі-

та будзе ў яго гутарку. Вось прыклад: „Здаецца-б нічога, калі хто ня ведае, але пачакаўшы, дык выйшла камэдыя“...

**Верш Багушэвіча** па сваёй тэхніцы ня маець значаньня абы-якога выдатнага этапу ў гісторыі нашае версіфікацыі. І хаця верш яго далёка назадзе пакінуў сілябічнасьць Марцінкевіча, адылі чытаньнікі, узгадаваныя на музыцы М. Багдановіча, Я. Купалы, А. Гаруна ці Я. Коласа, часам могуць зачапіцца на некаторых шурпатасьцях версіфікацыі Багушэвіча (як нязвычная для іх пастаноўка націску і да т. п.). Тымчасам Багушэвіч мае і лёгкія, плаўныя, мілазычныя, з чысьцейшай танічнасьцю вершы, ані ня горшыя за лепшых сучасных вершаў.

**Значаньне Багушэвіча** ў гісторыі нашае літэратуры, як ужо відаць, дужа вялікае. Яно вялікае з гістарычналітэратурнага пагляду, асабліва ад шчыльнага зьвязку з нашым нацыянальна-соцыяльным адраджэньнем, духоўным бацькам каторага і ёсьць Багушэвіч. Ен—першы ўсенародны беларускі правадыр і першы беларускі пясьняр-рэволюцыянэр. Ен—першы нацыянальны беларускі поэт, дагэтуль адзін з самых вялікіх у гэтым значаньні. Як пясьняр клясавы, вяшчун соцыяльнай рэволюцыі, Багушэвіч займае адно з першых мест у сусьветнай поэзіі. Літэратурнае значаньне яго ня было ацэнена як мае быць, і цікаўна, што народ скарэй за інтэлігентных крытыкаў пачуў яго веліч. Пашкодзілі яго літэратурнай славе чытаньнікі-шляхтуны, каторыя па старай памяці і ў багушэвіцкай поэзіі шукалі, і ў гэтым „сьлёзным тоне“ знаходзілі толькі жарты. Пашкодзіла ёй і адарванасьць Багушэвіча ад маскоўскай і польскай літэратуры, адсутнасьць зьвязкаў у поэта з выдатнымі чужымі пісьменьнікамі і адсутнасьць той сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, каторая ацаніла-б песьняра і аб славе яго пераказала-б чужынцам. Разумеецца, што па літэратурнай здольнасьці і толькі па чыста-мастацкаму значаньню з Багушэвічам няма што і раўнаваць нашых ранейшых за яго песьняроў. Але і сярод пазьнейшых за яго нашых пісьменьнікаў — калі і ёсьць колькі іменьняў дужэйшых за яго па здольнасьці чыстапясьнярскай, дык роўных яму па нацыянальна-соцыяльнай самабытнасьці пакуль што не зьявілася, і ўсе ідуць па тору, дзе яго сьлед быў першы і найдужэйшы. Багушэвіч скіраваў нашу літэратуру на пэўны натуралістычны шлях і зьвязаў яе з народам. Пісаў поэт толькі пабеларуску.

## Ян Няслухоўскі.

(1851—1897).

**Яго жыцьцё.** Няслухоўскі радзіўся ў Менску, у сям'і адваката. Скончыўшы менскую гімназію, ён вучыўся ў Пецярбурзе: спачатку на маматычным аддзеле ў унівэрсітэце, а пазьней у тэхнолёгічным інстытуце, каторы ён і скончыў у 1877 годзе. Патым Няслухоўскі служыў на Каўказе, як начальнік зялезнадарожных складаў. Прыехаўшы ў Менск, даведацца радні, быў ён спаралізаваны, але вылячыўся так, што з двумя кійкамі мог хадзіць. Пасьля ён яшчэ працаваў у тэхнічным бюро на Лібава-роменскай чыгунцы.



Ян Няслухоўскі.

**Яго літэратура.** Няслухоўскі пісаў і папольску і пабеларуску. Некаторыя свае вершы, напісаўшы іх у воднэй з гэтых моў, ён перакладаў патым на другую. Але і ў польскіх яго вершах апісуецца беларускае жыцьцё і чуецца душа беларуса; многа і чыста-беларускіх слоў і зваротаў мовы. Найбуйнейшае разьвіцьце яго таланi прыпадаець на час між 1883—1890 г. г., але большасьць яго беларускіх твораў увідзела сьвет пазьней. Да большых прац Няслухоўскага залічаюцца „Hanusia“, „Wioletta“, „Andrej“. У 1898 годзе выйшаў томік яго поэзіі ў польскай мове, каторы абыймаець „Akwarelki myśliwskie“ і „Wiersze liryczne“. У беларускай літэратуры пакінула сьлед яго „Вязанка“, у каторую трапілі і некаторыя вершы, зьмешчаныя ў беларускіх календарох і „Минскомъ Листкѣ“.

Вязанка—невялічкі зборнічак вершаў Няслухоўскага пад псэўданімам Янкі Лучыны. Выдаў яго ў 1903 годзе пецярбурскі гурток студэнтаў-беларусаў. Перакazуюць, быццам кніжачку гэтую, дзеля забароны беларускага друку, прыйшлося правесьці скрозь цэнзуру пад відам баўгарскай; аднак, дагэтуль яшчэ ніхто ня даў аб тым пеўных вестак. „Вязанка“ складаецца з орыгінальных вершаў Няслухоўскага і з перайманьняў, запазычаньняў і перакладаў. Тут змаля-

ваны абразкі беларускае прыроды, беларускага жыцьця, гаротнай мужыцкай долі, а таксама паказаны грамадзянскія жаданьні поэта-народніка. Тут прыемна згарманізавана лірыка сазярцацельная з лірыкай ідэйнай. Родную прыроду Няслухоўскі першы апісаў з асаблівай поэтычнай мягкасьцю, з беларускім лірызмам. Маляваньне прыроды таксама і ён ня ставіў за наўмыснае заданьне творчасьці, адылі у яго вершах, навет напісаных на соцыяльныя мотывы і ў сатырычным тоне („Што птушкі казалі?"), ёсьць надта прыгожыя, сьветлыя, спакойна-лірычныя абразкі роднае прыроды. Часам у яго апісаньнях чуецца і нейкі таёмны, містычны зьвязак пясьнярскага настрою з тым, што дзеецца ў прыродзе („Каршун"). У беларускім жыцьці ён вабіцца спакойным тыпам старога лясьніка, прадстаўніком аджыўшай романтычнай Беларусі. Гаротную долю беларускага сялянства ён апісуець без таго гняўлівага багушэвіцкага абурэньня, бяз той узварушлівай энэргіі, а з пакорным засмучэньнем, з маркотай, замінаючай у жыцьцёвым змаганьні („Што думаець Янка, вязучы дровы ў горад?"). Ен наракае на людзкую крыўду, на няпраўду, на няволю, але робіць гэта ў такой форме, што трудна згадаць яго рэяльныя грамадзянскія жаданьні; ня выцякаюць яны і самі па сабе з маляваньня адваротнае стараны, як у Багушэвіча. Жаданьні яго залежаць ня стольскі ад соцыяльнай ці нацыянальнай сьвядомасьці, сколькі ад добрага і поэтычнага сэрца, ад агульнага протэстуючага настрою грамады, ад прыкладаў, якія даюць песьняру сьвядомыя правадыры. Жаданьні яго даволі туманныя і носяць агульны характар романтычна-народніцкага і поэтычнага настрою („Сівер").

Апрача зьмешчаных у „Вязанцы", Няслухоўскі напісаў яшчэ колькі беларускіх вершаў, з каторых іншыя друкаваліся, а іншыя то і дагэтуль знаходзяцца ў рукапісах у прыватных руках. З друкаваных асабліва вызначаецца яго верш „Роднай старонцы", дзе чуецца засмучоная душа шчырага сына роднай старонкі. У гэтым вершу беларуская творчасьць Няслухоўскага дасягла свайго вышэйшага пункту. Пясьняр даў тут поўны абраз Беларусі, які жыў у яго сэрцы. Верш напісан з запраўдным натхненьнем, з глыбокім пачуцьцём і пад настроем, каторы чуваць у самай музыцы слоў. Свой сум поэт-народнік разважае гэтак: „Сонца навукі скрозь хмары цёмныя прогляне ясна над нашай нівою, і будуць жыці дзеткі патомныя добраю доляй, доляй шчасьліваю".

**Няслухоўскі ў нашай літэратуры** ідзець сьледам за Багушэвічам, з каторым ён адначасна і пісаў.

Уплывы Багушэвіча ясна відаць на яго творчасьці. Аднак, поэзія Няслухоўскага бяднейшая; няма ў ёй той выразнасьці мотываў і таго багацьця фарбаў, што у Багушэвіча; дужа слабейшая социяльная сьвядомасьць і даволі нявыразная сьвядомасьць нацыянальна-беларуская. Быць можа, тут пашкодзіла ахвота ўславіцца ў літэратуры польскай, у каторай Няслухоўскі, аднак, неорыгіналеп і мала відзен, — ён толькі пераказуець там другіх, асабліва Сыракомлю. У гісторыі нашае літэратуры Няслухоўскі вызначаецца мягкасьцю поэтычных тонаў і лірычнасьцю, што так добра наагул падходзіць да беларускае поэзіі.

## Аляксандар Пшчолка.

(Радз. ў 1870-х г. г.)

**Біаграфічны матар'ял.** Аляксандар Раманавіч Пшчолка родам з Віцебшчыны, з Лепельскага павету. Ен дзякоў сын. Вучыўся ў віцебскай духоўнай сэмінарыі, каторую скончыў у пачатку 1890 гадоў. Патым быў ў Арэхаўне, Лепельскага павету, пачатковым вучыцелем і кароткі час дзяком. Пазьней Пшчолка паступіў ў Юраўскі унівэрсітэт і выўчыўся на адваката. Па пераказу яго блізкіх знаёмых, Пшчолка, быўшы вучыцелем і студэнтам, любіў „хадзіць у народ“. Хадзіў ён па Беларусі і Украіне. Зьбіраў памяткі народнай поэзіі і рабіў этнографічныя запісы. Адноўчы ён цэлае лета праслужыў за дворніка ў Палтаве. У Вільні Пшчолка жыў з 1907 г., як кандыдат на судовыя пасады пры акружным судзе. Перад вайною быў міравым судзьдзёю ў Себежу.



Аляксандар Пшчолка.

**Пагляды Пшчолкі.** Беларускай нацыянальнай сьвядомасьці ў Пшчолкі спачатку ніякай ня было. Як некалі Рыпінскі лічыў сябе за паляка, так Пшчолка уважаў сябе за

„рускага“ і глядзеў на ўсё роднае зусім абмаскаленымі вачмі. Пісаць ён пачаў памаскоўску, і толькі пазьней, няўпрыцям для самаго сябе, прыймаў у свой літэратурны жаргон усё болей і болей беларускіх слоў, зваротаў мовы, цэлых гутарак, а патым пісаў апавядаі ьні-монолёгі ў даволі чыстай народнай беларускай мове. Аднак, ніякага зьвязку з ранейшай беларускай літэратурай ён ня меў, а магчыма, што апрача „Тараса на Парнасе,“ нічога з гэтай літэратуры і ня ведаў. Значна пазьней, калі жыў у Вільні, супрацоўнічаў у маскоўскабеларускім правым журнальчыку „Крестьянинъ“ і пазнаёміўся здалёку і ў фальшывым асьвятленьні з беларускім рухам, ён пачаў усё болей набірацца краёвасьці, беларускасьці, хоць, разумеецца, вельмі аднабокай. „Крестьянинъ“ і усё так званае „Бѣлорусское общество,“ дзе Пшчолка быў сваім і важным чалавекам, глядзела на беларускі рух з бязьверыцай, памылкова ўважаючы яго, з-за свайго няшырокага сьветагляду, за польскую інтрыгу; яно не магло сходаць сваей абмаскаленасьці, ня мела патрэбнай пашаны да свае роднае мовы і сыноўскага жалю да ўсяго роднага народу, бо вымагала, да прыкладу, каб і ў касьцёлах беларусы-каталікі маліліся памаскоўску, што было зусім яўным абсурдам і коса памагала толькі абпалячываньню. Ня дзіва, што сябры „Бѣлорусского общества“ самі сабе йшлі наўпрэкі: у вадным нумары „Крестьянина“ была ганьба на родную мову, у другім Пшчолка зьмяшчаў свае вершы пабеларуску. Гэткі сорам спарадзіўся ад аднабокага, благога беларусазнаўства гадунцоў русіфікацыйнай школы, ад клясавага становішча іх і іншых прычын.

**Літэратура Пшчолкі** складаецца з расказаў (прозаю) і начыркаў этнографічнага характара. Творы яго выхадзілі асобнымі зборнікамі некалькі разоў з 1899-га па 1910 год. Расказы яго можна падзяліць гэтак: 1) гутаркі-монолёгі, у каторых скрозь сьмех чуюцца сьлёзы; 2) гутаркі-монолёгі, напісаныя для жарту і насьмешкі; 3) розныя расказы з беларускага жыцьця, каторыя маюць часам дужа многа лішняга і сырога этнографічнага матар'яла, часам поўны лірызму, беларускай элегічнасьці і прыгожых, захапліваючых апісаньняў нашае прыроды. Першыя і другія гутаркі напісаны пабеларуску, а ўва ўсіх іншых расказах найчасьцей перавышае маскоўская мова, хоць асабліва адчутыя мясьцінкі — заўсёды беларускія. Цікаўна, што і ў маскоўскай мове Пшчолкі ёсьць памылкі—беларусізмы, часам такія навет звароты, як „отгонялъ мухи“!

1. С ь л ё з н ы я  г у т а р к і - м о н о л ё г і, у каторых скрозь сьмех, а часам і бяз сьмеху чуюцца гарачыя, горкія

сьлёзы спрадвеку бяздольнай пакрыўджанай і гаротнай народнай Беларусі,—лепшыя творы Пшчолкі. У іх аўтор выказаў ня толькі сваю добрую літэратурную талань, але і чулае сэрца запраўднага народнага пісьменьніка. І яшчэ смутней робіцца ад чытаньня гэтых гутарак, што і аўтор іх прапаў для адраджэньня ўбогай бацькаўшчыны. Тут Пшчолка апісуець долю самых гаротных людцаў, каторых штурхаець ня толькі рознае начальства, паны, гандляры, але і свой троху дужэйшы брат-суседзька. Адзін з лепшых па сваей паўнаце абразкоў—„Каніцель", але яшчэ з большым, чымся ў „Каніцелі", драматызмам напісана „Бабылкіна гора". Гэта—монолёг убогай бабылкі, каторая спадзяецца яшчэ знайці на сьвеце праўду і рыхтуецца ў дарогу з усімі сваімі паперамі, каб іх начальства „разабрала". Яна бядуець, што сама няпісьменная і ня можаць прачытаць, што там у іх так дробна, як макам, насыпана. Каб заплаціць за тое пісаньне, рушыла бабылка тры рублі ад трох гадоў... Пакрыўджаная з адчаю кідаецца ў абурэньне, яна хоча змагацца, але раптам апускаецца: перад вачмі стаіць яе доля, якая будзе, калі ня знойдзець праўды і цяпер. То — старэчая доля. Яна баіцца гэтага сораму болей за ўсяго: „Даб'юся праўды, а ў старцы не пайду... таго, што хатка ёсь... Улетку зьбяру на хлебец... Буду ізноў жаць, пайду палоць... А прасіць стыдна... Ні бацька не прасіў, ні матка"... У гэтых нязвычайна-драматычных словах паказана тыповая чырта ўсяго беларускага сялянства. Наагул, бабылка Пшчолкі—самы дасканальны беларускі тып і адзін з лепшых мастацкіх тыпаў беларускае літэратуры.

2. Сьмяхотныя гутаркі-монолёгі, напісаныя толькі для жарту і сьмеху,—яны па аўторскай прыцямнасьці і абразнасьці мовы нагадуюць разгледжаныя драматычныя абразкі, але яны, можна сказаць, зусім бяз'ідэйны і маюць прыметныя заганы даўнай шляхоцкай літэратуры. Паміма сваей волі аўтор, аднак, і сюды ўклаў нешта такое, што сур'ёзны чытаньнік заўсёды і сярод сьмеху заўважыць: гэта тую дзікую розьніцу між „дзеравенскімі людцамі" і „культурнымі людзьмі" на Беларусі, якую стварыла нацыянальнае і соцыяльнае зло. Адылі аўтор, як відаць, сам ня меў гэтага на ўвазе і стараўся толькі насьмяшыць чытаньнікаў (і якраз з ліку тых „культурных людзей"). Жартаўлівых гутарак-монолёгаў у Пшчолкі болей, чымся драматычных. Сюды можна залічыць гэткія творы: „У губэрню з бумагай", „У ціятры", „Панскае ігрышча", „Сідарава радня", „Сьведка", „Більярд у дзярэўні" і інш. Для літэратурна-гістарычнага зразуменьня добра параўнаваць яго гутарку „У губэрню з бумагай"

з „З маленькім білецікам“ Ядвігіна Ш. і „Як дзядзька езьдзіў у Вільню“ Я. Коласа.

3. Розныя расказы з жыцьця беларускага сялянства, пісаныя ў маскоўска-беларускай мешанай мове, складаюць большую частку пісьменства Пшчолкі. Тут многа ёсьць чыста-этнографічнага матар'яла, многа чыста-бытавых апісаньняў, многа не апрацаваных фотографічных зьнімкаў з беларускай натуры, але сярод іх ёсьць апавяданьні вельмі літэратурныя, з вялікімі мастацкімі вартасьцямі, як „Піліпава вясельле“, „Мікітавы хаўтуры“ і інш. „Піліпава вясельле“ (1901 г.) трэба ўважаць за адзін з самых лепшых літэратурных твораў Пшчолкі і за надта добрае апавяданьне прозаю ў беларускай літэратуры. Яно так агорнута нашым смуткам, так ахоплена нашай шчырасьцю, так спавіта нашаю спрадвечнаю жальбою, што не заўважаецца ні прыкрасьць маскоўска-беларускага жаргона, ні лішак этнографіі. Падробна і з пачуцьцём апісана і сватаньне, і вясельле—гэтая прыгожая і смутна-поэтычная опэра багатага сваім старадаўным культам народа, — апісан п'яны шлюб і вялікае п'янства людцаў на старэцкія дастаткі маладога. Апавяданьне чыста-нацыянальнае і вызначаецца псыхолёгічнай пеўнасьцю беларускіх характарыстак. „Мікітавы хаўтуры“ напісаны ў тым-жа тоне і з тым-жа далікатна-засмучоным настроем. „Замайжанскі кірмаш“ (1897 г.)— эскіз; як пазачыняліся карчмы, кірмаш зрабіўся важным пунктам беларускага народнага жыцьця, але беларускія пісьменьнікі быццам ня любяць хадзіць на кірмашы; толькі Пшчолка даў тут сакавіты абразок кірмашовае гульні з дужа прыметным апісаньнем старцаў. Замайжанскі кірмаш, як ужо было зазвычай, кончыўся бойкай п'яных сялян. У другіх творах Пшчолка чапаець з большай ці меншай літэратурнасьцю беларускае жыцьцё з розных бакоў. Як і ўсе нашы ранейшыя песьняры, ён найгоршаю заганаю беларуса лічыць п'янства і часта і войстра накідаецца на сялян за гарэлку („Валасная сходка“, „З жыцьця лепельскіх сялян“ і інш.). Есьць у яго і вельмі добрая сатыра на нашы калішнія, проста гідкія з моральнага пагляду валасныя суды („Янкіна жальба“, 1902 г., драматычны этуд у 2 актах з жыцьця лепельскіх сялян). Есьць добрыя, хоць часам яўна тэндэнцыйныя абразкі беларускай затуканасьці, няцьвёрдасьці ў слове („Хурман“), нядбаласьці ў справе прасьветы („Барылаўскі валасны сход“). Сяляне ў Пшчолкі аб навуцы кажуць так: „І граматны гусей пасець, і няграматны гусей пасець“. „Што там вучэньне мужыку! Усё роўна ля зямлі пойдзець. Што там грамата,—панам грамата, а з нас паноў ня будзець“... Пагляд

тэты схоплен і запісан правільна, адылі няма пры гэтым разгадкі яго, што ў Багушэвіча ўжо раней было. Есьць у Пшчолкі, хоць слабая, спроба паказаць новага чалавека („Дзяды“), як Ягор, каторы „пашоў па зарабатках і ад пастаноў бацькаўскіх адбіўся“; Ягор ужо ня ймець веры, каб па зямлі хадзілі нябожчыкі-дзяды, ён забараняе, наўпрэкі звычаю, даваць гарэлкі малому дзіцёнку, мову сваю наварачывае памаскоўску і г. д. Есьць у Пшчолкі орыгінальная фотографія самародка-пяюна з беларускай мужыцкай сфэры („Флор з Дубаўкі“), каторая спораджае веру ў народ. Есьць у яго странічкі з цяжкога жыцьця народнага вучыцеля і войстрая ганьба на п'янае сельскае начальства. Социяльныя жаданьні самаго пісьменьніка мы відзім болей-меней у яго „Навагоднім сьне“—ня вельмі літэратурнай, але-ж яркай ілюстрацыяй супярэчнасьці між лятуценьнем і жыцьцём. Жаданьні гэтыя— чыста-народніцкія з дадаткам некаторай незразумелай у Пшчолкі крайнасьці (карыстаньне зямлёй комунальнае) і сьмяхотнай вузкасьці (ніхто ня курыць, бо за табаку штрафуюць).

Спрабаваў пісаць Пшчолка і вершы („Чараўніца“, 1907 г.), але спробы літэратурнага пасьпеху ня мелі. Есьць у яго і камэдыя-опэрэтка, музыку да якой напісаў яго віленскі прыяцель, вучыцель Вячаслаў Багдановіч, родам таксама з Лепельшчыны.

**Значаньне Пшчолкі** ў гісторыі беларускай літэратуры было дагэтуль надта невялічкім. Кнігі яго былі пашыраны сярод масквафільскай і несьвядомай беларускай інтэлігенцыі, з рахубай на каторую Пшчолка зумысьля і прыбліжаў беларускую мову да маскоўскай. У такім выглядзе яны маглі толькі пашкодзіць адраджэньню бацькаўшчыны ў посьле-багушэвіцкі час, што на практыцы і было. Творы Пшчолкі, як і сам здольны пісьменьнік, былі яшчэ добраю заслонкаю для ганебнай справы ворагаў беларускага народа і яго адраджэньня. Літэратурная цана Пшчолкі, можа быць, з часам і здабудзець належнае значаньне, калі творы яго ўвідзяць сьвет у чыста-беларускай вопратцы.

## Марыя Косіч.

М. Косіч прыметна ў беларускай літэратуры, як першая прадстаўніца жанчын і пясьнярка з усходня-паўдзённых узьмежкаў Беларусі. Магчыма, што на родную ніву прыйшла яна з чужога маскоўскага поля пад уплывам і прыкладам украінскіх пісьменьнікаў, у блізкім суседзтве з каторымі жыла. З яе беларускай літэратуры вядома этнографічная работа

(„Ліцьвіны - беларусы Чарнігаўшчыны", 1902 г.), вершаваныя апавяданьні і пераклады. Родную старонку пісьменьніцца вельмі любіць і апісуець яе з любасьцю і шчырым пачуцьцём, беларускую мову ўмее таксама добра, але тэхнікай верша валадаець зусім слаба, дзеля чаго і літэратурная вартасьць яе твораў дужа абніжаецца. Апавяданьні Косіч маюць характар паўчаючых народ кніжачак, як і папулярныя брошуркі А. Ельскага. Так, „На перасяленьне, расказ цёткі Домны з Палесься" (Чарнігаў, 1903 г.), засьцерагае беларусаў ад лёгкадумнага перасяленьня ў Сыбір; аўтор у найлепшых словах расхвалівае сваё сяло, свой край, сваю прыроду, дзе ўсяго ёсьць для чалавека даволі, дзе і клімат, і жыцьцё, і ўсё добрае, і малюець расставаньне з родным кутком, калі быццам кожды кусточак плачаць. Пераклады баек Крылова (Чарнігаў, 1903 г.) часам пераходзяць у простую пераробку; пясьнярка любіць дадаваць ад сябе моральную навуку, зьвязаную з падзеямі ў яе меснасьці. З ідэйным рухам беларускага адраджэньня літэратура Косіч відных зьвязкаў ня маець.

## Альгерд Абуховіч.

(1840 — 1905).

А. Абуховіч быў родам са Случчыны. Вучыўся ён у гімназіі ў Слуцку, жыў нейкі час у Кіеве і ў эміграцыі ў Парыжы. Некалі надта багаты пан, пад канец жыцьця Абуховіч зусім згалеў. У родным Слуцку быў ён пазьней вучыцелем у кальвінскай гімназіі. Пісаў пабеларуску многа, але творы яго блізка што зусім не трапілі ў друк сваім часам, дык можна думаць, што значная частка рукапісаў пагінула. Перакладаў Міцкевіча, Кандратовіча (Сыракомлю), Лермантава; пісаў арыгінальныя байкі, сатыры на паноў і пакінуў цікаўныя мэмуары, частка якіх друкавалася ў віленскай беларускай газэце „Гоман" у 1916 годзе. Некалькі баек Абуховіча надрукована ў календарох (1915 г.) і ў школьных чытанках. На сваіх беларускіх творах ён падпісываўся Графам Бандынэлі—па прозьвішчу свае бабкі, знатным панскім родам каторай дужа гардзіўся.

Байкі Абуховіча напісаны на агульна-вядомыя сюжэты. Некаторыя з іх перароблены з Крылова („Старшына"). Але ў кожную байку аўтор унасіў беларускі дух і склад, рабіў іх зусім беларускімі; на байцы „Ваўкалак", да прыкладу, ляжыць адбітак народнай творчасьці, да яе сюжэту Абуховіч сьвядома дадаў нацыянальна-беларускі элемент.

Мэмуары Абуховіча, пазначаныя 1904 і інш. гадамі,

малююць людзей і стан жыцьця на Беларусі ў другой палавіне 19-га сталецьця, прычым пагляды аўтора маюць соцыяльную акраску; у мэмуарах шмат ёсьць біаграфічнага матар'ялу. Зьмест іх вельмі разнаабразны і цікаўны. Есьць і даволі мастацкія апісаньні (падарожа ў Кіеў на конях), але галоўная іх вартасьць літэратурна-гістарычная. Тагачасную кіеўскую моладзь аўтор славіць за дэмократычнасьць і хлопаманства. Аб сваіх часох ён піша гэткія успаміны: „Растучы, я разьвіваўся, а перада мною што раз харашэй рассьцілаўся сьвет; на царскім троне сеў слаўнай памяці Аляксандар Другі, насталі часы, аб каторых можна сказаць, што людзей нікчэмных тады ня бачылі. Ня стала-б паветра для подлых інстынктаў. Няхай цяперашняе пакаленьне заздросьціць, што я на гэта глядзеў сваімі вачыма“. Аднак, Абуховіч мусіў зазначыць, што міла было-б успамнаць патрыярхальныя часы праўдзівага дастатку і выгоды, каб ня дзьве асобнасьці тых часоў: дужа дрэнная ўлада і сьвіст розаг. З абурэньнем піша ён аб тым, як секлі яго сучасьнікі людзей, і падчырківае, што сярод такіх сучасьнікаў былі і экс-дзекабрысты! На ўспамінах Абуховіча адбіліся два галоўных наслаеньні веку: панскі романтызм і народніцкае „хлопаманства“; соцыяльнай сьвядомасьці Багушэвіча ён ня меў, таксама як і ясна вызначаных нацыянальных жаданьняў. Тымчасам яго пагляд на літэратурнае разьвіцьце беларускай мовы быў правільны і дальнавідны. Калі Багушэвіч заўважыў, што ў яго ня ўсюды бываюць „ўласьцівыя беларускай мове акцэнты“ (націскі), Абуховіч адпісаў так:

У гаворцы есьць разьніца,
Між маею і тваей:
Маей—пушчы, Пціч граніца,
Ты — панарскі салавей.

Дадаўшы да гэтага вершыка колькі слоў аб тым, што ў беларусаў ёсьць многа дыялектаў з розьніцай ня толькі ў акцэнтах, але і ў цікавых провінцыялізмах, Абуховіч піша гэтак: „Мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб высказаць, што я хачу, каб пачулі мысьль маю і каб словы каранныя беларускія пры помачы нашай літэратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сьцясьняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульна - беларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літэратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа. У Францыі—сьперша дыялект провінцыі Langen d'Oc меў перавагу ў францускай літэратуры, а пазьней—Langen d'Oni, цяперашняя францушчына. Гэта трэба памятаць і нашым літэрататарам і пурытанізмам не забаўляцца!“

# Восіп Арлоўскі.

У 1908 годзе ў Полацку выйшаў першы том „Беларускіх народных расказаў“ Восіпа Данілавіча Арлоўскага, каторыя пакідаюць сьлед у гісторыі беларускай літэратуры пракуднасьцю сваіх думак, бо другой вартасьці яны ня маюць, а з тэхнічнага боку стаяць так нізка, што могуць сьведчыць аб поўным няўмецтве аўтора. Напісаны расказы нібыто вершам і беларускай народнай мовою, але навет абы-якая народная рытміка верша тут рэдка захована як мае быць, рыфмаваньне дужа прымітыўнае з найбольшым ужываньнем дзеясловаў, а часам між радкоў верша ёсьць і вялікія кавалкі прозаічнай мовы. Што датыча беларускага народнага слоўніка, дык ён тут даволі багаты, але Арлоўскі ня мае ніякага разуменьня і аб літэратурнасьці мовы, дзеля таго іншыя людзі, асабліва паны і начальства, гавораць у яго страшна брыдкім жаргонам; ды й сам аўтор, каб паказаць сваю адукаванасьць, са смакам ужывае перакручаную маскоўскую і польскую гутарку. Кніга яго, апрача таго, выдадзена, як відаць, зусім без карэкты. Але нічога ня знаючы аб самім аўтору, трудна зразумець ці нея здагадацца, чаму яго кніга з дзівосамі. Расказы Арлоўскага,—бясхітрасная ідэолёгія мужыцкай Беларусі з часу пасьля вольніцы і да першай рэволюцыі, а напісаны яны тады, калі ідэолёгія гэтая дажывала свой астатні час. Арлоўскі пісаў у вялікай прастаце, кожную рэч і справу мяніў ён уласным назовам, нічога не хаваючы,—казаў голую праўду так, як ніводзін інтэлігентны пісьменьнік ні сказаў-бы, ні напісаў-бы. Заўсёды маючы нахіл да сатыры, асабліва накідаецца ён на сучасную яму моладзь і наагул на ўсё маладое, новае. Так, ў адносінах бацькоў і дзяцей ён без міласэрдзьдзя бічуець і тых і тых, але болей злосьці маець на дзяцей. У вершах гэтага разьдзелу шмат горкай праўды і ёмкіх слоў. Бацька аб сыну кажаць так: „Ні бацькі, ні маткі ўжо ня слухаець, мяне бярэць ужо за грудзі, — ці-ж гэта з яго ўжо будуць людзі? Ды старым дурнем называець, бо ўжо на сілу надзею маець. Як у гэтай школе пабыў, дык і на работу забыў. У лапці ўжо ня хочаць абувацца, ды каб смачна нажрацца... Я, кажаць, цяпер ня панскі, а вольны і розум маю ужо поўны... Назаві яго: Мікіта, дык ён не адгукаецца,—я, кажаць, ня Мікіта. А я кажу: а хто-ж ты? А ён кажаць: я Нікіт, а ня Мікіта!“... І вось у той час, калі новая беларуская мужыцкая моладзь, пабыўшы ў войску, ў шахтах, ці паўчыўшыся тры гады ў маскоўскай, проці-беларускай школе, ужо ня хочаць працаваць, як бацькі, і так, як яны, хадзіць

у лапцях і называцца пабеларуску Мікітамі, у гэты час ста разаконны беларускі бацька бядуе і злуецца, раўнуючы сваё даўнейшае жыцьцё з цяперашнім маладым: „Ня добра, што няма на іх пана!“ Бо тады сын-распуснік ня быў-бы гэткі: „Не захацеў-бы ён у будні дзень боты надзяваць ды мылам рукі мыць па самыя локці, а пашоў-бы ён старожку і варту адбываць і скора-б ён папаўся-бы аканому у когці... Насіў-бы ён, юха, тое, што прыгожа мужыку: старую каліту і шабалтас; ды яшчэ рад-бы ён быў і аднаму гузіку*), так, як бывала і ў нас“. Злосьць старога на маладых даходзіць да таго, што ён кажа: „*Тады і сонца весялей сьвяціла, як сьвятая розга хадзіа*“. Так казала канаючая, з непазбытай прыгоншчынай у душы Беларусь і гэтым самым капала між сабою і моладзьдзю непраходную яму. Адносіны бацькоў і сыноў Арлоўскі чапаў дужа часта ў розных сваіх вершах, гэта было для яго самае больнае пытаньне. Усюдых ён праводзіў думку старых: „Бог і цар даў нам слабоду, а маладзёж цаніць яе ня ўмееуь“, — і даваў пры гэтым схэматычную і грубую, але з надворнага боку справядлівую і яркую карціну утварэньня з сялянскай моладзі „зброду,“ гэта, значыцца, тых абломкаў, з якіх патроху ўзраставу невялічкі сьвядомы элемент пролетар'яту („Пракоп,“ „Бацька,“ „Дзяніс“ і інш.). Разумеецца, Арлоўскі ня мог ахапіць гэты працэс утварэньня цалікам у яго гістарычным і соцыяльным значаньні і запісаў толькі тыя тыповыя драбніцы яго, што былі перад самымі вачмі: „Калі грошы троху агацаець, дык гайдачкі ў горад, а там у басякі пападаець...“ *Старая мужыцкая Беларусь аднасілась няпрыхільна* ня толькі да свае моладзі—„зброду,“ але наагул і *да ўсякае навіны*, да ўсяго таго, што нішчыла даўнейшы уклад, выгляд і парадак жыцьця, што палохала сваёй незразумеласьцю старых, пабожных і забабонных, людзей. Так, Арлоўскі піша: „Ды яшчэ зялезныя дарогі,—каб нашы і вочы іх ня відалі,—нарабілі усім нам трывогі: багачам—грошы, а ўбогім бяды далі. Машыны паелі ўвесь лес...“ Старына містычна заўважае, што ад навіны пачаў мяняцца і выгляд зямлі: „Ужо многа каторыя рэкі саўсім ужо ўсохлі...“ І ўсё, адным словам, сьведчыць аб блізкім сьветапрастаўленьні: „На юбілеуш ксяндзы казалі, што езьдзіць вагняная печ, вот і дротам увесь сьвет перавязалі ды й на слупы лес сталі сеч. Відаць, прыходзіць нам канец і скора будзець страшны суд: антыхрыст падавіць нас, як авец,—бог пакажаць нам свой цуд.“ Ад гэткага містычнага настрою радзілася павышаная

*) Заможныя і аляганты мелі па пяць вялікіх і бліскучых гузікаў на каліце пры паясе, а бедныя—менеей.

сьляпая набожнасьць старой Беларусі, не знасіўшая рэлігійнай лёгкадумнасьці маладых: „Ня дзіва, што бог нас караець, калі ўжо і наш брат, мужык, і той: „Бога нѣтути!“—уверaець. Каб тебе адсох язык!“ Забабоннасць ўва ўсіх яе галінах—галоўная, такім чынам, азнака мужыцкай старыны, і яна асабліва добра адбілася ў творах Арлоўскага. Можна-б было сказаць, што гэты няўломны мужыцкі „пісацель“ проста запісаў на паперу мужыцкія забабоны, але тут ёсьць важная прымета: Арлоўскі і сам чалавек забабонны, запісы яго і агорнуты і прахоплены чыста-мужыцкім забабонным духам, чаго мы не знойдзем ні ў якіх этнографічных запісах і ні ў якіх наагул інтэлігенцкіх творах аб мужыках. Той дух кажаць чараўніку: „Ты ў свадзьбе сядзіш за сталом, а сватом думаеш гаручку; ты ў жыце заломіш залом, каб узяць грошы кучку. І ні ў аднаго гаспадара авечка і кароўка пала, і ў беднага нашага дудара дуда лопнула і прапала.“ Пад прынукай таго духа мужыкі нясьлі сканаўшага чараўніка ў ростанькі і закапывалі ў яму пры балоце, а пазьней, калі не пераставаў хадзіць па начох, забівалі яму ў грудзі асінавы кол і давалі абухом у лоб... Соцыяльныя пытаньні старазаконныя мужыкі Арлоўскага разьвязываюць з свайго земляробскага і пабожнага пагляду, з нейкім лятуценным, а ня дзейным соцыялізмам: „Я знаю і такіх многа, што да міліёна дзесяцін і толькі на яго аднога,—ці ён-жа і ў бога гаспадзін? А ці гэта-ж нам ня можна падзяліцца, каб мы добрыя былі, і ня трэба нам было-б давіцца, і усе спакойна-б жылі.“ Аднак, добрыя думкі толькі думкамі і заставаліся, дык зьяўляецца крытыка панаючага ў гаспадарстве ладу, хоць вельмі асьцярожная: аўтор прызнае і цара і начальства, толькі дзівуецца, чаму ў нас „плачаць млад і стар, што такое начальства“, але зараз удаецца ў туманную маркоту і аж піша з натхненьнем:

А, божа наш мілы,
Якая наша злая доля,
Што на Русі усе хілы,—
А калі-ж будзець воля?
Усе-роўна, як сьпяць
І ня могуць прашнуцца,
А усе людзі з нас кпяць,
Што ня можам аглянуцца...

Апрача таго, Арлоўскі бічуе звычайныя заганы мужыцкай Беларусі, як п‘янства, сваркі, нядбальства. Есьць у яго і патрыятычныя, ў маскоўска-самадзяржаўным духу вершы, а таксама пераказы рознага мізэрнага значэньня, якое аўтор мог дастаць з выпадковых популярных маскоўскіх кніжак і розных соньнікаў, аракулаў, хіромантый. Навуку ён кануеды на маскоўскую школу глядзіць няпрыхіль,

на: „Я табе праўду скажу, стараста, што гэтыя народныя школы, то толькі псуюць нашага брата-мужыка. Тры зімы вучыцца, а нічога ён ня знаець: пісьма ня можаць нікуды напісаць.“ „...і я хвалю і люблю навукі, ато ён з народнай школы ня ўчоны, а толькі скалячоны.“ Толькі Арлоўскі, як і Пшчолка, не стараецца адгадаць грунтоўнай прычыны таго калецтва і скрытыкаваць самую школу. Агульнай прыметай усіх твораў Арлоўскага ёсьць чыста-народны беларускі нахіл разьвязываць пытаньне з дыдактычнага і быццам філёзофскага боку. Надта мала ў яго вершаў, гдзе-б пераважалі элементы чыста-мастацкія („Два мужыкі ў лесе на дрывасецы“).

## Выдатныя беларускія этнографы і вучоныя.

А. Слупскі выдаваў беларускія календары на 1892 і 1893 г. г. ў Менску, да якіх прыкладаў альманахі з артыкуламі і вершамі ў беларускай мове ці па беларусазнаўству. Сам Слупскі шмат пісаў па беларускай этнографіі.

Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі (1844—1910)— родам з Віцебшчыны, выдатны беларускі этнограф-самавук, працаю каторага карыстаў для сваіх зборнікаў вядомы этнограф Шэйн. Можна з пеўнасьцю сказаць, што толькі неспагадныя ўмовы жыцьця не дазволілі Нікіфароўскаму разьвіць свае здольнасьці ў беларускай белетрыстыцы, хоць ён меў да таго пеўны нахіл. З яго працы асабліва цікаўны і важны такія рэчы: 1) „Нарысы простанароднага жыцьця-быцьця ў Віцебскай Беларусі і апісаньне рэчаў штодзеннага ўжытку“ (Віцебск, 1895 г.); 2) „Простанародныя прыметы і забабоны“ (Віцебск, 1897 г.); 3) „Нарысы Віцебскай Беларусі“ (1892—1897 г. г.). Апрача таго, Нікіфароўскі напісаў колькі невялічкіх кніжачак этнографічна-белетрыстычнага характару з дзіўнымі малюнкамі побыту. Беларускую народную мову ўмеў ён дасканальна. Праз усё жыцьцё Нікіфароўскі быў вучыцелем прыгатаваўчае клясы ў мужчынскай гімназіі ў Віцебску.

Аўдакім Раманавіч Раманаў (рад. ў 1855 г.) — з беднай сям'і, з Беліцы блізка Гомлю, з Магілеўшчыны; плодны сучасны беларускі этнограф, надта заслужоны ў беларускай этнографіі. Кніжкі яго „Беларускага зборніка“ зрабіліся дужа популярнымі на Беларусі. Яны даўно ўсе разыйшліся, глаўным чынам, у народзе, і ў продажы іх не знайці. Іх надта ахвотна і з вялікай цікаўнасьцю чытаюць сяляне-беларусы, для каторых „Беларускі зборнік“ Раманава—не этнографія, а улюбёная „прыгожая“ літэратура.

Валадзімір Мікалевіч Дабравольскі — родам са Смаленшчыны, стары беларускі этнограф, напісаў слоўнік Смаленшчыны, сабраў смаленскі этнографічны зборнік і інш., чытае ў Смаленску ў археолёгічным інстытуце лекцыі і ўсім тым сеяў і сеець беларускаць поўнай жменяй на ўсходніх узьмежках Беларусі.

М. В. Даўнар-Запольскі.—З канца 80-х гадоў працуе на ніве адраджэньня наш слаўны профэсар М. В. Даўнар-Запольскі. У яго шмат капітальнай працы па беларускаму праву, гісторыі, этнографіі і літэратурнай крытыцы. Пісаў ён аб Васілю Цяпінскім, аб В. Дуніну-Марцінкевічу, разглядаў творы „Гапон“, „Тарас на Парнасе“ і інш. У 1898 годзе ў Маскве пад рэдакцыяй Даўнар-Запольскага выйшаў беларускі календар, дзе між іншых твораў аб Беларусі былі зьмешчаны вершы Марцінкевіча і іншых нашых песьняроў. У часе рэволюцыі профэсар цьвёрда стаў на грунце незалежнай гаспадарстванасьці Беларусі, аб патрэбе якой таланавіта і пераканаўча даводзіў у кіеўскай і ў другіх беларускіх газэтах, а таксама і ў асобнай кнізе „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі“, надта пашыранай сярод беларусаў і перакладзенай на эўропэйскія мовы.

Е. Ф. Карскі—акадэмік-беларусавед, слаўнейшы бадач беларускай мовы і гісторык беларускай літэратуры, асабліва старадаўнага пісьменства. Па яго ўсім вядомых кніжках, пад агульным назовам „Беларусы“, навучалася роднаму слову ўсё маладое пакаленьне беларускай інтэлігенцыі.

Міхал Федароўскі—слаўнейшы беларускі этнограф у польскай мове, зьбіральнік гутарак. Здабыў славу сваей вядомаю працаю „Lud białoruski“ (найлепшы этнографічны зборнік з боку мэтоду гэтай працы).

А. К. Сержпутоўскі—аўтор знамянітай кнігі „Казкі і расказы беларусаў-паляшукоў“, у якой ёсьць рэчы, па сіле і мастацтву роўныя новэлям Бокачыо. Гісторыку беларускае народнае славеснасьці кніга Сержпутоўскага даець мнагацэньнейшы, выключны па характву і багацьцю матар'ял.

Этнографічны перыад нашае літэратуры, які стварылі гэтыя і многія іншыя, менш выдатныя нашы пісьменьнікі-этнографы і наагул беларусаведы, маець значаньне зьбіральнага перыаду ў нашай літэратуры. Зьбіраючы і парадкуючы матар'ял, надта важны для нормальнага разьвіцьця пісанага слова, яны сьвядома ці несьвядома зрабілі нязрушным той грунт, на каторым расла навейшая беларуская літэратура.

## Нашаніўская пара.

(1905 г.—1915 г.).

Нацыянальная, ці нашаніўская (ад назову газэты „Наша Ніва“) пара пачалася з рэволюцыі 1905-га года, калі беларускае друкаванае слова магло вольна пашырацца на ўлоньні свае айчызны. Падрыхтавала яе народніцкая пара, а пазьней—тыя шырокія рэволюцыйныя валы, што пакаціліся ў беларускім народзе. У 1905—1906 гадох Беларуская Соцыялістычная Грамада выдрукавала і пусьціла ў самыя далёкія, глухія і цёмныя куткі бацькаўшчыны дужа многа праклямацый, якія пабуджалі ў народзе соцыяльную сьвядомасьць, а разам з тым заклікалі скідаць нацыянальны гнёт, каторы на Беларусі заўсёды ішоў поруч з соцыяльным. Такім чынам, у кола клясавых дамаганьняў, якія жылі ў сьвядомасьці беларуска-сялянскай грамады, уваходзілі і прывіваліся беларускія нацыянальныя жаданьні. У 1906 годзе заснаваўся Беларускі Вучыцельскі Хаўрус, да якога прыгарнулася вялікая лічба народных вучыцялёў, працаваўшых сярод народа ў соцыялістычным кірунку і з нацыянальнымі азнакамі. Адначасна пачаўся беларускі рух сярод вучнёўскай моладзі ў інстытутах, вучыцельскіх і духоўных сэмінарыях, сельска-гаспадарскіх школах і ўсюдых, дзе шмат было беларускіх дзяцей бяднейшых станаў. Рух адраджэньня найбайчэй узрастаў у Вільні і ў Пецярбурзе, хоць людзі рупіліся працаваць і ў другіх местах. Гэтак, у Менску выйшла беларуская газэта ў маскоўскай мове „Голосъ Бѣлоруссіи“, зачыненая на першым нумару; у Магілеве залажылася ,,Общество изученія Бѣлорусскаго Края“ і г. д. З 1906 году ў Пецярбурзе пачало працаваць першае беларускае выдавецкае таварыства, суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца“. Стараньнем гэтага выдавецтва надрукавана шмат беларускіх кніжак: прыгожай літэратуры, новай і навейшай, школьных падручнікаў, популярна-навуковых брошурак. Друкаваньне йшло лацінкаю і кірыліцай (гражданкаю). Зьяўляліся і другія выдавецтвы, як Антона Грыневіча і іншыя.

14 (1-га) верасьня 1906 года выйшаў у Вільні першы нумар першай легальнай беларускай газэты „Наша Доля“.

Гэты дзень лічыцца сьвятам беларускага адраджэньня і быў ён важным пунктам ў гісторыі беларускай літэратуры. Пісала ў „Нашай Долі“ рэволюцыянэрка Цётка, пісалі яшчэ: Дзядзька Пранук (Ф. Умястоўскі), В. Тройца (В. Іваноўскі) і з маладзейшых — Я. Колас і А. Навіна. Нумары „Нашай Долі“ зрабіліся цяпер дарагой бібліаграфічнай рэдкасьцю.

Усяго выйшла 6 нумароў, з каторых ажно 5 сканфіскавала паліцыя. Вестка аб легальнай газэце, пісанай пабеларуску, пракацілася па ўсёй Беларусі, як першы веснавы гром. Людзі плакалі ад радаснае навіны і горкіх успамінаў. А на вуліцах Вільні газэту бралі нарасхват, чыталі вялікімі кучкамі і плацілі часам вялікія грошы. Калі-ж газэта дайшла ў провінцыю, сяляне сталі прысылаць у рэдакцыю дужа многа пісьмаў з гарачымі, натхненнымі і радаснымі словамі абуджаных сыноў пад'яромнае бацькаўшчыны.

23 (10-га) лістапада 1906 года выйшаў у Вільні першы нумар „Нашай Нівы“.

За ўвесь час свайго жыцьця, да восені 1915 года, „Наша Ніва“ гуртавала ля сябе ўсю сьвядомую Беларусь, і на яе страніцах вырасьлі літэратурныя іменьні ўсіх выдатнейшых сучасных беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў. Хоць „Наша Ніва“ і не магла паказаць у поўнай меры свой соцыяльны характар, аднак, яна была самая левая газэта ў краі, стульна зьвязаная з сваім сялянствам. Так, за першыя тры гады існаваньня газэты ў ёй было надрукавана 960 орыгінальных корэспондэнцый з 489 вёсак і мясьцечак, а за чацьвёрты год—660 корэспондэнцый з 321 меснасьці. А рэдакцыя-ж нічога не плаціла сваім корэспондэнтам, як і наагул сваім супрацоўнікам, апрача аднаго-двух тэхнічных работнікаў. Каб дайці да ўсіх беларусаў, праваслаўных і каталікоў, „Наша Ніва“, як і „Наша Доля“, друкавалася і кірыліцай і лацінкаю, але з 1912 года, з-за вялікага кошту, посьле агульнага запытаньня ў чытаньнікаў, газэта перайшла на адзін сучасны кірылаўскі шрыфт. У цесным зьвязку з „Нашай Нівай“ працавала над павялічаньнем кніжнага багацьця Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні, каторае выдала шмат усялякіх кніжак. Посьле, як беларускі рух стаў буйна ўзрастаць, зьяўляліся новыя выдавецтвы, друкаваліся новыя часопісі, але скрозь ўвесь час да вайны давала тон усяму руху, выдавецтву і літэратуры — Вільня і „Наша Ніва“. Першай прыметай нашаніўскай пары ў літэратуры ёсьць пераважнасьць нацыянальных элементаў і нацыяналістычных лёзунгаў і мотываў над усім-чыста іншым. І ў гэтую пару, як ужо даўно ў нас павялося, асабліва разьвілася наша поэзія ў вершу; разьвіцьце прозы было значна слабейшым. Пісьменьнікаў і поэтаў-нашаніўцаў можна падзяліць на старэйшых, зьвязаных па часу, па духу ці ўплыву з народніцкай парой (К. Каганец, Цётка, Ядвігін Ш., А. Паўловіч, Г. Леўчык і інш.) і маладзейшых, стварыўшых зусім сваю, выразна-нацыянальную і ў істнасьці клясава-мужыцкую, але даволі разнаабразную і ўжо багатую літэратуру (Я. Колас, Т. Гушча,

Я. Купала, М. Багдановіч, З. Бядуля, А. Гарун, Ф. Аляховіч і інш.). Зьявіліcь чыста-сялянскія пісьменьнікі (Л. Лобік, Стары Улас і інш.) У нашаніўскую пару разьвілася і беларуская публіцыстыка (А. Навіна, Власт, Я. Лёсік і інш.).

**Ян Луцкевіч** (1881—1919)— віленскі археолёг, родам з Менска, быў адным з самых відных дзеячаў нашаніўскае пары. Як выдатная культурная сіла ў адраджэньні і палітычны правадыр такога руху, дзе разьвіцьце нацыянальнай літэратуры было грунтам усяе працы, Ян Луцкевіч, хоць сам блізка што і ня пісаў, зрабіў тымчасам вялікую работу ў гісторыі нашаніўскае літэратуры, быўшы ініцыятарам „Нашае Долі“ і „Нашае Нівы,“ дабываўшы кошты на друкаваньне, гуртуючы ля сябе людзей слова і жывучы з імі адным жыцьцём. У гісторыі-ж адраджэньня наагул Я. Луцкевіч мае значаньне непараўнавана важнейшае. Беларускаму народу адказаў ён багаты нацыянальны музэй, які з вялікаю пільнасьцю і працаю зьбіраў праз усё жыцьцё. Памёр ад сухот і пахсван у Закапаным, у Галічыне. (Гл. кнігу „Памяці Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі сьмерці яго“, Вільня, 1920 г.).



Ян Луцкевіч.

## Старэйшыя пісьменьнікі.

### Карусь Каганец.

(† 1918 г.)

**Біяграфічны матар'ял.** На сьмерць пісьменьніка ў „Вольнай Беларусі“ (№ 20—21, 1918 г.) было напісана вось што: „К. Каганец (Казімір Кастравіцкі) належыць да

найстарэйшых песьняроў беларускага адраджэньня. Гэта ён, у пару страшэннай нацыянальнай цішы на Беларусі, зьвярнуўся да бога ў такіх хвалюючых душу словах: „О, божа, спасе наш! Ты міласьць нам пакаж, з няволі вызваль нас!“ Цяпер гэта песьня пераложана на ноты. К. Каганец выступіў на беларускі шлях у самую дзікую пару аляксандраўскай рэакцыі. Сыстэма абрусіцельства была ў поўным росквіце. У той час,—кажа А. Уласаў, блізка знаўшы К. Каганца,—назваццa гімназісту беларусам было тое самае, што зрабіць вялікі чын Муцыя Сцэволы, або голым прайці па вуліцы. І бяспрыменна выгналі-б з гімназіі за такую крамолу, бо для царскіх чыноўнікаў ні беларусаў, ні Беларусі ня было; быў толькі „истинно-русскій край“ з „истинно-русскими людьми“ на Беларусі. Але „ад барадатай, прысадзістай постаці Каганца, насіўшага дэмонстратыўна кажух і боты і падперазанага чорна-рускім паясом,“ піша А. Уласаў: „веяла моцнай, непарушнай, як скала, верай, што „Беларусь трэба падымаць.“ К. Каганец, як ідэйна-грамадзкі працаўнік, вядом ня толькі беларускай інтэлігенцыі, але і шырокім колам працаўнікоў асвабаждаўчага руху 900 гадоў. Ен быў адзін з тых, хто палажыў пачатак Беларускай Социялістычнай Грамадзе. Каганец пісаў граматыку беларускай мовы ў той час, як беларускі друк быў забаронены.“

Памёр Кастравіцкі 20-га мая 1918 года ў фальварку Юцкі блізка Койданава. Пахавалі яго ў Навасёлках.

**Літэратура і творчасьць Каганца.** Творы пісьменьніка, апрача некалькіх рэчаў, вышаўшых асобнымі кніжкамі („Модны шляхцюк“, „У іншым шчасьці няшчасьце захована“), параскіданы па розных маскоўскіх часопісях 90 х і 900-х гадоў і па беларускіх выданьнях нашаніўскае пары; некаторыя былі зьмешчаны ў тыднёвіку „Вольная Беларусь“ (1917 і 1918 г. г.), а пасьмертныя—ў газэце „Беларусь“ (1919 і 1920 г. г.). Пісаў Каганец, як відзім, скрозь усю народніцкую і нашаніўскую пару. Па свайму нацыянальна-беларускаму народніцкаму романтызму ён належыць да часу Багушэвіча, а стаіць у гэтым часе зусім самабытна, орыгінальна, па-за ўсякімі ўплывамі і пераймальнямі; тут ён н а р о д н і к і р о м а н т ы к - а д р а д ж э н е ц. Па сваёй-жа нацыянальна-палітычнай ідэолёгіі і па сваіх, залежных ад яе, спасабох творчасьці ён—духоўны бацька нашаніўства і сам п а ч а т к о в ы н а ш а н і в е ц. Каганец — апавяданьнік, лірык і драматург. Пачаў ён з апрацаваньня беларускіх легенд і казак („Прылукі“, „Вітаўка“, „Адкуль мядзьведзі“, „Хто міл богу“, „Машэка“, „Скрыпач і ваўкі“) і з пісаньня невялічкіх апавяданьняў гістарычнага характара, пераймаю-

чых па укладу падобныя народныя пераказы („Навасадзкае замшчышча“, „Засульскія турэ“, „Ваўчок“, „Халера 40-га року“ і інш.). Ужо тут адбіваецца старая Беларусь, „атуленая пушчамі, лугамі, абвеяная казкамі зруйнаваных замчышч беларускіх князёў“, і пісьменьнік выступае ня толькі, як сын народу, але як „дух з беларускай пушчы“. Разам з гэтым, зьбіраючы гісторыка-этнографічны матар'ял і запісуючы народныя песьні, Каганец, як некалі Чачот, спрабуе сваю пясьнярскую здольнасьць у лірычных песьнях, галоўным чынам, гістарычных па зьместу, а па ўкладу, па разьмеру, і, глаўнае, па духу зусім падобных да чыста-народных твораў. Так што першае слова яго кніжнай творчасьці было астатнім словам народнай творчасьці.

## Лірыка Каганца.

Лірыка Каганца выдаецца ў беларускай поэзіі сваёй беларускасьцю. Яна беларуская ня толькі па мове ці на нацыянлістычных лёзунгах, а дапраўды нацыянальна-беларуская. Рытміку верша Каганец прызнаваў толькі народную. Верш Каганца часам ня можна адрозьніць ад народнай беларускай песьні („Кабзар“, „Нёман“, „Збор“ і інш.); у гэтым хараство яго верша, а з другога боку і загана, бо той верш часта і не падымаецца вышэй за песьні. Зьмест каганцовай лірыкі даволі розны, але таксама мала шырэйшы за народнае песьні. Найчасьцей бярэць яго Каганец з мінуўшчыны беларусаў. Гледзячы на Нёман, ён вельмі поэтычна разважае: „Ой, Нёман цячэ, Нёман плыве ад нас у літоўскія зямліцы. А хто там пайме, хто разьбярэ топат і гоман нашай рачыцы“; потым з маркотай успамінае мінулыя падзеі і паснулую, забытую славу бацькаўшчыны („Нёман“, 1893 г.). Каганец у захапленьні ад славы нацыянальных змаганьнікаў за волю народа і тужыць, як падумае, што ўсё тое даўно мінулася, і цяпера беларусы ня ведаюць пра сваіх герояў („Гадка пра Галубка“, 1893 г.). Той настрой і думкі разьвіваюцца ў вялізазнае, няўніманае жаданьне запаліць у радакоў любоў да бацькаўшчыны, усьведаміць іх, што патрэбна адраджэньне. Дзеля гэтага ён малюе ўціскаdebugньне ад Маскоўшчыны і Польшчы („Чы праўда гэта?“, 1902 г.), бязконцае, ганебнае і больнае апекаваньне Беларусі чужынцамі („Былое“, 1908 г.) і пераймаецца народнымі песьнямі, дзе паказаны сялянскія мукі ад паншчыны („Пра пана Ленскага“), цяжкая служба у царскім войску („Царская служба“). Адным словам, ён усё болей пераходзіць на палітычна - нацыянальны голас і ўрэшце заклікае да адраджэньня („Збор“, 1902 г.).

Ен, складае гімны адраджэньня і з драматызмам моліцца, каб яно прыйшло, каб людзі збудзіліся, каб вочы іх прасьвятлелі („Малітва"). Як духоўны правадыр, паказуець поэт маладым братом патрэбную сьцежку-пуцявіну і навучаець іх змагацца („Наш сымвал"). Каганец пісаў вершы ня столькі дзеля таго, што чуў сябе поэтам, колькі дзеля таго, што „Беларусь трэба падымаць". Дык справядліва, хоць і надта стродка, сказаў аб яго вершах М. Багдановіч: „...Каганец, пішучы вершы, аглядаўся на народную песьню і намагаўся, каб яны былі праняты яе духам, яе прыкметамі. Ды, на жаль, мала было ў яго творах натхненьня, і выхадзілі яны ў яго важкімі, тапорнымі, бясьсільнымі. Таму ў друку яны бадай што не зьяўляліся і ніякага сьледу ў беларускай поэзіі яны не пакінулі. Аднак, хоць і зрэдку, Каганец падвышаўся да праўдзівай творчасьці, і тагды ў яго вынікалі такія вершы, як „Кабзар" („Наша Ніва", 1909 г.)—рэч самародная, патыхаючая народным духам і пакідаючая моцнае ўражаньне".

### Модны шляхцюк.

Самы лепшы твор Каганца—камэдыя ў аднэй дзеі з засьцянковага жыцьця „Модны шляхцюк". У камэдыі добра змалявана бытавая абстаноўка і даведзена нацыяльная думка. У васобе Пранцішка Карчэўшчыка абсьмеяна тая беларуская моладзь з дробнай шляхты, што набіраецца гарадзкое быццам-то культуры, хварэць на панства, ганіцца за „модаю" гаварыць папольску і адракаецца ад усяго роднага, бо яно у іх засьлепленым ваччу—простае, хамскае. Карчэўшчык—мастацкі тып. У ім сабраты і паказаны азнакі, тыповыя для ўсіх „модных шляхцюкоў", ненатуральны пераход каторых ад аднэй культуры да другой робіць іх мала-сумленнымі, нізкімі людзьмі, згубіўшымі грунт пад нагамі і мізэрнымі ў сваім упадку. Нахапаўшыся вяршкоў усяго для іх чужога, яны застаюцца цёмнымі, але пошла-амбітнымі людзьмі. Уся іх культурнасьць і вучонасьць—сурдут і манішка на голым целе; яна ня прыстаець да іх як мае быць. Для іх няма нічога чыстага, высокага ў жыцьці; няма каханьня, а ёсьць пасаг, няма людзкога гонару, а ёсьць амбіцыя, няма адвагі, а ёсьць трусасьць.

У іншым шчасьці няшчасьце захована—бытавыя драматычныя сцэнкі ў пяцёх часьцях, толькі збольшага накіданыя Каганцом (1903 г.), знойдзеныя ў паперах і надрукаваныя пасьля яго сьмерці (1919 г.). Драма гэтая грунтуецца на соцыяльных пытаньнях і таксама паказуець бытавую абстаноўку. Соцыяльная несправядлівасьць

разлучаець Астапа з Марыляю, аддаець дзяўчыну на згубу панічу, мучаець беднага парабка ў войску, а патым у вайстрозе і вымагае ад Піліпа сказаць так: „Вось і шукай тут праўды на сьвеце! Здаецца-б хто, ато паны! Пойдзеш у двор— такія, здаецца, добрыя, так аб усім хораша гавораць. А паглядзіш, дык вось што вычвараюць... Ну, я гэтаму панічу не дарую, папомніць ён мяне!"

Двойчы прапілі (1910 г.) — недапісаная драма ў 4 часьцёх; вызначаецца дужа нацыянальным абліччам сялян, што мы відзім з іх размоў. І тут завязка ў соцыяльнай няроўнасьці.

Старажовы курган — няскончаны драматычны нарыс у 3 зьявах; напісаў яго Каганец на сюжэт народнай песьні таго-ж назову,— так сказаць, інсцэнізаваў народную творчасьць.

Сын Даніла — драма ў 3 дзеях з завязкай, узятай таксама з народнай творчасьці. Народ паказаў толькі адносіны маткі, сына і маладухі, а Каганец дадаў сюды старадаўна-баярскую абстаноўку і колькі абразкоў змаганьня за родны край, стварыў патрыятычна-беларускі настрой і ўсім тым дамагаецца сваіх нацыянальна-грамадзкіх заданьняў: зварушыць беларусаў да адраджэньня. Драматызм тут няпоўны, надворны, невыцякаючы з натуральнага разьвіцьця змаганьняў і пераўжываньняў і паказаны скачкамі. У гістарычнай абстаноўцы—некаторыя анахронізмы.

„Старажовы курган" і „Сын Данілы" — першая ў навейшы час спроба даць беларускую гістарычную драму. І вось мы відзім, што „Модны шляхцюк" лепей задаўся Каганцу, бо напісан з сучаснага жыцьця і ў сатырычным тоне, што было, відаць, бліжэй да здольнасьцяў драматурга і зручней для нашай адраджэнцкай літэратуры (славу нашай мінуўшчыны ворагі зьнішчылі ў народнай памяці і сьвядомасьці). Гістарычныя творы ў Каганца выйшлі слабейшыя, бо і грунт для такой творчасьці ня быў падрыхтован ні ў нашай літэратуры ні ў навуцы.

**Мова Каганца** — дужа прыгожая і чыстая беларуская народная мова. У яго ёсьць старадаўныя словы і формы, каторыя вабяць сваёй беларускасьцю і хараством. Каганец шукаў багацьця слоў толькі ў народнай крыніцы, ня браў слоў чужых і нова-прыдуманых. Гэтае нахіненьне ён захаваў навет у навукова-популярных рэчах („Гутаркі аб небе і зямлі").

# Цётка.

(† 1916 г.).

**Біаграфічны матар'ял.** Пад псэўданімам Цёткі пісала і пад такім-жа партыйным празваньнем працавала сярод работнікаў у Вільні Алёізія Кейрыс, дзявочая фамілія каторай—Пашкевічанка. Арадзілася яна ў сялянскай сям'і ў Лідчыне. Саматугам, без вялікай помачы ад бацькоў, здолела вучыцца, скончыла гімназію (ў Вільні) і здабыла вышэйшую адукацыю. У 1904 годзе ўзялася Цётка за грамадзкую працу ў Вільні і адразу паказала свае арганізатарскія здольнасьці, пачаўшы зьбіраць беларускіх работнікаў у Беларускую Соцыялістычную Грамаду. У 1904 — 1905 гадох Цётку можна было відзець на ўсіх вялікіх работніцкіх сходах; а калі настаў час вялікіх публічных мітынгаў, яна выступала ўсюдых, будзячы агульнае спагаданьне сваімі шчырымі і гарачымі беларускімі прамовамі. У часе сваёй нядоўгай працы ў нова-вілейскай бальніцы, яна была ў самым цэнтры работніцкіх арганізацый Нова-Вілейска, дзе паказала асаблівую энэргію. Калі пачала выхадзіць „Наша Доля“, Цётка аддала ёй свае літэратурныя здольнасьці. За тую работу пацягнулі яе пад суд, дык яна ўцякла заграніцу, у Львоў, там слухала лекцыі на гісторыка-філёлёгічным аддзеле і працавала над беларускімі бэтлейкамі, якія выбрала сабе тэмай для доктарату. Пабраўшыся з інжынэрам-ліцьвіном Кейрысам і так зьмяніўшы фамілію, вярнулась на Беларусь і ўзноў завінулася ў Вільні ля грамадзкай працы, глаўным чынам, на школьнай і тэатральнай ніве. Нейкі час жыла Цётка ў Пецярбурзе,



А. Цётка.

вучылася на вышэйшых курсах Лесгафта і працавала ў беларускай колёніі; адтуль езьдзіла ў Фіншчыну лячыцца ад сухот, адылі прыехала ў Менск і наладзіла там літэратурны месячнік для моладзі „Лучынку“, у якім і была кіраўніцай. Калі настала вайна, Цётка запісалася ў міласэрныя сёстры, працавала на фронце, а патым у віленскім бараку для хворых на тыфус. Як у Вільню прыйшлі ў 1915 г. немцы, Цётка ўзялася за арганізацыю беларускіх школ. Паехаўшы ў Лідчыну на хаўтуры свайго бацькі, яна была ў многіх вёсках, ахопленых тыфуснай пошасьцю, зьбірала там матар'ял, каб падаць яго ў Вільні і прасіць ратунку, але заразілася сама і 5 лютага 1916 г. памёрла. Яе пахавалі на родным вясковым могільніку, сярод сялян, для якіх аддала ўсё сваё жыцьцё.

**Літэратура Цёткі.** Цётка пісала і пад рознымі другімі псэўданімамі (Гаўрыла з Полацку, Мацей Крапіўка, Тымчасовы і інш.) або зусім бяз подпісу. Творы яе параскіданы ўва ўсіх беларускіх выданьнях нашаніўскае пары („Наша Ніва,“ „Маладая Беларусь,“ „Лучынка“ і інш.). Некаторыя цёткіны творы выйшлі асобнымі кніжкамі („Скрыпка беларуская“—1906 г. і „Хрэст на свабоду“—1906 г.). Пісала Цётка вершы, апавяданьні, чытанкі для дзяцей („Першае чытаньне для дзетак-беларусаў,“ 1906 г.), педагогічныя, навукова-популярныя і інш. артыкулы. Усю літэратурную творчасьць пясьняркі можна падзяліць на дзьве часьці: першы час—рэволюцыйны (1905—1906 г. г.) і другі час—чыста-нашаніўскі (да сьмерці).

**Цётка і Багушэвіч.** Па кірунку і характару шмат якіх вершаў Цётка маець духоўна-літэратурны зьвязак з Багушэвічам. Яна пачала майстраваць сваю „скрыпку“ пад тон яго „дудкі“ („Прадмова“ да „Скрыпкі Беларускай“). Яе лірыка таксама выключна ідэйная дыз большым, чымся ў Багушэвіча, хоць у вагуле з невялічкім прырода-апісаўчым элементам, каторы ізноўжа не самастоен, а на службе ў той ідэйнасьці. Рэволюцыйны настрой Багушэвіча шырэйшы і меней адкрыты. У Цёткі ён болей адкрыты, але вузейшы, соцыяльна-палітычны. Любоў да бацькаўшчыны і працоўнага люду ў іх роўная, але ў Цёткі яна вастрэйшая, фанатычная і напружана-адраджэнцкая.

**Творчасьць Цёткі.** На літэратурную беларускую ніву прыйшла Цётка, як рэволюцыянэрка. У першым часе творчасьці яна пісала на палітычныя тэмы, ярка малюючы падзеі рэволюцыі. Вялікія работніцкія дэмон-

страцыі, растрэлы, тэрорыстычныя акты выгукаюць у яе душы жывыя адгалоскі і выліваюцца на паперы шыбкімі энэргічнымі і ўзрушанымі радкамі („Хрэст на свабоду", 1906 г.). Цётка болей а болей захопліваецца боем, каторы „вякамі жджэцца" і цяпер „пачаўся не на жарт." Яна прадстаўляе народную рэволюцыю, якая можа дасягнуць вялізарных разьмераў і ўзяць жыцьцё ў мільёнаў людзей. І сама пясьнярка хочаць „ў такім бою толькі пасьць" („Мора"). Даючы агульную характарыстыку рэволюцыйнай эпосе, яна смуціцца, што няма сьмеху і весялосьці, сплываюць кроўю сэрцы і старэнькімі сталі дзеці („Нябывалыя часы"). Пішучы рэволюцыйную рэч на фоне беларускага жыцьця („Прысяга над крывавымі разорамі", 1906 г., №1-шы „Нашай Долі"), Цётка знаходзіць і прыносіць у нашую мягкую літэратуру цьвёрдасьць, запал і магутную энэргію. Праўда, тут чуецца і нэрвовасьць, але яна залежыць ад самае абстаноўкі, у якой геройства і надрыў ідуць побач. Рэволюцыйныя вершы і апавяданьні Цёткі соцыялістычны, зрэдку даюць і нацыяналістычную нотку, але яны ненацыянальны, мала зьвязаны з духоўным жыцьцём беларускім. Значаньне іх у нашай літэратуры, так сказаць, надворнае: яны паразнаабразілі яе і палітычна прасьвяжылі. Некаторыя вершы, як „Мора," „Хрэст на свабоду", былі нелегальна надрукаваны ў Вільні і пашыраны па Беларусі ў дзесятках тысяч лісткоў.

Выйшаўшая ў 1906 г. „Скрыпка беларуская" зьмяшчае ў сабе самую нацыянальную поэзію Цёткі і найбольш адбівае літэратурны зьвязак з Багушэвічам. Тут мы відзім, што ўсе сілы свае душы пясьнярка аддае на службу беларускаму сялянскаму народу; яе поэтычныя перажываньні зьвязаны з яго жыцьцём і адраджэньнем. Вялікая любоў да бацькаўшчыны — грунт, зьмест і хараство яе поэзіі. Гэтая любоў асабліва выяўляецца тады, калі пясьнярцы прыходзіцца быць на чужой старане. У памяці ярка ўстаюць родныя абразы, хочацца ляцець туды, як у рай, і Цётка пяе: „Кінь мне, доля, хоць расінку з нашай вёскі, хоць пылінку, хоць дзьве крошкі ад палудня майго брата"... („На чужой старонцы"). Яна хацела-б усюды думаць аб народзе, усюды сьніць свой родны край; прыгэтым яе песьні-думкі выліваюцца з вялікім натхненьнем і асаблівай поэтычнасьцю, яе нацыянальныя і соцыяльныя жаданьні бацькаўшчыне выказаны з нязвычайным хараством і з хапаючай за сэрца любасьцю. Нацыянальная несьвядомасьць народа і яго соцыяльная убогасьць—мука яе душы („Мае думкі"). Яна гаруець, што беларускі селянін „ах! астаўся цёмны, як той бор зялёны, астаўся „хамула" ўсімі прыцісьнёны"... („Мужык не зьмяніў-

ся“). Але яна не безнадзеіцца ад гэтага, а з вялічэйшай сілай заклікае беларусаў да адраджэньня („Вам, суседзі“...) і цьвёрда верыць, што людзьмі станем, хутка скончым мы свой сон; яна вядзе перад грамадзе і пяець з такою сілаю: „Цяпер, брацьця, мы з граніту! Душа наша— з дынаміту! Рука цьвёрда, грудзь акута, пара, брацьця, парваць пута!..“ („Вера беларуса“). Апрача таго, у „Скрыпцы“, як і ў пазьнейшых вершах і апавяданьнях, Цётка дае цьжывыя і верныя абразкі беларускае прыроды і народнага жыцьця, малюець побыт і яго жывыя тыпы. Апісаньне йдзець у бойкіх і жыцьцярадасных тонах, у духу і ў настрою апісаных людзей, з веданьнем сялянска - беларускай псыхолёгіі. На ўсё пясьнярка глядзіць вокам чулай жанчыны-соцыялісткі. Апісуючы лета, яна адчувае родную прыроду, як сялянка, як працаўніца, як ад зямлі узятая. Летны абраз выклікаець у яе ахвоту працаваць на полі, жаць, касіць; яна ведае радаснае захапленьне ад работы і салодкасьць ад працы.

Другі час творчасьці Цёткі неўзабаве ўвайшоў у годы чорнай палітычнай рэакцыі, прыдушыўшай рэволюцыю. У творах Цёткі ўсё болей адбіваюцца індывідуальныя перажываньні. Яе вольнаму духу брыдка ўнізе сярод пад'яромных людзей, яму хочацца шыбаць у паднябесьсе з арламі („Арлы-брацьця“). Але пачынаюць ірвацца яе струны. Слабое цела вяшчуе, што сьмерць яго будзе раней за ўсенароднага ўваскрасеньня. Разумееиць пясьнярка, што адраджэньне цэлага народа і ня можа быць вельмі скорым. Ды не пакідаець яе сьвятая надзея, што „можа хто з дзетак скруціць жалейку, ўнучку паломанай ліры“. У прыгожых элегічных тонах, спакойным, не адчайным голасам пяець яна аб тым, што песьня правадыра-поэта ўстанець з стотысячнай сілай, што яго ліра будзе жыць нанова („Грайка“, 1909 г.). Літэратурны крытык А. Навіна, разглядаючы творчасьць Цёткі, блізкай яго знаёмай і таварышкі па віленскай працы, пішаць так, што „ня страх сьмерці, ня боязьнь утраты ўцех жыцьця становіць трагедыю душы Цёткі: яе бурны тэмпэрамэнт кіруецца толькі ў чыста - грамадзкім кірунку, выяўляецца ў творчай працы, і сьмерць і хвароба мучаць пясьнярку затым, што яна чуе ўтрату сіл да працы, што ў мамэнты адмогі чуецца непатрэбнай, лішняй. А тады выступае жаль па зьнішчаным жыцьці, — жаль, што ў няўстаннай рабоце дзеля ідэалу так мала было ясных праменьняў асабістага шчасьця, шчасьця для сябе і праз сябе. Слабее гарт душы, і панавaць хоча цела, — але цела ўжо бязсільнае“... У часе падобных індывідуальных перажываньняў як-

раз і напісаны некаторыя вершы і невялічкія імпрэсіі Цёткі („Асеньнія лісты“, 1912 г.; „Лішняя“, 1912 г.; „Зялёнка“, 1913 г.—апавяданьне з студэнцкага жыцьця, зьмяшчае ў сабе гімн творчасьці, мае аўтобіаграфічны матар'ял).

Цётка яшчэ любіла пяяць і часта пяяла аб жаночай і дзяцінай долі. На пачатку творчасьці яна малюець жыцьцярадасны абраз прыгожай дзяўчыны Касі, што яркай зоркай цьвіцець на ўсю вёску („Лета, 1906 г.). Абраз гэты з мастацкага пагляду не стаіць высока, бо павярхоўны, з непаказанай душою (параўнуем з дзявоцкімі абразамі Марцінкевіча). Таксама нявыразна, але ў пакутным ужо тоне паказана бедная Насьця („Гаданьне“, 1910 г.), папаўшая ў вастрог і болей няшчасная, чымся грэшная, дзяўчына. Абраз замужняе жанчыны-беларускі агорнут у Цёткі засмучэньнем і тужлівасьцю. Нешта дужа роднае, блізкае і харошае чуецца ў яе словах да „лілеек бяз мовы“, „прызавятых кветак“, „бяскрылатых птушак“, „вясковых састронак“. Твар іх, як воск, шчокі зьмяты сьлязьмі, у хмурных вачох боль. Яны рана старэюць ад гора і ад працы. Цётка ім кажаць: „А за гэта вам дзьве дошкі і крыж з хвоек ледзьве зьбіты, і у пацяць плачуць дочкі, бо й яны, як вы, забіты“. Смутная доля і беларускай дзяўчынкі-сіроткі (верш „Сірацінка“); хапае за сэрца сваёю цяжкою праўднасьцю і абразок жыцьця вясковага хлопчыка („Міхаська“—апавяданьне ў жывой народнай форме).

**Мова Цёткі** яшчэ маець у сабе шмат полёнізмаў, прызвычаеных беларусам Лідчыны („будуць струны байчэй граліˮ; цуд, ласьне, слонка, скрыдлы і інш.), а таксама русіцызмаў, прывітых школаю (грудзь, ш'юць і інш.).

**Верш Цёткі** бойкі, лёгкі, але дзеля таго, што яна шкадавала часу на яго шліфоўку, таксама іногды маець нямала заган з тэхнічнага боку, такіх, як і ў Багушэвіча.

## Ядвігін Ш.

(Арадз. ў 1870 г.).

**Біаграфічны матар'ял.** Ядвігін Ш., запраўднае імя каторага Антон Лявіцкі, радзіўся ў двары Карпілаўцы пад Радашковічамі. Вучыўся ў Люцынцы ў дачкі Марцінкевіча, каторага добра памятуе. Сярэднюю школу скончыў ён у Менску; унівэрсітэцкую навуку прахадзіў у Маскве. У нашаніўскую пару Ядвігін Ш. працаваў нейкі час у Вільні, адылі перабраўся ў Менск і быў там кіраўніком сельска-гаспадарскага месячніка „Саха“. У часе вайны

ён працаваў у менскіх беларускіх арганізацыях. Астатнія гады пісьменьнік часта хварэе, для спакою аддаліўся ад грамадзкай працы і жывець на ціхай Старажоўцы ў Менску ці ў сваім двары Карпілаўцы.

**Літэратура Ядвігіна Ш.** Першы раз на беларускай літэратурнай ніве выступіў Ядвігін Ш. яшчэ ў свае студэнцкія гады, як адзін з перакладчыкаў на беларускую мову выданай у 1891 годзе ў Маскве кніжачкі Гаршына „Сыгнал“. Ад гэтае пары ён ня кідаў цікавіцца беларускай літэратурай. Яго апавяданьні „Суд“, „Важная фіга“ і дагэтуль нядрукаваная, але йшоўшая, як кажуць, у 1890 гадох на сцене ў Радашковічах драма „Злодзей“ напісаны шмат раней за таго часу, калі пачалі друкавацца першыя легальныя беларускія часопісі. У „Нашай Долі“ яго апавяданьне ёсьць ужо ў 3 нумары. У нашаніўскую пару Ядвігін Ш. стаў здабываць славу пісьменьніка з 1909 году, калі быў літэратурным кіраўніком „Нашае Нівы“ і даволі часта зьмяшчаў у газэце свае творы. Асобныя кніжкі яго выхадзілі так: „Дзед Завала“(1909 г.)„Бярозка“ (1912 г.) і „Васількі“ (1914 г.). Апрача таго, Ядвігін Ш. пісаў цікаўныя „Лісты з дарогі“, калі пехатою йшоў з Вільні на Менск („Наш. Нів.“, 1910 г.).

**Творчасьць Ядвігіна Ш.,** у залежнасьці ад пройдзенага ім жыцьвёвага шляху, стаіць у нашай літэратуры на пераходзе ад народніцкае да нашаніўскае пары. У гэтым хаваецца і прычына некаторай духоўнай неаднароднасьці яго твораў. Адны з іх пісаны пад водгаласам сьветагляда шляхоцкай інтэлігенцыі 80-х і 90-х гадоў; у другіх Ядвігін Ш. стаіць ува ўсёй велічы пісьменьніка нашых дзён. Інтэлігенцыя тая глядзела на беларускую нацыянальную справу вачмі добрых любіцеляў „простай“ мовы і нагул беларушчыны. Яна любіла народную творчасьць і па традыцыі асабліва падабала ў ёй сатырычныя казкі і сьмяхотныя пераказы. У слаўную будучыну беларускай літэратуры яна ў сваіх шырокіх колах ня дужа верыла, і сьветагляд яе здавальняўся літэратурнымі апрацаваньнямі, перарабкамі і міньятурнымі орыгінальнымі творамі — найболей гумарыстычнымі і сатырычнымі. Вартасьць жартаў, разьвітых у дробныя апавяданьні, прынамся лепшых з іх, хавалася ў тым, што яны мелі корні ў народнай поэзіі і насілі нацыянальны выгляд. З гэтае-ж прычыны і мова ў іх найчасьцей надта жывая і чыстая народная. Як Каганец з песьняў і легендаў, так Ядвігін Ш. з баек і жартаў, памастацку апрацаваных, і пачаў вось сваю творчасьць. „Не апавяданьнямі, а байкамі за ўсяго лепей было-б назваць іх, — пісаў

у 1913 г. М. Багдановіч,—дарма што Ядвігін Ш. пішаць ня вершам, а прозаю. Невялічкія творы яго ўсягды намагаюцца, як праўдзівыя байкі, даць паўчэньне, або ацаніць якое-небудзь жыцьцёвае зьявішча. Ен ня проста апавядае, а хоча заўсягды нешта яшчэ давясьці і растлумачыць. Як кроўны баечнік, Ядвігін Ш. дужа ўпадабаў алегорыю, і ахвотна заместа людзей апісывае птушак і зьвяроў, на каторых знаецца дужа добра. Любоўна малюець ён іх фігуркі, умела адмячае розныя цікавыя драбніцы іх жыцьця або звычаеў, і з-пад яго пяра праз гэта ўстаюць, як жывыя, постаці зьвяроў і птушак, каторыя розьняцца між сабою ня менш, як постаці людзей. Урэшце трэба згадаць і аб ласкавым гумары, які ажыўляе блізка што кожную строку Ядвігіна Ш., а іншы раз, зрабіўшыся боле войстрым, набліжаець яго да такіх пісьменьнікаў, як Шчэдрын і Горкі ў Расеі (маю на ўвазе, ведама, іх казкі) або Леманьскі ў Польшчы. Жывасьць ёмкай беларускай мовы, прыказкі і меткія слоўцы, каторыя тут якраз да рэчы—усё гэта яшчэ больш павялічывае вартасьць апавяданьняў-баек Ядвігіна Ш. Ведама, што байка скрозь даўно ўжо падупадае, але ў яго творах яна ізноў закрасавала сьвежым цьветам. Няма спрэчкі, што ў асобе Ядвігіна Ш. мы маем аднаго з найлепшых баечнікаў нашых часоў, да таго-ж вельмі блізка стаўшага да творчасьці самаго народу".

Зьмест разгледжанай творчасьці Ядвігіна Ш. даволі розны. Тут мы знаходзім байкі з агульна-людзкім элементам („Вясельле", „Павук", „Гадунец", „Сіло", „Сакатушка" і інш.). Пераробка „Рабы", мастацкае апісаньне жыцьця завадзкога парсюка Рабога — яркая сатыра на людзкое хамства. „Падласенькі"—сатыра на тых беларускіх інтэлігентаў, каторыя вучыліся на астатні бацькаўскі грош, а пасьля рабіліся выраджамі. „Важная фіга" — сатыра на зьвяглівых сьвякрух. „Суд"—сатыра на нашы суды і судзьдзяў; судзьдзя-немец ня ўмеў разгаварыцца пабеларуску. Самае важнае ў аўтора „Важнай фігі" і „Суда," аднак, ня столькі тое, каб абсьмяяць заганы жыцьця, сколькі тое, каб пасьмяшыць чытаньніка; гэта ёсьць адгалос шляхоцкага сьветагляду ў літэратуры, каторы найвыразьней адбіўся ў невялічкім жарціку „З маленькім білецікам", а болей-меней і ў другіх перайманьнях беларускіх і міжнародных фацэтных сюжэтаў („Пазыка", „Заморскі зьвер", „Вучоны бык" і інш.). „З маленькім білецікам" — крайняе апавяданьне з цыклю сьмяхотных пераказаў-монолёгаў, знайшоўшых найлепшага прыхільніка ў А. Пшчолцы і з асаблівай стараннасьцю выкарастаных А. Паўловічам. У другіх выпадках нацыянальны характар

і нецывілізованасьць беларускага селяніна паказаны Ядвігіным Ш. з няненшым гумарам, але ў выгаднейшым для іх і горшым для панскай цывілізацыі асьвятленьні.

Вал рэволюцыі і новага жыцьця нішчыў астаткі шляхоцкага настрою і нахіненьня ў літэратуры і зрабіў новыя наслаеньні ў сьветаглядзе старых пісьменьнікаў. Гэты процэс, у рэзультаце якога зьявілісь і зусім новыя па духу творы, найвыразьней адбіўся на творчасьці Ядвігіна Ш. (слабей у другіх, прыкладам, ў А. Паўловіча). Ужо ў апавяданьні „Бярозка“ (1912 г.), каторае далёка адыйшло ад жартаў, а цесна зьвязана з народнай творчасьцю і напісана ў нацыянальным кірунку, ужо тут выявілася новая старана Ядвігіна Ш. У зборніку „Васількі“ (1914 г.) ёсьць некалькі апавяданьняў, у каторых хоць і не захаваўся памысна зьвязак з творчасьцю народа і помала чыста-нацыянальных адзнак, але тая балючая старана яго паказана яшчэ глыбей, а зьмест іх значна шырэйшы і літэратурна багацейшы. Праўда, тут ёсьць перайманьне чужога („З бальнічнага жыцьця“), але наагул беларускія літэратурныя межы гэтым дужа рассуваліся. Затое-ж тут маем апавяданьні („Гаротная“), дзе відзім і самабытна-беларускую творчасьць і паўнату нашаніўскага літэратурнага сьветагляду, дзе прад вачмі ўстаець уся наша няшчасная, згалелая і забабонная, мужыцкая Беларусь. Ганна Тамашыха—тып гэтай гаротнай грамады. З болькаю на душы паказаў пісьменьнік і жыцьцё мястовай галоты („Зарабляюць“). Закрануў і перажываны палітычны час („Зарабіў“).

Прымецен для творчасьці Ядвігіна Ш. і яго адзіны, здаецца, верш-апавяданьне „Дзед Завала.“ Вершаваньне тут слабое і сьведчыць аб малой версіфікатарскай спрактыкованасьці аўтора. Відаць, што аўтору і не карціць бліскучая тэхніка верша, ён быццам забываецца на яе. Аднака-ж, апавяданьне азначаецца нейкай асобнай сьвежасьцю думкі, а ў апісаньнях чуюцца прыемныя павевы старой поэтычнай пушчы. Пушча і яе свой чалавек—дзед Завала стаяць, як жывыя, жывуць увачччу і вабяць сваім хараством; жывуць лесавыя птушкі, зьвяры, шуміць бор, плюскочыць рыба ў рэчцы, а часам „нібы нехта шэпча, нібы хтось сьмяецца, нібы сьціха плача— так усё здаецца...“ То гэтая-ж пушча прыціхнець, „як макам сеяў,“ то яна йграець, пяець, шуміць і гамоніць... У вапісаньне пушчы поэт памастацку ўплёў социяльныя мотывы, каторыя выдаюць у ім народніка-романтыка: гэта пераказ аб зьвярыным могільніку.

„Лісты з дарогі“ Ядвігіна Ш. могуць быць прыкладам падарожы ў беларускай літэратуры. У іх шмат этнографічных штрышкоў, а сярод прозы ці мала і запраўднай поэзіі.

**Мова Ядвігіна Ш.** З аднаго боку, пісьменьнік дужа дзяржыцца за ёмкую, жывую народную гутарку; з другога боку, ён маець на літэратурнасьць нашай мовы шырокі пагляд сьвядомага адраджэнца-беларуса і як мага пашыраець слоўнік, пільнуець хараства і клапоціць аб гібкасьці мовы. Толькі як вынятак, трапляецца ў яго хоць і жывы, але няпрыгожы вульгарызм („Ну, добра ўжо, добра,— раздабрухаўшыся, кажа стары"). Есьць і полёнізмы, але таксама дужа рэдка, як і няўломныя і нязвычныя для беларускага вуха маскоўскія формы (супакоіўшэеся дзіця). Есьць часам і няпеўны пакуль што сінтаксіс, не прызвычаены для ўсяе Беларусі і ня цьвёрды ў літэратуры („Глянуўшы на апаўшую скуру, жаль схапіў Падласага").

## Альбэрт Паўловіч.

(Арадз. ў 1875 г.).

**Біаграфічны матар'ял.** Альбэрт Паўловіч арадзіўся 11-га лістападу 1875 году. Ен паходзіць з даўнага шляхоцкага роду. Яго дзед і бабка па бацьку абое памёрлі ў часе паўстаньня, пакінуўшы сіротак. Бацькі песьняра былі маламожныя, цярпелі розныя недагоднасьці жыцьця і дзеля таго маглі даць сваім дзяцём (6 душ) толькі невялікую адукацыю ў менскіх вучылішчах. Скончыўшы ў 1894 годзе чатырох-клясавую школу, Паўловіч, каб памагаць сям'і, дастаў службу на Лібава-роменскай зялезнай дарозе. Ен праслужыў у глаўным упраўленьні чыгункі, у Менску, аж 25 гадоў, дайшоўшы з пісара да галоўнага бухгальтэра.

**Літэратура Паўловіча.** Роднай літэратурай Паўловіч стаў цікавіцца яшчэ на школьнай лаўцы, а з 1907 году ён супрацоўнічаў у „Нашай Ніве" і ў розных, амаль ня ўсіх беларускіх газэтах і журналах. Частка яго вершаў была сабрата ў томік пад назовам „Снапок" (1910 г.), каторы дужа скора разышоўся. У пачатку 1919 г. Паўловіч скончыў вершаваную драму „Васількі"; надрукавана яна была ў тымжа годзе ў Вільні. Апрача таго, Паўловіч мае ня меней, як на 12 тысяч радкоў яшчэ нідзе нядрукаваных вершаў, пераважна гумарыстыкі.

**Творчасьць Паўловіча** дужа стродка скрытыкаваў нябожчык М. Багдановіч ў аглядзе беларускай літэратуры за 1910 год. Цераз тры гады (1913 г.) ў падобным-жа аглядзе М. Багдановіч пісаў: „Жартаўлівыя вершы А. Паўловіча, каторыя ня гледзячы на розныя недахваты здабылі яму

вялікую прыхільнасьць паміж беларускіх чытачоў, ў апошнія гады бадай што зусім не друкаваліся. Некалькі яго твораў, зьявіўшыхся ў „Biełarusie“ і „Маладой Беларусі,“ былі зусім ужо іншага духа. Напісаныя добра, яны сьведчуць, што А. Паўловіч за гэты час папрацаваў над разьвіцьцем свайго таленту“. Вось, калі зьявіліся ў сьвеце гэтыя „зусім ужо іншага духа“ вершы, тады выразна азначылася духоўная неаднароднасьць у творчасьці Паўловіча. Пад магутным уплывам новага беларускага жыцьця пакладіся новыя слаі на цьвёрдым цаўнейшым сьветаглядзе песьняра. Выявілась значная розьніца і навет супярэчнасьць між аднымі і другімі вершамі.

Старое, скрытыкаванае М. Багдановічам пераважна з боку літэратурна-тэхнічнага, ідэйна выглядаець у Паўловіча лёгкай гумарыстыкай, прычым гумар ня столькі творыцца самім аўторам, сколькі бярэцца ім з хадзячага ўжытку і на свой лад апранаецца ў літэратурныя вопраткі. Некаторыя з беларускіх крытыкаў (Ю. Фарботка, „Беларусь у песьнях“) прызнаюць, што і ў сьмяхотных вершах Паўловіча „заўсёды не асьмеіваньне відаць, а толькі навучаньне, перасьцярога“, што навет такая жартаўлівасьць, якую знаходзім у вершу „Пан і акуляры,“ выклікана ў беларускай поэзіі „хаценьнем толькі ўняць боль, заглушыць нуду і сум.“ Ды ўсё-ж яго жарты, як „На хвэст“, „Каты“, „Грамафон“, „Ракі“ (падобныя да „Індыкаў“ Пшчолкі) і шмат іншых вершаў, надрукаваных у „Снапку“ і пазьнейшых, літэратурную вартасьць маюць невялікую. Часам у Паўловіча прабіваецца сатыра, і вось жартаўлівыя вершы, каторыя можна назваць сатырычнымі байкамі, выйшлі ў яго значна вартаўнейшымі. Маець пеўную цану сатыра на зьнявагу дрэннымі дзяцьмі сваіх старых, нядужых бацькоў („Сыноўская апека“, 1910 г., і параўнаваць—„Спагадны сынок“, 1912 г.). Добра абсьмеяна бабская неахайнасьць („Гаспадыніна дзяжа“, 1910 г.). Есьць і яшчэ колькі задачных баек з даволі рознымі зьместамі („Трывога жонкі“, „Лыкі не каўбасы“, „Сакпіў“) і сатырычных куплетаў („І плач не паможа“). У вапрацаваньні Паўловіча усе гэтыя жарты і фацэціі з міжнароднымі, народна-беларускімі і орыгінальна-пясьнярскімі сюжэтамі ўвабраны болей-меней у наш нацыянальны колер.

Новае ў творчасьці Паўловіча было відаць яшчэ ў вершыку „Працуй і пей“, зьмешчаным у „Снапку“ замест прадмовы, каб давесьці патрэбу тых жартаў і сьмеху, адылі не гармоніруючым з усёю кніжкаю. Верш нагадуе народніцкі романтызм поэзіі Няслухоўскага. У зьвязку з ім можна паставіць і чыста нашаніўскія мотывы верша, ахвярованага Я. Коласу, і верша „Старац“, што былі

таксама зьмешчаны ў „Снапку“. Гэтыя мотывы ў яго з часам разьвіваліся і хоць выглядалі іншы раз перайманьнем нашаніўцаў-правадыроў і дарам часу, але кіравалі Паўловіча да маляваньня харастве бацькаўшчыны і да гэткіх думак і разваг, як: „І сэрца, поўнае пакоры, з пацзякай к краю свайму мкне..“ або: „Пакінь пытаць! Ня дам я веры, каб Беларусь хто мог забыць: я пэўны—кожны з нас бяз меры любіў і будзе век любіць!“ („Родны край“, 1912 г.). Гэтыя мотывы патроху пераходзяць у яго ў паўсёдны настрой поэта-романтыка, славячага найбольш прыемныя для яго абразкі роднай прыроды і жыцьця („Родныя малюнкі“, 1914 г.). У „Biełarusie“ зьявіліся вершы Паўловіча, з якіх відаць, што ў душы поэта быццам нешта перамянілася, бо даўнейшая весялосьць пакінула яго, гумар і сатыра перайшлі ў задумленьне, у нейкую лірычную смутнасьць, а ўрэшце ў таёмны непакой і трывогу, зьвязаныя з жаданьнем пранікнуць у істоту быцьця і сьмерці. У баку ад соцыяльных і нацыянальных пытаньняў, ён усё больш займаецца сваімі духоўнымі індывідуальнымі перажываньнямі і пішаць: „й паміма волі ў забыцьцё яуглыбляюся, здаецца...“ („Змрокам“, 1913 г.). „Як страшна нябыцьцё!.. Пакуль жыву і дышу, прыпомніць страх, што ёсьць астатні смутны час...“ („Сон і вечнасьць“, 1914 г.). Аднак, гэтая новая старана душы і творчасьці Паўловіча яшчэ й дагэтуль выразна ня выявілась.

Астатняй віткай на літэратурным шляху Паўловіча стаіць „драма з сучаснага жыцьця ў пяцёх актах—Васількі“ (1919 г.), напісаная вершамі рознага разьмера, часам вельмі добрымі. Яна паказуець, якой шыракосьці і многаабразнасьці дайшла цяпер наша літэратура ў сюжэтах, мотывах, формах і відах. Шкода адно, што твор ненацыяналён, духоўна ня зьвязан з родным жыцьцём, нетыпічан для апісанай мяшчанскай сфэры, каторая тымчасам так мала яшчэ паказана ў нашай літэратуры.

Творчасьць Паўловіча ня мала чаго можа даць у будучыне.

## Маладзейшыя пісьменьнікі.

### Якуб Колас—Тарас Гушча.

(Арадз. ў 1882 г.).

**Біаграфічны матар'ял.** Пад псэўданімам Якуб Колас—у поэзіі, а пад псэўданімам Тарас Гушча—у прозе творыць народны вучыцель Кастусь Міцкевіч. Ен сын селяніна-лясьніка з вёскі Мікалаеўшчыны, Слуцкага павету

Меншчыны, з якой выйшла многа народных настаўнікаў і наагул сьвядомых беларусаў. Род поэта даў некалькі таланавітых людзей (Язэп Лёсік — дзядзька поэта, Антось Галіна—родны брат яго і інш.). Больш за 30 мікалаеўцаў скончылі несьвіжскую вучыцельскую сэмінарыю, таксама і Кастусь Міцкевіч, куды ён паступіў з сваёй вясковай дзьвюх-клясавай школы ў 1898 г. Чарнасоценна-абрусіцельную муштру прахадзілі ў той сэмінарыі беларускія мужыцкія дзеці. Некаторыя з іх, навет з аднакурсьнікаў поэта, назаўсягды прапалі для адраджонай бацькаўшчыны. Аднак, грамадка мікалаеўцаў, з Міцкевічам за правадыра, давала прыклад цьвёрдасьці ў захаваньні беларускай сьвядомасьці, бацькаўскіх традыцый і роднай мовы. Скончыўшы курс сэмінарскае навукі ў 1902 годзе, Міцкевіч быў вучыцелем у пачатковай беларускай школе (Пінск. пав.), дзе мусіў выкладаць навуку ў маскоўскай мове; гэта яго надта мучыла. За арганізацыю ў 1905 годзе тайнага „Беларускага Хаўруса Народных Вучыцялёў“, каторы меў дабівацца, між іншым, нацыянальнай школы, Міцкевіча разам з некалькімі сябрамі засудзілі ў 1907 годзе на тры гады ў вастрог. Кару гэтую поэт адбыў у Менску і напісаў тады свае лепшыя творы. Выйшаўшы з вастрога, ён некалькі гадоў ня мог быць вучыцелем і ня мог дастаць абы-якой пастаяннай работы з прычыны свае палітычнае „няпеўнасьці“, дык жыў патроху ў розных кутох Беларусі і Маскоўшчыны, быў нейкі час у Вільні, дзе пабраўся з дачкою вучыцеля Зотава, а патым быў у Пецярбурзе. Перад вайной ён дастаў-ткі вучыцельскую пасаду ў гарадзкім прыходзкім вучылішчы ў Пінску. Пачалася вайна, і яго ўзялі ў салдаты, паслалі ў Вільню, ганялі на розныя работы, месьці вуліцы і інш. З прыходам волі, калі ранейшая палітычная няпеўнасьць ня мела значаньня, Міцкевіч выйшаў на афіцэра і быў у запасным батальёне ў заволжскім краі. У часе керэншчыны папаў на румынскі фронт. Пасьля дэмобілізацыі асеў ў Абаяні (Курскай губэрні), дзе жыла яго жонка і дзе-



Якуб Колас — Тарас Гушча.

мі і дзе поэт заняў пасаду пачатковага вучыцеля. Да гэтага часу ён ня мае магчымасьці вярнуцца на Беларусь і дужа мучыцца на чужыне.

**Літэратура Міцкевіча.** Вершы пачаў пісаць поэт з сваіх раньніх гадоў. Шмат іх, пераважна рэволюцыйных, пашыралася ў сьпісках, асабліва сярод пачатковага вучыцельства. Некаторыя з гэтых вершаў цяпер патроху трапляюць у друк, а некаторыя й дагэтуль належаць да рукапіснае літэратуры („Нашым ворагам“). Друкавацца Міцкевіч пачаў з 3-га нумара „Нашае Долі“, у якім быў яго верш „Беларусам“, і пісаў пад рознымі псэўданімамі (Тамаш Булава і інш.). З гэтага часу ён робіцца адным з самых плодных беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, дужа дзейна супрацоўнічае блізка ўва ўсіх беларускіх часопісах, ад клерыкальнага „Biełarusa“ да бальшавіцкае „Дзяньніцы“. Ен лірык, эпік, драматург, публіцыст; пішаць лірычныя вершы, апавяданьні, поэмы, драмы і палітычныя стацьці. Асобнымі кніжкамі і зборнікамі творы яго выходзілі ў гэткім парадку: 1) „Песьні жальбы“ (Вільня, 1910 г.), зборнік дробных вершаў; 2) „Апавяданьні“ (Вільня, 1912 г.), зборнік прозы; 3) „Тоўстае палена“ (Пецярбург, 1913 г.); 4) „Прапаў чалавек“ (Пец., 1913 г.),—тры вершаваных апавяданьні; 5) „Родныя зьявы“ (Вільня, 1914 г.)—вялікі, на 240 страніц, зборнік кароткіх і даўжэйшых апавяданьняў прозаю; 6) „Сцэнічныя творы“ (Менск, 1917 г.); 7) „Сымон Музыка“ (Менск, 1918 г.)—тры першыя часьці поэмы. Апрача таго, Міцкевіч пісаў падручнікі для школ, як „Другое чытаньне“, дзе выключна яго орыгінальныя рэчы.

**Нашым ворагам.** З рукапісных рэволюцыйных вершаў Я. Коласа быў дужа пашыраны ў сваім часе юнацкі верш „Нашым ворагам“, каторы характарызуець творчасьць поэта сэмай пачатковай пары. Дзеля таго, што ў друку яго дагэтуль ня было, трэба зьмесьціць тут. Вось ён*):

Багачы і панства,
Нашы дабрадзеі!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!
І на перахрэстку
Часу пераходных
Сьмела вас пытаем,
Жадных і нягодных:
— Чыімі рукамі
Вы дабро зьбіралі,
Чыею сьлязою
Шчасьце вы куплялі?

І за што, скажыце,
Палкамі нас білі,
Секлі нас дубцамі,
Голадам марылі?
Для якой вы цэлі
Сьвет нам закрывалі,
Ланцугом зялезным
Рукі нам скавалі,
Без пары у магілу
Вы нас зaганялі?
Гэй, вы, сілы нашы!
Дзе мы вас ня клалі?

*) Па сьпіску аграном-каморніка з Вялейшчыны Андрэя Сухога

Ці ня мы сякерай
Тоусты бор сякалі,
Ці яя мы лапатай
Грудзь зямлі капалі?
Ласкаю чыею
Сталі вы багаты?
На чыю капейку
Строіце палаты?
Усе ад нас забралі,
А што нам далі вы?
Чые пудна у полі
Так марнеюць ніві?
Вузенькаю ніцьцю
Чые йдуць палоскі?
У чыім гэта жыце
Многа так бярозкі?
І каму далі вы
Горы ды каменьне?
Хто з свайго насева
Не зьбярэ насеньня?
Чые гумны, хаты
Гнуцца сіратою,
Чые сьлезы льлюцца
Кожнаю парою?
І чыя скацінка
Сохне у пустым полі,
І, як гаспадар іх,
Дохне у няволі?
Чыя песьня—скарга
К небу йдзе укорам,
К месяцу, і к сонцу,
І к далекім зорам?
Багачы і панства!
І усе брадзягі!
У бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!
Ужо дауно вяроукі
Вас, паны, чакаюць
І на вас асіны
Сьлезы праліваюць!

Гэты верш сьведчыць, што Якуб Колас, як і Цётка, выступіў на літэратурнай ніве рэволюцыянэрам, а творчасьць яго мела сацыяльна-клясавы характар, каторы для беларускага мужыцкага народа ахапліваў разам і нацыянальныя пытаньні. Падзеі астатніх гадоў яскрава паказалі, які пеўны, бо натуральна-патрэбны кірунак для адраджэньня вялікіх беларускіх мас узялі спачатку ў літэратуры найздальнейшыя песьняры, мужыцкія дзеці. З тэхнічнага боку верш памяркоўны, але бойкасьць вершаваньня і абразнасьць паказуець вялікія пясьнярскія здольнасьці аўтора. Есьць русіцызмы, накінутыя Міцкевічу сэмінарыяй, і некаторыя нязграбнасьці, як „гаспадар іх“ замест — „гаспадар яе“ (скацінкі). Есьць і звычныя для Я. Коласа ў пазьнейшы час формы: „вузенькаю ніцьцю чые йдуць палоскі“, „горы ды каменьне“, „гнуцца сіратою“, „сьлёзы льлюцца кожнаю парою,“ „песьня-скарга“ і іншыя.

**Лірыка Міцкевіча.** Па характару свайго пясьнярскага таленту Міцкевіч, як і большасьць беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, лірык. Ен мае шмат чыстай лірыкі, але яго эпос і драма таксама дужа лірычныя. Лірыка Міцкевіча пераважна ідэйная, але часта і прырода-апісаўчая, зьвязаная з настроем і наагул з індывідуальнымі перажываньнямі поэта. Ен любіць прыроду і харáство родных абразоў, як поэт чыстага мастацтва, але жыцьцё вымагаець ад яго ідэйна-грамадзкага кірунку ў напевах. І вось лірыка яго, як чыста нашаніўская, грунтуецца на вялікай любове да бацькаўшчыны, на бязьмерным жаданьні яе нацыянальнага і соцыяльнага адраджэньня. У прыгожай і чы-

стай лірыцы „Думкі ў дарозе“, пастаўленай як-бы замест прадмовы да „Родных зьяў“, мы відзім поўную гармонію двух важнейшых мотываў навейшае беларускае літэратуры. „О, мой родны край! хмурна пазіраеш ты з сіняга туману“...—кажа поэт, а ў канцы смуціцца так: „Толькі нудныя песьні твае, беларус, хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць вочы сьлязьмі, плачуць і стогнуць“... Але тут ён часьцей пяець аб соцыяльнай бядзе беларуса. Ен кажа: „А поруч з убогімі людзкімі будынкамі ўпёрліся ў неба панскія палацы“. Ен аб гэтым спамінаець колькі раз: „О, мой родны край! Поруч з галітвою ходзіць роскаш і багацьце; разам з людзкімі сьлёзамі мяшаюцца панскія вальцы, льлюцца вясёлыя галасы песень, грыміць музыка з панскага саду; разам з мужыцкім потам цякуць дарагія віны“. Нацыянальны мотыў творчасьці поэта лепей выказаўся ў лірычнай казцы „Дудар“—першай яго друкаванай прозаю рэчы („Наш. Нів.“, № 4 за 1906 г.). Гэта выдатная лірыка па сіле натхненьня і глыбіне нацыянальнага пачуцьця. Любоў да роднага краю і соцыяльнае нездаваленьне адбіліс таксама амаль ня ў кожным лірычным вершы песьняра (гл. „Песьні жальбы“).

Творыць Міцкевіч, як здаровы, нормальны чалавек, сын дужога духоўна беларускага мужыка, дык і абразы ўзгадаваўшага яго кутка бацькаўшчыны стаяць у яго песьнях, як жывыя, натуральныя, верныя, з вялікай пеўнасьцю адмаляваныя; здаецца, быццам пяець аб гэтых абразох сам беларускі мужык, пяе на свой просты кожнаму зразумелы спосаб. Але пясьняр надта засмучоны ад цяжкой беларускай долі, дык і родныя абразы ў яго песьнях „закрыты смагаю“, агорнуты маркотаю настрою, тону, гукаў і красак. Гэта, з аднаго боку, добра, бо хараство беларускай прыроды ляжыць якраз у той далікатнай колернай мяккасьці і поэтычнай засмучонасьці. З другога боку, лішак смуткаваньня ў пясьнярскім настроі можаць здацца чытаньніку нуднай аднаабразнасьцю, а напружанаму энэргіяй беларусу - адраджэнцу—недазволенай хліпясьлівасьцю песьняра і аднабокасьцю яго маляваньня. Думкі, якія прыходзяць з уяўленьнем родных абразоў, томяць яму грудзі, раняць сэрца, яны ніколі не даюць яму спакою, ад іх плачаць пясьняр горка, хоць і бяз сьлёз; яны невясёлыя, засмучоныя, роем круцяцца і кладуцца на душу туманам. Лягчэй бывае поэту ў вясну, калі ён радуецца, што „ад болю ачуняла наша родная зямля“, і кажа, што цяпер „лёгка бяз конца“ і весялей б‘ецца сэрца. На веснавым полі любіць ён усё: прывольле, „вузкія стужкі мужыцкіх палос“, старыя грушы і зялёныя межы, „дарогі, што ляглі між гор“. Любіць пазіраць, „як ветрык

жартлівы плыве збажыной“ („Вясна“, „Вясной“, „На полі вясной“). Наагул, хараство прыроды даець яму салодкі супакой, спараджае ў душы радасьць, і ён у такім настроі пяець найпоэтычней („Усход сонца“). Тады ў яго зьяўляецца глыбокае поэтычнае натхненьне і лірычная ціхамірнасьць; ахоплены веліччу хараства, ён зазначае, што апісаць той абраз—няма слоў, а можна толькі „ўнікнуць чуткаю душой“ („Ноч“). Але і ўлетку не весяліць поэта абраз „Мужычай нівы“—вузкіх палосак, парослых „палыном, дзікаю травою“, з пустымі каласамі, пабітымі градам. Навет „птушкі ў божым небе плачуць“ над той нівою. „Жніво“ ўзята за абраз такое, дзе „рэдкае збожжа, травы палавіна“, дзе „ніва пустымі шуміць каласамі“, дзе „праца марудна, бяз конца цяжка. Прыгожа-засмучоны настрой выклікаець у яго „Адлёт жураўлёў“. Чуюцца песьняру сьлёзы і ў смутнай песьні, падобнай плачу, калі „сыпяцца кроплі часта і дробна, нудна у вокны бубняць“ („Восенны дождж“—адзін з лепшых настраёвых вершаў). Абразкі познай беларускай восені, каторых у яго найболей, так датыкаюць сваёй няпрытульнасьцю сэрца поэта, што ён хочаць, каб „скарэй-бы закрывала зямлю чорную зіма“. Родныя абразы ўзімку здаюцца песьняру троху весялейшымі („На гасьцінцы“), але цікаўна, што абразоў тых у яго песьнях помала і яны ня так выразны і поэтычны, як „абразы пакуты“ ўлетку ці ў восень. „Зіма“ даець песьняру весялейшы настрой, ён рад „белай зіміцы“, рад з ёю ваяваць; яе „белая вопратка“ прыносіць яму яшчэ і спакой, якога „Вясна“ сваім маладым настроем ня можа даць яму, немаладому („У прыродзе ўсё народзіцца, і маладасьць ёй вернецца; ды толькі мне ня вернешся ты, маладасьць! Ня вернешся“...). Такім чынам, беларускія абразы у л е т к у абваражуюць душу Я. Коласа хараством, але сеюць і балючыя пытаньні соцыяльнага характару; в я с н а ажыўляець яго, але пабуджае трывогу індывідуальных перажываньняў; в о с е н ь спачатку наводзіць на прыгожа-пакутныя думкі, адылі гняцець сваёю нудою і безкалёрнасьцю; з і м а даець спакой і бодрасьць.

Гарачая любоў да бацькаўшчыны відаць з усіх вершаў, у якіх пяецца пра абразы роднага краю („Наш родны край“, „Вёска“, „Наша сяло“, „Мужычая ніва“, „Могілкі“, „Родныя песьні“ і інш.). Першы з гэтых маець у сабе ўсе важнейшыя асаблівасьці коласаўскіх „родных абразоў“ і наагул усяго зборніка „Песьні жальбы“. Сіратою выглядае „Н а ш а с я л о“; хаткі яго пакрывіліся, на стрэхах парос калматы мох, будынкі цесна зьляпіліся, у пабітых вокнах — анучкі, школа спарахнела, згорбілась, а збоку, ля Нёмну, стаіць нудная

кучка крывых вербачак, на прыгорку — „сумна крыжыкі стаяць“, і „плачуць ветры над магілай“, лятучы ў даль „з песьняй нуднай і пастылай“. „Вёска“ надта падобна да сяла, яна толькі троху ажыўляецца невялікай зелянінай: „зелянеюць два-тры клёны, гляне ліпа дзе з-за хат; дзе-нядзе садок зялёны, нізкіх вішань чахлы рад“. І тут, як у сяле, „многа гразі“, „многа пылу“, і тут таксама „дабра ня бачаць зроду“. Даючы некалькі абразоў мужыцкага жыцьця ў розных яго праявах, поэт не безнадзейна:

Мы ходзім, спатыкаемся,
Бадзяемся, як п'яныя;
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя,
Асьмеяны, аблаяны.
Гразею мы абмазаны,
Багатымі мы скрыуджаны,
Няволяю мы зьвязаны.

У балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны;
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.
Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся
А усежтакі, хоць некалі,
А прауды дапытаемся.
(* * *)

Абразы мужыцкага жыцьця намалёваны з вернасьцю, без усякай староннасьці. Гэта ўжо не дыдактычныя ці сьмяхотныя вершы аб мужыку панскіх пісьменьнікаў, а голас самаго мужыка, каторы так кажаць аб сваім жыцьці і аб сваёй долі: „Проста плач бярэ і сьмех“. З верша „Мужычае жыцьцё“, аднаго з лепшых у гэтым родзе, мы відзім, што ў мужыцкай хаце чорна і няпрыбрана, пад палом парасяты, столь і кут у павучыньні; ураньні там — дзяціны крык, што хоць заткні вушы, з камінку лезе ў вочы дым, а дзед сярдуе... Жанкі цэлы дзень „грызуцца за гаршчок“; у спрэчку палезуць мужчыны, і пачынаецца бойка. У вершы „Мужык“ пералічаюцца беды й крыўды мужыцкага жыцьця: няхват зямлі, цяжкая і чуць не дармавая праца на карысьць паноў усяго сьвету, вялікае зганеньне, сьлёзы, сьмерць без пары. Навет хаваюць беднага мужыка без папа, — „адзін дзяк ля труны“. Шынок—яго школа, вастрог—яго жыцьцё. Вершык „Песьня над калыскай“ цікаўна параўнаваць з „Калыханкай“ Ф. Багушэвіча. Тут маці таксама гадае, што чакаець яе сыночка ў жыцьці, але яна ўжо не баіцца, што сынок праз школу выйдзе „панам ці вялікім капітанам“ і „выкіне стары косьці“; гэтая маці кажа, што „бяз вучэньня кепска жыць гэтым трудным векам“; яна толькі бядуе, што вучэньне пагоніць сыночка „па чужых людзях“, ды ўсё-ж яна пеўная, што сын не забудзецца на матку і прышлець ёй гасьцінца. Паміж абедзьвюх матак стаіць 15—20 гадоў, а якая розьніца!

Палітычная лірыка Я. Коласа зачапіла тыя ростані, на якія прывела нас рэакцыя посьле рэволюцыі. Поэт пытаецца ў „глухой цьмы“, ці доўга будзе ляжаць яна? („На

ростані“). Ен гаруець аб няшчаснай долі сваіх засланых таварышаў („Братом згнаньнікам“). Ен просіць іх адгукнуцца і гадае, ці зьбяруцца зноў калі ўсе яны „ў нашым бедным родным краі, як-бы птушкі посьле зімы“? Тон яго паволі робіцца дужэйшым, калі ён пачынае („Не бядуй!“) посьле сваіх асабістых сьлёз і жальбаў укладаць веру і надзею ў душу другіх людзей і сьмела пяе: „Вер, што жыцьце залатое будзе ў нашай старане“. І ў канцы ростаняў ён чуець магутнасьць беларускага духа і кліча хлопцаў кінуць сьлёзы і запяяць так, „каб аж вокны задрыжэлі“.

У лірычных абразкох вастрожнага жыцьця, апрача вялікай любові да роднага краю, знаходзім яшчэ і вялікае чалавечае пачуцьцё волі. Душа вастрожніка бесьперастанку зьнібееець ад няволі („З турмы“). Яму „ўсё аб роднай вёсцы сьніцца, аб родным куточку“ („У вастрозе“). Яму сьніцца, што сеюць жыта ў полі, скрозь залітым сонцам, „рэжуць дол плугамі, робяць гоні і разоркі, ветрык ціха вее“. ( „Сон у турме“ ). Шкода яму ўсяго таго, што пакінуў за дзьвярмі вастрога, а найболей стаяць уваччу „образы, краіны Беларусі роднай“, і тым толькі жывець ён у няволі. І ён з хмарамі паляцеў-бы на бераг роднага Нёмна, дзе „старая прыхінулась іва“ („Хмары“). Воля і прырода зьліваюцца для вастрожніка ў адно цэльнае ўяўленьне. Вершы поэта, дзе найглыбей выказана пачуцьцё волі, адны з лепшых ува ўсёй яго поэзіі („Песьня няволі“, „Гусі“ *) і інш ).

**Эпос Міцкевіча** складаецца з а) невялікіх апавяданьняў і повесьцей, пісаных прозаю і вершам, б) вершаваных легенд і наагул пераймаоньняў народнае творчасьці, в) так званых „казак жыцьця“, пісаных прозаю, і г) вершаванай поэмы „Сымон Музыка“.

„Апавяданьні“—пад такім назовам выйшаў у 1912 годзе зборнік прозы Тараса Гушчы. Пераважалі ў ім рэчы бытавыя з соцыяльным і палітычным элементам, з лірычнымі ноткамі і гумарам. „Родныя зьявы“, выйшаўшыя цераз два гады, выглядалі духоўным працягам літэратурнага кірунку, узятага аўторам „Апавяданьняў“. У „Родных зьявах“ ёсьць апавяданьні мешанага соцыяльна-нацыянальнага характара („Дзеравеншчына“). У некаторых апавяданьнях соцыяльны элемент дужа стульна зьліты з апісаньнем псыхолёгічных перажываньняў беларуса („Малады дубок“). У другіх гэты ж эле-

*) На ноты паклаў композытар Руткоускі.

мент цесна зьвязаны з маляваньнем беларускага побыту, прычым найчасьцей малюецца побыт сялянскі („Злучыліся", „Дзяліцьба"), але ня рэдка й побыт сельскай „інтэлігенцыі" („Так і трэба ашуканцу"). Аб іншых апавяданьнях можна сказаць, што гэта—проста абразкі сялянскай Беларусі, часам дужа кароценькія, просьценькія, але зазвычай надта жывыя і дужа натуральныя. У іх паказуецца то цікаўны беларускі тып („Старасьць — ня радасьць", „Кажух старога Анісіма"), то якая-небудзь характэрная чырта беларускае душы („Старыя падрызнікі", „Выстагнаўся", „Недаступны"). Часам тут даецца нейкі малюнак беларускага жыцьця, каб ці з прыемнасьцю пажартаваць і пасьмяяцца („На начлезе", „Трывога", „Адгукнуўся"), ці разам з гэтым задумацца над соцыяльным станам мужыка і народнымі заганамі, як падзелы й п'янства („Дзяліцьба", „Стараста"), або над мізэрнасьцю духоўнага жыцьця тае „інтэлігенцыі" („Злавіў", „З дняўніка пана Жылака"). Сярод гэтых малюнкаў ёсьць напісаныя з вялікім мастацтвам і пясьнярскай здольнасьцю, як, прыкладам, прыгожы начырк „У старых дубох". Усе апавяданьні напісаны з прыналежнай іх аўтору прастатою і мякасьцю, каторая часам пераходзіць у лірычнасьць і даець сярод эпічнага павяданьня кавалачкі прыгожай лірыкі, навет з ноткамі элегіі, а часам выглядае жартаўлівай сатыраю. Усё гэта добра стасуецца з беларускім характарам.

І ў эпосе Міцкевіча, як у яго лірыцы, соцыяльныя мотывы маюць значаньне амаль ня ў кожным творы. Так, ужо ў „Песьнях жальбы" ёсьць невялічкае вершаванае апавяданьне „Пісьмо з турмы", каторае стаіць побач з вядомым „Лістом" украінскага пісьменьніка Стэфаныка,—столькі ў ім сілы! Тут і гарачы протэст проці таго соцыяльнага парадку, пры каторым стары Пракоп, вырасшы „ў вёсцы на мякіне", жыўшы „з худобай змалку", зьнёсшы цяжар жыцьця і высахшы ў палку, пападаецца ўрэшце ў „сьпісак арыштанцкі", — „зато, быццам, што зьбіраўся лес падкурыць панскі". Тут і паказаньне, што і ў цёмным, здаецца, духоўна ўбогім вастрожніку ёсьць абраз запраўднага чалавека, дужога сваёй самабытнай духоўнасьцю. У апавяданьні „Васіль Чурыла", шмат прыгожых штрышкоў у вапісаньні леса, ночы, мяцеліцы, але важнейшае, на што пакладае сілы свае творчасьці пісьменьнік, гэта—жаданьне зганіць пануючы соцыяльны парадак. Аб тым лясьніцтве, дзе служыў Васіль, аўтор пішаць так, што яно, „захавала, ў сабе яшчэ старыя парадкі таго цёмнага часу, калі то было права памяняць чалавека на сабаку". Тут ёсьць радкі, каторыя зьясьняюць нам цяперашнюю соцыяльную рэволюцыю:

„Пры аднэй толькі думцы бачыцца з лясьнічым мароз прабягаў па скуры Васіля. Васіль нраз гаварыу, што лепей хацеу-бы ён сустрэцца з гадам або воукам, як папасьці на вочы лясьнічаму. Нараз стаяу Васіль, як палатно, белы ад крыуды і несправядлівасьці, выслухіваючы спавяданьні папа лясьнічага. Рукі самі згортываліся у кулакі, і ня раз нейкая сіла падбівала Васіля кінуцца на лясьнічага, разьбіць твар, кінуць аб зямлю, таптаць нагамі, біць, біць, бяз жалю, без міласэрдзьдзя“...

У апавяданьнях сацыяльна-палітычнага характару („Калядны вечар“, „Бунт“, „Андрэй-выбаршчык“, „Сацкі падвёў“ і друг.), між іншым, маем характэрную ілюстрацыю з жыцьця адраджонай беларускай моладзі, каторая зазвычай пападала са школы ў вастрог.

Найбольшую літэратурную цану ў нашай поэзіі маюць тыя апавяданьні Т. Гушчы, у каторых ён памастацку паказаў якую-небудзь тыповую чырту беларускае душы. Мастацкіх тыпаў, у поўным значаньні гэтага слова, пакуль што ў яго дужа мала, як і наагул у нашай літэратуры, але беларуская тыповасьць разьліта ім ува ўсёй масе апісаных людзей; кожная асоба творчасьці Т. Гушчы паказуець нам нешта яркае з гэтай тыповасьці. „Кажух старога Анісіма“— невялічкі малюнак, сьпісаны з натуры і аздоблены псыхолёгічнай падаплёкаю; гэта—„казка для старых“ аб той тыповай для ўсіх іх чырце Анісіма, каторая вымагае ад чалавека чапляць лапік на лапік, абы толькі не рабіць „новага кажуха“. Дзед Анісім—цікаўны тып і сымвал старой мужыцкай Беларусі. „Старыя падрызьнікі“—ня менш цікаўнае ў гэтым кірунку апавяданьне. Душа беларуса, навет такога прымітыўнага, як Сьцяпан, маець высокія парываньні, але яны, з-за непрактычнасьці, зараз абніжаюцца каяньнем, шкадаваньнем, нясьмеласьцю і няцьвёрдасьцю ў выпаўненьні задуманага. „Выстагнаўся“—выдатны па думцы, чыста-беларускі абразок, каторы застанецца ў гісторыі нашае літэратуры, як адна з першых спробаў закрануць глыбакосьці чыста-беларускае душы ў яе найболей орыгінальных асаблівасьцях. Гэты абразок—спроба яшчэ маласьвядомая, пісаная вобмацкам, ці-тое: больш тэхнікай поэтычнага чуцьця, чымся мукамі душы поэты, агледжанымі яго розумам. Аўтор чуцьцём пісьменьніка злавіў жаданьне Івана Кіслага „выстагнацца“, але сьпісаў тое даволі павярхоўна, без патрэбнай уважнасьці і, можа быць, бяз думкі, што яго Іван Кіслы — орыгінальнейшы беларускі тып, продукт нашага гістарычнага жыцьця, поўны нацыянальных і сацыяльных азнакаў, што ён — адна важная старана ўсяе беларускае нацыі. Тымчасам і гэтак створаны абразок кідае па сабе памяць. Для разгляду твора варта параўнаваць Івана Кіслага з тыпам „рыдальца“ маскоўскага пісьменьніка Буніна, спамянуўшы разам і твор паляка

Жаромскага, напісаны ім на старадаўныя словы: „Што-б ні здарылася—вытрываю“. Да апавяданьняў з тыповымі чыртамі беларуса трэба залічыць верш „Панас гуляе“ і да т. п.

Сярод бытавых па харахтару апавяданьняў „Тоўстае палена“ паказуець працэс паступовага адпусканьня усерджанага чалавека, „Кірмаш“ скірован проці гарэлкі, „Чорт“—проці забабонаў, „Кантракт“ з нявіднай для лёгкадумнага чытаньніка елкасьцю сьмеха ілюструець, як пінчукі яшчэ ў пачатку дваццатага века ня мелі ў цэлай вёсцы асадкі, чарніла і пяра, „Імяніны“ уводзяць нас у кола духоўных інтарэсаў п'янай месьцячковай „інтэлігенцыі“, пісароў, вураднікаў, дыяканаў, фэльчароў, сядзельцаў. Як вучыцель, Т. Гушча часта пісаў пра жыцьцё дзяцей, і вось „Дзеравеншчына“—прыметнае апавяданьне аб тым, як вясковы хлопчык сірата Міхалка ня можа прызвычаіцца да „панскасьці„ ў свайго брата, ня можа кінуць свае „простае мовы“ і прызвыкнуць да „панскіх слоў“. Гэта адзін з эпізодаў даўнай гісторыі аб выхаджэнцах з беларускай вёскі, штрых цяжкога, труднага і балючага працэса, які стварыла на Беларусі для яе сыноў чужое панаваньне, чужая культура. Жыцьцё дзіцёнка відзім у „Першым зарабатку“, „Злучыліся“ і іншых рэчах.

Повесьці Міцкевіча—тыя-ж апавяданьні, толькі даўжэйшыя. „Батрак“—вершаваная повесьць з жыцьця паляшукоў, напісаная ў менскім вастрозе, у 1910 годзе, а друкаваная ў „Маладой Беларусі“ за 1912 год. Апісаньні маюць шмат агульнага з „Песьнямі жальбы“. У гэтай повесьці аўтор даў сьціплы абраз прасьцейшага і дабрэйшага жыцьця калішняга часу, каб параўнаваньнем яго з благой цяперычынай, падчыркнуць злыдні соцыяльнай няроўнасьці. Злыдні не зьмяншаюцца, а растуць, і ў наш век добры канец мар'інае повесьці здаецца нечым добрым, ды немагчымым. Людзі гэтай повесьці—простыя сэрцам, няхітрыя прадстаўнікі даўнейшай Беларусі. Банадыся - ня тып, а яркі і даволі поэтычны абраз нашай сялянскай дзяўчыны. Мы знаем, што яна „урадлівая была, вочкі ясны, як-бы неба, колькі ў іх было жыцьця,“ што ў яе „чорнай дужкай ляглі броўкі, шчочкі сьвежы, як раса, пагляд—раніца ў Пятроўкі, любата адна—каса“; мы знаем, што яна сьмела намаўляе Якіма ўцячы з ёю,—але ўсё тое добра для народнай творчасьці, з якой „Батрак“ слаўна так зьвязан, ды павярхоўна яно для стварэньня мастацкага тыпа кніжнага твора. Повесьць выдаецца добрай тэхнікай. „Новая зямля“—повесьць, разьвітая з апавяданьня; на шкоду яшчэ не зьявілася ў друку закончанай і цэльнай. Повесьць гэтая—самыя мастацкія і нацыянальныя кавалач-

кі ў поэзіі Я. Коласа. У ёй аўтор паказаў сваю здольнасьць, поэта-эпіка ўва ўсей веліччы (хоць тут надта многа і лірыкі). Малюнкі „Раніцы ў нядзельку,“ ахопленыя вялікай аўторскай любоўю да іх, стаяць уваччу з нязвычайнай яснасьцю. Так і пахне аладкамі, так і выяўляецца, як дзядзька моліцца па дарозе і б'ець сябе кулаком у грудзі, а потым гамоніць з малымі. Дух таго, што апісана, захован тут у кожным меткім слове, у кожнай прыказцы. Краскі малюнку нязвычайна густы й сакавіты. Апісаньні па сваёй сіле стаяць побач з вялікімі творамі, як „Евгеній Онѣгинъ“ А. Пушкіна і „Pan Tadeusz“ А. Міцкевіча. „Лясьнікова пасада“ апісана з той-жа поэтычнай магутнасьцю. У самых звычайных рэчах поэт знайшоў хараство і пабеларуску паказаў яго з вялікім мастацтвам; у гэтым і ёсьць асаблівая цэннасьць „Новай зямлі“. З якой прынаднасьцю гайдаецца каласок у зацішку, выгукаючы ў нас бязконцы чарод уяўленьняў „зацішку“ Беларусі! „За сталом“ паказуець псыхолёгію беларусаў-сялян, іх моцны зьвязак з зямлёю. Повесьць „Новая зямля“—адзін з лепшых твораў нашай эпічнай поэзіі. Гэта твор ня толькі ў беларускай мове, але папраўдзе беларускі. Галоўная загана яго—незаконча насьць і нявыразнасьць аднэй агульнай ідэі. Тэхніка верша стаіць дужа высака.

Вершаваныя легенды і наагул пераймальні народнай творчасьці („Як Янка забагацеў“, „Прапаў чалавек,“ „Паслушная жонка“ і інш.) нічым асаблівым у эпосе Я. Коласа не вызначаюцца. Найлепей напісана апавяданьне „Прапаў чалавек“ (1911 г., менскі вастрог). Наіўна-містычная вера сялян у таёмныя сілы, увасабленьне імі ракі Нёмна за нешта жывое, маючае сваю душу, свае думкі, выказана тут вельмі добра. „Паслушная жонка“ (з народных гутарак)—бойкае, з народным гумарам апавяданьне.

„Казкі жыцьця“. Пад такім агульным назовам пішаць Т. Гушча алегорыі-казкі, каторыя складаюць асобную, дужа орыгінальную галіну яго творчасьці. Дзьве алегорыі ёсьць у „Родных зьявах“ („Зло—не заўсёды зло“, „Казкі жыцьця“), а другія ад часу да часу зьяўляліся пасьля 1914 года ў беларускіх часопісях. Матар'ялам для яго алегорый ідуць розныя прыгоды з жыцьця натуры, асабліва з жыцьця леса. І ў алегорыях знаходзім мотыў нацыянальны („Хмарка“) і соцыяльны („Гнёздо восаў“), Хоць даволі часта яны чапаюць агульна-людзкія пытаньні („Даль“). Алегорыі Т. Гушчы вызначаюцца поэтычнасьцю, абразнасьцю і глыбінёю думкі. Напісаны яны простай, вельмі прыгожай моваю. Сярод эпічных твораў пісьменьніка яны ўступаюць толькі „Новай зямлі“ дзеля адсутнасьці ў іх элементаў тыпова-беларускіх.

„**Сымон Музыка**“ (Менск, 1918 г.)—вялікая, яшчэ няскончаная поэма; мае быць у шасьцёх часьцях, у друку зьявілісь чатыры. Гісторыя даволі простая, а пераказуецца так доўга дзеля таго, што ў поэме надта многа ўсялякіх лірычных дадаткаў. Лірыкі тут гэтак шмат, што аж шкода, чаму яна ўся зьмешана з эпосам, нашто ўплецены некаторыя яе кавалачкі ў апавяданьне, а ня створаны зусім асобнымі, цэльнымі мастацкімі рэчамі, як да прыкладу выдатная па сіле пачуцьця і першая па характву ў нашай поэзіі **ода** божай творчасьці, напісаная пад відам натхненнага іграньня Сымонкі ў карчме („Божы дух вітаў у высі“... стр. 142). Нічога зусім новага для свае творчасьці Колас у гэтай поэме ня даў; відаць толькі дасканальнасьць спрактыкаванага мастака. Важнай заганай твора ёсьць даволі павярхоўнае паказаньне беларускага жыцьця, што выглядае быццам духоўнай беднасьцю яго. Аўтор занадта ўважае на невялічкі асяродак свайго сюжэта, ня робіць багацейшай фабулы і перапускае бяз увагі міма воч шмат ня менш важных, чымся біаграфія поэта-музыкі, старон жыцьця. Маляваньне ўзятай сфэры ня йдзець удоўжкі, ушыркі і ўглыбкі.

**Драма Міцкевіча** складаецца пакуль што з дзьвюх рэчаў. Першая—„Антось Лата“, драматычныя сцэны на два акты. Паказан горкі прапойца, зюзь, усё жыцьцё катогага загубіла гарэлка. Яго шалёнае п'янства прагнала на той сьвет жонку, разагнала дзяцей; ён зглеў і акінут усімі. Антось Лата разумееця трагізм свайго палажэньня, каторы залежыць ад безнадзейнасьці, адчаю, паўсёднай сакрухі. Гэтае разуменьне яшчэ павялічываець яго мукі. Людзі не разумеюць яго і сьмяюцца з пагардаю. Ен адзін з мукамі сваімі. Пры разглядзе драматычных сцэн „Антось Лата“ трэба падхадзіць з двух бакоў: бытавога і псыхолёгічнага. Быт змалёван добра, партрэты людзей сьпісаны, як жывыя, але псыхолёгічны элемент апрацован значна слабей. „Псыхолёгія“ часам навет шкодзіць „быту“: ведаем бо добра, што ніякі п'яніца ня ўміраець з такімі монолёгамі, з якімі ўміраець Антось Лата, а ён-жа спачатку малюецца звычайным п'яніцаю, цікаўным для нас тыповымі чыртамі п'яніцы беларуса. Для драматычнай рэчы „Антось Лата“ маець помала дзеяньня; аб змаганьні героя з самім сабою мы даведуемся з яго слоў, а не з яго ўчынкаў. Таксама з чужых слоў даведуемся мы аб завязцы дзееньня, якая знаходзіцца ў мінуўшчыне Антося Латы. Ходу дзееньня шкодзіць і даўгаватая размова другарадных дзеячых асоб да зьяўленьня галоўнага героя; яна не дасягае свае цэлі падчырківаньня, ці адцяненьня, ці добрага зьясьненьня старон жыцьця Антося Латы, бо яна помала апрацо-

вана ў гэтым кірунку. Разьвязкі-ж драмы зусім няма, бо ненатуральная сьмерць героя ня ёсьць разьвязка. Наагул уся рэч задумана дужа глыбока, але змалёвана толькі быццам учорную. Ня гледзячы на вялікія заганы, „Антось Лата“—мастацкі твор і духоўна-паважная спроба драматычнай творчасьці, якая пакуль што можа быць прыкладам нашае драмы. „**Н а д а р о з е ж ы ц ь ц я**“—драматычны абразок. Старая жанчына, убогая, пакінутая,—сымвол Беларусі,—шукаець раскіданых па сьвеце дзяцей сваіх. Яна моліцца богу так: „Зьнімі з мяне цяжкі крыж мой і пакажы мне дарогу ў сэрца маіх дзетак!“

**Значаньне Міцкевіча** ў гісторыі нашай літэратуры ўжо цяпер вялікае. Як поэт нацыянальны, ён цяпер вышэй за ўсіх і ў сучаснай беларускай прозе стаіць першы. Як ідэйны правадыр грамады, ён уступае Купале і па тэхніцы верша таксама не стаіць вельмі высока (нягучнае зграмаджэньне зычных; нягучнае, быццам лішняе „ў“, як да прыкладу: Нёман повен, навет *у бродзе*, Ен даўно-б *ужо* маху даў, Косі*ць усіх*, не разьбірае; ужываньне непатрэбных русіцызмаў—„грудзь“ і інш.). Памысным актам для яго творчасьці, нязвычайна пажаданым для беларускай літэратуры, было-б стварэньне п а в а ж н а г а э п і ч н а г а т в о р у,—даўгога, як „Сымон Музыка“, густа-сакавітага, як „Новая Зямля“, многа-абразнага, як „Родныя зьявы“, алегорычнага, як цыкл „казак жыцьця“, ахопленага драматызмам „Антося Латы“ і лірызмам душы поэта. Пясьняр падыйшоў цяпер к вышэйшаму пункту свае творчасьці, і наш эпос можа пакладаць на яго вялікія надзеі!

## Янка Купала.

(Радз. ў 1882 г.).

**Яго біаграфія.** Янка Купала (Ян Дамінікавіч Луцэвіч) арадзіўся 25 чэрвеня 1882 г. (ст. ст.) ў фальварку Вязынка, пад Радашковічамі, у Меншчыне. Паходзіць ён з беднай, працоўнай шляхты. Бацькі яго, Дамінік Дамінікавіч Луцэвіч і Бэнігна Янаўна (з роду Валасевіч), арандавалі невялічкія двары, дзе ўраблялі зямлю ўласнымі рукамі. Купала—другі сын у бацькі; з даволі вялікай сям'і, пасьля сьмерці другіх дзяцей, у жывых застаўся толькі ён і тры сястры. Гадоў да трох хлопчык рос у Вязынцы, а патым, гадоў да сямёх—у Косіне Барысаўскага павету, дзе бацька яго служыў у пана Багдановіча. У Косіне яго пачалі ўчыць поль-

скаму пісьму. Калі поэту было гадоў сем, бацька яго перайшоў на службу у двор Турчыновіча Сяньніцу, сем вёрст ад Менска. Тут у рукі хлопчыка трапіў стары маскоўскі календар, і ён з дапамогай свае няньні выўчыўся па ім чытаць памаскоўску. Пасьля яго вучылі папольску і памаскоўску так званыя „вандроўныя вучыцялі“, каторыя зазвычай самі нічога ня ўмелі. У Сяньніцы сям'я Луцэвічаў жыла ўсяго 1—1½ года, а патым пераехала ў Менск. Бацька хацеў вучыць дзяцей і нейкі час езьдзіў у Менску возьнікам, але неўзабаве зноў пачаў шукаць фальваркаў у пасэсію. Сам-жа бацька быў малапісьменны, але ўмеў пісаць папольску і памаскоўску. На дзевятым годзе жыцьця поэта Луцэвічы пераехалі ў фальварак Жаброўскіх Прудзішчы, Беларуцкай воласьці, Менскага павету, вёрст 30 ад Менску. Там рэпэтытар гатаваў хлопчыка ў гімназію, ды бацька раздумаўся вучыць яго, баючыся вялікіх коштаў, і пакінуў удаму „гаспадарыць“. Вучыўся-ж Янук добра, яго цягнула да кніжкі, і за пяць гадоў, пакуль жылі ў Прудзішчах, ён шмат чытаў: вёў коні на нашлег — і то у кішаню клаў кніжку, ня мала меў праз тое і прыкрасьцяў у гаспадарскай рабоце. Калі яму было гадоў пятнаццаць, бацька ўзяў у рэнду фальварак Селішчы Гайна-Слабодзкай воласьці, Барысаўскага павету. Адгэтуль бацькі паслалі яго вучыцца ў народную школу ў Беларучы (Менск. пав.); праўчыўшыся ўсяго адну зіму, ён дастаў пасьведчаньне аб скончаньні пачатковае навукі. Маючы гадоў 16—17, поэт браў кніжкі ў Бяседах (недалёчка ад Селішчаў) з бібліатэкі пана Чаховіча, старога рэволюцыянэра, ідэаліста, каторы быў калісь высланы за паўстаньне і цяпер жыў напоўлегальна. Сярод кніг былі рэволюцыйныя; Чаховіч любіў часам і пагутарыць з цікавым хлапцом. У тым-жа часе пазнаёміўся поэт з Ядвігіным Ш., і той жыў блізка адгэтуль. У Лявіцкіх першы раз ўвідзеў ён беларускія кніжкі, і яны разам з пашыранымі тады (перад 1904 г.) праклямацыямі зрабілі на яго вялікае ўражаньне. Але і цяпер ён быў яшчэ звычайным сябрам свае сфэры, у каторай панавала некаторая



Янка Купала.

польскасьць, ці абпалячанасьць і шляхоцкасьць. На 19 годзе яго жыцьця, у Селішчах, памёр увясну бацька, а ўвосень брат і патым блізка ў адзін дзень памёрлі яшчэ дзьве сястры. Тады зусім адвярнула поэта ад гаспадаркі; матка засталася гаспадарыць. а ён ад сахі і касы пайшоў у сьвет. Цераз 2—3 гады сям'я Луцэвічаў пераехала ў Бараўцы (Менск. пав., 18 вёрст ад Менску), а стуль пазьней—ў Акопы (35 вёрст ад Менска, блізка Радашковіч), дзе матка поэта жывець і цяпер. Пайшоўшы ў сьвет, Луцэвіч быў некалькі месяцаў вучыцелем нелегальнай польскай школкі. Кінуў гэта і паступіў быў на сэкрэтара к сьледаваце́лю ў Радашковічы, але той хутка сказаў яму: „Дрэнна пішаш,—лепей ідзі гараць". Дастаў быў службу ў лесе ў Сеньненскім павеце Магілеўшчыны, але і там не пашчасьціла, і ён мусіў паіці за памошніка аканома ў двор Беліцу пана Сьвяціцкага (35 вёрст ад Талачына). Не спадабаўшыся пану за адносіны да работнікаў, ён дацягнуў, аднак, там зіму да канца. Паехаўшы даведацца хворай маткі, Луцэвіч бавіў удаму нядоўга і ўзноў пайшоў на службу, на гэты раз практыкантам у Сімкова-Гарадоцкі бровар (12 вёрст ад Менска), дзе працаваў бяз грошы, за „навуку" і, можна сказаць, быў звычайным работнікам. Так пражыў зіму 1904—1905 года. Раней ён ужо пісаў польскія вершы, а тут пад ўражаньнем рэволюцыі і ў зьвязку з сваім соцыяльным палажэньнем пачаў складаць вершы беларускія,—„простыя", мужыцкія. Лета пражыў удаму, пісаў многа і толькі пабеларуску. Зіму 1906—1907 г. г. служыў у бровары ў Яхімоўшчызьне Ашмянскага павету і пачаў супрацоўнічаць у беларускіх выданьнях. Пражыўшы лета ўдаму, ён служыў узімку 1907-1908 г. г. ў трэцім бровары ў двары Сноў Наваградзкага павета. Адтуль пасылаў у расейскія газэты вершы і корэспондэнцыі з апісаньнем цяжкога жыцьця работнікаў, за што чуць не дастаў апшыту, але сам па сабе надумаўся і паехаў дамоў. Тады яго запрасілі ў Вільню; ён прыехаў у восень 1908 г. і працаваў у бібліатэцы „Знаніе" да восені 1909 г. Патым паехаў у Пецярбург, з дапамогай Эпімах-Шыпілы паступіў на агульнаасьветныя курсы Чарняева і вучыўся аж да лета 1913 г., прыязджаючы на Беларусь толькі ўлетку. Вучэньне йшло ня вельмі добра, бо зарабляў на хлеб шмат чытаў і хацеў пісаць. Напісаў ён за гэты час дужа многа. Адпачыўшы нейкі час ў Акопах, Купала прыехаў у Вільню, дзе і жыў з 1913 г. да восені 1915 г., працуючы ў „Беларускім Выдавецкім Таварыстве", а посьле рэдактуючы „Нашу Ніву". Яго мізэрнага заработка не хапала яму на самае сьціплае жыцьцё. У пачатку вайны ён пазнаёміўся з гасьціўшымі ў Вільні В. Брюсавым і К. Бальмонтам. Брюсаў пераклаў некалькі яго вершаў. Калі падыходзілі немцы, Купала выехаў у Менск, а пазьней, як бежа-

нец—ў Арол, дзе беларус-аптэкар Жывапісцаў († 1919 г.) намовіў яго паступаць ў унівэрсітэт Шаняўскага, дэкляруючы грашавую падмогу. Поэт згодзіўся і ў кастрычніку быў ужо ў Маскве студэнтам. Там 23 студня 1916 г. пабраўся з Уладыславай Станкевічанкай, быўшай раней у Вільні вучыцелькаю і грамадзскай працаўніцай. Цераз колькі месяцаў ён, як вайсковы павінны, пайшоў у 16 дарожны адрад пад начальства жончынага брата Станкевіча. Работа была невялікая і найболей у Менску, а з чэрвеня 1916 г. адрад перавялі ў Полацак. Там застала рэволюцыя. У лістападзе 1917 г. яго і жонку, як машыністку, перавялі ў Смаленск. Цяжка жылося ім там пасьля ліквідацыі адрада, у часе бальшавіцкага ладу жыцьця. Поэт быў раз'язным агентам комісарыята харчоў, езьдзіў купляць жыта ў глушы Смаленшчыны, Магілеўшчыны і ў іншых губэрнях. Прыехаўшы з аднэй камандзіроўкі, цяжка захварэў на крываўку і ледзь не памёр. Перад новым, 1920 годам, на вялікую радасьць, Луцэвічам удалося пераехаць у Менск. Там Купала заняў пасаду бібліатэкара пры адчыненым бальшавікамі Беларускім Народным Доме і працаваў аж да прыходу польскіх легіонаў. У канцы года ён хварэў на апэндыцыт і быў пры сьмерці.

**Літэратура Купалы.** Першы яго выступ у беларускай літэратуры быў 15-га мая 1905 года, калі ў менскай расейскай газэце „Сѣверо-Западный Край“ надрукавалі яго верш „Мужык“. Купале йшоў тады 23-ці год. Патым выданьні яго твораў ішлі такім чародам: 1) „Жалейка“ (1908 г.)—зборнік вершаў ад 1905 года; 2) „Гусьляр“ (1910 г.), зборнік пазьнейшых, лепш апрацаваных вершаў; 3) поэма „Адвечная песьня“ (1910 г.), напісаная ўлетку 1908 г.; 4) поэма „Сон на кургане“ (1913 г.), напісаная ўлетку 1910 года; 5) драма „Паўлінка“ (1913 г.), напісаная ў 1912 годзе; 6) „Шляхам жыцьця“ (1913 г.)—зборнік вершаў за 1910—1913 г. г.; 7) драма „Раскіданае гняздо“ (1919 г.), напісаная ў 1913 г. Апрача таго, шмат лірычных вершаў напісаў Купала за 1914—1915 г. г. (зьмешчаных у „Нашай Ніве“ і др. выданьнях) і даволі многа у 1918—1919 г. г. у Смаленску (друкуюцца ў „Беларусі“). У часе вайны ў 1916—1917 гадох поэт блізка таго ня пісаў зусім. Вершы Купалы пераклададіся на мову маскоўскую, польскую, украінскую, нямецкую, чэшскую і інш. З маскоўскіх поэтаў яго перакладалі В. Брюсаў, А. Корынфскі, Белавусаў, Нячаеў і др. „А хто там ідзе“ пераклаў у сваёй брошурцы М. Горкі.

**Лірыка Купалы.** І гэты наш поэт па характару свайго таленту—праважна лірык і індывідуаліста. У лірыцы

паказаў ён свой магутны поэтычны дар і дасяг памысных рэзультатаў творчасьці. Лірызмам душы поэта ахоплены яго эпічныя вершаваныя рэчы, лірыкай перасыпана і яго драма. Лірычных вершаў у Купалы дужа многа (што шкодзіць іх мастацкай вартасьці). Агульны тон іх элегічны і мякка-сатырычны. Вершы пачатковай пары яго творчасьці, разумеецца, слабейшыя па форме, затое-ж сярод пазьнейшых вершаў ёсьць нязвычайна мастацкія. Лірыка Купалы болей музыкальная, чымся плястычная; часам гэта проста музыка. Найчасьцей строіць поэт сваю ліру на патрыятычны лад, паказуючы думку беларускімі малюнкамі соцыяльнага характару. Грамадзянскія мотывы—на першым пляне, але, прырода і любоў займаюць таксама шырокі простор. Ідэолёгія адраджэньня ёсьць глаўнай прыметай ня толькі лірыкі, але ўсяе поэзіі песьняра. Творчасьць яго болей нацыяналістычна, чымся творчасьць Коласа, і меней нацыянальна, меней мае́ць самабытна-беларускіх азнак, чымся коласаўскі эпос. У сваёй лірыцы Купала вялікі патрыот. Патрыятызм яго, спачатку нясьмелы і ледзь прыкметны на фоне соцыяльных абразкоў, бесьперастанку ўзрастаець і пад канец набіраецца правадырскай сьмеласьці і дужасьці. Першы выступ поэта ў беларускай літэратуры („Мужык“, 1905 г.) ня меў ніякага нацыянальна-беларускага знаку і выглядаў выключна соцыяльным па свайму характару. Малады поэт, цяперашні асілак адраджэньня, выйшаў на літэратурную ніву з паглядамі масавага беларуса-селяніна. Зараз, аднак, ён пачынае з словам мужык зьвязываць слова беларус („З песьняў а сваёй старонцы“). Думкі яго разьвіваюцца ў гэтым кірунку дужа шыбка, і ўжо ў 1906 годзе ён займае цьвёрды грунт у вельмі дзейнай ідэолёгіі адраджэньня („А хто там ідзе?“ „Над сваёй айчызнай“ і інш.). З агульным разьвіцьцем поэта разьвіваецца і яго сьвядомасьць у нацыяналізьме. Паглыбеўшы ў думцы і дасканальна апанаваўшы форму верша, Купала даў у 1908—1913 г.г. колькі лірычных вершаў, выдатных па свайму харастве і па той сіле, з якой выказана ідэя адраджэньня. Пясьняр заклікае свой працоўны сярмяжны народ абудзіцца („Сваякам па гутарцы“). Ад імя гэтай мільённай грамады ён, як вярхоўны жрэц, з нязвычайным натхненьнем моліцца сонцу, каб глянула „да крывіцкіх туманных нізін“, каб узяло з імі вечны шлюб („Песьня сонцу“), а родную старонку ён заклікае, каб выйшла „спаткаці вясну“. („Выйдзі“...). Ува ўсякую мінуту, ува ўсякай патрэбе моліцца ён за „родны загон Беларусі“ („Мая малітва“). З сардэчнай мукаю пяець поэт „смутную повесьць“ роднае мовы і ўсяго роднага, каб паказаць свайму народу, што „ўжо новая відна зара“ („Ужо днее“). У чародны перыад, посьле вайны і рэво-

люцыі, ён то гоіць больку сваё ўсеаб'емлючае нацыянальнае душы бічаваньнем „беларускіх сыноў“ у войстрай, пякучай сатыры („Беларускія сыны“, 1919 г.), то з трагэдыяй вялікага духа ўзьлятае ў вечнасьць і адтуль маркотна аглядаець цярнёвы шлях, па якім вёў ён свой народ з эгіпецкае няволі („Мой сьцень“). Сацыяльны элемент ёсьць важная складаная частка ўсяе творчасьці Купалы. Нацыяналізм яго грунтуецца, як зазвычай у беларусаў, таксама на соцыяльных пытаньнях; ён не выглядае ў Купалы як нешта паасобнае, а заўсёды зьвязуецца ў яго з думкай аб родным народзе і яго соцыяльным стане ў вадно непадзельнае цэлае. Чуць ня кожны верш песьняра,—а ці-то апісаньне прыроды, побыту, праяў жыцьця, а ці-то чаго іншага,— маець стульны зьвязак з соцыяльнымі пытаньнямі. Вышэй за ўсё ставіць поэт п р а ц у, каторая мяняе навет самы выгляд зямлі, толькі ня можа зьмяніць горкага мужыцкага жыцьця на лепшае. Апісуючы такое жыцьцё з усіх бакоў, пясьняр відзіць прычыны злыдняў у нацыянальнай няволі, у мужыцкім беззямельлі, у поўнай залежнасьці мужыка ад панскай ласкі, ў адміністрацыйным безгалоўі, у народнай несьвядомасьці у цемнаце, у гарэлцы. У сучаснай соцыяльнай будове беларускага жыцьця Купала відзеў выключна ўсё дрэннае, дык і лірыка яго засмучоная. Вясёласьці ў яго поэзіі няма. Тон яе заўсёды аднавагам маркотны. Соцыяльныя злыдні зрабіліся такімі звычайнымі, што не ўзварушаюць поэта на вялікі гнеў з запалам; Купала хавае сваё абурэньне ў сваім смутку і вылічае крыўды даволі спакойна ці з панурай іроніяй. Соцыяльны элемент творчасьці Купалы разьліт у большасьці яго лепшых вершаў, асабліва ў бытовых апісаньнях, апісаньнях працы, а найпаўней ён выказан у такіх лірычных рэчах: „З песьняў беларускага мужыка“, „З песьняў мужыцкіх“, „Ах, ці доўга“... „На польскую ноту“, „Эй, восень, восень“... „Аб мужыцкай долі“, „З песень беззямельнага“ і інш. У соцыяльнасьці творчасьць Купалы маець часам агульныя азнакі з творчасьцю Багушэвіча. П р ы р о д у Купала рэдка апісуець, як мастак чыстага мастацтва. Тады, як у Коласа яна часта малюецца дзеля яе хараства, у Купалы такіх апісаньяў блізка што няма; ён і тут найчасьцей творыць, як грамадзянін і адраджэнец. („Прыйшла зіма халодная“... „Явар“ і інш.). Пазьней у яго зьяўляюцца вельмі мастацкія абразкі прыроды, зьвязаныя з асабістымі перажываньнямі песьняра, з яго настроямі і жаданьнем паказаць таёмны дух прыроды, каторы ня можна перадаць звычайнаю моваю і пеўнымі разуменьнямі. („Адцьвітаньне“, „На склоне лета“, „Сьпека“, „Восень“, „З асеньніх напеваў“, „У вечным боры“, „Лясун“, „Чорны бог“ і інш.). Вельмі дасканальны верш „Адцьвітань-

не“ тонка перакавуе, да прыкладу, нявымоўнае чуцьцё таго, як „думка сэрцу аб вясьне зрадны голас падае“; цікаўная ў ім тэхніка—частае „с“, як лейт-мотыў адцьвітаньня, даець асоцыяцыю з сухім верасам, з лісьцем, што сыплецца, з мінулым звонам касы і шастаньнем каласоў, з тым, што адцьвітае і што адцьвіло...

Не шасьцяць каласы,
Звон ня валіцца з касы,
Не кладуцца у стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.

І г. д.

Л ю б о ў у творчым паказаньні Купалы таксама нагадуець якоесь адцьвітаньне, навет „недацьветы“. Любоў поэта азначаецца смутным тонам, нясьмелым аглядам мінулых лятуценьняў, прычым на першым пляне стаіць не жыцьцярадасны пачатак, а зьняможны канчатак каханьня. Прыметныя для купалаўскай творчасьці і лепшыя па форме такія вершы аб каханьні: „Як у лесе зацьвіталі“, „З недацьветаў“, „З табою“, „Заручыны“ і інш.

**Эпос Купалы.** Зусім эпічных твораў у Купалы, можна сказаць, няма. У кожным з іх столькі лірыкі, што лепей іх назваць ліра-эпічнымі. Як чысты эпік, Купала не разьвіўся. Да яго эпосу трэба залічыць байкі, абробкі народных пераказаў і легенд, невялічкія вершаваныя апавяданьні, а таксама дзьве спробы драматычных поэм—„Адвечную песьню“ і „Сон на кургане“. Байкі ў Купалы нічым асаблівым не вызначаюцца; па складу верша яны болей-меней пераймаюць Крылова, мова іх жывая, бойкая, але ня вельмі народная, ня то, як у Крылова, і наагул яны для нашай поэзіі ненацыянальны; і ў байках зьмясьціўся элемент нацыянальна-палітычны („Два мужыкі і глушэц“). Лепей выйшлі абробкі народных пераказаў жартаўлівага зьместу („Страх“, „Сват“). Тое, што Купала пачаў шукаць тэмы для сваіх твораў у багатай народнай творчасьці, у беларускіх забабонах, легендах, старых гутарках, мела для яго дужа карыснае значаньне, бо разьвівала ў яго поэтычным слове нацыянальны элемент. Поэт пачаў карыстаць з народных сымволаў, усё болей захапляўся чыста-народнымі абразамі, ад сяньняшніх дзён зьвярнуўся да мінуўшчыны і закахаўся ў ёй; у яе паснулых капцох здабыў ён новы імпэт ў ідэалізацыі адраджэньня. Пераймаючы народную легенду, Купала даваў яе абразом зусім новае значаньне, сьмела і поэтычна карыстаў для нацыянальнае ідэі („На куцьцю“), хоць часам укладаў і соцыяльны мо-

тыў, ды не абы-як, а вельмі хо аша і гарманічна зьвяза шы яго з хвалебнай песьняй няўмірушчай праўдзе і творчаму слову („Курган“).

**„Адвечная песьня“**—драматычная поэма ў 12 праявах. Аб гэтай рэчы, скончанай поэтам у Бараўцах улетку 1908 года, М. Багдановіч пісаў так: „Гэтая пацерка з невялікіх гутарак-вершаў зусім зьбіваецца на „Жалейку“: зьмест іх той-жа самы, форма, праўда, гладзей, але ня вельмі,—і ўсё-жткі яны пакідаюць глыбейшы сьлед у душы чытача; увесь сакрэт гэтага ляжыць у цэльнасьці іх, бо разьмешчаны яны паводлуг аднэй і тэй-жа думкі і ўвесь час дапаўняюць, падтрымываюць адзін аднаго. Усё жыцьцё мужыка праходзіць перад нашымі вачыма, і няма там ніводнага мамэнту, каб ня ліліся сьлёзы, і няма ніводнага пуці да лепшай долі, няма нічога лепшага за сьмерць... Бязвыхаднасьць, безнадзейнасьць—вось што чуваць ува ўсёй поэме, што цяжкім камянём кладзецца на душу чытача пасьля кожнай праявы. Нечым кальні іншым тонам напісана толькі „вясельле“,— бадай ці не найлепшая частка поэмы. Калі што яму і шкодзіць, дык мо' толькі такія словы як „кадрыля“, „парад“ і т. п., а ўсё другое,—і бойкі рытм, і рыфмы на сярэдзіне строк, і навет нейкая грубаватасьць вельмі жывой мовы—усё на сваіх мясцох, усё надта добра падабрана да зьместу. Што датыкаецца да найслабейшага боку поэмы, дык—на наш пагляд—гэта грубы сымволізм, прыпамінаючы дзе-якія кепскія месты з твораў расейскага пісьменьніка Л. Андрэева“.

**„Сон на кургане“** — драматычная поэма ў 4 абразох. Напісаў яе Купала ўлетку 1910 года ў Пецярбурзе, калі ў сталічнай абстаноўцы быў агорнут усёю сілаю агульна-грамадзянскага настрою і знаходзіўся пад вялікім уплывам маскоўскае літэратуры. Гэта быў і другі перыад творчасьці поэта, калі ў яго пачаўся процэс самастойнага, індывідуальнага агляду спрадвечных, праклятых пытаньняў, калі ён падвадзіў свой ранейшы масава-сялянскі сьветагляд пад шырокія рамкі сьвядома ўспрынятых сусьветных ідэй. Па артызму, укладзенаму ў гэтую новую поэму, яна стасуецца з „Адвечнай песьняй“, як „Шляхам жыцьця“ з „Жалейкай“, а па сваёй духоўнасьці яна—далейшае разьвіцьце „Адвечнай песьні“. І той ідэйны поступ двух гадоў (1908—1910) трэба прызнаць невялікім і для беларускай поэзіі мала памысным, бо Сам- той жа беларус-селянін з „Адвечнай песьні“, але ён тут прэтэндуе на ўсебеларускае нацыянальнае прадстаўніцтва і большую адукаванасьць у соцыялёгіі, хоць стаў меней нацыянальны, страціў у беларускай беспасрэднасьці

і размаўляе ненатуральнай для мужыка моваю. Сам — гэта сам аўтор, сам беларускі народ, сам кожны беларус, каторы жывець духоўным жыцьцём свайго народа. Сам шукаець дзядоўскіх скарбаў у замчышчы,—гэта сымвол таго, як беларускі народ шукаець свайго адраджэньня. Сам—сымвол лепшых сыноў народа, змаганьнікаў за адраджэньне. Чорны — увасабленьне варожай для іх сілы. Відмы, каторых лепей назваць пабеларуску зданямі, ці зданьнямі—увасабленьне розных злыдняў соцыяльнага жыцьця. Таварышы відмаў — чарада загубленых Самаў, ахвяры відмаў. Гістарычны процэс шуканьня захаваных скарбаў, шуканьня лепшай долі, грыняў ў уяўленьні песьняра надта поэтычныя і вольна-фантастыныя формы і абразы, болей-меней зьвязаныя з народнай творчасьцю і нацыянальнай псыхікай. Русалчына пяяньне, рытм гэтага пяяньня, русалчыны пераказы (аднак, даволі малаважныя) маюць у сабе шмат нацыянальнага,—і ў гэтым вартасьць поэмы, хоць аўтор прыдаў той вартасьці другараднае значаньне. З монолёгаў Сама, з яго песьняў і з іграньня на ліры даведуемся аб паглядах поэта, аб тым, што для яго глаўнае, і ў чым ідэя поэмы. Навіны ня шмат. Толькі зьвязана адным, нібы-то, сюжэтам тое, што ўжо сказаў Купала ў розных сваіх лірычных вершах. Тыя-ж нацыянальныя, соцыяльныя, палітычныя, адраджэнцкія мотывы, толькі выказаныя з большым абагуленьнем, з некаторай ўсеаб'емлючасьцю (гл. стр. 29, 33, 93 і інш.). Размовы відмаў з таварышамі, іх монолёгі новага даюць мала і дарма так расьцягнуты; яны толькі падчырківаюць і зьясьняюць карціну, адкуль бралiся Самы. Таварышы відмаў перапяваюць звычайныя соцыяльныя мотывы як: 1) беззямельле, 2) благія заработкі і вялікія падаткі, 3) цяжкая праца жанчыны, 4) небясьпечанасьць работнікаў пры машыне, 5) упаіваньне народа, 6) гандлярская эксплуатацыя, 7) рэлігійнае задурываньне і інш. Абраз „На замчышчы", узяты агулам, ёсьць тымчасам магутны соцыяльны протэст,—гэткія дзівы робіць вялікі талент з абы-якім матар'ялам. К соцыяльна-палітычнаму протэсту зводзіцца і ўся поэма, забіваючы яе нацыянальнае для нас значаньне. Абраз „Пажарышча" вызначаецца надта жывою і меткаю народнаю моваю, а тэхніка верша тут такая, што здаецца, быццам поэт забаўляецца ёю, так кіруець, як толькі яму заманецца. Адна бяда—з усяе поэмы відаць, што Купала слабы эпік, што сплесьці фабулу яму не ўдаецца, што сюжэт для яго патрэбен ня як важная частка артызму, а як спосаб зьвязаць лірычныя кавалачкі. Яшчэ што—аўтор поэмы „Сон на кургане" зусім простыя і балючыя думкі хаваець у нейкі фантастычна-поэтычны туман і быццам стараецца зрабіць іх страшнымі знадворку, так сказаць, тэхнічна, аслабляючы тым

іх духоўную балючасьць. Урэшце —„Сон на кургане“, за свой вялікі артызм, ёсьць пакуль што адным з самых лепшых твораў нашай поэзіі.

**Драма Купалы** складаецца да гэтага часу з „Паўлінкі“ і „Раскіданага гнязда“. Творы напісаны адзін за адным цераз год, але ідэйная розьніца іх вялікая: першы належыць да канца першага перыяду ў купалавай творчасьці, другі—да яе другога перыяду. У першым—прастата і сьвежасьць зборніка „Жалейка“, у другім—артызм і сымволічны туман поэмы „Сон на кургане“.

**„Паўлінка“**, сцэны із шляхоцкага жыцьця ў двух актах, напісаныя ўвясну 1912 года ў Акопах, маюць вялікі пасьпех на беларускай сцэне, а таксама вызначаюцца і ня малымі літэратурнымі вартасьцямі. Шляхоцкае жыцьцё змалёвана тут надта ярка, жыва і проста. Можна думаць, што аўтор сьпісаў сваіх героеў з запраўднага жыцьця. Бытавыя малюнкі стаяць тут на першым пляне, яны найболей задаліся. Духоўная старана—слабей; псыхолёгія дзеячых асоб толькі зьлёгка закранута; яна паказана ў такой меры, у якой праходзіць прад вачмі звычайнага чалавека. З большай уважнасьцю паказана душа Паўлінкі. Абраз гэтай слаўнай дзяўчыны-шляхцяначкі напісан драматургам як партрэт, але, на шчасьце, тая асоба, з якой партрэт намалёван, аказалася вельмі тыповай для свае сфэры. З гэтай прычыны партрэт Паўлінкі выглядае мастацкім тыпам, і беларускія дзяўчаты з шляхоцкіх ваколіц могуць пазнаць у ім шмат свайго характару. Паўлінка вышэй за ўсё ставіць каханьне; яна любіць сваіх бацькоў, ды ўжо выйшла з іхнага сьветагляду, а затое вось, бедная, мучыцца; яна кволенькая, далікатненькая, але ва ймя свае справядлівае думкі пойдзець на неспадзяванае для другіх, рызыкоўнае і прыгожае змаганьне. Шкада, што няма яшчэ аднаго, трэцяга, акта драмы, і няведама, што было далей з гэтага змаганьня; ці-ж так слабыя дзявочыя крыльлікі без надзеі і апусьціліся? Помала таго, што сказана ў драме і аб новым чалавеку беларускага жыцьця — Якіму Сароцы, асабліва раўнуючы з той добрай уважнасьцю, якая памастацку аказана пану Адольфу Быкоўшчыку. Гэты пан — духоўны брат каганцовага „моднага шляхцюка“, толькі прасьцейшы, бо жывець ня ў горадзе, а ў засьценку.

**„Раскіданае гняздо“** — драма ў пяцёх актах. Скончана ў восень 1913 году ў Акопах. Зьмест для драмы аўтор узяў з рэяльнага жыцьця, але кожны абраз і кожную гутарку зрабіў сымволічнымі. Апрача таго, дзеячыя асобы

ў драме гавораць ня простаю, звычайнаю моваю, а поэтычнаю, сымволіка-абразнаю, часам навет музыкальна-разьмеранаю і заўсёды ахопленаю купалаўскім лірызмам. Усё гэта складаець вялікія мастацкія вартасьці твора, асабліва ў наш век грубага рэялізму, але разам з тым вымагае ад поэта такой-жа высокай ідэйнай стараны, такой-жа сілы ў паказаньні і зьясьненьні духоўнага замыслу драмы, бо йначай усё поэтычнае хараство будзе бязгрунтоўным і малацэнным. „Раскіданае гняздо"—сымвол раскіданай Беларусі з часоў пярэдадня сусьветнай вайны і соцыяльнай рэволюцыі. Сымвол той выйшаў з душы поэта-адраджэнца і былага земляроба з беларуска-мужыцкай соцыяльнай сьвядомасьцю. Дык вось і ідэйная разьвязка вялікіх проблем зроблена ў драме так, што сымволы новага часу абгорнуты нейкім туманам няпоўнай усьвядомленасьці, яны падманяюць нас сваёй прынаднасьцю, ды застаюцца маларэяльнымі, не сакавітымі на сваё запраўдныя, жудасна-рэволюцыйныя фарбы. Дух навізны толькі здалеку, хоць і безадступна, мітусіцца тут, найвыразьней увасходзячы ў рыторычны абраз няведамага чалавека, работніка, згукаючага па гарадох і вёсках гаротнікаў на „вялікі сход". Тып работніка незадачан. Лепей выйшаў сялянскі прототып новага беларуса—Сымон. Цікавен поэтычны абраз Зосі, як сымвол паза-клясавых адносін. Надта а надта мучаецца Зося цераз гора сям'і, без аніводнага слова зносіць яна балючыя папікі новага змаганьніка з панствам-брата і ймець веры, што ўсіх злыдняў можна пазбыцца, калі людзі будуць любіць адзін аднаго так, як яна любіць паніча,—гэта ўвабражаныя паза-клясавыя адносіны. Паніч пабавіўся, скрыўдзіў дзяўчыну і кінуў яе без усякай страты, — гэта запраўдныя паза-клясавыя адносіны. Дзяўчына адурэла. Яна сьніла залатыя сны, яна была поўная поэзіі, і каб захаваць свой няземны характар пасьля гідкага датыканьня жыцьця, яна зусім адракаецца ад жыцьцёвай праўды, пераходзіць у простор грёзаў, робіцца ненормальнай. Сцэна з вяночкам з васількоў па сваёй магутнасьці, па сваёй поэтычнай чыстаце, па тонкасьці перажываньняў нагадуець вечны абраз Офэліі. Разьвязка паза-клясавых адносін, як відзім, дужа поэтычная, ды зусім непажаданая ні з якога, апрача аднаго бадай панскага, пагляду. Старац добра сымволізуе старадаўнае прымірэньне з бядою, а Лявон Зяблік—гібель ад непасільнага змаганьня; ён адбіраець у сына сякеру, кажучы, што змагацца трэба розумам, а сам наўпрэкі розуму, з адчаю робіць сабе сьмерць. Роль Данілкі няясна. Драма канчаецца тым, што няшчасная матка з бяздольнымі дзеткамі сымволічна выходзіць зьбіраць міласьцінку, а Сымон пад бліскам зарава ад запаленага ім панскага двара цягніць неразумную сястру на „сход". Вялі-

кая рэволюцыя, якую вешчаваў гэты сход, паказала, што аўтор-адрад канец шмат чаго прадвідзіў, ды ня даў у сваёй драме ідэйнага правадырства, роўнага яе артызму.

**Значаньне Янкі Купалы** ў нашай поэзіі з кожным годам расьце, хоць ён даўно ўжо здабыў у ёй першае па артызму места. Напісаў Купала болей за ўсіх беларускіх пісьменьнікаў.

## Максім Багдановіч.

(1892—1917).

**Біаграфічны матар'ял.** Бацька поэта, вучыцель Аляксандар Багдановіч, даволі вядомы ў маскоўскай літэратуры этнограф, быў родам з Горадзеншчыны. Калі Максіму ішоў усяго другі год, Багдановічы пераехалі адтуль у Ніжні-Ноўгарад, дзе бацька дастаў пасаду ў гімназіі. Там поэт і вырас. Бацькі яго гаварылі памаскоўску, але шчыра любілі родны край і любілі ўспамінаць аб жыцьцібыцьці на Беларусі. Наслухаўся тых гутарак Максім і змалку пачаў лятуцець аб далёкай і любай зямельцы сваіх дзядоў. Падросшы, ён з прагавітасьцю чытаў усякую кніжку, дзе было напісана што-небудзь пра Беларусь. Быўшы ў старэйшых клясах гімназіі, поэт дастаў беларускую кніжку і даведаўся, што выходзіць беларуская газэта. У кароткі час тэорытычна выўчыўся ён гаварыць і пісаць пабеларуску, сьпісаўся з „Нашай Ніваю“ і пачаў пасылаць допісы і вершы. Рэдакцыя газэты адразу пачула ў ім нямалы поэтычны талент і духоўна паддзержыла маладога песьняра. Так Багдановіч зрабіўся сьвядомым літэратурным працаўніком на ніве беларускага адраджэньня. Вышэйшую навуку праходзіў ён у Яраслаўлі, у юрыдычным ліцэі. Быўшы студэнтам, ён ужо ўсёю душою



М. Багдановіч.

аддаўся беларускай літэратурнай творчасьці, апрача таго, пісаў аб беларускіх справах у расейскіх і асабліва шмат ў украінскіх часопісях. Як пішуць асабіста знаўшыя яго людзі (З. Бядуля), цяпер Багдановіч „зайздраваў тым шчасьліўцам з беларускіх поэтаў-дзяцей сялян, што хоць пастушкамі былі, але ў родным полі, у родным лузе, у сваіх лясох, пушчах і балотах. Паводлуг яго зданьня, песьняры, жыўшыя ў самых глухіх кутох роднай зямлі, маглі ўбіраць у сябе творчы, самабытны, абвеяны казкамі дух свайго народу". Ен з нецярплівасьцю чакаў таго часу, калі здолее паехаць і першы раз пабачыць бацькаўшчыну і першы раз пачуць яе жывую мову. У 1911 годзе ён меў, як сам казаў, „вялікае шчасьце": ён пабачыў бацькаўшчыну і прыехаў на колькі дзён у яе старую сталіцу—Вільню. З нязвычайнай радасьцю пераказываў тут поэт сваім знаёмым, што гэта было для яго за шчасьце, бо „далёкая, нязнаная бацькаўшчына-Беларусь неяк дзіўна чаравала яго і вабіла к сабе ад таго часу, як ён пачаў жыць сьвядомым жыцьцём; самае імя яе будзіла ў душы поэта дзіўны стан, і здавалася яму, што вось-вось брызнуць сьлёзы з яго воч" (А. Навіна). Другі раз прыехаў пясьняр на родную зямлю ў 1916 годзе, у Менск, прыехаў зусім хворы, змучаны сухотамі. Аднак, не ўзьвесяліла, а яшчэ болей прыгняла яго засмучоны ў слабнучым целе дух тая атмосфэра, якая панавала тады ў Менску. Маскоўская вайсковая забарона друкаваць часопісі пабеларуску проста забівала поэта. Ды не сядзеў бяз працы і цяпер: арганізовываў менскую беларускую моладзь, чытаў рэфэраты аб беларускім руху, укладаў беларускую літэратурную хрыстаматыю і рабіў шмат чаго іншага. Здароўе ўсё горшала а горшала, і Багдановіча ўмаўлялі, прасілі, каб ехаў у Крым. Ня меў поэт ахвоты пакідаць сваю няшчасную, зьняволеную і зруйнаваную бацькаўшчыну,—відаць, баяўся, каб не памерці на чужыне. Але ўпрасілі, паехаў... А цераз кароткі час прыляцела з Крыму смутная, жахлівая вестка, што 12-га мая 1917 года (ст. ст.), у Ялце, рукі, пісаўшыя „Вянок", сашчапіліся навекі.

**Літэратура Багдановіча** яшчэ ня можа быць уся падлічана дзеля неспакойнасьці цяперашняга часу; пакуль што немагчыма сабраць увесь пакінуты нябожчыкам матар'ял і выдаць поўны збор яго твораў. Меркаваць аб яго творчасьці можна цяпер толькі па „Вянку" і па раскінутых у розных часопісях яго лірычных вершах, невялічкіх поэмках і іншых рэчах. Аб яго прозе даюць разуменьне такія апавяданьні, як „Музыка", „Над морам", „Аб іконьніку і пазалотніку", „Шаман" і інш

**Яго пагляд на творчасьць** выказан ў эпістоле „Ліст да п. В. Ластоўскага“, друкаванай у газэце „Гоман“ (№ 48, 1917 г.).—Дума робіць красьнейшым кожны твор поэта. Спакойная дума павінна быць усновай творчасьці. Халодны розум поэта ня шкодзіць яго натхненьню. Прысуд, зроблены А. Пушкіным для Сальері, несправядлівы.

Уменьне для ігры Сальері здабываў
Праз мерны, нудны труд; ці спраўды забіваў
Ен гэтым талент свой, як бачна з думак драмы?
Адкажа йскрыпка нам. Стокато, фугі, гамы
Шмат год калісь на ей Сальері вывадзіў
І моцна йграньнем тым іскрыпкі зык зьмяніў.

Сальері разьбіваў сябе гэтаю працаю. Ен хацеў усё зразумець у творчасьці, усё абмяркаваць, абдумаць спасабы, матар'ял, мэту. У яго творчасьці няма раптоўнага. Багдановіч уважаў, што такім быць і так тварыць можа кожны поэт.

**Творчасьць Багдановіча** найлепей такім паглядам і характарызуецца. Яе прыметы: 1) дума і 2) ўменьне, здабытае, працаю інтэлекта над сваім разьвіцьцем. Высокая поэтычнасьць твораў Багдановіча паказуець, як сярэдні па прыроднай здольнасьці чалавек дасягае неспадзяванай велічы праз тую ўпорчывую і старанную працу. Чуць ня кожны вершык Багдановіча маець у сабе якую-небудзь філёзофскую думку. Творчасьць яго—праца мысьліцеля, апранутая прыгожай славеснай шатаю. Мысьлячы, ён усюдых шукаець красу, хараство, гармонію. Красу ён чуець сваёй прыродаю і цэніць сваім разьвітым розумам. Узгадаваны на клясычных прыкладах сусьветнай літэратуры, ён вымагаець і ад сябе дасканальна-артыстычнай формы. Гэта поэт-філёзоф і поэт-стыліста.

**Элементы яго літэратуры** болей-меней выдзяляюць поэта з аднароднай сям'і нашаніўскіх поэтаў і пісьменьнікаў. Праўда, і ён заплаціў даўь часу і служыў бацькаўшчыне па ўсёй сваёй магчымасьці, надаючы некаторым творам нацыянальнага элементу. Тымчасам а ні гэты, а ні соцыяльны элемент не складаюць глаўных азнак яго літэратуры. Багдановіч прымецен агульна-людзкім элементам. Вершы яго гавораць нешта чалавеку ўсякай нацыянальнасьці і ўсякага соцыяльнага стану.

**Матар'ял яго літэратуры** складаецца глаўным чынам з жывой прыроды і вясковага і мястовага жыцьця. Нявычэрпнай крыніцай для яго ёсьць і беларуская народная міфолёгія, царства вадзянікоў, русалак, лясуноў. Шмат гаворыць душы поэта і мінуўшчына, пахаваная ў старых кроніках і творах поэтаў клясычнага сьвету.

1). **„Вянок“** (1913 г.)—кніжка выбраных вершаў. Яна складаецца з такіх аддзелаў: 1) „У зачараваным царстве“, 2) „Згукі бацькаўшчыны“, 3) „Старая Беларусь“, 4) „Места“, 5) „Думы“, 6) „Вольныя думы“, 7) „Старая спадчына“ і 8) „Мадонны“. У першым аддзеле поэт у кароценькіх лірычных вершыках змаляваў зачараванае царства прыроды пад глыбокім паглядам мысьліцеля. Тут ёсьць абразы лета, вечара й ночы ўлетку, зімы, буры, леса, возера і т. д. Толькі гэта ня простае мастацкае апісаньне, а паказаньне таксама і таго настрою, які зьяўляецца ў поэта-філёзофа з уяўленьнем тых абразоў; паказаньне і той ідэі, якую родзіць у яго душы апісаны абраз. Калі-ж у каторым-небудзь вершыку свае асобнае ідэі няма, дык для яго астаецца адна агульная ідэя усіх вершаў: сьвет прыгож, і адчуваць яго хараство—шчасьце жыцьця. У лесавым гуле поэту чуецца граньне сумнага, маркотнага лясуна: „быццам тысячы крэпка нацягнутых струн, тонкаствольныя сосны зьвіняць“. Перад велічну гэткага абраза ў поэта зьяўляецца філёзофская думка: „ці трэба казаць, што зіяе-дрыжыць на лісьцёх лазьняка: кроплі сьлёз ці халоднай расы?“ Бура—пасечаная вагністым мечам, панурая, вялізная жывёла; халодныя бічы з яе крыві—тое, што людзі завуць дажджом. Абраз буры — вялікі абраз грознага, крывавага змаганьня ў прыродзе, уяўленьне каторага пабуджае ў душы поэта нейкі гарманічны водгук хараства. Апісаўшы, як ціха па мяккай траве праходзіць сінявокая ноч, як плывець туман, выглядаюць патроху „зорак дрыжачых вянкі“, лажыцца раса і ў палёх запаляюцца жоўта-чырвоныя вагні, поэт знаходзіць, што гэта—„час, калі трэба журыцца душою на сьвежых магілах пуста пранёсшыхся днёў“. Невялічкі другі аддзел сьведчыць, што згукі бацькаўшчыны ўжо на пачатку творчасьці поэта цягнулі яго да народных мотываў і спасабоў пяяньня. Пад канец жыцьця Багдановіч асабліва праняўся думкай, што каб у нас была ня толькі „поэзія ў беларускай мове“, але запраўдная беларуская поэзія, дык трэба браць прыклад з К. Каганца і йці ў поэзіі беларускім народным шляхам. Рэзультатам такой думкі зьявіліся у Багдановіча пазьней дзіўныя вершы, як „Страцім-лебядзь“ і інш., а ў гэтым аддзеле народнасьць паказуецца ў прасьцейшай рытміцы верша і ў абразох і зваротах, узятых з народных песьняў. Як цікаўны пераход ад народнасьці да кніжнасьці, як комбінацыя народнага складу верша з індывідуальнай творчасьцю сучаснага інтэлігента, вызначаецца прыгожы засмучоны вершык біографічнага характара „Ня кувай ты, шэрая зязюля“. Трэці аддзел, „Старая Беларусь“, зьмяшчаець вядомыя ўсей пісьменнай Бе-

ларусі вершы: „Перапішчык“, „Слуцкія ткачыхі“ і інш. Усе яны напісаны з вялікім мастацтвам, вымагаючым таго ўменьня, здабытага працаю інтэлекта над сваім разьвіцьцем. За далікатнае хараство формы і плястычнасьць іх можна назваць антолёгічнымі. Спроба змаляваць абразкі старой Беларусі западалася поэту ня столькі ў выгляднай згоднасьці апісанага з нашай старынною, колькі ў моральнай пеўнасьці іх духоўнага зьвязку з мінуўшчынай. Тут-жа выдзяляюцца беларускай поэтычнасьцю два вершы: адзін з варажбой старога млынара („Ціхі вечар; зьнікнула сьпякота...) і другі—з паглядам беларуса на прыроду („Па лядзе, у глухім бары“...). „Места“, аднак, а ня вёска, ўзгадавала Багдановіча. Поэт завараджыўся чароўнымі прынадамі горада і з захапленьнем апісуець разнакалёрнасьць мястовага выгляду і мястовага жыцьця. І тут амаль ня кожная зьява даець яму страву для філёзофскіх развяг. Хлопчык выдувае з мыла шматфарбныя пузыры, хапаець іх рукою, застаецца адна слата,—гэтак бывае ў нашым жыцьці. Сьмерць патрыцыя і сьмерць дзяўчыны асоцыіруюцца ў уяўленьні поэта па сваёй падобнасьці ад мігдаловага горкага паху,—яны родзяць філёзофскую думку аб падобнасьці самых розных жыцьцёвых праяў. Заслугуе быць адзначаным такі верш гэтага аддзела, як „Завіруха“, у каторым поэт захапіў правы музыкі і гукамі верша перадаець гукі буры ў месьце. Тут часта чуюцца склады: буб, гры, зьві, вул, гуд і да т. п. У ваддзеле „Думы“ і „Вольныя думы“ якраз найболей тых ідэй, што зьяўляюцца ў поэта-філёзофа ад уяўленьня хараства. Так, у вершы „С. Е. Полуяну“ поэт, глядзячы на зорку ў цемні, як яна прыгожа ляціць, кажа: „Так свабодна, так ярка пражыць — лепшай долі няма на зямлі. Усе кругом на мамэнт асьвяціць і пагаснуць у цёмнай імглі“. Жывучы ідэяй хараства, поэт ува ўсім чыста шукае і знаходзіць філёзофскую падставу, каторая дая здаваленьне яго душы, спакой ад гармоніі ў сусьветнай творчасьці. Апрача таго, у гэтым аддзеле шмат вершаў з нацыянальнымі мотывамі. Дасканальным прыкладам іх трэба уважаць дума мастацкі вершык „Упалі з грудзей пана бога“... Гэта найхарашэйшыя радкі нашапіўскае поэзіі. Аддзел „Старая спадчына“ кідае сьлед у гісторыі нашай літэратуры тым, што тут Багдановіч даў першыя прыклады ўсялякіх формаў беларускага верша, як пэнтамэтры, сонэты, трыолеты, рондо, октавы, тэрціны і інш. Найболей-жа сьпелымі і безаганнымі творамі Багдановіча ёсьць яго „Мадонны“. У вершаваных апавяданнях „У вёсцы“ і „Вэроніка“ поэт выясьняець істоту хараства „мадоннаў“, істоту красы, перад каторай схілялісь найвялікшыя артысты-маляры і ка-

торую паказуюць „пачуцьці мацеры у вобліку дзяўчыны". Гэтыя-ж апавяданьні сьведчуць аб здольнасьцях поэта ў эпосе.

2). **Поэзія Багдановіча з пазьнейшага часу,** мяркуючы толькі па выпадкова друкаваных яе кавалачках, сьведчыць, што поэт цьвёрда ўзыйшоў на народны шлях творчасьці („Максім і Магдалена" і іншыя поэмкі, „Страцім-лебядзь") і яшчэ глыбей праняўся ідэяй беларускага адраджэньня („Пагоня"). Прыгожыя й мастацкія невялічкія поэмкі Багдановіча вызначаюцца чыста-беларускім складам вершаваньня, і такой-жа духоўнай стараною творчасьці, так што ў любой мове яны застануцца беларускімі. Да прыкладу, поэмка „Максім і Магдалена" напісана так, што і зьмест, і абразы, і звароты мовы — беларускія, а верш то нагадуе нашу народную песьню (пачатак поэмы, пяяньне і граньне Максіма на цымбалах перад сьмерцю і інш.), то народныя прычытаньні на хаўтурах ці на радаўніцу на магілках па нябожчыку (зварот Максіма да сваіх дзетак), то штонебудзь іншае з народнай ці старадаўнай кніжкай беларускай творчасьці. „Страцім-лебядзь"—яшчэ лепшая ў гэтым кірунку спроба. Гэта вельмі прыгожы пераказ апокрыфа, напісаны з сьмелым поэтычным размахам, а чыстым „беларускім складам".

3). **Проза Багдановіча** падобна да яго вершаў. Яго думкі аб высокім значаньні поэзіі, выказаныя ў розных вершах, знаходзім таксама і ў „Апокрыфу", напісаным прозаю („Калядная пісанка", 1913 г.). Яго стылізацыю мовы знаходзім ў „Апавяданьні аб іконьніку і пазалотніку", напісаным моваю старых грамат і статутаў („Н. Н.", 1914 г., № 7) Прыгожыя апісаньні ў прозе знаходзім у яго „Шамане", дзе відзім і глыбокую думу, а іменна жаданьне знайці зьясьненьне для нацыянальнага пачуцьця і ілюстраваць тое зьясьненьне.

**Тэхніка вершаваньня,** якой вымагаў ад сябе Багдановіч, павінна была быць дасканальнай. Як глядзеў ён на тую справу, відаць з верша „Песьняру", дзе сказана, што слабы верш заўсягды разаб'ецца аб цьвёрдыя людзкія сэрцы, ня збудзіўшы ў іх сумленьня, што „трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, абрабіць яго трэба з цярпеньнем". Аб вершах Багдановіча З. Бядуля пішаць так, што яны „строга кароткія, ярка абразныя і рэльефна-выразныя. Нідзе ў іх нельга ні адбавіць, ні прыбавіць. Гэта старасьвецкія гравюры з памастацку стылізаванымі орнамэнтамі". Гэта дзеля таго, што „поэт валадаў тайнай гармоніі і рытмікі, як лепей ня трэба".

**Значаньне Багдановіча** ў гісторыі нашай літэратуры найбольшае ў тым, што сярод нашаніўцаў гэта быў поэт-інтэлігент у поўным ёме такога слова і чалавек з вялікай адукацыяй. Дзеля гэтага, ён ведаў у процэсе творчасьці тое, чаго не маглі адчуць песьняры-самавукі, і сьвядома ўсходзіў на такі памысны кірунак творчасьці, на каторы пры аднэй здольнасьці ад прыроды, без яе разьвіцьця, не заўсёды можа ўзыйці самы вялікі талент. Сярод маладзейшых поэтаў і пісьменьнікаў Багдановіч па літэратурнай магутнасьці ідзець трэцім пapapaдку (пасьля Купалы і Коласа).

## Зьмітрок Бядуля—Ясакар.

(Радз. ў 1886 г.)

**Яго біаграфія.** Пад псэўданімам Зьмітрок Бядуля — у прозе і пад псэўданімам Ясакар — у поэзіі піша беларускі жыд Самуіл Плаўнік. Ен арадзіўся ў сакавіку (марцы) месяцы 1886 г. ў невялічкім мясьцечку Пасадзец, (Вялейскаго павету Віленшчыны). Пасадзец нагадуе сабою проста вёску, бо там усяго хат дваццаць, напалам жыдоўскіх і сялянскіх. Бацька Плаўніка займаўся тады дробным гандлем па вёсках, а пры выпадку быў яшчэ фурманам, і, разумеецца, ў хаце панавала беднота. З самага маленства Самуіл азначаўся маўклівасьцю і саромлівасьцю, з дзьяцьмі галузаваць ня любіў. Яго нябожчык-дзед (катляр) пераказываў, што як хлопчыку было гады тры, ён заўсёды плакаў, слухаючы жніўныя песьні ў полі. На пятым годзе Самуіл навучыўся ад дзеда гэбрайскай грамаце, — за сем дзён стаў бегла чытаць; цераз год аддалі яго ў хэдар. У гэтай школе вучыўся ён толькі Біблії, быў надта пабожны і зачытываўся містычнымі казкамі іудзейства. Маючы восем гадоў, над-



Зьмітрок Бядуля—Ясакар.

та здольны і старанны хлапец пачаў прахадзіць Талмуд. На трынаццатым годзе жыцьця вучыцца ён у даўгінаўскім ешыбоце (іудзейскай духоўнай сэмінарыі) і „есьць дні", ці-то маець сем гаспадароў, каторыя кормяць яго па адным дні ў тыдзень, галадуець і цярпіць шмат старэцкіх паніжэньняў, якія душа поэта вельмі адчувала. Бацькі, а найгорш дзед, хочуць адукаваць Самуіла на рабіна, і ён мучаецца так да пятнаццацёх гадоў, патым кідаець ешыбот і прыходзіць з Даўгінава дамоў. У Пасадцу Плаўнік заняў пасаду вучыцеля і тады-ж пачаў пісаць вершы пагэбрайску на духоўна-рэлігійныя мотывы. Дагэтуль нічога сьвецкага ён ня чытаў, а маскоўскай мовы зусім ня ўмеў. Патым пад вялікім уплывам акружаючай вёску прыроды, каторая чаравала поэта сваім хараством, ён знаходзіць Амэрыку, што ў вершах можна апісываць і тое хараство, і вось у яго гэбрайскіх вершах пачынаюць зьяўляцца малюнкі беларускае прыроды, жыцьцё ратая і да т. п. На семнаццатым годзе жыцьця Плаўнік прачытаў вялікую жыдоўскую гісторыю профэсора Грэца ў 10 томах. Яе вольная крытыка ў рэлігійных справах расплюшчывае Плаўніку вочы; ён бярэцца за сьвецкія кнігі і вучыцца парасейску ў батурынскага дзяка (10 вёрст ад Пасадца), зараз пачынае пісаць у гэтай новай для яго мове вершы і мае сьмеласьць паказаць іх сядзельцу. Манапольшчык першы прызнаў у ім здольнага поэта. Тады дзяцюк, як галодны, накінуўся на маскоўскіх клясыкаў. Па кніжкі хадзіў у бліжэйшыя мясьцечкі, у панскія двары, часам за 10—20 вёрст, але не заўседы мог дастаць іх. Разам з тым ён вучыцца завочна па лекцыях нейкага Макеева з Масквы, з каторым дзяржаў перапіску. Расейскія вершы пісаў ён некалькі гадоў узапар і пачаў друкавацца ў розных выпадковых журналах і альманахах, як „На берегахъ Невы", „Вѣтви", „Молодые порывы" і інш. У гэты час бацька поэта займаўся лясным гандлем, і сын некалькі гадоў быў пры лесавой рабоце: узімку ў лесе ля дравасекаў і вазакоў, а ўлетку цэлымі месяцамі пры сплаве дрэва на Сьлізанцы (прыток Нёмна). Жыў ён з сялянамі-рабочымі на ўлоньні ў прыроды і спаў з вартаўнікамі ў будцы на вадзе ці на беразе пры вогнішчы і тут наслухаўся беларускіх казак, песьняў, нагледзіўся чароўных абразкоў беларускае прыроды і добра пазнаўся з жыцьцём-быцьцём селяніна. У 1909 годзе ад даўгінаўскага краўца В. Сосенскага трапіла ў яго рукі „Наша Ніва"; Плаўнік надта зацікавіўся газэтаю і зараз пачаў пасылаць ёй допісы. У 1910 годзе надрукавалі там і яго маленькую імпрэсію „Пяюць нашлежнікі", — з гэтага пачалася літэратурная дзеяльнасьць Зьмітрака Бядулі. Вясною 1912 г. пераехаў ён у Вільню і быў пастаянным супрацоўнікам „Нашае Нівы",

да самага яе канца (1915 г.). Да гандлю ніякага нахілу ня меў і пастанавіў назаўсёды аддаліцца ад яго, а дзеля гэтага меў шмат прыкрасьцяў з бацькам. На яго сварыліся за тое, што „займаецца глупствам“, кніжкамі, яго зусім не маглі зразумець, калі ўвесь аддаўся беларускай справе. Грашавых комбінацый, усе відзелі, тут ня было, бо раней жыў з матар'яльнага боку лепей; славы—таксама не, бо якая магла быць слава ў нейкага „хама“ Зьмітрака Бядулі, калі навет імя гэтага вельмі саромілісн бацькі і кроўныя Плаўніка. Апрача таго, шмат ужо хто з жыдоўскай і расейскай інтэлігенцыі накідаўся на яго, нашто пішаць на такой мове, якой ніхто знаць ня хоча, на што ён губіць свой талент. — „Ніхто з іх ня мог зразумець маей душы,—жаліцца ў адным прыватным пісьме Бядуля,—маей натуральнай цягі да той зямлі, да тых людзей, дзе я радзіўся і правёў усе свае лепшыя годы“. Што датычацца яго літэратурнай працы, дык Бядуля аддаваў ёй у Вільні толькі той скупы вольны час, які заставаўся ў яго ад прозаічнай работы, даваўшай яму магчымасьць жыць. На Бядулю ўзвалівалі ўсю тэхнічную няцікаўную работу, і ён працаваў над літэратурай выкрадкам, урыўкам. Гэткую долю яго відзім і цяпер (1919 г.) у газэце „Беларусь“. Тры гады ў часе вайны Бядуля быў зусім адарваны ад літэратуры, а патым у першай беларускай газэце „Беларускі шлях“ ён проста мучыўся ад надмернай газэтнай работы, шкодзіўшай і разьвіцьцю яго таленту. У газэце ён вёў некалькі аддзелаў, спаўняючы работу за трох-чатырох работнікаў.

**Яго літэратура.** Апавяданьні Зьмітрака Бядулі і вершы Ясакара расьсеяны па ўсіх беларускіх газэтах і журналах, як да прыкладу: „Наша Ніва“, „Беларусь“, „Biełarus“, „Маладая Беларусь“, „Лучынка“, „Вольная Беларусь“' „Беларускі Шлях“, „Звон“, „Беларускае жыцьцё“, „Беларусь“ і інш. Асобнымі зборнічкамі дагэтуль выйшлі толькі яго „Abrazki“ (1903 г.), поэзія ў прозе, і брошура „Жыды на Беларусі“ (1917 г.), выданая ўбогім коштам самаго слаўнага аўтора. Некаторыя артыкулы Бядулі выдаюць у ім здольнага і орыгінальнага публіцысту („Будуйце, браты, будуйце!“). Розныя творы яго зьяўляліся і ў перакладах на польскай, маскоўскай, жыдоўскай, украінскай, літоўскай і нямецкай мовах.

**Яго творчасьць** адбівае на сябе ўплывы з двух бакоў: жыдоўскага і беларускага. Праявы жыдоўскай нацыянальная душы відаць у нязвычайнай чуласьці поэта, у яго дакліваcьці, і гарачым пыхаючым тэмпэрамэнце, у яго нахіле да містыцызму і ў нейкай то віднай, то схаванай,

а паўсёднай засмучонасьці. Праўда, ён любіць часам пажартаваць і пасьмяяцца, але жарты яго таксама невясёлыя, а сьмех яго горкі. У хэдары і ешыбоце яго вучылі, што любавацца сонейкам, пекным зялёным дрэвам—няможна, бо гэта дыявальскія пакусы і даводзяць яны да грэху, што ў гоя (ня жыда) няма душы, што гой нячысты. Яго пабожны дзед-ідэаліста ўмеў прымірыць тую навуку з жыцьцём, ня трацячы сваёй пашаны да ўсякага чалавека і гадуючы ўва ўнуку лепшыя чалавецкія пачуцьці. Але ўнук быў прыражоны поэт, дзіця беларускае прыроды і шчыры; сьлёзны глядзеньнік на трагэдыю беларускага вясковага жыцьця. Ен увідзеў у беларускім „гоі“-мужыку абраз непапсутага, запраўднага біблейнага аратая, а беларуская прырода ахмяліла, ачаравала яго. І вось ў апяяньні тае прыроды і жыцьця таго ратая, на яго роднай мове, знаходзіць Бядуля сваё шчасьце і цэль свайго жыцьця. Па ўплыве, які меў на яго беларускі народ, пачынаюцца ўплывы беларускіх інтэлігентаў-адраджэнцаў. Рэдакцыя „Нашае Нівы“ робіцца яго унівэрсітэтам, яго вышэйшай школай. Тут знаходзіць Бядуля свой сталы сьветагляд, мацуець свае адносіны да жыцьця і да ўсяго акружаючага. Тут ён зразумеў, у чым значаньне клясавага і нацыянальнага змаганьня.—„Ад беларусаў я навучыўся, як трэба кахаць сваю бацькаўшчыну. Навет і жыдоўскі народ яны навучылі мяне любіць“, — пісаў ён сам, спамінаючы гэтую пару. Прыймаючы такія ўплывы, разьвівалася і творчасьць Бядулі. 1912—1913 гады былі яе лепшым часам. Тады зьявіліся бядуліны апавяданьні, у каторых найбольш чыстай, вясковай, народнай эпічнай беларускасьці. Патым азначаецца як быццам другая пара. У 1913-жа годзе выходзяць „Абразкі“, дзе пышна буяець лірызм поэта, думка робіцца больш абстракцыйнай і псыхіка беларуская ідзець на сустрэчу псыхіцы жыдоўскай. Поэт патрабуе пісаць вершам і на працягу 1915-га года здавальняе гэтую патрэбу, даючы містычную, любоўную і прырода-апісаўчую лірыку, а патым, у 1914—1915 гадох,—лірыку, зьвязаную з вайною. Пасьля вайны і рэволюцыі, сьпярша натхніўшай, ды хутка расчараваўшай яго ў некаторых ідэалах, у Бядулі прыкмецен кірунак у бок народнай беларускай творчасьці (захапленьне міфолёгіяй). Праз увесь час ён застаецца гарачым адраджэнцам, ня губіць веры ў народ і яго нацыянальна-соцыяльнае адраджэньне, але бліжэй прыймае да сэрца творчасьць ад індывідуальных перажываньняў.

**Апавяданьні Бядулі**—найбольш цэнная для нас частка яго поэзіі. У іх найболей беларускіх нацыянальных азнак і аўторскай безпасрэднасьці, орыгінальнасьці. З боку

надворна-літэратурнага яны стаяць у сваім часе надта высака: дасканальная мастацкая проза, сакавіты малюнак, гушчыня фарбаў, прыгажство і сьвежасьць параўнаваньняў, меткасьць слоў і чыста-народная абразнасьць,—гэта і іх вартасьці. З боку ідэйна-літэратурнага яны заўсёды глыбокі і наагул багаты, горкім сьмехам падчырківаюць захаваную ў іх думку і наводзяць чытаньніка на развагі. Пераважаюць і тут с о ц ы я л ь н ы я   м о т ы в ы, каторыя не высуваюцца, аднак, пісьменьнікам наўмысьля на першы план, як у некаторых нашаніўцаў, а паказаны зусім бесстаронна, дзеля чаго і здабываюць асабліва прыкметнае значаньне. Аўтор без усякіх падчырківаньняў, павялічаньняў і згушчаньняў абгаляець страшныя язвы нашага сялянскага жыцьця. Д р а м а т ы з м   к р а й н я й   і   б е з н а д з е й н а й   б е д н а с ь ц і, як прычына з рэзультатам, зьвязанай з п'янствам, адчаем настрою і садызмам пачуцьця, таланавіта змалёван у колькіх апавяданьнях („Сьцёпка", „Тулягі", „Сымон" і інш.). Сымон штодзенна б'ець жонку, і яму лягчэй робіцца. Сьцёпка прапівае астатнюю муку, расьпінаецца, шалеець, б'епца, і знаходзіць адхлань сваёй злосьці ад нядолі. На соцыяльным фоне, а найчасьцей на фоне страшэннай галіты творыць Бядуля малюнкі, у каторых знаходзім то цікаўную развагу філёзофскага характару (нахіл да чаго можна разглядаць у Бядулі, як насьледзьдзе навукі талмуда), то псыхолёгічную характарыстыку, то разгляд якога-небудзь чалавечага пачуцьця, то прыметную чырту побыту і г. д. Паказаўшы ў апавяданьні „Пяць лыжак заціркі" запраўдны, непадмалёваны выгляд тае галіты, калі „няма чым і муху пакарміць", Бядуля даець гэткі нібы-то ключ да свайго твора: „Шчасьце, як і няшчасьце, ня маець сваёй асобнай меркі для ўсіх людзей на сьвеце, але кожны чалавек маець сваю асобную мерку да шчасьця і свой асобны пагляд на самае шчасьце". Ды ясна відаць, што гэты ключ—мэтафора, што гэта—проста горкі сьмех над шчасьцем ад лыжкі зацiркі. Змаляваўшы жудасную, драматычную карціну беларускага вясковага жыцьця ў апавяданьні „Тулягі", аўтор пішаць: „Дзіўнай робіцца душа чалавека ў горы. Чароўным робіцца слова балючага сэрца, даходзіць яно тады да найвышэйшага хараства, да сьвятасьці і чыстаты, робіцца ўладарным над людзьмі". Гэткае хараство знайшоў поэт у душах Арцёма і Арцёміхі, як памёрла іх Ганулька. Тымчасам, дужа рэдка выяўляецца яно, бо соцыяльныя злыдні гнятуць усялякае парываньне, зьмяншаюць жаданьне, абніжаюць душу чалавека, як гэта мы відзім з апавяданьня „Гора ўдавы Сымоніхі", „Сон Анупрэя" і інш. За ўсе мучэньні Анупрэй, гэны тыповы прадстаўнік свае сфэры, просіць у бога толькі кавалак селядца і чарку гарэлкі. Сымоніха—таксама тып, створаны ўсім укладам нашага вяско-

вага жыцьця, але глаўным чынам яго соцыяльнай стараною. Забабоннасьць Сымоніхі—тыповая беларуская чырта, як і яе кляцьба, зьбліжаючая Сымоніху па большаму ці меншаму садызму пачуцьця з Сымонам, Сьцёпкам, Арцёмам і іншымі безнадзейна сьціснутымі жыцьцём людзьмі. Часам гэтае пачуцьцё кілаецца ў жыцьці ў другі бок, разьвіваецца у іншым зусім кірунку, і тады маем сьветлы абраз вялікага паставаньніка Лявона, каторы паміраё шчасьнейшым чалавекам („Вялікі пост"). Гэны тып беларусаў, нязвычайна любячых сваё абмяжаваньне ў жыцьцёвых патрэбах, уваводзячых яго ў культ, дужа тонка ўгледжан Бядулем і паказан у пеўных псыхолёгічным асьвятленьні. Побач з Лявонам стаіць, хоць і шмат драбнейшым выглядае, Ліканор з апавяданьня „Злодзей", каторы краў, ды быў „акуратны, не фальшывы чалавек". Хоць красьці, але гаварыць праўду, — гэта выглядаець у Ліканора так, як у Лявона выглядае сьмерць праз жаданьне як можна менш браць ад людзей. Для паўнаты агляду трэба заўважыць, што адно вершаванае апавяданьне пазьнейшага часу („Помста", 1918 г.), маючае чыста к л я с а в ы х а р а к т а р, але пісанае на стары спосаб творчасьці, нічым па духу ня розьніцца ад ранейшых апавяданьняў пісьменьніка, а толькі адбівае павевы свайго часу. Н а ц ы я н а л ь н ы я м о т ы в ы часьцей можна знайці ў лірыцы Бядулі-Ясакара, але і ў яго апавяданьнях, як пісаных чыстым адраджэнцам-нашаніўцам, яны сустрачаюцца вельмі часта. Цалікам пасьвяціў ім Бядуля апавяданьне „На каляды к сыну", духоўна зьвязанае з „Калыханкай" Багушэвіча і цэлым чародам падобных рэчаў у нашай поэзіі. Трэба спамянуць яшчэ адну старану бядулеўскай творчасьці, каторую найвыразьней паказуець сярод яго апавяданьняў невялічкая, але слаўная рэч — „Малітва малога Габрусіка". Малітва заключаецца ня ў словах, ня ў спосабе пераказу, а ў сэрцы, у тым, што мае душа для малітвы. Гэтая вядомая думка, апрацаваная шмат разоў у літэратуры, знайшла орыгінальны выгляд у Бядулі. Ніхто ня ўчыў Габрусіка маліцца, але „ў яго маладым сэрцы ўжо даўно бог жыве... Даўно душа Габрусіка моліцца яму бяз слоў". Сьвіст хлопчыка—яго м а л і т в а п р а д в я л і к і м б а ж с т в о м, к а т о р а е з а в е ц ц а Х а р а с т в о і каторае даўно пануе над яго памысламі—бо ён поэт. Тое ж пакланеньне харасту, але балючае, відзім мы між іншых старон і ў імпрэсіі „Гармонік плакаў"...—дзе шмат настрою, пачуцьця, поэтычнасьці. „Для гэтага калекі, як ён палюбіць—няшчасьце вялікае",—напісаў Бядуля аб крывым Саўцы. Тут журба адзінокай душы, нясходанае жаданьне ўцех узаемнае любові, але грунтам усяго ёсьць, калі разгледзіцца, брак паўнаты задаваленьня ад ха-

раства. I наагул, важнай складанай часткай зьместу бядулеўскіх апавяданьняў ёсьць хвала хараству, асабліва ў апісаньнях прыроды, гэта можна сказаць аб усіх-чыста яго рэчах. Таксама—к а р ц і н ы п о б ы т у. Беларускі сялянскі побыт Бядуля ведае дасканальна, але малюець яго, не ўважаючы за нешта глаўнае, а карыстаючы з яго для сваіх вышэйшых, ідэйных мастацкіх заданьняў. Прыкладам можа быць „Ліст"—верная бытавая карцінка, дзе, аднак, знаходзім нешта яшчэ: любоў маткі, любоў бязьмерную, вялікую, гатовую на мукі, на паніжэньні, а захаваную ў душы простай, несамавітай беларускай бабы! Гэткімі карцінкамі побыту, на фоне якіх Бядуля паказуець нешта вышэйшае, ідэйнае, можна назваць большасьць яго апавяданьняў, („Апчасьлівіла" — „Чараўнік", „Шалёны" і інш.).

**Лірыка Бядулі-Ясакара.** „Абразкі" — сынтэз псыхікі жыдоўскай і беларускай. Уклад мовы — стылізаваны, быццам біблейны. Абразы—беларускія, але таксама агорнутыя наўмыснай стылізаванасьцю і паказаныя быццам праз нейкае небеларускае шкло. Зьмест—найчасьцей індывідуальныя перажываньні. Ен кажа: „Думы, дзеці душы маей, мне супакою не даюць". Яму, поэту, цяжка жыць так, як жывецца, бо ён хочаць, а ня можа ўздаволь любавацца хараством сьвету божага, ня можа супакоіць сваё сэрца, здаволіць сваю душу.—„Здаецца, абхапіў-бы ўвесь сьвет божы і зьліўся-бы ў вадно з ветрам лёгкім, каб нешта цікавае, патрэбнае казаць убогім вёскам, каторыя, нібы апенкі на пасецы, расьсеяны па ўсяму вялікаму абшару беларускіх раўнін і балот"... — разважае поэт. В е р ш ы пачаў ён свае з любоўнай лірыкі, дзе паказаў поэтычную прастату ў паглядзе на каханьне („Ці грэх"... 1913 г.), але неўзабаве перайшоў і на туманную сымволістыку, перайманьне чужога, філёзофстваваньне („Сьляпыя"). Любоўнае пачуцьцё родзіць у Ясакара трывожны і маркотны, нездаволены настрой. Маўляў, з нейкай поэтычнай прыемнасьцю ён плачаць і стогнець ад яго,—сьлёзы туманяць яму вочы, боль раніць кволыя грудзі, ён чуець нешта благое („Сэрца прарочa"). Падобны-ж настрой зьяўляецца ў яго часам ад уяўленьняў прыроды, перамену ў каторай ён вяжаць з сваімі перажываньнямі („Ля сьветлай затокі"). Нездаволеннасьць духа, праніканьне ў тайны істнаваньня—таксама нячужыя для Ясакара. Нахіл да містыцызму знаходзім у яго вершу „Дзіця рая" і іншых. З прыходам вайны Ясакар на нейкі час паддаўся ў сваёй лірыцы (і навет эпосе) агульнаму настрою, але неўзабаве шалёная вайна закранула яго глыбей, патым спужала сваёю жудаснасьцю і загіпнотызавала размахам сваіх абразоў („Во-

лат", „Ад крыві чырвонай", „Арліхі", „Баляды" і інш.). Урэшце ён праканаўся, што ёсьць поўная паралель між Вавілонам і сучаснай вайною, што людзі могуць зрабіць культ з усяго, самага, ў істоце, брыдкога; ён піша: „І маці з радасьцю дзіця сваё кідае на полымя, дзе шмат лягло ужо дзяцей" („Вавілон"). Яшчэ далей — вайна зьнішчыла ідэалы поэта („Расьсеяўся туман"), яго веру ў чалавека („Кат"). Яго адносіны да рэволюцыі аналёгічны з адносінамі да вайны. Біблейныя пераклады Ясакара вельмі поэтычны і адказуюць найчасьцей на нацыянальна-соцыяльныя тэматы („На біблейны лад"). З пазьнейшых вершаў трэба спамянуць яго прыгожую фантазію, навеяную зімовай ночаю і зьвязаную цесна з дапраўднасьцю — „Казку зімовай ночы" і ўзварушлівыя, задушэўныя „Задушкі".

**Бядуля ў нашай поэзіі** сваімі, главным чынам, апавяданьнямі шыбка й лёгка здабыў дужа віднае і адпаведнае значаньне. Ды ня можна сказаць, каб з той-жа памыснасьцю ішло далейшае разьвіцьце яго таленту, у чым віноваты былі ўмовы беларускага жыцьця. Аднак, з усяго відаць, што застой Бядулі з часу вайны і рэволюцыі кончыўся. Пачаўся расьцьвет ізноў.

## Алесь Гарун.

(Радз. ў 1887 г.).

**Яго біаграфія.** Запраўднае імя Алеся Гаруна — Аляксандар Прушынскі. Поэт арадзіўся 27-га лютага 1887 г. (ст. ст.) ў Менску, на Багадзельнай вуліцы, у сям'і чарнаработчага. Бацька яго Валадзімір Прушынскі і маці Зоф'я (з роду Жывіцаў) былі тыповыя прадстаўнікі працоўнай прастанароднай грамады менскіх беларусаў-каталікоў, спрадвечных жыцельнікаў места. Зараблялі яны мала, а сям'я была досыць вялікая, дзеля таго жылі Прушынскія зусім бедна. Маленькі Алесь рана вызначаўся сваімі здольнасьцямі. Пяцёх гадоў навучыўся ён чытаць папольску і памаскоўску. На сёмым годзе пачаў ён хадзіць у 3-е гарадзкое прыходзкае вучылішча (на Белацаркоўнай вуліцы), але ў трэцім аддзяленьні праседзіў два гады, бо яго, такога недалетку, не дапусьцілі першы год да экзаментаў. Скончыўшы гэтае вучылішча ў 1897 годзе і пачакаўшы спаўненьня гадоў, паступіў ён у 1899 годзе ў менскую школу рамесьленых вучанікоў. У школе прабыў тры гады (1899—1902) і скончыў яе па дрэваабдзелачнаму аддзяленьню. У часе вучэньня, улетку і ўзімку выязджаў ён на вакацыі ў вёску да свае цёткі. Там

габіў усё, што рабілі брацельнікі пасьвіў коні, ганяў авечкі, вазіў гной і г. д. З 16-х гадоў жыцьця (1902 г.) працаваў Прушынскі, як сталяр, у розных майстэрнях Менска, паміж іншым быў молодшчыкам на фабрыцы Івана Шышлы, і так бязвыезна прабыў у месьце аж да 1907 г. Увесь гэты час ён шмат чытаў для самаадукацыі і разьвіцьця. Увайшоўшы ў 1904 годзе ў менскую арганізацыю соцыялістаў-рэволюцыянэраў, Прушынскі вёў да 1907 г. пропаганду сярод менскай вучнёўскай моладзі і работнікаў, часам, але дужа рэдка, выходзіў і на вёску. Найлепей удавалася яму арганізовываць моладзь у вучнёўскія рэволюцыйныя гурткі. У 1907 годзе, 4-га сакавіка (ст. ст.) паліцыя накрыла поэтаагітатора ў нелегальнай друкарні. Яго арыштавалі, пасадзілі ў асобную камеру вайстрога ў Менску і аддалі пад суд. З гэтае пары пераламалася жыцьцё Прушынскага—з аднэй, быць можа, карысьцю для яго, што стаў пільней займацца сваімі творамі. Здольнасьць да пісаньня вершаў была ў яго змалку, але спачатку Прушынскі пісаў іх памаскоўску і пераважна ў гумарыстычным тоне. З уваходам яго ў партыю, творчасьць прыняла сур'ёзны і рэволюцыйны кірунак. На шкоду, усе яго вершы таго часу пагінулі. Пісаць пабеларуску Гарун пачаў з 1905 году, а беларускае друкаванае слова першы раз увідзеў у 1903 ці 1904 годзе, прыпадкова знайшоўшы абадраную, запэцканую, без пачатку і канца, цікавую кніжку, друкаваную лацінкай. Як надта вялікі ахвотнік да чытаньня і уважны цікун да ўсякага друку, ён пачаў чытаць і гэтую кніжку, думаючы, што яна польская. Але з першыхжа прачытаных слоў нязвычайна зьдзіўлены хлапец пачуў, як неўспадзеўкі закалацілася яго сэрца, на вачох, няма ведама чаго, накруціліся сьлёзы... Перад вачмі было тое, чаго ніколі ня бачыў: сваё роднае, хатняе друкаванае слова! Гэта было, як поэт пазьней даведаўся, старое выданьне повесьці „Гапон“ Марцінкевіча. У 1905—1906 гадох напісаў ён і пашыраў сярод моладзі і работнікаў некалькі соцыяльна-рэволюцый-



Алесь Гарун.

ных вершаў, цяпер згубленых ці нікім яшчэ ня знайдзенных („Чаму так, скажэце, жывецца на сьвеце?“ і інш.). Тады на яго мелі ўплыў вершы Цёткі, яе ананімныя адозвы і лістоўкі, якія разам з „Нашай Нівай“ і рознай агітацыйнай літэратурай пашыраў Прушынскі. Пасядзеўшы ў менскім, а патым у віленскім („на Лукішках“) вастрозе, поэт у вясну 1908 г. быў засуджаны на катаргу, якую пазьней адмянілі на засланьне. Ссылку адбываў Гарун у Кірэнскім павеце Іркуцкай губэрні. Спачатку жыў у невялікім чалдонскім сяле Макараўскім, ля ракі Лены,—71 вярста ад Кірэнска і 971 вярста ад Іркуцка; патым у дзярэўні Крывая Лука, 18 вёрст ад Макараўскага. Займаўся там сталярнымі і плотніцкімі работамі, выпісываў разам з другімі засланымі шмат кніжак і газэт, каб не памерці духоўна. Цераз два гады (1911 г.) ён перайшоў на „Параходзтва Глотавых“ ля Кірэнска (у самым месьце жыць было забаронена) і працаваў там да вясны 1914 г., калі па маніфэсту быў запісаны ў сяляне і дастаў права жыць па ўсёй Сыбіры. Там-жа знайшлі яны адзін аднаго з Язэпам Лёсікам. З 1914 года Гарун быў на Лене вадалівам, даплываў аж да Якуцка. На баржы № 18 рыхтаваў ён да друку свой зборнік „Матчын Дар“, пасланы ў восень 1914 г. ў Вільню. З 1915 года поэт падаўся на прыйскі ў Бадайбо, дзе і дачакаўся рэволюцыі. У часе керэншчыны быў сябрам выканаўчага комітэту Ленскага Залатапрамысловага Вокругу, адкуль яго абралі на паўнамочнага па абароне працы. У Менск вярнуўся (цераз 9 гадоў) 22 верасьня 1917 году—з разьбітым здароўем, худы, зжаўцелы, з пастаянным далікатна-тужлівым паглядам і нейкай дакорнай маўклівасьцю. Нікаліва не адпачыўшы, адразу завінуўся ля беларускай грамадзкай працы,—езьдзіў на ўсерасейскі беларускі бежанскі зьезд у Маскву, на зьезд народаў Расеі ў Кіеў, працаваў у розных інстытуцыях Менска, кіраваў палітычным аддзелам Вялікай Рады, арганізовываў сялян і г. д. На Усебеларускім Конгрэсе ў Менску (1917 г.) поэт Гарун быў памошнікам старшыні Конгрэсу. Пазьней рэдактаваў „Беларускі шлях“ і дзеяльна памагаў у „Вольнай Беларусі“. Пры бальшавіках працаваў у соцыяльным абясьпячэньні. У вясну 1919 г. цяжка хварэў на тыфус. У пачатку польскай окупацыі быў старшынёю беларускага нацыянальнага комітэту ў Менску, патым перайшоў у беларускую вайсковую арганізацыю. Жыцьцё складаецца так, што Гарун ня можа ўвесь аддацца поэтычнай творчасьці, хоць вялікі талент яго ступіў у бліскучую пару.

**Літэратура і творчасьць Гаруна.** Поэт піша вершам і прозаю. Вершы, умешчаныя ў яго зборніку „Матчын дар“ (Менск, 1918 г.), напісаны ў няволі,—ў перы-

одзе 1907—1914 гадоў. У восень 1914-га году зборнік быў перасланы з Сыбіры для друку ў Вільню, дзе яго выданьнем хацела заняцца „Беларускае Выдавецкае Таварыства“. Але паўстаўшая тады вайна адсунула выхад кнігі на цэлых чатыры гады. Ад пачатку і да канца вайны Гарун пісаў помала, бо тварыць сярод крывавага туману, які ахапіў цэлы сьвет, чулы і кволы сэрцам поэт ня мог; з 1918-га году яго рэчы зьяўляюцца часьцей; яны паказуюць, што творчасьць Гаруна не зьмянілася, толькі стала яшчэ даскананьшаю (вершы: „Ен ня згіне“...—настрої, „Апякун“—байка, „Лірнік“ — напісаны пад уплывам сьмерці Каганца, „Спогадзь“—байка, „Народ“ і іншыя, зьмешчаныя ў „Вольнай Беларусі)“. Проза Прушынскага складаецца з некалькіх апавяданьняў, пісаных пад псэўданімам І. Ж ы в і ц а („Маладое“, „Пан Шабуневіч“, „П'еро і Коломбіна“, „Сьвята“ і інш.). У вастатні час ён напісаў яшчэ некалькі драматычных сцэнак для дзіцячага тэатру. Апрача таго, Прушынскі—здольны публіцыста. У 1913 годзе М. Багдановіч аб Гаруну пісаў гэтак (гл. «Калядная пісанка»): „З поэтаў «Нашае Нівы» назавём перш за ўсё А. Гаруна, ад каторага наша літэратура можаць шмат чаго спадзявацца. Лёгкасьць і мілазычнасць верша, рупная шліфоўка яго, новае і вельмі пекнае зчэпліваньне рыфм,—усё гэта дужа аздабляе яго поэзію. У дзеякіх творах спатыкаецца сіла і сьціснутасць мовы. Глаўнаеж тое, што пры ўсім гэтым А. Гарун ні да каго іншага неападобны, што ён не зрабіўся нічыім „падгалоскам“. Гэта зарука, што нашы надзеі на его талент ня пойдуць на марна“.

Заместа прадмовы да „Матчынага дару“ стаіць верш „Людзям“, які адразу захоплівае чытаньніка трагічнасьцю настроя і даець ключ к разуменьню ўсяе кніжкі. Тут мы відзім, што аўтор—запраўдны, прыраджоны поэт, каторы, аднак, н я м о ж а ц ь а д д а ц ц а т в о р ч а с ь ц і т а к, я к б ы х а ц е ў, б о з а м і н а ю ц ь г э т а м у ц я ж к і я ў м о в ы ж ы ц ь ц я. Поэт жаліцца: „Бо мой прыгон глытае час, мне воля — рэдкі дар“. Яго поэзію спарадзілі мукі душы, „па краю родным сум“; гэта—ня пісаньне для другіх, ня творчасьць для чужога вока і для свае прыемнасьці, а гэта—балючыя развагі поэта з самім сабою, жаданьне ўцішыць боль, запісанае на паперу для самога сябе. У далікатнай засмучонасьці настрою, у шчырасьці пачуцьця і трагічнасьці думак — галоўная цэнасьць поэзіі Гаруна. На першым пляне ў яго заўсёды стаіць н я з в ы ч а й н а я, б я з ь м е р н а я л ю б о ў д а б а ц ь к а ў ш ч ы н ы. Любоў гэтая гарманічна ахоплівае родны край як з боку нацыянальнага, так і з боку сопыяльнага. І гэта ня словы правадыра, каторы паказуець сваёй нацыі новыя дарогі, а гэта горкае плаканьне прарока Іерэміі, праняўшыся

якім, народ сам павінен знайці найлепшы шлях к вызваленьню. Поэт гаруе, што народ яго ня маець нацыянальнае волі, што яго гнятуць нацыянальныя ворагі, але з гэтым-жа разам ён цесна зьвязуець і соцыяльнае гнібеньне сваёй нацыі. Песьні Гаруна зьясьняюць думку, што няма нацыянальнага адраджэньня без соцыяльнага, а соцыяльны дабрабыт нічога няварты бяз волі нацыі. Тую цумку ён навет ня выказуець словамі, яна неяк сама чуецца з яго плаканьня, бо гэтая думка—частка яго душы, і давадзіць яе ёсьць тое самае, што давадзіць аб сваім уласным істнаваньні. Гарун шануе бацькаўшчыну, як сын матку, ён любіць яе так, як хлопец сваю любую, дык, зачарованы каханьнем, пяець ёй любоўныя гымны і льлець сьлёзы ў чужыне ад разлукі з ёю. Пэрламі нашаніўское поэзіі, найлепей азначаючымі гэтую слаўную пару ў гісторыі нашае літэратуры, трэба ўважаць такія высока-поэтычныя і мастацкія элегіі Гаруна, як „Начныя думы“ ці „Чаму з маленства, з ураджэнства“... Абразы роднага краю ў яго—плястычныя, назаўсёды памастацку адлітыя. Якая ў поэта любоў да Беларусі, такія ў яго і адраджэнцкія мотывы. Яны захопліваюць яго ўсяго-чыста. На афярнік адраджэньня складае Гарун сваю волю, сваё асабістае шчасьце, сваю любоў да бацькоў і да каханай дзяўчыны, сваё здароўе і ўсё, што мае, без астатка. Гэта—сьвятлейшы ідэал сучаснага мучальніка за ідэю. Яго адраджэнцкія абразы і жаданьні, можна сказаць, агульна-нашаніўскія („Як надарыцца мінута“, „Хай ня льлюцца дажджы“... і інш.), але ніводзін нашанівец не прамаўляе з такой вялікай шчырасьцю, балючасьцю і праўдзівасьцю пачуцьця, як гэта робіць Гарун. Поэт разумеў, што і сам народ вінават за сваю нядбайнасьць, дык даў прыклад мяккога, у беларускіх тонах, дакору па адрэсу сваіх жа братоў („Іванку“). Але-ж ён ведаў, што наш народ такім зрабілі „служкі чорныя Ясьнейшага Мамона“, угнятаньнікі, і на іх абрушыў увесь свой гнеў у войстрай сатыры „Юдам“. У песьнях аб адраджэньні яго ніколі, аднак, ня кідае надзея на збаўленьне („Мілая, родная старонка-маці“ і інш.). Асаблівае значаньне, найважнейшую роль у вадраджэньні аддае Гарун роднай мове і творчасьці, ён натхненна пяець ім славу („Ты, мой брат, каго зваць беларусам“... „Песьня-звон“ і інш.). Як гэтакі гарачы адраджэнец і чулая, кволая, душа, поэт найвастрэй за ўсіх паняволеных перажывае трагэдыю засланьня, якой і пасьвячае шмат вершаў. Таму-то яго журба на чужыне так балючая („Журба“). Таму-то яго часам забіраець шалёны адчай, з якім не хапае сіл змагацца, якому не дае рады ніякае наўмыснае „Вясельле“. Абразок, апісаны ў вершу гэтага назову, па свайму выключнаму драматызму нага-

дуець жыдоўскі баль, спраўляны па перакінчыку ў чужую веру, калі старая маці-жыдоўка танцуець і сьмяецца, ірвучы на галаве сівыя валасы і скрыгочучы зубамі. Цяжкое мадзеньне, духоўнае адзіноцтва, бясцэльнае істнаваньне, няпрытульнасьць мучаюць няшчаснага згнаньніка („У выгнаньню“). Яго думкі—толькі аб родным краі. Ен пасылае туды ганцом ветра („Вецер“), сам ляцеў-бы з шэрымі гусямі („Вясна“), бег-бы шэрым воўкам („Эх, сягоньня“...). Ен хацеў-бы працаваць там для адраджэньня, і няволя страшна яму тым, што не дае гэтай магчымасьці. А ўрэшце ён кажаць: „Страшна мне гэта, і ўсё-ж не ядынае так навалілась, гняце ў глыбіне, — горшая мука ўтрапляець, што сынам я быць перастану сваёй старане („Думы ў чужыне“). Страшна яму аб гэтым навет і падумаць, але ён не дарма трывожыцца: „Мусім ведаць, што мялеем, што паволі ўсё малеем, ня жывём, але канаем,“—кажа ён таварышу па ссылцы („З песьняў няволі“). Зможаны думкамі, пакараецца поэт таму, што „доля судзіць“, і гоіць больку моральным задаваленьнем ад споўненай працы: „Бо, браток, хоць промень сьвету прынясьлі мы ў пушчу гэту“ (там-жа). Апрача вершаў чыста-адраджэнцкіх, у Гаруна ёсьць колькі такіх, што можна залічыць да агульнай ідэйна-грамадзянскай лірыкі („Хто сказаў“, „Скажы, братухна...“ „Ноч“, „Поэту“ і інш.). Як самотнік па натуры („Літаньне Адзіноце“), Гарун выдаецца яшчэ развагамі філёзофскага характару, што зьліжаець яго з М. Багдановічам. У гэтых развагах ён чэрпае сілы для жыцьця, знаходзячы змысл істнаваньня („Ідуць гады“), прымірэньне з пакутаю („Nokturno“), духоўную страву для свайго адзінокага і пытлівага розума („Думкі-дыямэнты“... „Навука“, „Адбітак“, „Як ліст вярбінкі малад й“ і інш.). Часам яго развагі блізкі да містыцызму („Нязнаны госьць“). Як той-жа самотнік, Гарун можа даць нязвычайна цэнную лірыку чыста асабістых перажываньняў („На сьмерць“—самы гаруноўскі па ўзварушлівасьці верш, „Слабасьці“ і інш.), але й сюды, як відзім, пранікаець ідэя адраджэньня. Бяз гэтай ідэі няможна прадставіць поэта ні ў водным пачуцьці. Навет у каханьне яго самаўладна ўбіваецца яна і вымагаець адрачэньня ад асабістага шчасьця („Дзяўчыначка-сэрца“...). Тымчасам поэт умее любіць, любіць поэтычна, прыгожа і далікатна, ня столькі ўяўляючы рэальны абраз, колькі жывучы ідэальным лятуценьнем („Мая люба“). Наагул пачуцьцё каханьня маець увагу ў Гаруна і выклікаець у яго поэтычную думку („Дзяўчаці“, „Асеньні сьпеў“), але разьвязуецца ў рэальным агаленьні („Два каханьні“, „Хаўтуры“). Прырода-апісаўчая лірыка спатыкаецца ў Гаруна ня дужа часта. Тое, што дзеецца ў пры-

родзе, поэт вяжыць з сваім настроем („Восень“, „Вясна“, „Завіруха“, „Вецер“ і інш.). Апісуючы абразы прыроды, Гарун самай тэхнікай верша стварае адпаведнае ўражаньне. Проста клясычная рэч, да прыкладу, яго верш „Навакол“... у якім плястычны малюнак сыбірскае тайгі магутна стаіць уваччу чытаньніку. Тое-ж трэба сказаць аб вершу „У прыпар“, дзе ў рознай рытміцы і ў належным падборы слоў перадаецца дзеяньне прыроды ў прыпар. Спачатку кароткія, тамуючыя, аднаслоўна-трывожныя, як перад гразою, радкі, якія спараджаюць гром. „Маланка ўраз зьявілася, мільгнула і зваліласяі“,—гэтыя гукі даюць дасканальнае ўяўленьне маланкі. Пачаўшы чытаць ад слоў: „Кроплі разам, згодна, жвава“... мы, заплюснуўшы вочы, пачуем, як ідзець дождж. Далей—у тым-жа родзе. Апісаньне беларускага жыцьця па багацьцю абразоў, асабліва надворных, шмат бяднейшае ў лірыцы Гаруна, чымся у творах другіх выдатных, нашаніўцаў. Па свайму духоўнаму характару яно падобна да апісаньня Гаруном прыроды („Хатка“, „Жабрачка“, „Спрэчка“). Болей элементаў народна-беларускага жыцьця знаходзім у гаруноўскіх перайманьнях народнае творчасьці (Цыкл „Новая песьня“), а таксама ў яго апрацаваньнях чыста-народных сюжэтаў, дзе знаходзім легенды, казкі, жарты („Шчасьце Мацея“, каторае варта параўнаваць з коласаўскім творам „Як Янка забагацеў“, патым—„Канец Паўлючонка“, „Каму што“). Сярод гэтых даўжэйшых вершаваных эпічных рэчаў Гаруна трэба асобна паставіць баляду „Варажба“ — адзін з лепшых твораў поэта і ўсяе нашай поэзіі. Баляда гэтая вельмі нацыянальная й мастацкая, у ёй добра ўхоплен дух засьцянковага жыцьця, паказана багацьце беларускага слова у любоўных размовах і чыста-беларуская жартаўлівая далікатнасьць настрою. Баляда напісана трохстопным дактылем, па сем радкоў у строфе. Проза Жывіцы (апавяданьні) вызначаецца хараством мовы і стыля, наагул дасканальствам тэхнікі і глыбінёй думкі, але яна ненацыянальна, навет зьмест яе даволі часта небеларускі. З пагляду беларускасьці найлепей выйшаў „Пан Шабуневіч“—жывы беларускі тып пачатку адраджэньня. З другога боку, такія рэчы, як „П'еро і Коломбіна“, здавальняюць літэратурнае вымаганьне самага тонкага смакуна, даюць пабеларуску тое, што дагэтуль беларуская інтэлігенцыя знаходзіла выключна ў чужых мовах. Адносіны мужчыны і жанчыны, каторыя ў лірыцы Гаруна маюць заўсёды рэальна раскрыты канчатак, у гэтым апавяданьні тройчы зводзяцца на трагічна-накаванную, нямінушчую разьвязку.

У мове Гаруна часам бываюць неасьцярожныя полёнізмы („і шум лясны, і гвар.).

У часе друкаваньня кніжкі (верасень, 1920 г). прыляцела сумная вестка, што Алесь Гарун памёр.

## Францішак Аляхновіч.

(Радз. ў 1883 г.)

**Яго біаграфія.** Францішак Аляхновіч арадзіўся 9-га сакавіка (марца) 1883 г., ў мяшчанскай сям'і беларусаў-каталікоў, у Вільні. Бацька яго быў музыкантам-скрыпачом у тэатральных оркестрах і вельмі часта браў з сабою Францішка ў тэатр. Вучыўся Аляхновіч у 2-й віленскай мужчынскай гімназіі, дзе скончыў пяць клясаў; патым ён перайшоў у віленскую хэмічна-тэхнічную школу і прабыў там адзін год. Але гэта яго не здавальняла, і ён паехаў у 1903 годзе ў Кракаў, у польскую драматычную школу, адтуль пераехаў у 1904 годзе ў Варшаву, дзе і скончыў драматычную школу пры Музыкальным Таварыстве. Пасьля гэтага Аляхновіч езьдзіў з польскімі тэатрамі па розных мясьцечках, у 1908 годзе трапіў у роднае места Вільню, жаніўся тут і пачаў працаваць як рэпортэр у розных віленскіх газэтах. У 1910 годзе ён разам з нябожчыкам І. Буйніцкім ды А. Бурбісам і іншымі наладзіў першы ў часе адраджэньня публічны беларускі спэктакль. У гэтым-жа годзе ён выдаваў польскі гумарыстычны тыднёвік „Perkunas“, за каторы яго пацягнулі пад суд. Аляхновіч уцёк заграніцу, у Галічыну, прабыў там тры гады, туляючыся па галіцкай провінцыі з польскім тэатрам або йграючы ў Кракаве і Львове (пад псэўданімам Монвіда). У 1913 годзе, уважаючы на маніфэст аб амністыі з прычыны трохсотлецьця Раманавых, Аляхновіч вярнуўся ў Вільню і пад'явіўся да пракурора. Яго пасадзілі ў вастрог на адзін год. Аляхновіч адседзіў, і гэта пайшло на карысьць



Францішак Аляхновіч.

яму. У вастрозе пачалася яго літэратурная праца. У 1914—1915 г. г. ён напісаў спачатку папольску, а патым перарабіў пабеларуску сваю п'есу „На Антокалі“. Інтэнсіўная, запраўдная праца Аляхновіча для беларускае літэратуры і наагул усяе справы пачалася ў часе нямецкай окупацыі. Ен ладзіць у Вільні беларускія спэктаклі, арганізуе трупу, пішаць для беларускай сцэны, і за 1916—1917 г. г. з-пад яго пяра выходзіць шмат сцэнічных рэчаў („На вёсцы“, „Бутрым Няміра“, „Манька“, „Каліcь“, „Базылішк“). Але матар'яльныя варункі страшна цяжкія, і Аляхновіч малюе шыльды (вывескі), служыць у міліцыі, пасьля працуе ў магістраце як кантралёр электрычных лічнікаў, а змучаны віленскай галадоўляй едзець у Чорны Бор, пад Вільняй, у беларускі дзіцячы прытулак, як беларускі вучыцель, пазьней служыць у пажарніцкай камандзе як пажарнік. Дачуўшыся аб шырокай беларускай рабоце ў Менску, Аляхновіч без нямецкага перапуска, пехатою, бяз гроша ў кішэні пусьціўся ў дарогу. Перапрануўшыся за хурмана, ён з нейкімі засьцянковымі шляхцянкамі перабраўся цераз лінію старога фронту (каля Маладзечна) і абарваны, босы, з ранамі на нагах, пасьле васьмёхдзённай падарожы прыйшоў у Менск. Там ён паставіў свайго „Бутрыма Няміру“ і так споўніў яго роль, што адразу здабыў вялізны пасьпех. Менскі беларускі тэатр ажыў. Тут-жа Аляхновіч напісаў яшчэ колькі рэчаў („Чорт і баба“, „Страхі жыцьця“, „Дзядзька Якуб“). У вясну 1919 г. ён вярнуўся ў Вільню (пры бальшавіках), а з прыходам польскіх легіонаў пачаў выдаваць і рэдактаваць ілюстраваную часопісь „Беларускае жыцьцё“. Апрача драматычных твораў, Аляхновіч пішаць апавяданьні („Пісьмы да яе“—1918 г., „Дзіцячыя сьлёзы“—1918 г.) і лірычныя вершы пад псэўданімам Монвід („Ты, Вільня, мяне ўзгадавала“, „Як памру“ і інш.).

**На Антокалі** (1914—1915 г.г.) — п'еса ў 3 актах з пяяньнем і скокамі. Яна была надрукавана ў „Гомане“, а ў 1918 г. выйшла асобнай кніжкай. Пастаўленая на менскай беларускай сцэне, як опэрэтка, яна здабыла сабе вялікі пасьпех і займае пачэснае места ў беларускім рэпэртуары. П'еса маець і добрыя літэратурныя вартасьці. Гэта — надта добра зробленая, мастацкая фотографія жыцьця віленскіх жыхароў прадмесьця Антокаля. П'еса была-б дужа паважнай бытавой комэдыяй, каб не яе опэрэтачная лёгкасьць і некаторая павярхоўнасьць ў псыхолёгічных зарысоўках апісаных людзей. І ня гледзячы на гэта, маем у ёй колькі мастацкіх т ы п а ў, што як жывыя стаяць уваччу. Першым з іх па значаньню стаіць І г н а т  Р а д з і в і л о в і ч, бо найлепей паказан з псыхолёгічнага пагляду. Немалады ўжо

чалавек, пачтовы чыноўнік, ён лятуціць аб ціхім сямейным шчасьці, аб жыцьцёвым спакою і дастатку. Ен „ня п'е, грошы ня кідае, можа навет крыху надта ашчадны",—як кажа аб ім драбязьлівая на капейку Міхаліна. Жыцьцё прызвычаіла яго да асьцярожнасьці, і ён надта асьцярожна прыймае вестку аб амэрыканскіх міліёнах. Але спакуса такая салодкая для яго, што Радзівіловіч памiма волі, няўпрыцям для сябе усё болей неасьцярожна спакушаецца. Слабаваты на розум, ён, апрача таго, затуканы сваім начальствам, мяккі і добры па характару, дык лёгка трапляе на мізэрнае і сьмяхотнае становішча. Ен ня здацен да абы-якога змаганьня, але інстынктыўна ўпорчыў. Ен не бароніцца, калі на яго нападаюць, што выйшла „ня тая лінія", ён быццам вінаваты. У яго словах часам чуюцца запраўдныя чалавецкія сьлёзы, стон абніжонай душы. Вінцэнт Сьліжык, гаспадар шавецкай майстэрні на Антокалі, і яго жонка Міхаліна — тыповыя прадстаўнікі беларускага мяшчанства з віленскіх узьмежкаў. Яны — людзі места. Сьліжык любіць выпіўку, а яго жонка—пагаманіць, палахаць языком з суседкамі. Аднак, абое не забываюцца на працу і шануюць працоўнага чалавека. Соцыяльныя ўмовы мястовага жыцьця вырабілі некаторую моральную лёгкасьць у іх паглядах на рэчы,—дзеля таго Міхаліна хоць ставіць шавецкага чаляднiка вышэй за чыноўніка ў нормальным ходзе жыцьця, але згаджаецца прамяняць яго для дачкі, калі-б чыноўнік дастаў міліёны. Лёгкадушную гарадзянку Зоську знаем добра з гэткіх яе слоў да Юзюка: „Дзе няма грошы, там і каханьне хутка пройдзе. Ды нашто многа казаць. Так павінна быць і канец! Калі-б вы мяне запраўды кахалі, дык былі-б рады, што мне здараецца такое шчасьце, а ня тое, каб адгаварываць мяне ад гэтага". Шавецкі чаляднік Юзюк, ці Язэп Жалейка—самая сьветлая, хоць і няглыбокая, як і ўсе, асоба. Ен шчыра любіць дзяўчыну з усімі яе заганамі, ён шануе працу і ненавідзіць тыя грошы, за якія можна купіць чалавека. Другія асобы, як п'янюга-рэпортэр Пяровіч, дабрадзейны купец Арон, язычлівая Мацеіха, жабракі і іншыя, — усе яны дужа сакавіта змалёваны. Цікаўна, што Аляхновіч, вырасшы ў сфэры нявіднага ўжо для масы, але бесьперастаннага абпалячываньня, увайшоў у сваю родную літэратуру з творам без характэрных нашаніўскіх прымет і мотываў. Ен, зусім тут спакойны ад адраджэнцкай мукі, багата паказаў новую ў літэратуры беларускую сфэру, сфэру мяшчанскага жыцьця. Гэта знак, як вырасла адраджэньне.

**На вёсцы** (1916 г.) — ідылічны абразок у двух актах. Друкаваўся ў „Беларускім жыцьці" за 1919 г. Як вядо-

ма, Аляхновіч—жыхар места; да дзесяцёх гадоў жыцьця ён навет ніколі ня бачыў вёскі. Ніколі доўга ў вёсцы ён ня жыў; псыхолёгіі селяніна ня ведае. Ня дзіва, што сяляне ў яго п'есах гавораць такою самаю моваю, што й антакольскія мяшчане-рамесьнікі ці беларускія інтэлігенты-адраджэнцы. Але галоўная загана абразка ня ў тым, а ў яго духоўнай слабасьці, каторая асабліва відаць з астатняга монолёга Стасюка. Пыганьне, прыгожа паказанае Аляхновічам у гэным абразку—ў нашай літэратуры ня новае. Навука, якую нашы пісьменьнікі, пачынаючы з Багушэвіча, выводзілі з гэтага пытаньня, згубіла для посьле-пашанiўскіх часоў сваю арыгінальнасьць, сьвежасьць і глаўнае, духоўную войстрасьць. Бо мы зрабілі гіганцкі ход наперад ад ідылічна-нацыянальнага ідэала „насіць вясковыя вопраткі, пяяць простыя песьні ды ўвесь век сядзець на родным загоне“, каторы для масштабу нашых дзён выглядае дзяціным забаўляньнем. Урэшце, шкода, што драматург не паказаў нам з нацыянальнага боку знаёмай яму сфэры.

**Бутрым Няміра** (1916 г.) — п'еса ў двух актах з пролёгам, напісаная аўторам у 1916 годзе паводле легенды В. Ластоўскага „Каменная труна“. Яна маець высокія літэратурныя і сцэнічныя вартасьці. Як твор літэратурны, п'еса выдаецца сваёй стылізаванасьцю, прыгажствам мовы (хоць і не старыннай), пеўнасьцю псыхолёгічных абрысовак, стульнасьцю і адзінствам у разьвіцьці падзей. Як твор сцэнічны, яна азначаецца дасканальнасьцю тэхнікі і колькімі харошымі з мастацкага боку эфектамі. Апрача таго, п'еса „Бутрым Няміра“, быць можа, паміма сьвядомага жаданьня яе аўтора, — дужа ясная і сакавітая ілюстрацыя сацыяльных злыдняў. Яна сьведчыць што корнем усялякіх ліхадзействаў у вадносінах людзей ёсьць благі соцыяльны парадак, які ствараець Бутрыма Няміру (прототып Івана Грознага).

**Манька** (1917 г.)—п'еса ў 4 актах, у каторай колёрытная жывасьць нашага мястовага жыцьця, паказаная Аляхновічам ў комэдыі-опэрэце „На Антокалі“, гарманічна зьліваецца з глыбінёй думкі яго пазьнейшых твораў. Галоўная думка гэтай драмы заключаецца ў тым, што наша культура, падзяліўшая людзей на паноў і „простых“, забіваець усе лепшыя парываньні ідэалістаў (Міхалка) і даводзіць да самагубства расчараваных, абязьвечаных (Манька).

**Каліcь** (1917 г.)—рэволюцыйны с ц э н і ч н ы абразок на 2 акты з жыцьця беларускіх мястовых работнікаў. Гэта час забастовак, рэволюцыйных маніфэстацый, растрэлаў, калі маладыя работнікі аддавалі сваё жыцьцё, здабываючы волю.

**Базылішк** (1917 г.)—казка ў 3 актах. Гэты надта поэтычны, мастацкі твор Аляхновіча трэба разглядаць, як другую за „Бутрымам Нямітаю“ спробу драматычнай творчасьці з абстаноўкай нашай далёкай мінуўшчыны. Людзі кажуць на Янку, што ён дурны, бо не разумеюць душы поэта. Тымчасам, ён—запраўдны герой, паказаны, як сымвол сярмяжнай грамады (гл. эпілёг).

**Чорт і баба** (1918 г.)—надта добра ўсцэнізаваная ў адным акце вядомая народная казка-сатыра, раней зьвершаваная Багушэвічам („Гдзе чорт ня можа, там бабу пашле“). Усюдых заваевала беларускую сцэну.

**Страхі жыцьця** (1918 г.)—драма ў 3 актах. На творах сучасных драматургаў, а ў тым ліку і Аляхновіча, паклаў выразны адбітак рэволюцыйны настрой, прычым кідаецца ў вочы пікаўная праява: пісьменнікі ня могуць сагнацца са шпаркім лётам жыцьця, маючы сілы, дадзеныя ім. Аляхновіч—удумчывы да свайго навакслу і васпрыймаець акружаючае глыбока, але і ён не пасьпявае даць абраз „сяньня“ і дае ў больш дасканальнай форме абраз „учора“. Хаця аўтор ніводным словам не намікае аб тым, гдзе і калі рэч дзеецца, але можна здагадацца, што гэта яго ўспаміны з апошніх гадоў нямецкай окупацыі (у Вільні).—„Я йшоў па вуліцы цяпер... Ляжыць якійсь,—ужо труп... Людзі міма йдуць... Нічога... Кожны думае толькі аб сабе“... (Сымон, I акт). На гэткім удзячным фоне аўтор змаляваў социяльнае зло. Прачытаўшы ці паглядзеўшы на сцэне ўсе тры акты, мы так уражаны жахам гэтага зла, гэтых страхаў, што сэрца закіпае гняўлівым абурэньнем і напаўняецца смагаю новай творчасьці, жаданьнем зьніштожыць страхі старога сьвету і стварыць новае, ясьнеючае, ня блізкае да ўсякіх страхаў жыцьцё. На такое шчасьце галіўся фантазёр, лятучонік Сымон, каторы даводзіў, што маладосьць—вечная, але адурэў і пагінуў ад страхаў старасьці. Лепшыя часткі драмы — калі дзяўчына першы раз прыходзіць з вуліцы і спатыкае на парозе кватэры свайго любага. Яе монолёг азначаецца вялікімі мастацкімі вартасьцямі. Ен хапаець за спод душы. Яшчэ — размова Юзі з любым перад сьмерцьцю, калі яго нялюдзкая шчырасьць духоўна забівае няшчасную. А бесьпярэчна найлепшыя часткі—монолёгі цэнтральнай фігуры, здурнелага лятучоніка і п'яніцы, зьнямоглага ад страхаў старога бацькі. Да заган п'есы трэба запісаць падазрэнна вялікую лічбу сьмерцяў, хаця гэткія рэчы, можа, і зусім звычайныя на полі страхаў.

**Дзядзька Якуб** (1918—1919 г. г.)—драматычны абраз у 2 актах з пяяньнем і скокамі.

**Цені** (1919 г.)—драма ў 3 актах, навейшая рэч Аляхновіча. Глыбака задуманы і мастацкі твор гэты, аднак, зусім ненацыянален, і значаньне яго ў нашай драме аналёгічна значаньню апавяданьня А. Гаруна „П'еро і Коломбіна“ ў нашым эпсе. Ен дае нам у роднай мове тое, што дагэтуль мы бралі выключна з чужых моў. Галоўная думка драмы, ня зусім ясна і даступна выказаная і нямаючая пеўнага адзінства ў сваім зьясьненьні, заключаецца, подлуг актавых прадмоў, вось у чым: людзі—ніштожныя капашлівыя чарвякі, мізэрныя мімаходныя цені; жыцьцё іх—мамэнцік Вечнасьці; аднак, надароныя веснавымі, поэтычнымі парываньнямі, яны часам лезуць у спрэчку з гэнай Вечнасьцю, хочуць здабыць яе тайны,—і ў тым краса і змысл іх істнаваньня. Подлуг самога дзеяньня, каторае не павінна-б было патрабаваць тых актавых прадмоў, галоўная думка маець яшчэ тую старану, што благое жыцьцё і наагул заганы божай творчасьці, як горб, нішчаць веснавыя парываньні, губяць поэтаў, робяць іх калекімі.



## Матар'ял аб творчасьці яшчэ некаторых нашаніўскіх і сучасных поэтаў і пісьменнікаў.

**Арол, М.** (Пяцельскі)—даволі вядомы нашаніўскі поэт. „Арол і Янук Д.—людзі, што маюць палёт і талент, але мала шліфуюць яго. Трапляюцца ў іх часам вершы даволі сільныя па пад'ёму і думцы, але і дужа часта з недахватамі“ (М. Багдановіч, 1913 г.). Вершы Арла зьмяшчаліся ў „Нашай Ніве“ з 1909 года, найболей іх было за 1912—1913 г. г. Апрача вершаў, Арол пісаў розныя артыкулы („Аб беларускай песьні“). Поэт па профэсіі настаўнік; працаваў у Чарнігаўшчыне.

**Бруевіч**—навейшы самабытны белетрыста (апавяданьні ў „Звоне“ і „Беларусі“).

**Буйло, Канстанцыя.** Арадзілася ў самым канцы мінулага сталецьця. Дачка дворнага служачага з Вішнева (Ашмян. пав., Вілен. губ.). Дзяўчына засталася з хатняй адукацыяй, але надта шмат чытала. Пазнаёміўшысь з беларускім рухам цераз аднаго студэнта-адраджэнца, Буйло шыбка зрабілася вельмі віднай супрацоўніцай „Нашае Нівы“. Нейкі час

працавала ў Вільні, у дзіцячым прытулку, а патым—у пачатковай школе ў в. Чаўшлі Мала-Салячніцкай парахвіі, у ваколіцах Вільні. Пазьней была загадчыцай беларускай кнігарні ў Полацку. У часе вайны, служыўшы ў Земскім Саюзе, пазнаёмілась з В. Калечыцам, і яны пабраліся. З часоў рэволюцыі жывець у Маскоўшчыне, на станцыі Шахаўской Аляксандраўскай зялезнай дарогі. У 1914 годзе выйшаў зборнік вершаў Буйло „Курганная кветка“. Буйло—найбольш выдатная пасьля Цёткі жаноцкая сіла ў нашай поэзіі. На першым пляне ў яе лірыцы стаіць пачуцьцё каханьня. „Эротычная інтуіцыя—гэта характэрная адзнака творчасьці Канстанцыі Буйло“ (А. Навіна). Апрача таго, яна вельмі пранікаецца адраджэнцкімі настроямі і любіць пяяць пра хараство прыроды, каторае лечыць яе грамадзянскія болькі, даець ёй спакой. Буйло—надта здольная пясьнярка, ад каторай беларуская поэзія шмат чаго спадзяецца. На творчасьці яе чуецца ўплыў Купалы.

**Быліна Я.** (ксёндз Семашкевіч)—сьвежы, арыгінальны, але яшчэ мала разьвіты талент. У 1918 г. выйшаў зборнік яго вершаў „На прызьбе“.

**Галіна, Антось**—вельмі спадзейны малады белетрыста і паважны публіцыст. Родны брат Якуба Коласа.

**Галубок**—вядомы беларускі пісьменьнік, спачатку эпік і часам лірык, а пазьней драматург. Запраўднае імя яго—Валадыслаў Голуб. Ен арадзіўся 3-га мая 1882 года ў Менску дзе і жывець усё сваё жыцьцё. Бацька яго, сьлесар менскага дэпо на чугунцы, быў родам з Барысава. Ен памёр рана, на 35 годзе жыцьця, і Галубок, дзеля гэтага, скончыўшы ў 1893 г. прыходзкую школу і паступіўшы ў вышэйшую гарадзкую, паўчыўся там толькі два гады і ў 1895 годзе мусіў кінуць навуку і зарабляць на хлеб прыказчыкам у вадным з менскіх магазынаў. У 1897 годзе ён паступіў на чыгунку, дзе і праслужыў 22 гады (да польскай окупацыі). Па шляху беларускай творчасьці пашоў Галубок з 1908 г. Як белетрыст, ён супрацоўнічаў у „Нашай Ніве“, „Маладой Беларусі“, „Вольнай Беларусі“, беларускіх календарох і іншых выданьнях; пісаў апавяданьні „бойкія і вясёлыя, да чаго мае праўдзівую здольнасьць. Мова іх заўсягды жывая, тэмы іншы раз даволі цікавыя“ (М. Багдановіч). З вершаў яго асабліва выдаецца па сваёй энэргіі „Будучына“—абраз адраджэньня. Калі з разьвіцьцем беларускага тэатру пачулася войстрая патрэба ў пашырэньні рэпэртуара, Галубок перарабіў некаторыя свае апавяданьні на п'есы і потым (у часе вайны) зусім аддаўся драматурзіі. Да гэтага часу ён напісаў дзесятак вялікіх драм

і камэдый, з пасьпехам ішоўшых на беларускай сцэне (ў Менску з вучасьцем самаго аўтора). Драма яго найчасьцей рэволюцыйна па зьместу. Захоплены вялізарнай завірухай, Галубок пільнуе адпячатаць навакольныя абразы, але іх гэтулькі уваччу, новыя падзеі разьвіваюцца гэтак шыбка, што яму ўдаецца толькі накідаць іх эскізы вугалём. Сюжэты з таго, што было да рэволюцыі („Апошняе спатканьне“), сюжэты на тэмы аб змаганьні ўціснутых з панамі-угнятаньнікамі ў эпоху набліжэньня віра рэволюцыі болей задаюцце яму, чымся зарысоўкі дзён пачатку соцыяльнай рэволюцыі („Бязьвінная кроў“), ня гледзячы на ўсю выгаду гэткіх эфэктаў, як разьбіваньне панскага двара сялянамі.

**Гартны, Цішка,** запраўднае імя каторага Зьмітро Фёдаравіч Жылуновіч, радзіўся ў 1887 годзе ў м. Капылі (Менск. губ., Слуцк. пав.). Сын бедных мужыкоў, быўшых мяшчан, ён з дванаццацёх гадоў быў за пастуха ў сваім мясьцечку. Пяць гадоў ганяў ён улетку ў поле, а ўзімку вучыўся ў народнай дзьвюхклясавай школе. Скончыўшы школу, ён пашоў вучыцца на гарбара (што скуры на боты вырабляе) і быў захоплены работніцкім рухам. Адукацыю здабываў чытаньнем кніжак. У канцы 1908 г. ён даведаўся аб беларускім руху і пранікнуўся ім усёю душою. Пісаць меў нахіл з маладых год і шмат напісаў вершаў і апавяданьняў памаскоўску. У „Нашай Ніве“ пачаў супрацоўнічаць з 1908 года. Ен быў адным з найбольш дзеяльных сяброў соцыяль-дэмократычнай работніцкай арганізацыі ў родным Капылі, вёў там патайны рукапісны журнал „Голас ніза“, а пазьней — гэтак сама рукапісную „Вольную думку“. Капыльская работніцкая арганізацыя, дзякуючы стараньням Гартнага паслала ў трэцюю думу дэкларацыю з дамаганьнем правоў для беларускага народа. Пазьней Цішка Гартны жыў па розных гародах (Магілеў, Вільня, Вількамір), урэшце асяліўся ў Пецярбурзе, дзе супрацоўнічаў у расейскай прэсе. У часе рэволюцыі рэдактаваў беларускую бальшавіцкую газэту „Дзяньніца“ (ў Пецярбурзе, патым у Маскве). Калі ў самым канцы 1918 г. бальшавікі абвесьцілі „незалежную Беларускую савецкую (радавую) рэспубліку“, дык паставілі Жылуновіча на чале яе урада, і ён пераехаў у Менск. Неўзабаве яго, аднак, скінулі з прэм'ерства, забаяўшыся яго беларускасьці. Гартны—лірык, эпік, драматург і здольны публіцыства. Творы яго друкаваліся ў розных беларускіх выданьнях („Маладая Беларусь“, „Дзяньніца“, бальшавіцкі альманах „Зажынкі“ і інш.). У нашай пераважна сялянскай поэзіі Гартны выдаецца, як поэт пролетарый, пясьняр работніцкага жыцьця, пясьняр працы. Шмат у яго вершаў і апавяданьняў таксама з вя-

сковага жыцьця, нямала прырода-апісаўчай і любоўнай лірыкі. „...Цяжкія варункі бытаваньня, зусім натуральна, забівалі ў Цішкі Гартнага многа жывых парываў і прынасілі яму шмат горкіх мінут упадку энэргіі, сумляваньня; вось у іншых вершах, ён горка жаліцца на труднасьць правясьці ў жыцьцё яго ідэалы („Я—нішто“ і інш.), на расчараваньне ў жыцьці. Але агульны тон поэзіі яго—жывы, бодры, дый гэтаму адпавядае будова вершу—найбольш кароткага, з рытмам, напамінаючым шыбкія ўдары молата ці рух гарбарскага скрэбла“ (А Навіна). У вастатнія гады творчасьць Гартнага прыймае ўсе выразьнейшы клясавы характар („Хвалі жыцьця“, драма ў 3 дзеях, і інш.). Напісаны Гартным роман „Бацькава воля“ дагэтуль ня выйшаў з друку. На лірыцы Ц. Гартнага ёсьць значны ўплыў Я. Коласа.

**Гмырак, Лявон** (М. Бабровіч) — малады і надта здольны нашаніўскі публіцыста. Пісаў і белетрыстыку (Б. Заяц). Быў родам з Віленшчыны, (двор Пархвенава, Вялейск. пав.), забіты на вайне пад Коўняю 30 чэрвеня 1915 года. Нарадзіўся 6 красавіка 1891 года.

**Грыневіч, Антон** — адзін з даўных нашаніўскіх публіцыстаў, шырока вядомы праз зьбіраньне і гармонізацыю народных мэлёдыяў і выданьне беларускіх кніжак, у тым ліку сваіх сьпеўнікаў. Родам з Віцебшчыны.

**Гурло, А.** — малады беларускі пясьняр, вершы якога друкаваліся ў „Нашай Ніве“, Маладой Беларусі“ (1913 г., сш. 3) і іншых беларускіх часопісях да 1915 г. „У той час, калі большасьць беларускіх поэтаў у сваіх творах ў цёмных фарбах малявалі гаротнае жыцьцё беларускага земляроба, Гурло вызначаўся сваімі вясёлымі сонечнымі мотывамі, якія энэргічна клікалі да волі, да змаганьня з цемрай. Колёры яго вершаў—сонечнае неба бяз хмарак, птушка-арол у вышыне, а пад імі ясна-срэбны ручай, абшар зялёных лугоў, моцны вецер і г. д., дзе ўся гэткая абстава кліча да радасьці і шчасьця. У 1915 г. Гурло пайшоў на вайну, а дзе ён цяпер знаходзіцца—няма ведама“ („Бел. Жыцьцё, № 7, 1920 г.). Гурло, як і Ц. Гартны, родам з Капыля.

**Журба Я.** — вядомы сярод нашаніўцаў лірычны поэт і публіцыста. Перакладаў з украінскага, пісаў „Лісты з Украіны“. Журба—вучыцель, родам з Лепельшчыны. Дзе ён цяпер, невядома.

**Зязюля, Андрэй**, (ксёндз Аляксандра Астрамовіч)— здольны лірычны поэт-адраджэнец, каторы, на шкоду, не пры-

дае патрэбнага значаньня сваёй літэратурнай працы. Вершы Зязюлі друкаваліся найбольш у „Biełarusie" за 1913 і 1914 г.г. Асобны зборнічак яго поэзіі „З роднага загону" знайшоў вялікую прыхільнасьць крытыкі. Талент поэта ўсё болей разьвіваецца („Вольная Беларусь", 1918 г.).

**Зямкевіч, Р.** — вядомы бібліяфіл, публіцыста, перакладчык В. Стэфаныка, гісторык беларускае літэратуры і зьбіраньнік памятак беларускага слова і мастацтва (маець вялікае багацьце) Радзіўся 7 лютага (нов. ст.) 1881 года, у Варшаве, ў сям'і загадчыка друкарні. Бацькі яго родам са Случчыны. Зямкевіч па профэсіі інжынэр-механік.

**Краўцоў, Макар** (Косьцевіч)—малады і спадзейны поэт-лірык і публіцыста. Родам з Горадні.

**Ластоўскі, В.** — грамадзкі і палітычны дзеяч, публіцыста, аўтор некалькіх апавяданьняў, „Гісторыі Беларусі", школьных падручнікаў і інш. Пішаць пад рознымі псэўданімамі, найболей вядомы з іх Власт. Творчасьць Ластоўскага крытыка сустрэла вельмі цёпла. У 1911 годзе М. Багдановіч пісаў так: „Власт здалеў даць у сваіх абразках нешта цэннае. На жаль, ён іншы раз даволі моцна нагадуе польскіх модэрністаў (гл. „Мары"), у бытавых-жа апавяданьнях губіць лепшы бок свайго таленту—сумную поэтычнасьць. Але бывае, што на апісаньнях нашага шэрага жыцьця адбіваецца лірычны пад'ём душы пісьменьніка і ўплятае ў вянок нашай літэратуры сьвежы, яркі кьвяток (гл. ап. „Лебядзіная песьня")". У 1913 г. М. Багдановіч напісаў аб ім гэтак: „Власт надрукаваў усяго 3—4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць. Асабліва хораша напісаны апавяданьні „Сож і Няпро",—вельмі прыгожая казка-легенда (гэтага ў нас дасюль яшчэ ня было ды і наагул спатыкаецца ня часта), і, далей, „Дзень рожавай кветкі", што нагадывае лепшыя з апавяданьняў, здабыўшых усясьветную славу дацкаму пісьменьніку Андэрсэну". У 1917 г. у „Гомане" Власт даў спробу гістарычнага апавяданьня „Наезчык". Ластоўскі родам з-пад м. Глыбокага (Дзісьн. пав., Віл. губ.); у малых гадох прыйшоў ён у Вільню, працаваў у вінным склепе, шмат чытаў, чым і здабыў адукацыю; пазьней быў бібліятэкарам у студэнцкай бібліятэцы ў Пецярбурзе, адылі прыехаў у Вільню, дзе і працаваў у „Нашай Ніве" і „Беларускай кнігарні".

**Лейка, Кандрат** — надта здольны нашаніўскі апавядальнік, каторы не пасьпеў яшчэ паказаць усю сілу свайго таленту. Ен даў некалькі цэнных апавяданьняў („Кульгавы

дзядзька Раман", „Таклюся Сухотніца", „Лес шуміць", „Панас Крэнт", „Пан Трудоўскі") з ярка змалёванымі тыпамі. Апрача таго, Лейка напісаў сцэнку для дзяцей „Снатворны мак" і колькі вершаў (даволі слабых). Калі гэты пісьменьнік нідзе не пагінуў за час вайны і рэволюцыі, дык можна з пеўнасьцю сказаць, што ён зробіцца адным з самых відных беларускіх белетрыстаў. Родам Лейка, як кажуць, з Горадзеншчыны, а па профэсіі вучыцель.

**Леўчык, Гальяш** (Ляўковіч) выдаў зборнік вершаў „Чыжык беларускі" (1912 г.), пасьля чаго на вельмі доўгі час змоўкнуў зусім. Леўчык—поэт надта засмучоны; ён гарачы, але пасыўны адраджэнец; нашаніўскія сьлёзы найдаўжэй, чымся каму, туманяць яму вочы і замінаюць размахнуцца талентам ува ўсю сілу. Леўчык родам са Слонімшчыны, жывець у Варшаве, па профэсіі—інтэлігентны служачы.

**Лёсік, Язэп** — значная сіла ў беларускім руху і літэратуры. Яго галоўная заслуга—ў нашай публіцыстыцы, хоць магчыма, што публіцыста (з волі і з няволі) пашкодзіў у ім белетрысту. Лёсік дужа таленты апавяданьнік і напісаў выдатную ў нашай эпічнай поэзіі рэч «Апавяданьне бяз назвы». Асабліва ўдаецца яму маляваць беларускіх дзетак (Анцік, Юзік). Творчасьць Лёсіка вельмі нацыянальная, народна-беларуская. Нейкі захаваны надлом свае душы адбіў ён у вядомым «Ня ўсё-ж разам, ягамосьці! .» Як публіцыста, Лёсік бойкі і войстры на слова, орыгінальны ў развагах, асабліва полемічных. Гэтага слаўнага пісьменьніка чакаець яшчэ слаўнейшая будучына. Родам Лёсік з Мікалаеўшчыны, з аднэй вёскі з Якубам Коласам, каторага даводзіцца дзядзькам. Нарадзіўся ён 6 лістапада 1884 г. Вучыўся ў пачатковай школцы, патым у Ноўгарад-Северскім гарадзкім вучылішчы і ў Маладзечненскай вучыцельскай сэмінарыі, адкуль яго звольнілі з 2-й клясы. Быў настаўнікам у Грымяцкай парахвіі Ноўгарад-Северскага павета і за пропаганду, разам з другімі настаўнікамі быў заарыштаваны ў 1905 годзе. У 1908 годзе быў высланы ў Сыбір. У засланьні ў Сыбіры прабыў ён аж 9 гадоў. Вярнуўшыся адтуль, выдаваў у Менску ў 1917 — 1918 г. г. лепшы беларускі тыднёвік „Вольная Беларусь". Цяпер (1920 г.) рэдактуе „Беларусь" і ўваходзіць у склад Найвышэйшай Беларускай Рады.

**Лобік, Лявон** — селянін з вёскі Кукавіч, Слуцкага павета, запраўдны поэта-земляроб. „Л. Лобік і Стары Улас далі некалькі дужа няхітрых, але верных і таму цікавых малюнкаў нашай вёскі" (М. Багдановіч).

**Навіна, Антон** (Луцкевіч) займае першае места ў беларускай публіцыстыцы. Віднейшы правадыр руху адраджэньня. З сваім нябожчыкам-братам Янам Луцкевічам паклаў грунт нашаніўскай парэ. З яго буйнейшых твораў трэба назваць „На дарозе да новага жыцьця“, „Нашы песьняры“ (літэратурна - соцыяльныя нарысы), „Беларусь пад польскай окупацыяй“. Палітыка замінаець яго літэратурнай дзеяльнасьці (А. Луцкевіч — б. старшыня Рады беларускіх міністраў).

**Новіч** (доктар Ціхановіч). Аўтор вядомага „Амэрыканца“ і інш.

**Палуян, Сяргей** (1890 — 1910) родам з Піншчыны. Гэта быў натхнёны дзяцюк-поэт; з вялікім жарам браўся ён за пісьменную працу, пісаў вершы, апавяданьні, п'есы для тэатру, і вялікія надзеі пакладалі на яго беларускія дзеячы. Чорная рэакцыя, нацыянальная няволя, народная несьвядомасьць сходалі маладога песьняра, і ён 8 красавіка 1910 г., у Кіеве, адабраў сабе жыцьцё. Творы яго часткаю друкаваліся у „Нашай Ніве“, („Хрыстос васкрос“, „Вёска“ і інш.). З твораў Палуяна відаць вялікая трагэдыя і сум яго чулай душы.

**Петрашкевіч, А.** (1894—20 мая, ст. ст., 1918) — малады поэта-зямляроб. Запраўднае імя яго Ф. Калінка. На працягу колькіх гадоў, спачатку ў „Нашай Ніве“, у „Маладой Беларусі“ і ў „Беларусе“, а патым у „Вольнай Беларусі“ і ў „Беларускім шляху“ зьмяшчаліся яго сялянскія, (лірычныя і гумарыстычныя) вершы. Поэзія яго простая, шчырая, пісаная мазольнаю рукою ратая.

**Піліпаў** (Язэп Нялепка) — лірычны поэт, эпік і публіцыста. Родам з Горадзеншчыны, сын дворнага служачага. Па прафэсіі тэлеграфны служачы.

**Радзевіч, Леанард** — малады і спадзейны пісьменьнік-модэрніст. Родам з Віленшчыны.

**Стары Улас** (Арадз. ў 1865 годзе). Пад такім псэўданімам пішаць вершы лясьнік з м. Валожына (Ашмянск. пав., Віл. губ.), запраўднае імя каторага Уладыслаў Сівы. Ён ніколі нідзе ня ўчыўся, поўны самавук, спачатку рабіў зямлю на сваім батрацкім надзеле, патым пайшоў з беднасьці на панскую службу. Вершы пачаў пісаць папольску (для свае нявесты), а з 1906 г., дастаўшы праз памылку „Нашу Долю“, прысланую ў Валожын на імя яго аднафамільца-старшыні, Стары Улас усьведаміўся і перайшоў выключна на творчасьць

у сваей роднай мове. Яго творы цэнны для нас і орыгінальны тым, што паказуюць, як творыць сам народ. Нічога інтэлігенцкага ў іх няма, яны й ня вельмі часам складны, але чуецца ў іх сіла самое зямлі, беспасрэдні павеў самога жыцьця беларускае вёскі. Яны—натуральны адростак народнай поэзіі, казак і гутарак, легенд, жартаў. У некаторых вершах Старога Уласа сьмела паказан социяльна-клясавы характар („З новым годам", „Апавяданьне дзядзькі Пранука"). Абразоў беларускае прыроды найболей у „Годзе беларуса", беларускага жыцьця—у „Нашым Валожыне". Стары Улас і Лявон Лобік, а болей-меней А. Петрашкевіч і іншыя маюць ў нашай поэзіі літэратурна-моральнае значаньне, як песьняры з мазольнаю рукою, што ня толькі „з народа", але „самі народ". Жывець душа народа—жывець народ!

**Тарашкевіч, Б.** — малады беларускі вучоны-філёлёг, аўтор першай навукова напісанай граматыкі беларускае мовы. Адзін з працаўнікоў над стварэньнем беларускай кніжнай тэрміналёгіі. Сын гаспадара з засьценка Чарнулішак, Віленскага пав. Нарадзіўся 13-га студня 1892 г.

**Тройца, Вацюк** (проф. Іваноўскі) — даўнейшы правадыр руху адраджэньня, арганізатар выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца", аўтор популярных артыкулаў і брошурак, а таксама першага беларускага унівэрсітэцкага курса хэміі, працаўнік над стварэньнем беларускай кніжнай тэрмінолёгіі. Родам з Лідчыны (двор Лябёдка).

**Уласаў**, Аляксандар Мікітавіч — вядомы беларускі дзеяч-нашанівец, рэдактар „Нашае Нівы", а патым „Сахі" і „Лучынкі", публіцыст-экономіста.

**Фарботка, Я.** — малады поэт-лірык і літэратурны крытык („Беларусь у песьнях"), грамадзкі дзеяч. Яго некаторыя вершы (сонэты) паказуюць на вялікія здольнасьці і чулую, кволую душу. Родам з Налібок (Ашмянск. пав., Віл. губ.), абкружаных пушчамі, выклікаўшымі ў душы Фарботкі романтычную любоў да прыроды, да яе харaства і ўсяго роднага. Знаходзіцца пад уплывам поэзіі Багдановіча (ў пекнаце формаў).

**Чарнышэвіч, Ф.**—„вядомы нашаніўскі поэт; умее пісаць сьціснута і ў кароткіх словах даць малюнак прыроды або вылажыць сваю думку, але робіць, на жаль, гэта ненатуральна, заблутана" (М. Багдановіч, 1913 г.). Родам з Капыля.

**Шантыр, Фабіян**—родам са Случчыны, даўны нашанівец, здольны белетрыст і вельмі цэнны публіцыста, аўтор вядомай брошуры „Патрэбнасьць самавызначэньня для Беларусі“ Растрэлен у Чырвонай Арміі вясною 1920 г.

**Янук Д.**—гл. А р о л, М.

## Сьпіс болей вядомых беларускіх газэт і журналаў.

1) „М у ж ы ц к а я п р а ў д а“ Каліноўскага (Беласток, 1863 г.). 2) „Г о м а н“; нелегальная газэта, друкавалася на гектографе, выхадзіла ў Менску ў канцы 80 гадоў. 3) Беларускія к а л е н д а р ы С л у п с к а г а (Менск, 1892, 1893 г. г.) 4) Беларускі к а л е н д а р Д а ў н а р - З а п о л ь с к а г а (Масква, 1898 г.). 5) „С в а б о д а“ (1903 г.), падпольны орган Беларускай Рэволюцыйнай Грамады. 6) „Б е л а р у с ь“ (Менск, 1905 г.), зачынена на першым нумары, пісана пабеларуску і памаскоўску. 7) „Н а ш а Д о л я“ (Вільня, 1906 г.) 8) „Н а ш а Н і в а“ (Вільня, 1906-1915 г. г.) 9) „М а л а д а я Б е л а р у с ь“ (Пецярбург, 1912-1913 г. г.), першы тоўсты беларускі журнал (160 стр.), друкаваўся лацінкай і грамадзянкай, выйшла тры сшыткі першай сэрыі, рэдактар-выдавец—суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца“. 10) „С а х а“ (Вільня, Менск, 1912-1915 г. г.), рэдактар-выдавец А. Уласаў, вядомы беларускі дзеяч і публіцыста (экономіст). 11) „К р а п і в а“ (Вільня, 1913 г.), сатырычная ілюстраваная аднадзеўка. 12) „Р а н і ц а“ (Пецярбург, 1914 г.), студэнцкі журнал, выходзіў пад кіраўніцтвам студэнта К. Душэўскага (цяпер вядомы беларускі дзеяч). 13) „B i e ł a r u s“ (Вільня, 1913-1914 г. г.), орган беларускіх адраджэнцаў - клерыкалаў. 14) „Л у ч ы н к а“ (Менск, 1913-1914 г. г.), месячнік для моладзі. 15) „Г о м а н“ (Вільня,(1919—1918 г. г.) газэта выхадзіла два разы ў тыдзень, друкавалася спачатку толькі лацінкай, патым лацінкай і граждапкай. 16) „С ь в е т а ч“ (Пецярбург, 1917 г.), невялічкая газэтка пад кіраўніцтвам Будзькі, вядомага беларускага дзеяча, коопэратара. 17) „Д з я н ь н і ц а“ (Пецярбург, Масква, 1917-1920 г. г.), бальшавіцкая тыднёвая газэта. 18) „Г р а м а д а“ (Менск, 1917 г.), меншавіцкі тыднёвік. 19) „В о л ь н а я Б е л а р у с ь“ (Менск, 1917—1918 г. г.), літэратурна-палітычны тыднёвік пад кіраўніцтвам Я. Лёсіка. 20) „Б е л а р у с к а я Р а д а“ (Менск, 1917-1918 г. г.), у беларускай і маскоўскай мове. 21) „Б е л а р у с к і Ш л я х“ (Менск, 1918 г.)—першая штодзенная беларуская газэта, рэдакт. А. Прушынскі (А. Гарун). 22) „К р ы в і ч а н і н“ (Вільня, 1918 г.),

палітычна-літэратурны месячнік пад кіраўніцтвам В. Ластоўскага (выйшаў адзін нумар за кастрычнік) 23) „Krynica“ (Пецярбург, Менск, Вільня, 1918-1820 г. г), хрысьціянская тыднёвая газэта, цяпер выходзіць пад кіраўніцтвам ксяндза А. Станкевіча, вядомага беларускага дзеяча, вельмі здольнага публіцысты і лепшага беларускага прамоўцы. 24) „Бѣлорускoe эхо“ (Кіеў, 1918 г.)—вялікая тыднёвая газэта з літэратурным аддзелам на беларускай мове. 25) „Чырвоны шлях“ (Пецярбург, 1918 г.) бальшавіцкі журнал. 26) „Вескі“ (Менск, 1919 г.), офіцыяльны орган беларускага бальшавіцкага ўраду. 27) „Грамадзянін“ (Вільня, 1919 г.), орган партыі беларускіх соцыялістаў-рэволюцыянэраў, выходзіў пад кіраўніцтвам Тамаша Грыба. 28) „Беларусь“ ( Горадня, 1919 г.). 29) „Зорка“ ( Горадня, 1919 г.). 30) „Бацькаўшчына“ (Горадня, 1919 г.). 31) „Беларуская думка“ (Вільня, 1919 г.), спачатку выходзіла тры разы ў тыдзень, пасьля штодзенна (першая беларуская штодзенная газэта ў Вільні), зачынена польскай окупацыйнай уладай. 32) „Беларускае жыцьцё“ (Вільня, Менск, 1919—1920 г. г), ілюстраваны тыднёвік. 33) „Родны край“ (Горадня, 1919 г.), орган беларускіх с.-рэволюцыянэраў, зачынены польскай окупацыйнай уладай. 34) „Незалежная Беларусь“ (Вільня, 1919 г.), орган беларускай народнай партыі, выходзіла пад кіраўніцтвам беларускага дзеяча Я. Станкевіча, крайняга адраджэнца. 35) „Зорка“ (Менск, з 1919 г.), беларуская газэта польскай „стражы крэсовай“. 36) „Звон“ (Менск, 1919 г.), штодзенная газэта. 37) „Беларусь“ (Менск, з 1919 г.), штодзенная газэта. 38) „Часопісь“ (Коўня, з 1919 г.),—тыднёвы офіцыяльны журнал беларускага міністра ў літоўскім урадзе. 39) „Наша Каляіна“ (Слуцк, 1920 г.), двух-тыднёвая газэта. 40) „На чужыне“ (Рыга, з 1920 г.), ілюстраваны офіцыяльны тыднёвік. 41) „Рунь“ (Менск, з 1920 г.), ілюстраваны літэратурны тыднёвік. 42) „Наша Ніва“ (Вільня, з 1920 г.), перыадычны зборнік, адноўленая газэта „Наша Ніва“. 43) „Незалежная думка“, тыднёвая газэта ў Вільні, 44) „Пагоня“ (Коўня, Вільня, 1920 г. газэта беларускага міністра ў літоўскім урадзе), 45) „Савецкая Беларусь“, („Смаленск, Менск, з 1919 г.), 46) „Работніцка-сялянская Беларусь“, насьценная газэта ў Менску, 1920 г. 47) „Вольны Сьцяг“, ілюстраваны тыднёвік, Менск, 1920 г.

Вільня, Базыліянскія муры.
1919 г.—1920 г.

# КАРОТКІ СЬПІС ПА СТРАНІЦАХ.

## I. Старадаўнае пісьменства.



## II. Новая літэратура.



## III. Навейшая літэратура.

